# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 19** Беласток **2015**

## Змест

---

**РЭДАКТАР**
***Ян Чыквін***

**Дзмітрый Шатыловіч**

# ШЫПШЫНАВЫЯ КРАЯВІДЫ

## Пустая хата

Навокал старэнькіх сцен хаты
Паблізу малога сяла
У сонцы блішчаць, як дукаты,
Шыпшынніка  кветкі здаля.
    Глядзяць яны з сумам у вокны
    І бачаць праёмы без шыб,
    Якія заўжды ў ліўнях мокнуць,
    І ўжо паявіўся ў іх грыб.
Глядзяць на гнілую падлогу,
На  чорную мэблю ўнутры,
На цёмны дыван ля парога,
На цень павуціння  ўгары.
    Нядаўна яшчэ ў гэтай хаце
    Сям’я маладая жыла…
    Пайшла ў свет шукаць дзесь багацця
    З свайго на Падляшшы сяла.
А хату абняўшы шыпшына
У сонцы іскрыцца ля сцен,
Вясёлкаю кветак-рубінаў
Чаруе людзей кожны дзень.
    Палаюць, як свечкі, навокал
    Іх кветкі ў зялёных вянках,
    На тонкіх галінах высокіх,
    Бы нехта трымаў іх ў руках.
Прахожым  здаецца, што ў хаце
Багатыя людзі жывуць,
Як ў нейкім прыгожым палацы –
Баяцца туды заглянуць.

## Верасень

Праходіць лета, цягнецца ўжо восень
І скарачае нашае жыццё...
Іржавымі слязамі плача ясень,
Ляціць, як слёзы, ўніз яго лісцё.
Закрылі неба цёмным пледам хмары
І льюцца з іх густыя ручаі,
І залiваюць вуліцы, бульвары,
Шыпяць і страшаць голасам змяі.
Бруд на дарогах з глінаю зялёнай
Машыны месяць з дажджавой вадой,
Яны ўсё едуць доўгаю калонай
З людзьмі, з таварам з розных гарадоў.
Чароды птушак між аблокаў з крыкам
Паспелі ўжо ад нас даўно ўцячы,
А поле з бульбай нішчаць дзікі,
Сялянам не даюць спакою уначы.
Ды часта сонца разганяе хмары
І бачым лета бабіна ўвесь дзень,
Як некуды яно ляціць па тратуары
І павуцінне ззяе, як прамень.
І зноў, як летам, аджываюць паркі.
Вясёлую там бачым дзетвару
І як старэчы наліваюць чаркі
І з віном падносяць іх ўгару.

## У вырай паляцелі птушкі

У вырай жнівень выгнаў рана
Халодным ветрам і дажджом
На поўдзень птушак караваны
Ад нас з іх сціплым багажом.
Спярша настрашыў жнівень буслаў
І першымі яны ўцяклі,
Пасля за імі з крыкам шустра
Памчалі ў хмарах жураўлі.
Цямнела неба ад крылатых,
З балот ляцеўшых жураўлёў,
Іх голас, гучны і заўзяты,
Далёка нёсся між палёў.
У верасні мы не пачуем
Нідзе ўжо голасу гракоў,

Шукаюць дзесь зямлю другую
І ў глебе іншых чарвякоў.
Зязюля ў верасні таксама
Ад нас на поўдзень уцячэ,
За год у чэрвені, як дама,
Нам закукуе шчэ й яшчэ.
І толькі ластаўка ўвесь жнівень
У нас не здрадзіла сялу,
Перачакала холад, лівень
І ля кастрычніка ўцякла.
Забылі мы ўжо песень тоны,
Калі спявалі салаўі…
На дрэвах каркаюць вароны,
Шчабечуць побач вераб'і.

## Жытні хлеб

Жытні  хлеб быў калісь у пашане
На сталах у простых людзей.
Боханы ўсе цалавалі сяляне
Перад кожнай ядою, з надзеяй,
Бо ў тых боханах – многа іх поту...
У хлеб пралівалі яго цэлы год –
Пры пасеве, пры жніве ў спякоту,
А зімой, калі быў абмалот.
Бо сярпамі ўраджай жалі летам,
І на жней лілася сонца спякота.
Малацілі  снапы толькі цэпам,
Выбівалі з іх зерне да потаў.
Ачышчалі яго ад мякіны
І ў мяшках везлі дзесь да млына,
А муку аддавалі жанчынам,
Каб пры  дзежцы стагнала яна,
Каб мясіла ў ёй цеста  рукамі
І чакала, каб ноччу расло,
Прыкрываючы дзежку мяшкамі,
Як арол арлянят пад крылом.
І, зляпіўшы боханы, тая жанчына
У гарачую  ўсоўвала  печ.
Новаспечаны  хлеб праз гадзіну
Ляжаў на стале – заўсёды святочна-бяспечна.
Ад яго дзіўны пах у пакоях
Доўга стаяў, здвалася, вечна.

І ўсіх нас на лад спакойны настройваў
Жытні хлеб – наш абаронца сардэчны.

## У сне я бачу часта

У сне  я бачу часта
Свой родны дом, сяло,
Дзе ўсё маё юнацтва,
Як човен, праплыло.
Я бачыў сад чароўны,
Дзе яблыні цвілі,
Дзе пчолы ў вулей поўны,
Як дар, нектар няслі.
Галопам па дарозе
Я ездзіў на кані,
А ў лесе на марозе
Я грэўся пры агні.
Няроўныя палеткі
Раўняў я бараной,
І цешыўся, што кветкі
Там выраслі вясной.
Касіў я ў летняй блузе
Траву яшчэ з расой
У чэрвені на лузе
Бліскучаю касой.
Пасля сушыў там сена,
Сухое вёз дамоў.
Сякераю палены
У сне калоў зімой.
Я чуюся ў сне заўсёды
У вёсцы маладым.
Юнацкія прыгоды,
Юнацкія гады...

## Навальніца

Гарачыня ўжо ўсім абрыдла,
Дажджу чакалі ўсе наўкол.
І раптам хмары, як і звыкла,
Закрылі сонца арэол.
З іх сыпануў не дождж чаканы,
А моцны лівень, град густы.

Яны з зеніту апантана
Ламалі дрэвы  і кусты.
І з чорнай хмары бліскавіцы
Ляцелі ў грукаце грамоў,
Дрыжэлі ў вокнах аканіцы
І сцены гарадскіх дамоў.
Калі град сціх, то ручаямі
Лілася з хмар уніз вада,
І ў бліскавіцах над дамамі
Грамоў гучала чарада.
І раптам трэск пачуў я злева...
Я хутка глянуў у вакно –
З карэннем вецер вырваў дрэва
І пры сцяне паклаў яго.
Амаль гадзіну без супынку,
Схаваны ў доме за сцяной,
Я чуў навальніцы лезгінку
Прыгожай летняю парой.
Забраў раптоўна хмары вецер
І разам з імі дзесь уцёк,
І сонца яркае ў зеніце
Смяецца зноў да нас здалёк.



У 2015 годзе юбілеі:

Выдатнаму беларускаму паэту, перакладчыку
**Віктару ШВЕДУ – 90 гадоў**

Беларуская грамада Беласточчыны адзначыла
ўгодкі Юбіляра адметным святкаваннем –
з віншаваннямі, дэкламацыямі, музыкай і пачастункам.

*Са святочным настроем далучаемся*
*да шчырых шматлікіх віншаванняў.*

Рэд.



Слаўнаму беларускаму паэту, празаіку, перакладчыку,
літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук, прафесару,
шматгадоваму старшыні Беларускага
літаратурнага аб'яднання "Белавежа",
шматгадоваму старшыні БГКТ у Польшчы,
Аўтару выдатнага верша "Беластоцкі край",
які стаўся гімнам беларускай Беласточчыны,
**Алесю БАРСКАМУ – 85 гадоў**

*"Белавежцы" шчыра віншуюць Юбіляра*
*і зычаць яму творчага даўгалецця.*



Ніл ГІЛЕВІЧ

# СЁЕ-ТОЕ З ПЕРАЖЫТАГА…

### ЗАПІСЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

## А Ў МЯНЕ БЫЎ ТАКІ ДОБРЫ НАСТРОЙ…

У Саюзе пісьменнікаў адбылося абмеркаванне рамана Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Выклікана яно было, напэўна, тым, што ў друку паявіліся, разам са станоўчымі, і рэзка адмоўныя водгукі на новы твор таленавітага пісьменніка. У прыватнасці, крытык Якаў Герцовіч угледзеў страшныя ідэйныя заганы ў рамане.

На абмеркаванні, у ліку іншых, у абарону і падтрымку «Каласоў» выступіў і я. Па заканчэнні гаворкі, ужо на вуліцы, мой калега па кафедры празаік І. Н. зрабіў мне вымову.

– Ну, ты ўвогуле добра сказаў, я нават здзівіўся, што так прафесійна, па-даследчыцку… Але раман Караткевіча ты перааацэньваеш, гэта ўсё-такі раманістыка такая… займальная. Не трэба вельмі захвальваць яго, не трэба…

Аспрэчваць прысуд калегі я не стаў, ведаў, што ён трохі залішне зайздросны да вядомасці і славы сучасных беларускіх празаікаў, – меў магчымасць пераканацца ў гэтым раней. І калі выкажу нязгоду з ім – выбухне. Дый досыць груба. А ў мяне быў такі добры, амаль святочны настрой…

*1966 г.*

## ЭПІЗОД З ЭПОХІ «РОСКВІТУ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР»…

Летам 1965 года ў Мінску прайшла першая нарада замежных перакладчыкаў беларускай літаратуры. Дабіліся мы (пісьменнікі) дазволу на яе, спасылаючыся на такую практыку ў некаторых савецкіх рэспубліках і краінах сацыялістычнага лагеру. Тады ж мы загарэліся ідэяй выдання калі не часопіса, дык хоць альманаха твораў замежных аўтараў у перакладах на беларускую мову – па ўзору расійскай «Иностранной литературы» і ўкраінскага «Всесвіту». Але нам адразу ж гаркнулі «асадзі назад!». Па-першае, і часопіс і альманах – гэта перыядычныя выданні, і на адкрыццё іх патрэбен дазвол з Масквы, а сёння з такім пытаннем у Маскву і не патыкайся. (Я, па шчырасці, і не думаў, што на рэспубліканскае перыядычнае

выданне патрэбен дазвол з цэнтра. Вось яна – сутнасць нацыянальнай палітыкі ў СССР!). Па-другое – «рэзонны» лямант нашага начальства: «А зачем? Зачем? Ведь всё лучшее из зарубежной литературы издается на русском, а у нас, слава богу, все умеют читать по-русски!».

Ну так, чытаць па-руску ў нас умеюць усе.

Пытанне пра выданне часопіса ці нават альманаха закрылася. І надоўга. Але пісьменнікі не супакоіліся. І пачалі дабівацца выдання неперыядычнага зборніка. І нарэшце дабіліся. І ў 1975 годзе (праз 10 гадоў!) такі зборнік выйшаў. Мы назвалі яго «Далягляды». У наступным годзе выйдзе другі – «Далягляды – 1976». Спадзяюся, выйдзе і трэці, і пяты, і дзесяты.

*1975 г.*

## У МАЛЕНЬКАЙ СЛАВЕНІІ

Пасля ўсяго, што я ведаю пра гэту краіну і яе народ, называць Славенію маленькай – неяк няёмка, як бы несправядліва. Вядома, па тэрыторыі яна маленькая – у дзесяць разоў меншая за Беларусь, па колькасці насельніцтва – амаль у шэсць разоў меншая… Але! Але!.. Ёсць жа і іншыя паказчыкі. Напрыклад, пачуццё нацыянальнай годнасці, пачуццё патрыятызму, веліч і моц духу свабоды, незалежнасці. Пашана да ўласнай гісторыі, да нацыянальнай культуры, да культуры наогул. А перш за ўсё – непераможная, бязмежная і палымяная, я сказаў бы – святая любоў да роднай славенскай мовы. У гэтым я пераконваўся на кожным кроку – кожны раз, калі быў тут госцем.

Так і ў гэты, чарговы прыезд у брацкую краіну. Сёння, 13-га кастрычніка, нашу афіцыйную дэлегацыю запрасілі на размову ў Скупшчыну (па нашаму – у Вярхоўную Раду). На 9.00 раніцы. (Характэрная дэталь – на дзевяць раніцы! А так: час трэба берагчы! Такі стыль дзяржаўнай працы). Што галоўнае вынес я з той размовы, чым быў уражаны? Патрыятычнай (дзяржаўнай, чалавечай) мудрасцю кіраўнікоў краіны, іх унутранай і вонкавай палітыкі. Усе клопаты, усе памкненні, усе думы-задумы скіраваны на ўзвышэнне Славеніі як высокаадукаванай высокакультурнай краіны – з высокім пачуццём самапавагі ў масах насельніцтва. Усе сродкі, усе высілкі – на гэта! Вось некаторыя выказванні гаспадароў, запісаныя мною ў Скупшчыне.

«Мы вельмі шмат увагі ўдзяляем адукацыі, навуцы, культуры. Грошай на гэта аддаём намнога больш, чым раней. Задача – актывізаваць увесь інтэлектуальны патэнцыял славенцаў. Задача – пашыраць і павышаць адукацыю і кваліфікацыю ўсіх кадраў на ўсіх узроўнях». І далей: «Доўгі час сума грошай на кнігавыданне, на культуру, на асвету рабілася ўсё меншай і меншай. Цяпер мы рашуча папраўляем становішча». І яшчэ: «Мы прыкладаем вялікія намаганні на развіццё культурных і навуковых сувязяў з іншымі народамі, асабліва са славянскімі. Хочам, каб ад культурных

узаемаадносін мы, па брацкай згодзе, пераходзілі да эканамічных, да іх развіцця». Цірыл Злобец, вядомы пісьменнік, сказаў: «Для славенцаў існуе рэальная небяспека – растварыцца ў вялікім свеце, таму задача задач – захаваць сваё нацыянальнае зерне. Мы павінны падтрымліваць сябе ў свеце. Мы не можам стаць шэрай плямай на карце свету! Таму ўсё і рабілі і робім для таго, каб нас бачылі і ведалі, што мы ёсць».

У гэты ж дзень у Доме Цанкара (Іван Цанкар – знакаміты раманіст і драматург, класік славенскай літаратуры) пачуў: «Мы зрабілі так, каб усе нашы тэатры былі нацыянальнымі. Рэпертуар нашых тэатраў – славенская тэматыка перш за ўсё, і класіка і сучаснасць… Праз культуру мы выстаялі ў тысячагоддзе няволі – пад уладай Габсбургаў. І сёння наша палітыка – палітыка культуры: захаванне сваёй роднай мовы, скарбаў мастацтва, гістарычнай памяці народа. Гэта – не нацыяналізм, гэта – гістарычная неабходнасць». І такое ўдакладненне: «Асноўнае эстэтычнае выхаванне ў нас ідзе ў сям'і, у асяроддзі самой моладзі, неафіцыйна, самаўпраўленча».

Слухаў я ўсё гэта – і ў сэрцы не месцілася, нарастаючы, адно пачуццё: «Божа! Да чаго ж мудра! Да чаго ж па-чалавечы! І да чаго ж у нас, у Беларусі, усё наадварот!..».

На завяршэнне – некалькі красамоўных лічбаў. У маленькай Славеніі – два оперныя тэатры (у Любляне і ў Марыборы). Сем прафесіянальных драматычных тэатраў. Сто пяцьдзесят (150!) мастацкіх галерэй. На сорак тысяч чалавек насельніцтва – адна музычная школа. (У Еўропе – у сярэднім – на восемдзесят тысяч чалавек). Гэта – да пытання аб эстэтычным выхаванні народа.

І зусім апошняе: «Незалежна, дзе жывуць славенцы (у Італіі, у Аўстрыі), мы дбаем пра адзінства культурнай тэрыторыі».

А мы?.. А мы?.. А мы?..

*Кастрычнік, 1986 г.*

## АБРЫЎКІ

Я знаў, што гэты чалавек – калі і не сябар мне, то і не вораг, а проста калега, таварыш, у яго няма падстаў ненавідзець мяне, глядзець варожа, як і мне на яго, бо я ведаю – ён не крадзе, не рабуе мяне, не выцягвае з мяне апошнюю капейку, ведаю, што ён зарабляе на хлеб сумленна, што сумленна выконвае свой грамадзянскі абавязак… Я знаў… І я быў спакойны… Я быў упэўнены…

* * *

Ну і што, калі гэта парнаграфія, калі ад гэтага разбэшчваюцца дзеці, шырыцца гвалтаванне, расце сексуальная паталогія і ўсякае іншае паскудства, якое ператварае чалавека ў жывёліну? Ну і што? – крычыць ашалелы ад прагі нажывы спекулянт-перакупшчык. – Затое я грошы маю! І мне напляваць на тое, што ёсць дурні, што стане больш пакалечаных душ,

алкашоў і наркаманаў, прастытутак і забойцаў!

* * *

«Разумна арганізаванае грамадства…». Не хочаце яго называць сацыялістычным? Не называйце! Справа не ў назве, а ў сутнасці.

А сутнасць, самае галоўнае, аснова – справядлівая ацэнка чалавечай працы. Для мяне – гэта і ёсць сацыялізм. Не ўраўнілаўка – барані Бог! Хто сумленна, таленавіта працуе – той павінен добра, у дастатку жыць. Што тут не ясна?

Вы за прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці? А па якому праву? У гэтай дзяржаўнай маёмасці – праца, пот і мазалі, пакуты і слёзы некалькіх пакаленняў людзей, тысяч і тысяч працоўных. Хто мае права іх прысвоіць, прыватызаваць?

* * *

Вы, што па 20–30 гадоў крычалі ў гонар Кастрычніка, славілі і прымушалі славіць за шчасце, якое ён прынёс, а цяпер хапаеце, рвеце навыперадкі народнае дабро, становіцеся капіталістамі, – я хачу вам сказаць: любы вам і ўслаўлены вамі Кастрычнік паўторыцца, калі вы не апомніцеся і не спыніце дзікі разгул прыхватызацыі, калі не выйдзеце з мафій і будзеце далей абдзіраць няшчасны народ. Абавязкова прыйдзе новы Кастрычнік – з усім тым, з чым ён прыйшоў у 1917-м. І зноў умыецца крывёю наша зямля…

* * *

Мяркуючы па іх актыўнасці ў дыскусіі, гэта – найлепшыя знаўцы зямлі, сельскай гаспадаркі, таго, як родзіць хлеб і гадуецца жывёла. А між тым, ніхто з іх ні разу не ступіў на зямлю босай нагою…

*1991 г.*

## «КРУГЛЫ СТОЛ» У АМБАСАДЗЕ

Газета «Советская Белоруссия» (за 26.04.1997) паведаміла, што за «круглым сталом» у беларускай амбасадзе ў Маскве адбылося абмеркаванне Статута Саюза Беларусі і Расіі. На гэтым пасяджэнні бралі слова і некаторыя вельмі вядомыя асобы і сказалі сёе-тое надта ж цікавае.

Напрыклад, галоўны навуковы супрацоўнік РАН Аляксандр Цапко заклікаў Барыса Ельцына «обязательно убрать контроль за СМИ из рук А. Чубайса, иначе будет только вред». І далей: «Пока будет все в руках А. Чубайса, он будет плодить в нашей стране фашизм и нездоровые настроения». Пісьменнік Пётр Праскурын заявіў: «Мы не перевоспитаем Чубайса и Киселева. Это враги, которых надо уничтожать».

Вось так! Як гэта кажуць: коратка і ясна.

Па словах Праскурына, «идет последний передел мира», і за спіной

Анатоля Чубайса, Яўгенія Кісялёва, Нікалая Сванідзе, пісьменніка Булата Акуджавы, акадэміка Дзмітрыя Ліхачова, якія крытыкуюць дзейнасць прэзідэнта Лукашэнкі, «стоят огромные политические силы, которые диктуют, что им делать».

Нават вялікаму вучонаму, сусветна прызнанаму свяцілу філалогіі акадэміку Ліхачову – дыктуюць! Зусім не чакаў убачыць яго імя ў адным шэрагу з Кісялёвым і Сванідзе. Ліхачоў – на ўзроўні Сванідзе? Прабачце, але гэта ўжо занесла пана Праскурына зусім не туды.

Так развіваюцца падзеі пад небам брацтва. І куды каго яшчэ занясе неўзабаве – аднаму Богу вядома.

*1997 г.*

## ДУМКІ АБ ПЕРАБУДОВЕ Ў СФЕРЫ АСВЕТЫ І КУЛЬТУРЫ

*Тэзісы даклада*

Гуманізацыя ўсёй сістэмы выхавання – на ўсіх узроўнях.

Рашуча павярнуць пачатковую школу і дзіцячыя сады да фальклору і літаратурна-мастацкай класікі – да закладзеных там асноў народнасці, народнай эстэтыкі і маралі. Для чаго – карэнным чынам перарабіць школьныя праграмы і падручнікі.

Рашуча павысіць ролю літаратуры ў ідэйна-эстэтычным выхаванні моладзі. Зрабіць літаратуру першым па важнасці прадметам у школе. Ад недаацэнкі яе мы пажынаем сёння горкія плады.

Зрабіць магістральным і непахісным курс на адражэнне здаровых, прыгожых традыцый у духоўнай і бытавой культуры, на іх развіццё з улікам сучасных патрабаванняў.

Ва ўсіх ВНУ без вынятку ўвесці абавязковы курс па роднай і замежнай літаратуры (як гэта было ў Беларусі ў 1920-х гадах).

Цвёрда трымаць курс на збліжэнне і больш цеснае супрацоўніцтва ўсіх творчых саюзаў. Раз’яднанасць і пэўная адчужанасць іх вельмі шкодзяць агульнай справе развіцця культуры.

Кроў з носа – адкрываць новыя драматычныя і музычныя тэатры ў гарадах, дзе больш за 50 тысяч жыхароў! На любой матэрыяльнай базе, якая ёсць.

Актыўней вывучаць і пераймаць досвед эстэтычнага выхавання ў братніх рэспубліках і суседніх краінах.

Культурны чалавек – абавязкова чалавек-патрыёт, і сваёй «малой радзімы» перш за ўсё. Трэба пашыраць вопыт работы музея Гудзевіцкай школы па патрыятычным выхаванні.

Задача: вывучыць стан ушанавання памяці ўсіх выдатных і вядомых дзеячаў культуры, навукі, асветы, літаратуры і мастацтва (помнікі, магілы, памятныя дошкі, творчая спадчына). Выявіць усё гэта і распрацаваць праграму ўшанавання. Так мы падымем агульны ўзровень пачуцця патрыятызму.

*1986 г.*

## КАЛІ Б…

Калі б у кожнага нашага артыста, у кожнага мастака і скульптара, у кожнага кампазітара і музыкі-выканаўцы была ў кватэры ладная бібліятэка беларускай літаратуры – паэзіі, прозы, драматургіі, эсэістыкі… І калі б усе гэтыя творцы паўсядзённа (а і паўсяночна) кнігі сваёй беларускай бібліятэкі чыталі!.. Як гэта ёсць ува ўсіх краінах Еўропы. Не забываючы, вядома, чытаць і літаратуру іншых народаў, але і пачынаючы і канчаючы чытаннем сваёй роднай, сваіх паэтаў і пісьменнікаў, адчуваючы, што гэта ёсць надта пільнай патрэбай душы… О, калі б!.. Калі б было так! Але, за пэўным выняткам, гэтага няма. На вялікі, вялікі жаль!.. Не чытаюць! І «беларускіх паліц» у сваіх бібліятэках не маюць. А чаму? А ўсё па той неразумнай халуйскай завядзёнцы: чужая літаратура лепшая, у замежжы пішуць лепш, дзе ўжо нашым з тымі еўрапейцамі цягацца!.. Між тым пра сябе многія з гэтых нашых думаюць ого як узнёсла: мы, маўляў, творым на еўрапейскім і на сусветным узроўні. Вось такая дзіўная логіка: мы – можам, а паэты-пісьменнікі не могуць. Не могуць няздары!.. Дурноццe, вядома, а не логіка. Могуць нашы пісаць не горш, могуць! І пішуць! А тлумачыцца ўсё проста: у душах нашых дзеячаў мастацтва няма Беларусі. Геаграфічная – ёсць, а духоўнай, купалаўскай Беларусі – няма. Тут – прычына прычын. Тут.

*1984 г.*

## АЛЕ… ЯКОЙ ЦАНОЙ?

Шмат удалося зрабіць для вяртання з небыцця слаўных імён, якімі трэба ганарыцца, для выдання забытых кніг, выдання зборнікаў каштоўных навуковых прац, для ўшанавання памяці выдатных людзей нацыі, але… якою цаной заўсёды гэта давалася? Заўсёды з боем, з мукамі, з крывёй, перамагаючы шалёнае супраціўленне ворагаў беларушчыны. Во – долечка дасталася народу! Нашаму, нам з вамі, дарагія браты і сёстры…

*1999 г.*

## БЕДНАЯ ПРАВІНЦЫЯ! – ТОЛЬКІ ГЭТА І СКАЖАШ ПРАЧЫТАЎШЫ

У газеце «Звязда» за 01.01.2000 года апублікавана гутарка Алеся Карлюкевіча з Рыгорам Барадуліным пра Васіля Быкава. Шмат у ёй сказана разумнага, справядлівага пра нашага знакамітага пісьменніка. А ёсць і такое, што, прачытаўшы, толькі і скажаш: «Бедная правінцыя! Ну цешцеся! Захапляйцеся! Але ж навошта смяшыць людзей?».

Вось Р. Барадулін сцвярджае: «З этапных рэчаў – «Знак бяды», вяршыня сусветнай літаратуры». Паўтараю: «вяршыня сусветнай літаратуры»! Ці думае паэт, што ён гаворыць? Ці добра ён ведае сусветную

літаратуру? І якімі крытэрыямі карыстаўся, параўноўваючы аповесць В. Быкава з вяршыннымі дасягненнямі ўсіх іншых літаратур свету, каб зрабіць такую выснову? Да чаго ж гэта несур'ёзна і безадказна: «вяршыня сусветнай літаратуры!»…

Яшчэ адзін прыклад: «Па нейкіх эвалюцыйных законах час Быкава яшчэ, відаць, не прыйшоў, не надышоў. Быкаў мо і павінен быў прыйсці праз стагоддзе. Але… Быкаў прыйшоў сёння, апярэдзіўшы развіццё літаратуры, і ён узняўся, ён ёсць зараз – і эталон, і класік, і вяршыня недасяжная». Вось так: і эталон, і вяршыня недасяжная. Значыць, развіццё літаратуры на гэтым спыняецца? Рухацца далей іншым талентам, нават геніям, да ўзроўню Быкава – бачачы перад сабой эталон і вяршыню недасяжную? Ну які сэнс? Усё роўна будзеш у цяні недасяжнага.

Цікава было б даведацца, як успрыняў гэтыя мысьлярскія экзэрцысы сур'ёзны, еўрапейскага рангу пісьменнік Васіль Быкаў. Няўжо ён спакойна праглынвае такія недарэчныя, правінцыйнага кшталту, хохмачкі?

*Студзень, 2000 г.*

## ЗДАРАЛАСЯ…

Хоць і рэдка, але здаралася, што слова пёрла наперадзе думкі, выскоквала не з сэрца, а з па-за сэрца аднекуль, і было яно нядобрае, неразумнае, а то і брыдкае, пачуўшы яго – сам ніякавеў ад сораму. Самае страшнае, што гэтае д'яблам падкінутае слова не забывалася, зноў і зноў усплывала ў дакладным гучанні, і зноў успыхваў сорам. О, тое брыдкае, тое нядобрае слова, – не ад злосці, ці помсты, ці гневу – ад якойсьці імгненнай цямнечы ў душы, ад імгненнага зацямрэння і ачмурэння слова! І што з таго, што я праклінаю гэнага, хто мне яго падкінуў?

*2002 г.*

## СЯСТРЫ СВЯТЛАНЕ СЫМОНАЎНЕ

*На 21 томе Збору твораў*

Была святая жанчына – Мама, якая нарадзіла, узгадавала і вывела ў людзі паэта; была святая жанчына – Жонка, якая амаль паўстагоддзя самаахвярна клапацілася, каб гэты паэт здзейсніўся; і ёсць святая жанчына – Сястра, якая ўжо дзесяць гадоў апякуецца братам-паэтам, каб ён яшчэ і яшчэ паслужыў Беларусі…

Госпадзе Божа, малю Цябе: ацані гэты крэўны подзвіг маёй мілай сястрыцы і дай ёй здароўя!

Абдымаю, цалую – брат Ніл.

*23 сакавіка 2013 г.*

## ТРОХІ ПЕСІМІЗМУ

Праванс… Сёння гэта назва мала што гаворыць чытачу. А калісьці… сталіцай літаратуры і мастацтва ў Еўропе быў Праванс. Вялікі Дантэ сваю «Боскую камедыю» хацеў пісаць на правансальскай – такі высокі быў яе аўтарытэт у параўнанні з плебейскай італьянскай. І дзе ж тая вышыня? Дзе ўсё падзелася?..

Якія сумныя, а нават скрушныя думкі авалодваюць маёй душой! «Калі нават такія рухнулі і сышлі ў небыццё!.. Нават такія!.. Божа прамілы!..».

На правансальскай мове тварылі свае паэмы знакамітыя, геніяльныя трубадуры. Апошні вялікі твор той эпохі – «Мірэй». Гэта ўжо была лебядзіная песня Праванса.

*2002 г.*

## РАДАСЦЬ КНІЖНІКА

Летам гэтага года я працаваў у пісьменніцкім доме творчасці Дубулты, у Латвіі. У нейкі з тых дзён даведваюся, што ў фае бібліятэкі адкрылася выстава экслібрысаў беларускага мастака Яўгена Ціхановіча. Не ўважыць земляка я, вядома ж, не мог і пайшоў на выставу. Там і пазнаёміліся асабіста – завочна я яго, а ён мяне зналі даўно. Відаць, і бачыліся дзе-небудзь. Ва ўсякім разе, калі я зайшоў у фае, Яўген Мікалаевіч сустрэў мяне як стары знаёмы. Разгаварыліся. Але неўзабаве зайшла Марыэта Шагінян, з трубкай у вуху (ужо была зусім глухая), і Ціхановіч, натуральна, пачаў суправаджаць яе па выставе, ягоныя тлумачэнні заадно слухаў і я. Помню, ды і чытаў запісы ў кнізе водгукаў, што выстава зрабіла на многіх прыемнае ўражанне. Мне экслібрысы мастака спадабаліся таксама. Павінен прызнацца, што будучы заядлым кнігалюбам (бібліяфілам, бібліяманам), я даўно ўпотайкі зайздросціў тым гаспадарам кніжных збораў, у якіх былі свае кніжныя знакі. Нават купіў аднойчы ў Маскве ладны зборнік экслібрысаў. Пранікся павагай да гэтага спецыфічнага жанру мініяцюрнай графікі, убачыўшы ў ім шырокія магчымасці для выяўлення і асобы мастака, і асобы «заказчыка», і пэўных рыс літаратурнай эпохі, і многага іншага. І я пакарыстаўся выпадкам і папрасіў зрабіць экслібрыс для майго кніжнага збору, на што Яўген Мікалаевіч ахвотна згадзіўся. Сюжэт экслібрыса ў мяне ўжо быў вынашаны даўно: партрэт Багушэвіча і яго знакамітыя словы: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!». Чаму менавіта гэты? Таму што ўжо з сярэдзіны 60-х змаганне за родную мову, за пашырэнне яе ў грамадскім ужытку, за яе правы, аўтарытэт і гонар стала для мяне галоўнай справай жыцця, галоўнай ідэяй, праводзіць якую я абавязаны і ў літаратуры, і ў навуцы, і ў педагагічнай і грамадскай чыннасці. Заяўку Я. Ціхановічу я там жа, у Дубултах, і зрабіў. «Павінен быць партрэт паэта і яго вядомыя словы, астатняе – справа вашай фантазіі» – сказаў я майстру.

Месяцы праз тры Яўген Мікалаевіч прынёс мне ладную стопку экслібрысаў, выкананых спосабам афорта, чым я быў асабліва ўсцешаны. Усё зроблена так, як я прасіў: партрэт Багушэвіча і да болю дарагія мне яго словы. А яшчэ, на заднім плане, два каласкі: адзін – зламаны, другі – жывы.

*1971 г.*

## ХІБА ЯШЧЭ НАПІШУЦЦА?..

Дзесяць, сто, тысяча вершаў пра тое, як рускія ідуць на бой. Ад дзіцячых садкоў, ад першых класаў школы малышы чытаюць і ведаюць, і ганарацца. А як мы, беларусы, ідзем на бой? Іменна беларусы, а не салдаты расійскага імператара і не воіны генералісімуса Сталіна. Мы, абаронцы сваёй беларускай дзяржавы, свайго ВКЛ? Было гэта ў беларускіх вершах? Ёсць? У каго? Хто іх чытаў? Хто мог прачытаць?

Я ведаю, з балгарскай паэзіі, як ідзе войска цара Івана Шышмана. О, якое велічнае відовішча, які эмацыйны эфект выклікае, які патрыятычны настрой стварае – і ў дзяцей, і ў дарослых! Гэта ж мы! Мы! Мы! Балгары! Ну а мы – ліцвіны-беларусы? А мы? Дзе мы ідзем вось так на бой за Бацькаўшчыну??? Дзе нашы вершы, песні, паэмы пра гэта? Хіба яшчэ напішуцца?..

*1978 г.*

## А ДЗЕ Ж ТВАЁ «НІВОДНАГА РАДКА»?

Колькі дзён таму быў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» і там загадчык рэдакцыі Алена Васілевіч літаральна ўпрасіла мяне ўзяць на рэцэнзіраванне рукапіс кнігі Уладзіміра Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі». Кажу «упрасіла», бо не было аніякага жадання браць на сябе гэту работу – быў страшна заняты сваімі клопатамі, ды і ведаў характар аўтара – магу, чаго добрага, сапсаваць суседскія адносіны (у адным пад’ездзе жывем). «Вазьміце, угаворвала мяне Алена Сямёнаўна, вазьміце – гэта ж кніга пра Беларусь, ваша тэма».

І я ўзяў. І прачытаў. І моцна пашкадаваў, што згадзіўся. У рукапісе – дзесяткі тры значных, істотных недарэчнасцяў, памылковых сцверджанняў, і каля дзвюх соцень памылак дробных – недакладнасцяў сэнсавых, «вывіхаў» стылістычных і інш. Як быць? Што рабіць? Думаць, што аўтар пагодзіцца з маімі заўвагамі, сярод якіх ёсць і вельмі сур’ёзныя? Даў пачытаць рукапіс Ніне Іванаўне, – што яна скажа, яе густ бездакорны. Яна ўхваліла ўсе мае заўвагі, але сказала: «Схадзі да Валодзі, пакажы яму сляды твайго прачытання, і калі што – рэцэнзію не пішы, а тут жа вярні рукапіс у выдавецтва». І я «нанёс візіт» суседу. І кажу:

– У «Мастацкай літаратуры» мяне ўпрасілі напісаць рэцэнзію на твой рукапіс. Дык вось, раней чым пісаць, хачу пазнаёміць цябе з маімі заўва-

гамі, іх аказалася вельмі шмат. Давай паглядзім…

– Няма патрэбы, – перабіў мяне Уладзімір Сямёнавіч. – Ніякіх заўваг я не прыму. І ты дарэмна стараўся. Ды пасыходзяць усе гэтыя Машэравы… а застанецца…

– Я гэта ведаю, і даўно, што пасыходзяць, я пра тваю кнігу, а не пра Машэравых…

– Не папраўлю ніводнага радка!

– Але ж ёсць відочныя недарэчнасці…

– Піва вып'еш? У мяне добрае піва.

– Не, дзякую… Ну што ж, прабач, што патурбаваў. Бывай здаровенькі…

Рукапіс са сваімі «птушачкамі» і падкрэсленнямі я аднёс у выдавецтва і папрасіў у Алены Сямёнаўны прабачэння, што маёй рэцэнзіі не будзе.

Праз год кніга выйшла. Канечне ж, я ўважліва прачытаў: няўжо з усімі тымі агрэхамі? І во дзіва: амаль усе пазначаныя мной недарэчнасці, недакладнасці і стылістычныя «ляпы» выпраўлены! Паглядзеў, хто рэцэнзент? Адам Мальдзіс. Блізкі сябар аўтара. Усё ясна. Уся справа ў гэтым – хто рэцэнзент.

Ну, дык а дзе ж тваё «ніводнага радка», дарагі суседзе?

*1977 г.*

## ТОЛЬКІ ТАДЫ…

Твая Радзіма – зямля, на якой ты нарадзіўся? Увогуле, так. Але!.. Каб лічыць гэту зямлю Радзімай – мала ведаць толькі тое, што ты тут нарадзіўся. Трэба ведаць гісторыю гэтай краіны, яе трагічны лёс. Трэба ведаць яе матэрыяльную і духоўную культуру, мастацтва, фальклор (асабліва важна), а найперш – трэба ведаць мову гэтай зямлі! Толькі тады ты будзеш мець права сказаць:

– Вось мая Радзіма! Я – яе сын! Або: Я – яе дачка!

*1999 г.*

## ДЗІЎНАЕ ДЗІВА

Дзіўнае дзіва, як зноў і зноў з «глыбінь народнага жыцця» прабіваюцца, праклёўваюцца парасткі беларушчыны, як яны набіраюць сілу, уздымаюцца, разрастаюцца буйна і велічна… Які магутны жыватворны дух народа!.. Ну здавалася – высеклі, выразалі ўсё амаль дашчэнту, амаль нічога ўжо і не засталося! Аж не! – і праходзяць гады – і вось вам, грамілы, вось вам, забойцы – падымаецца і расце Беларусь, – беларуская, тая самая, якую так намагаліся знішчыць!

*1993 г.*

## ЧАТЫРЫ РАДКІ ЛЭСІ

Калісьці выпісаў з Лэсі Украінкі чатыры радкі. Але – якія! Перачытваю – і такі гнеў падымаецца ў грудзях, – што не стрываць. Вось гэтыя радкі:

*А мы не маем нават хаты ўласнай,*
*Усё адкрыта ў нас турэмным ключарам:*
*Не нам казаць, нявольнікам няшчасным,*
*Выслоўе гордае: «Мой дом – мой храм!»*

Але ж і братэрства было ў нашым усходне-славянскім свеце! Якое шчырае, чыстае, светлае, якое гарачае, сардэчнае братэрства! Якою роднаю сястрою чулася расейскім турэмшчыкам вялікая паэтка Лэся Украінка!.. Даруй мне, Божа, гэтую гнеўную іронію!..

*2005 г.*

## ХТО ГЭТА ЎСЁ ЗРАБІЎ?

Усё, што было жывым, цікавым, значным, што радавала і хвалявала, чым цешыўся, ганарыўся ў душы, – сустрэчы і размовы з сябрамі (рускімі, украінскімі, балгарскімі, летувіскімі), – усё гэта сёння як балючыя сны, бо калі ўсё гэта было – дык чаму яго не стала? Яны ж амаль усе жывыя. Чаму яны сышлі з твайго жыцця? Чаму ты з імі не сустракаешся? Нават не перапісваешся! Ну стары, ну хворы… Але ж пісьмо напісаць мог бы! Чаму – не пішацца? Перасталі быць сябрамі? Сталі чужымі, непатрэбнымі табе? Чаму? Хто гэта зрабіў? Ці што ўсё гэта зрабіла?

Божа, як цяжка!...

*11 красавіка 2009 г.*

## А БАЛГАРЫ ЖЫВУЦЬ ЯК… БАЛГАРЫ

Што я ўбачыў і зразумеў, пабыўшы шмат разоў і падоўгу ў Балгарыі? Тое, чаго мне нестала дома, у Беларусі. Там балгары жывуць як… балгары! Жывуць нармальным балгарскім жыццём. Там няма дурной, дзікай, нялюдскай праблемы. Там балгарын не плюе ў душу другому балгарыну за тое, што той балгарын і гаворыць – скрозь і ўсюды – па-балгарску. За што хочаш можа плюнуць, але не за гэта.

І было мне сумна, і горка, і балюча ад усведамлення, што ў нас, у Беларусі, усё не так, зусім не так. У нас на беларуса, які жыве на сваёй роднай зямлі і гаворыць роднаю мовай, можа плюнуць любая маральная пачвара. Беспакарана.

*2001 г.*

## НАША ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ, НАШ ЛЁС – У РОДНЫМ СЛОВЕ

Як ні цяжка, ні горка пра гэта гаварыць, але, відаць, у нас вельмі кепска з маральнасцю… Чалавек не ведае роднай мовы. Ну, што ж, гэта можна зразумець, ну былі ў чалавека на гэта прычыны, – і ніхто яго не асуджае. Просіць чалавек даць яму пэўны час на вывучэнне беларускай мовы – і гэта зразумела, і час яму даецца, і ніхто яго не бярэ, як любяць пырскаць дэмагогі, за горла. Паглядзіце Пастанову аб увядзенні Закона аб мовах у дзеянне: 3 гады, 5 гадоў і нават 10 гадоў даецца на тое, каб перайсці на беларускую мову!..

Але калі чалавек, які тут жыве і працуе як паўнапраўны грамадзянін, не ведае і не хоча ведаць дзяржаўную мову сваёй краіны, больш таго – наогул адмаўляе беларускай мове ў правах на самастойнае існаванне, – гэта ўжо бяда дый вялікая! Як у маім разуменні, дык гэта, выбачайце, маральнае ўбоства. Да нас у Камісію ВС РБ заходзяць і такія. Заходзяць, каб зусім сур'ёзна пераканаць нас, што беларускай мовы не існуе наогул, і беларускага народа, зразумела, не існуе таксама.

Дапусцім, сёння чалавек яшчэ не разумее і не гатоў падтрымаць, памагчы нам у вялікім процістаянні ворагам беларушчыны. Але калі ты чалавек культурны – то ў такім разе памаўчы. Не ведаеш, не разумееш, не дасведчаны – дык памаўчы, а не абзывай нацыяналістамі людзей, уся віна якіх – гарачая любоў да роднай мовы і няўрымснае пачуццё абавязкаў перад Бацькаўшчынай. Людзей, якія і сабе і ўсяму свету кажуць: мова – наша жыццё, наша быццё, адлюстраванае, увасобленае ў слове! Наша свядомасць, нашы бачанне і разуменне жыцця-быцця – у слове.

*Кастрычнік, 1992 г.*



## Міхась Андрасюк

# МАЯ РАСІЯ

Мініслоў

Мая першая Расія – смешная і змрочная. Яна прыходзіла да мяне вечаровымі гадзінамі з аповедаў бабы Веры. Прыходзіла няпрошанай госцяй і да апошняй кроплі жлукціла хатнюю самагонку. І за кусок сала распраналася з суконных вайсковых шынеляў і апранала ў гэтыя шынелі здумёных ад нечаканага шчасця мужыкоў. На досвітку заганяла ў патыліцу дзевяць грамаў свінца старому Паўлу. Гэтаму Паўлу, што займаўся шавецтвам і годам раней заганяў цвікі ў здзёртыя нямецкія абцасы. Затым, адвячоркам, пад гукі гармоніка падпявала вясёлыя частушкі пра сумнае калгаснае жыццё. І груба чысціла нос аб хустачку, якую мая баба вышывала на добры шлях майму дзеду, што пры панскай Польшчы абкулачыўся канём і дзвюма кароўкамі і цяпер збіраўся ў ссылку на далёкі Урал.

Але гэтай Расіі ўжо няма. Следам за бабай Верай яна адышла ў іншае вымярэнне гісторыі і геаграфіі.

Мая другая Расія – дзіцячая. Яна невялікая, абмяжоўваецца да аднаго панадворка на ўскраіне прыпушчанскай вёскі, якую палякі называюць рускай вёскай. У гэтай маёй дзіцячай Расіі няшмат жыхароў – цётка Ліда і дзядзька Володя. Прыпыніліся тут, вяртаючыся з нейкай Германіі ў нейкую Адэсу. Затым з’явіліся іхнія чатыры рускія сыны – Вова, Лёша, Коля, Толя... Чаму яны больш рускія за ўсіх нас? Можа, таму вось – толькі яны ведаюць, як здабыць незразумелага прызначэння прэзерватыву і наўпрост з калодзежа, вядро за вядром, заліць у яе сорак літраў вады. Як сорак літраў незразумелай, бескарыслівай рускай радасці.

Бываю дзіцём. О, так! Гэты стан душы дужа назойлівы і часцей за ўсё ніяк не можам развітацца. Я і дзяцінства. Валяемся з аднаго боку вуліцы на другі бок, нібыта два п’яныя халасцякі, што безразумна, за чужога чалавека аддалі замуж каханую. Балтаемся абнятыя да першага водбліску цвярозасці. Але цвярозасць не прыходзіць....

Даўно-даўно з’ехалі ў сваю Адэсу...

А яшчэ Расія выяўляецца мне вялікімі, лёгка касымі вачыма дзяўчыны – народжанай далёка, у нейкай Мардве. Мардва – за межамі майго разумення. І таму Мардва для мяне Расія – не горшая і не лепшая за Маскву альбо Піцер. І гэтая дзяўчына кажа: “З-за цябе мне сны па-бела-

руску сняцца...” Але наш сон даўно сасніўся і мы абудзіліся кожны па свой бок раніцы. Часам на Ліповай вуліцы ў Беластоку прамільгне ў натоўпе круглы, кураносы тварык, аколены бязладдзем пшанічных кудзеркаў. І, як лунатык, раптоўна падняты спрасонку, іду следам дзесяць крокаў, дваццаць. Абганяю, крадком зазіраю ў вочы. Але гэтыя вочы не касыя і не карыя. Часцей за ўсё – насычаныя блакітам неба, распятага паміж Віслай і Нёманам.

Бывае – губляю ўпэўненасць у сваю несмяротнасць. Тады прыходзіць да мяне Расія вечная. На расійскай мове, з моцным падляшскім акцэнтам, на мове, узятай з бацюшкі Анатолія, Ляонція, Георгія – імёны ні пры чым тут, яны ж мяняюцца – распавядае мне пра бязмежны, як Расія, расійскі рай.

Часам, вухам тэлевізара, чую, як адстрэльваецца ў крымскіх гарах ад самой сябе, ад сваіх фобіяў і страхаў, радасцяў і смуткаў, нянавісцяў і каханняў. Адстрэльваецца ад нецвярозага сну пра расстралянага імператара.

Пераключаю канал і гляджу іншую казку.



## Ала Нікіпорчык

***

*Цётцы (Алаізе Пашкевіч)*

я заўсёды любіла сэрцам
я заўсёды любіла сонцам
і таму мела мала сонца
і таму мне балела сэрца

*

роднасць болю
ёсць найвышэйшая роднасць
ах якімі чужымі мы сталі

*

я Лучынку ўсяго запаліла
але і тую даўно патушылі
мой народзе не любіць волі
мой народзе не прагне волі
і навошта яму святло

*

*… дыхаю адным лёгкім…*

як два лёгкіх – Радзіма і воля
як два крылы – Радзіма і воля
як дзве лініі крыжа
пад якім я ляжу
пры самай дарозе
Старога двара

*

Алаіза
імя цвёрдае
як лязо рэвалюцыі

Цётка
імя цёплае
як летні дождж
ачышчу
амыю
і прычашчу
высокага болю Радзімы

## Без мовы няма народа...

XXI стагоддзе – стагоддзе самых цесных, шырокіх кантактаў і культурных зносін паміж краінамі, народамі і людзьмі. І кожны адукаваны чалавек проста абавязаны ведаць адну ці некалькі замежных моў. Але калі ён не ведае ці цураецца роднай мовы, то не толькі не можа лічыцца адукаваным і культурным чалавекам, а становіцца ў такім выпадку падобным на дрэва з пашкоджанымі ці падсечанымі каранямі, якое ў хуткім часе без жыватворнай глебы засыхае і гіне...

Родная мова – гэта тая глеба, на якой расце, каласіцца і квітнее кожная нацыя. Без роднай мовы і культуры народ ператвараецца ў бязлікае насельніцтва, якому, па сутнасці, усё роўна, што адбывалася, адбываецца і што будзе адбывацца на той зямлі, на якой яно жыве...

Без мовы няма нацыі, няма народа, няма дзяржавы...

Тэма роднай мовы, яе багацця, чысціні, сферы ўжывання, беражлівых ці раўнадушных адносін да яе – вельмі тонкая і балючая тэма для любога народа, нават самага вялікага, бо мова ёсць душа народа. І ад таго, як мы адносімся да сваёй роднай мовы, з любоўю і клопатам ці наадварот, бяздушна і абыякава, залежыць наша будучыня... У гэтай сувязі хочацца прывесці выказванне выдатнага рускага пісьменніка К.Г. Паустоўскага: «Па адносінах кожнага чалавека да сваёй мовы можна дакладна меркаваць не толькі аб яго культурным узроўні, але і аб яго грамадзянскай каш-тоўнасці. Сапраўдная любоў да сваёй краіны немагчыма без любові да сваёй мовы. Чалавек, які раўнадушны да роднай мовы – дзікун. Ён шкодны па сваёй сутнасці, таму што ягоная абыякавасць да мовы тлумачыцца поўнай абыякавасцю да мінулага, сучаснага і будучыні свайго народа».

Мае развагі на гэтую і іншыя тэмы, пранізаныя горыччу і болем, трывогай, сумненнем і спадзяваннем, занатаваны ў паэме «Лілея на цёмнай вадзе» (Башлакоў М. Пяро зязюлі падніму: Паэма і вершы / Прадм. В.Карамазава, Мн.: Маст. літ., 2001.).

І вось як працяг той даўняй споведзі – цыкл вершаў «Нібыта ветрам выдзьмула душу...», паэтычныя радкі якога, спадзяюся, будуць блізкія ўсім, каму неабыякавы лёс роднай мовы, Айчыны, народа...

*Міхась Башлакоў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі*
*Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Міжнароднага*
*конкурсу «Сто лепшых кніг свету»*

**Міхась Башлакоў**

# Нібыта ветрам выдзьмула душу…

*Вользе Шынкарэнка*

**Без сумлення няма паэта…**

Без сумлення няма паэта…
Калі Бог табе талент даў,
Трэба помніць заўжды пра гэта,
Бо паэзія не для забаў…

І метафары ўсе, і рыфмы
Не крануць сваёй навізной,
Калі хібы душы, як рыфы,
Недзе бачацца за страфой…

У паэзіі слоў няшчырых
Не бывае… Не можа быць!..
Кожны гук у нябеснай ліры,
Як аголены нерв, крычыць…

І хай лірык ты летуценны –
Ты адказны за кожны крок…
Будзь, радок мой, заўжды сумленны,
Будзь праўдзівы, прашу, радок.

**Паэзія**

Радкі...
Ці вышытым абрусам,
Ці жытняй сцежкай палявой...
Не завітаюць пад прымусам...
Таму не стойце над душой

І не шапчыце мне на вуха,
Пра што пісаць
І як пісаць.
Радкі...
Як слодыч...
І як скруха...
Нам тайны гэтай не спазнаць:
Як нараджаецца гучанне
Чароўных і дзівосных слоў...
Ці то над лугам плача каня,
Ці чуцен гоман жураваоў...
Паэзія душу палоніць...
Як слова вернае гучыць:
Яно набатным звонам звоніць
Ці бомам тоненька звініць...

## Сон

Трызню... Вечар ці ранне?..
(Ажно кінула ў пот...)
На мяжы вымірання
Беларускі народ...
Быццам бачу карціну:
Завіруха... І звон...
Звон плыве над краінай...
Мо праз тысячы дзён
Адшукаюць у сховах
Між старых рэдкіх кніг
Мае горкія словы,
Прачытаюць услых...
І ламаць будуць галаў:
Як так выйсці магло,
Што дзівосную мову
Забыццём замяло?..
І хто ў тым вінаваты?..
Хто яе не збярог?..
Сам народ?.. Ці улады?..
Не дай Бог, не дай Бог...

***

Каму патрэбны мае радкі –
Радкі, не чытаныя нікім?

Маёй Айчыне? Майму народу?
Душу сціскае туга-маркота.

Іду… Не знаю, куды дарога…
Шапчу малітву сваю да Бога.

І ўсё павольней, стамлёней крокі.
І так мне горка, так адзінока…

***

Не знае мовы мой народ,
Народ мой вершы не чытае.
А я ўсё роўна кожны год,
А я ўсё роўна іх складаю.

Другія кінулі даўно:
Маўляў, якая ў тым выгода?
Ні ганарару не відно,
Ні беларускага народа…

Народ без мовы – не народ!
Такі народ, як дождж, праходзіць,
Знікае, як увесну лёд.
Без глебы зерне не ўзыходзіць.

Без глебы жыту не рунець,
А нашы душы – як пустыня.
Хіба бязродным зразумець,
Што мова родная – святыня?!

Народ, прачніся, не маўчы,
Скажы нарэшце сваё слова!
Крычаць і кружаць крумкачы
Над нашым лёсам палыновым.

Ну, нельга ж вечна піць, скакаць,
Быць скамарохам… Божа любы!..
Давай жа мову ратаваць!
Не аддадзім яе на згубу!

## Аксіёма

Народ мой родны пакінуў слова,
Якое грэла яго спрадвеку.
Народ адрокся ад роднай мовы.
Народ бяспомны – народ-калека.

Свае ён мары, сваю ён волю
Пад ногі кінуў усім на ўцеху.
І горка плача аб лепшай долі,
А доля недзе блукае рэхам.

Няма нічага… Адна самота…
Гасподзь, напэўна, і той пакінуў.
Без роднай мовы – няма народа,
А без народа – няма Айчыны.

***

Ну што, народ,
Як маешся без мовы,
А значыць, – без душы?
Бо мова ёсць душа...
Без мовы ты,
Нібы паэт без слова
Ці як маё Палессе
Без Сажа.

Не можа быць вясны –
І без цвіцення...
Так і цябе, народ,
Не можа быць
Без мовы,
Без Айчыны,
Без сумлення...
Калі ж інакш –
Тады навошта жыць?

Без памяці
Не можа быць асновы
Ні ў аднаго
Народа на зямлі...

Цябе, народ,
Чакае твая мова...
І родны край,
І зерне для раллі.

## За цябе

У свеце лепшым мовам роўная,
Адна такая ты, адна...
Гучыш, як музыка чароўная...
І так заніжана цана.

Ты непаўторная і слаўная.
Ды на Радзіме вось як госць...
Па канстытуцыі – дзяржаўная,
Але дзяржаўная ці ёсць?

Жывеш даўно як эмігрантка:
У непашане і журбе.
Няма ні Панчанкі, ні Танка...
Хто скажа слова за цябе?

Дый што пісьменніцкае слова?
Яно сягоння не ў цане!
Ну, надрукуюць Башлакова –
Ці прачытае хто мяне?

А прачытаюць – дурнем зробяць:
Як напісаць такое мог?
Ды справа не ў маёй асобе...
Хай памагае табе Бог!..

На Бога толькі спадзяванне!
Эх, беларусы!.. Эх, народ!
А ты знясілена блуканнем –
Шуканнем шляху між балот...

## Горш, чым мачыха...

Наша спадчына – мова матчына,
Не памножана, а растрачана…
І не ласкаю лёс пазначаны –
Крочыць з торбаю ды жабрачаю,

І не роднай дачкой, а падчаркай,
Ногі босыя, слёзы-пацеркі…
Як сказаў прарок Пімен Панчанка,
Развітаўшыся з мовай матчынай,
Што Радзіма ёй горш, чым мачыха...

## Іграй, скрыпач!

Іграй, скрыпач! Няхай душа паплача…
Што засталося?.. Плакаць ды тужыць,
Калі няма ні шчасця ўжо, ні ўдачы,
І нават болей некага любіць…

Ні маці, ні бабулі, ні суседзяў –
На могілках даўно яны ляжаць...
І плача скрыпкай на раскрэсах вецер,
І сосны гэтак жаласна рыпяць.

Ідзеш – і страшна: вёскі апусцелі…
Нібы вайна прайшла па вёсках тых.
Радзіму зберагчы мы не сумелі –
Ляжыць яна на могілках лясных.

І ні Айчыны болей, і ні мовы…
Стаю адзін на раскрыжы дарог…
Я не збярог, Радзіма, тваё слова,
Як і цябе таксама не збярог.

Пісаў не раз… Ды толькі не чытаюць
На роднай мове вершы ўжо даўно.
Бяскроўная, нямоглая такая –
Здаецца, што памерла ўсё адно.

Няўжо настала скрушная часіна,
Калі вось-вось парвецца гэта ніць?
О як гарчыць чырвоная рабіна…
Але шчэ больш жыццё маё гарчыць.

## Ці ёсць Айчына?

Ці ёсць Айчына, я не знаю,
Калі ўжо многага няма,

Калі Радзіма як чужая...
Ні дабрыні... Адна зіма.

Калі сумленне як загана,
Хлусня і подласць – у цане.
Пара падменаў і падманаў
У нашай любай старане.

І тое, што было ганебным,
Цяпер за доблесць выдаюць.
Не можа гімнаў быць хвалебных,
Калі святыні прадаюць.

Ці гэта ад дурноты нашай:
Сваё няславіць, не любіць?..
Як страшна, Госпадзі, як страшна –
Не дай Радзіму нам забыць!

Сярод бяспамяцтва ліхога
Няма, не можа быць пуці!..
І без Айчыны – як без Бога!
І да Айчыны – не дайсці...

## Час настаў

Мы стаім на мяжы...
Больш за намі нікога...
Перад намі Радзімы
Святыя палі...
Чым засеем мы іх?
Зернем д'ябла ці Бога?
Што пакінем нашчадкам
На гэтай зямлі?

Ці пакінем Айчыну,
Якой ганарацца?
Ці мы станем рабамі,
А значыць, нікім...
Гэй, народ беларускі!
Ты хочаш застацца?
Ці жадаеш загінуць,
Як некалі Рым?

Выбірай!..Час настаў!..
Потым будзе ўжо позна.
Нас вакол абступілі...
Сцяг вышэй, ваяры!
Ці мы выйграем бітву
На палях гэтых слёзных?
Ці галовы складзём
На крывавай зары?

У шарэнгах тваіх
Вунь Купала і Колас,
І Скарына, і Будны,
Караткевіча шчыт...
І над станам як кліч
Багушэвіча голас,
Што павінны мы
Мову сваю зберагчы...

Вымем з ножнаў мячы!
Вы гатовы ўжо, воі?
Пастаім жа за мову –
Гонар нашых дзядоў!
Сціснем шчыльна рады,
Рушым зладжаным строем!
За Радзіму! За волю!
Не шкадуйма галоў!

Сеча звонам звініць...
Рэха бітвы ахрыпла.
Колькі лепшых сыноў
Тут навек палягло!..
Вораг стан абступіў...
Плачце, плачце, кувіклы!
Поле бітвы без краю
Снежным сном замяло...

## На пласе

Вось і мову маю
Падвялі ўжо да плахі.
Кат сякеру узяў
І пакратаў лязо...
А ў натоўпе гадаюць
(Ні жалю, ні жаху):

Як далёка наўкол
Кроў запляміць пясок?

А ён белы такі
І пасыпаны ўсюды...
(Пакаранне як свята...
Любяць гульбішчы ў нас...)
І крыжуюць, сякуць
Маю мову прысудам,
Што адрокся народ
І настаў судны час...

Што яна, небарака,
Нікому не трэба...
Мо паэтам?
На плаху даўно іх пара!
Што за норавы ў нас,
О высокае неба?!
І чаму ўсё рашае
Узмах тапара?

Пляц віруе, гудзе,
Пляц чакае пацехі,
Калі мове маёй
Будуць секчы галоў,
Калі з плахі пакоціцца
Зраненым рэхам
Па шляхах і пагостах
Стогн скрываўленых слоў.

І глядзіць мая мова,
Глядзіць у здзіўленні.
Колькі люду вакол –
І ніводных вачэй,
Дзе б яна адгукнулася
Ціхім маленнем
Перад тым, як на пласе
Крывёю сцячэ...

Сонца выйшла з-за хмары
І кінула промні...
Кат сякеру узняў –
Слепіць вочы лязо.
«Стой , – крычу, – не сячы!
Хіба ты, кат, не помніш:

Гэта наша апошняе,
Наша усё?!

Калі мовы не будзе –
Не будзе Радзімы!..
Калі мовы не будзе –
Не будзе і нас!..»
«Ах-х-х!..» – хіснуўся натоўп
І ўжо выдыхнуў: «Мі-ма-а...»
Значыць ёсць шчэ надзея,
Значыць ёсць яшчэ шанс!

Каб застацца людзьмі,
Каб народам застацца...
Статкам стаць вельмі лёгка...
Цяжка нацыяй быць!
Як ты мог, мой народ,
Захварэць святатацтвам?
А народ мой бязмоўны
Зацята маўчыць...

## Хто мы цяпер?

Адзіны ты такі, народ, адзіны,
Хто выракся і мовы, і Радзімы.
Такога шчэ на свеце не было,
Каб у народа памяць адняло.
Хто мы цяпер?.. Зулусы ці індусы?..
Якія ж мы без мовы беларусы?
Народ Скарыны, Коласа, Купалы,
Чаму ўсё робіш, каб цябе не стала?
Без каранёў – ні дрэў і ні травы...
Без роднай мовы – ты хіба жывы?..

## І адшукаюць у архівах...

Капыцяць нас нядолі коні.
Ніяк нам шчасця не стае.
Айчыну лёгка праваронiць.
І праваронілі яе...

Сваю душу ў распыл пусцілі.
Ні ў рай, ні ў пекла без душы...

Мы мову родную забылі.
І без яе як муляжы.

Цяпер ні мовы, ні Радзімы...
Нічога мы не зберaглі...
І нашы мары шызым дымам
За поле соннае сплылі.

І там, на шляху звечарэлым,
Нас, беларусаў, не відно.
Мы – кадры плёнкі пажаўцелай
Далёкай даўнасці кіно.

І адшукаюць у архівах
(Магчыма, потым, праз вякі)
Аповяд сумны і праўдзівы,
Што жыў калісь народ такі...

***

Нібыта ветрам выдзьмула душу…
Ні цеплыні… Адно пустое поле…
Знясіліўся… Чаго ў жыцця прашу?
Што хоча птах, які жыве ў няволі?

Мы дажыліся: мовы ўжо няма.
Той самае, якую нёс Купала.
Скавала вусны лютая зіма,
А значыцца, і нас ужо не стала.

“Тут беларусы некалі жылі…”
“А хто цяпер?..”
“Ды нейкія плямёны…”
Не песнямі засеяны палі –
Бяспамяцтвам і векавым праклёнам.

Чужую світку носім, не сваю:
Чужая мова – як душа чужая…

Не зберaглі мы спадчыну тваю,
Апошнія астаткі прапіваем.

О Божа светлы, Божа, памажы!
Яшчэ трымціць слязінкай наша слова.

Ні ратнікаў…
                                    Стаю я на мяжы,
А вецер на шматкі ірве замову…
Тут беларусы некалі жылі…

## Як быць?

Хаджу, шукаю і здзіўляюся:
«Нядаўна жыў тут мой народ...
Куды падзеўся ён?» –  пытаюся.
Крычу на захад і на ўсход.

Крычу на поўнач – рэха коцiцца.
На поўдзень – гром адтуль грыміць...
«Дзе мой народ?..»
                                    А бор маркоціцца:
«Не захацеў народам быць...

Народам мужным з дзіўнай моваю...
Зняверыў ён сваю душу...»
«Як быць?» –  увысь кідаю словы я,
А ўверсе толькі сосен шум.

«Што мне рабіць, паэту грэшнаму?
Як без народа свайго жыць?..»
«Жыць, як і жыў... Да скону вершамі
Грашыць... І родны край любіць!

А ён навалу гэту здужае:
Не раз такое ўжо было...
І хай пакуль лютуе сцюжа –
Настане весняе цяпло.
Ну а народ?.. Дадому вернецца
І ўспомніць карані свае.
Вось тады песня і спатрэбіцца...
Пішы, паэт, як Бог дае!»

## Паэту

Калі душа твая астыла,
Калі маўчыць твая душа,
Як не напружвай свае жылы,

Твой верш не варты ні граша.

Калі ні музыкі, ні моцы,
Калі радок твой не крычыць,
Калі няма у ім эмоцый, –
Тады не трэба верш тварыць.
Паэзіяй твой верш не стане,
Ён проста твой чарговы верш.
А вось калі радок твой раніць
І сам крывавіцца найперш, –

Тады твой верш – душы аснова...
Як плынь імклівая ракі –
Цячэ, бруіцца тваё слова
І праз гады, і праз вякі...

***

*А Господь выбирает поэта,*
*Чтоб с народом ему говорить...*
Юрый Фатнеў

Што лепей: свабода ці краты?
Быць чэсным ці быць прайдзісветам?
Народ выбірае уладу…
Гасподзь выбірае паэта…

Важней для вас чын і пасада:
Што вам да дзівосных санетаў?..
Народ выбірае  уладу…
Гасподзь выбірае паэта…

Гукаю... Маўчыце зацята –
Ні следу вакол, ні прасвету...
Народ выбірае уладу...
Гасподзь выбірае паэта...

Хоць кроплю дабра і спагады –
Зіма ў вашых сэрцах, не лета…

Народ выбірае уладу…
Гасподзь выбірае паэта…

Вы песням ягоным не рады –
Душа адцвіце пустацветам…

Народ выбірае уладу…
Гасподзь выбірае паэта…

Няма ні народа, ні ўлады…
Як многае канула ў Лету…
І толькі гарыць над Сусветам
Высокая зорка, як свята, –
Нязгаснае слова паэта…

## Апошні са славян

Апошні са славян,
Адзін адным,
Апошні…

Ні песень даўніны,
Ні звычаяў дзядоў
Не ведае ніхто!
Над горыччу гадоў
Асядзе пыл дарожны…
І зарастуць сляды…
І узмахне крылом
Над шляхам тым,
Апошнім,
Заінелы крумкач…
І сонная рака
Мільгне між вечных крон
За апусцелай пожняй.
І стомлены Харон
Апусціць зноў вясло,
І човен паплыве
Па цемені вады
Да зыбкіх берагоў…
І ў жухлае траве,
Між купінаў балотных,
Прыкмецяць жменьку слоў,
Дзівосных і пяшчотных,
Што з даўніх тых вякоў
Нашчадкам засталіся…
Маліся, не маліся –
Не ведае ніхто,
Не разгадае іх,
Сэнс слоў тых залатых…

Тутэйшы люд бязродны,
Бяспомны гэты люд…
Бярозавы лісток
На вочы іх сляпыя,
Бы мёртвым пакладзе,
Стары вяшчун-груган…
І ахіне зямлю
Ці морак, ці туман…
Хто вочы ім адкрые,
Праз цемру павядзе?

Чакайце,
Ён ідзе,
Апошні са славян…

## Не замярзай, душы маёй крыніца...

Зла людзям не рабіў,
Ні кпіў, не зневажаў,
Не гандляваў сумленнем,
Як многія навокал...
Душу сваю без меры
Транжырыў-раздаваў...
І вось цяпер жыву
Душою адзінокі.

Шкадую не аб тым,
Што раздарыў душу...
Шкадую, што душа
Нікому ўжо не трэба...
Не я змяніўся – вы!
Я той жа паляшук:
Радзіма для мяне –
Як луста хлеба.

А вы – нібы ваўкі...
Як шчэрыце клыкі!
Гатовы кожны міг
У горла ўпіцца.
Што вам мая журба?
Што вам мае радкі?
Не замярзай,
Душы маёй крыніца...

Вам, знаю, напляваць
На горыч маіх слоў.
Для вас даўно
Паэзія – пацеха.
Мне ж нельга без яе,
Мне нельга без радкоў –
Да скону мне блукаць
Палескім рэхам...

І потым, як сыду
У вечнасці абшар,
Дзе ні шляхоў,
Ні зорак над палямі,
Вам будзе зіхацець
Вясёлкаю між хмар
Мая душа
Шчымлівымі радкамі...



## Серафім АНДРАЮК
# МАЕ ВЫДАВЕЦКІЯ ГАДЫ

Такім чынам, 7 красавіка 1981 года я быў вызвалены ад пасады старэйшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, а на наступны дзень, гэта значыць 8 красавіка 1981 года, быў прызначаны на пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Папрацаваў я на гэтай пасадзе аж да 27 лістапада 1992 года. Назусім развітаўся з выдавецтвам 31 снежня 1997 года. Як бачна, выдавецкай працы было аддадзена больш за 16 гадоў. Былі то гады няпростыя для краіны, няпростыя і ў жыцці людзей яе. Няпростыя і для выдавецтва як адзінкі, непасрэдна звязанай з жыццём палітычным, духоўным. Усё гэта адчувалася, перажывалася, па-свойму ўлічвалася. Адбівалася ў жыцці асабістым.

Чалавек я па сваёй натуры не дужа кампанейскі, зусім не гаваркі. Увогуле “хутаранец”, як дзесьці ў свой час сказаў быў Піліп Пестрак. І ў гады дзяцінства, і ва ўсе школьныя гады, у вялікай ступені і ў студэнцкія галоўным маім сябрам была кніга. Кнізе я давяраў самыя патаемныя свае думкі і жаданні, у ёй шукаў адказы на самыя глыбокія асабістыя пытанні жыцця. Хвіліны шчырай радасці, высокага духоўнага ўздыму і душэўнага захаплення, як і нярэдкія моманты суму, тугі, нявер’я найперш былі звязаныя з кнігай. Самую вялікую частку часу забірала ў мяне кніга, а калі быць больш дакладным — аддаваўся ёй з задавальненнем. З кнігі ішла вера ў жыццё, у чалавека, у справядлівасць свету, вера ў тое, што праўда заўсёды перамагае. Яна вучыла бачыць, адчуваць прыгажосць таго свету, у якім ты жыў: лес, поле, луг, рэчка… Кніга была крыніцай веры, сілы, спачування, зразумення — ва ўсялякім разе для мяне. Так мне сёння ўяўляецца. Яна стварыла духоўную аснову майго жыцця, адносін да жыцця, аснову разумення самога жыцця. Вядомая рэч, потым, ды і тады жыццё дасць не адзін урок зместу адваротнага таму, які спавядае кніга — сваёй ідэйнай скіраванасцю, духоўным зместам, эмацыянальным напаўненнем. І ўсё ж сёння, не крывячы душой, я магу сцвярджаць, што аснова гэтая вытрывала выпрабаванне жыццём і часам.

Дык вось, да працы ў выдавецтве кніга была маёй спадарожніцай нязменнай, была галоўнай крыніцай духоўнага сілкавання. Зразумела, то была кніга мастацай літаратуры, кніга сапраўдная, кніга з вялікай літары.

Гэтую, такую кнігу я ўвесь час чытаў, вывучаў яе, расказваў пра яе вучням. Даследаваў яе, пісаў пра яе. Тут жа, у выдавецтве, узаемадачыненні з кнігай мелі зусім іншы характар.

Тут у пэўным сэнсе трэба было ўжо працаваць над кнігай — і над тэкстам (творам), і над кнігай. Твор перад тым, як стаць кнігай, праходзіў ацэнку, апрабацыю, афармленне. Тут ужо да стварэння кнігі прычыняліся рэцэнзенты, рэдактары, карэктары, а таксама мастакі, тэхрэды. Ведавецкая праца над кнігай (а кнігі тут былі самыя розныя) дзесьці зніжала градус агульнага захаплення ёю.

Яшчэ. Не варта забываць пра прысутнасць, непасрэдны ўдзел аўтара ў з'яўленні пэўнай кнігі. І вельмі часта адносіны да аўтара ў немалой ступені вызначалі характар успрымання кнігі. Неяк незаўважна пачало зніжацца яе абагаўленне. Больш цвярозымі сталі адносіны да яе. Сама рэальнасць стварэння кнігі нярэдка прыцямняла пазнейшае ўражанне ад яе.

Так сёння бачыцца. Тады ж гэты працэс больш цвярозых адносін да кнігі амаль не заўважаўся, не адчуваўся. Трэба было ўвесь час працаваць. Клопаты, турботы выдавецкія былі пастаянныя. У сэнсе адчування, разумення кнігі яны шмат давалі, але і нямала – як потым усвядоміцца – забіралі.

Больш за трыццаць гадоў прайшло з часу, калі я далучыўся да выдавецкай працы, дзейнасці, шаснаццаць гадоў з хвосцікам — як развітаўся. Але і да гэтага часу не магу даць вычарпальны адказ на пытанне, чаму я пайшоў на працу ў выдавецтва. У Інстытуце справы складваліся зусім нядрэнна. Вось-вось павінна была выйсці манаграфія “Традыцыі і сучаснасць”. На яе аснове я змог бы праз нейкі час абараніць доктарскую дысертацыю. Чаго яшчэ трэба?.. Але ж не: узяў і пайшоў. Дакладней – перавялі, даў згоду на перавод. Несумненна, “вінаватыя” тут сябры, найперш адзін з іх – Барыс Сачанка. У той час у яго былі добрыя таварыскія адносіны з І. І. Антановічам, загадчыкам аддзела культуры ў ЦК КПБ. Была магчымасць абмяркоўваць (а Барыс Іванавіч любіў пагаварыць) якіясьці пытанні літаратурнага жыцця, выказваць нейкія свае прапановы, меркаванні. Думаю, што ў адносінах да мяне якраз так і было. Бо гутарку ў ЦК адносна прызначэння на гэтую адказную пасаду праводзіў менавіта І. І. Антановіч, а не загадчык аддзела прапаганды ЦК С. Я. Паўлаў. Былі, відаць, і іншыя, прычыны. Жыццё ў Інстытуце ў творчым плане станавілася нейкім шэра-аднастайным, не ўзбуджала творчай энергіі. Ці не па гэтай жа прычыне неўзабаве і Бечык пайшоў з Інстытута. Думаецца, што дзесьці на ўзроўні падсвядомым паўплывала на маё рашэнне пайсці на працу ў выдавецтва, працу, зусім для мяне невядомую, гісторыя з выданнем маёй першай кнігі.

І я пайшоў. Да гэтага сустрэўся з дырэктарам выдавецтва Дубянецкім Міхалам Фёдаравічам. Уражанне засталося самае найлепшае. Здарыўся ў гэтыя дні і вось які яшчэ выпадак. Неяк вечарам без усялякага папя-

рэджання раптам завітаў на кватэру чалавек немаладога ўзросту, вайсковай выпраўкі. Высвятляецца – намеснік дырэктара выдавецтва па вытворчасці. Маўляў, вырашыў пазнаёміцца з новым супрацоўнікам. Пасядзелі, пагаварылі, здаецца, і па чарцы ўзялі. Без ніякіх нечаканых пытанняў з яго боку. А ў мяне пытанне засталося: чаму?

Пачалася праца ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Пачалося для мяне зусім новае жыццё. Сходы, пасяджэнні, абмеркаванні, лятучкі, сустрэчы, гутаркі… Па сутнасці, увесь час сярод людзей, з людзьмі. Па-першае, гэта супрацоўнікі выдавецтва, найперш яго рэдактарская каманда. Па-другое, аўтары — пісьменнікі і тыя, хто хацеў стаць пісьменнікам. З такімі найчасцей даводзілася мець размовы. Уся гэтая праца была зусім далёка ад ранейшай. Там дамінавала стабільнасць. Звычайна не менш года даводзілася займацца адной праблемай, вырашаць пытанні, цесна звязаныя паміж сабою, скіраваныя да аднаго цэнтра. Усё ў канчатковым выніку ішло на паглыбленне ведання, на пашырэнне падыходу да яго, узбуйненне маштабу бачання. Тут жа, у выдавецтве, пытанні ўзнікалі ледзь не кожны дзень, пытанні ў пераважнай большасці сваёй практычнага характару. Пытанні, якія патрабавалі хуткага практычнага вырашэння. Засяроджвацца асабліва на якіхсьці праблемах літаратуразнаўчага характару ніяк не выходзіла. Выдавецкае жыццё трымала ў пастаянным напружанні. І не толькі рэдактара, і не толькі рэдактарскі калектыў, але і ўсе выдавецкія службы.

За той час, як я працаваў у выдавецтве, яго кіраўніцтва мянялася некалькі разоў. Найбольш запомніўся, найбольш застаўся ў памяці першы дырэктар, з якім я пачаў працаваць, − Дубянецкі Міхал Фёдаравіч. Выдатна ведаў выдавецкую справу, беларускую літаратуру, любіў кнігу, успрымаў яе як жывую істоту. Шанаваў творцаў кнігі – зразумела, найперш пісьменнікаў, але і выдаўцоў. Чалавек сардэчны, таварыскі. Умеў арганізаваць калектыў, клапаціўся пра яго, абараняў яго інтарэсы. Гэта быў сапраўдны беларус, беларуская кніга – галоўны яго клопат. Я вельмі быў рады, што пачынаць працу ў выдавецтве пашчасціла пад яго кіраўніцтвам. Ды, па праўдзе кажучы, кіраўніцтва ў строгім сэнсе гэтага слова і не было. Былі парады, падказкі, пажаданні, таварыскія прафесіянальныя гутаркі. Супрацоўнікі выдавецтва паважалі Міхала Фёдаравіча, любілі. Моцна перажывалі, калі па стану здароўя ў 1986 годзе ён вымушаны быў пайсці на пенсію. У нейкай разгубленасці, няпэўнасці быў і я. Толькі пачаў адчуваць задавальненне ў выдавецкай справе, паглыбіліся шчырыя, даверлівыя ўзаемадачыненні з дырэктарам, нараджаліся новыя выдавецкія планы, задумы…

Новым дырэктарам стаў  Анатоль Іванавіч Бутэвіч. Пазней у адным ар-тыкуле ён напіша: "Мой дырэктарскі час у "Мастацкай літаратуры" быў не надта працяглы. Прыйшоў у выдавецтва ў красавіку 1986 года з пасады інструктара сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. А ўжо ў студзені наступнага мусіў вярнуцца назад у аддзел культуры, на гэты

раз загадчыкам сектара”. Новы дырэктар, малады, энергічны ўнёс нейкі новы струмень у жыццё выдавецтва. У хуткім часе ён набыў павагу і шанаванне калектыву. Клапаціўся і пра справы выдавецкія, і пра людзей. Быў у яго моцны зарад беларускасці, нейкі зямны, гістарычны. Выявіўся ён з поўнай сілай у пазнейшыя гады ў творчасці яго. У нас з ім на той час склаліся даверлівыя працоўныя і чалавечыя ўзаемаадносіны. Захаваліся яны і адчуваліся мною, асабліва, у пазнейшыя гады (1990–1996), калі Бутэвіч займаў галоўную кіруючую пасаду ў галіне кнігадрукавання. Былі то гады пераломныя ў жыцці краіны, адпаведна і ў нашай сферы – сферы культуры, друку. Тут не раз я адчуваў яго добрую падтрымку, за што шчыра ўдзячны і па сённяшні дзень. Ну, але ўсё гэта будзе потым. Дарэчы, добрыя адносіны да сябе я адчуваў і збоку ранейшага старшыні Камітэта па друку Дзяльца Міхала Іванавіча – паважлівыя, добразычлівыя. У першыя часы маёй выдавецкай працы было гэта так неабходна.

У пачатку 1987 года дырэктарам “Мастацкай літаратуры” быў прызначаны Грышановіч Валерый Мікалаевіч. Прыйшоў ён, як і яго папярэднік на гэтай пасадзе, з ЦК. Там была галоўная школа ідэалагічных кадраў. Пасля таго, як Бутэвіч пайшоў на новую пасаду, справа з прызначэннем новага дырэктара трохі зацягнулася. І вось аднойчы пад канец дня – званок тэлефона. Бяру трубку. Звоніць старшыня камітэта: вырашана прызначыць мяне дырэктарам выдавецтва. Загадана перагаварыць з М.С. Кусянковым, маім намеснікам, адносна прызначэння яго галоўным рэдактарам. Таго ўжо не было ў выдавецтве. Пайшоў я дадому нейкі трывожна ўзбуджаны. На наступны дзень, не паспеў я прыйсці на працу, званок. Зноў старшыня. “З Кусянковым гаварылі?” – “Не.” – “Пакуль і не трэба”… Праз некалькі гадзін пайшла па калідоры чутка: прызначаны новы дырэктар.

Сваім менталітэтам новы дырэктар быў трохі іншы, чым яго папярэднікі. Гэта быў тыповы тагачасны выхаванец камсамола – энергічны, дзейны да мітуслівасці, гаварлівы. Кіраваць яму выпала не ў лепшы час. Перабудова, прыватызацыя, узмацненне ролі калектыву. У першыя гады ўсё ішло быццам нядрэнна. Але чым далей, тым больш яго і яго намесніка ахоплівала прага рэарганізацыі выдавецтва, ледзь не прыватызацыі яго. Дайшло да таго, што быў скліканы прафсаюзны сход і дырэктару, па сутнасці, адзінагалосна быў выказаны недавер. Пасля гэтага я быў спачатку прызначаны выконваючым абавязкі дырэктара, а дзесьці праз месяц рашэннем калегіі Міністэрства інфармацыі зацверджаны на гэтай пасадзе. Было гэта ў канцы 1992 года. Працаваў да ліпеня 1996. Тады ж быў вызвалены ад займаемай пасады па ўласным жаданні (і па настойлівай просьбе міністэрства інфармацыі) у сувязі з выхадам на пенсію. Адразу ж па працоўным пагадненні быў залічаны на так знаёмую мне пасаду галоўнага рэдактара. Пазней пагадненне на некалькі месяцаў было працягнута. Але ў канцы 1997 у сувязі з заканчэннем кантракту быў

вызвалены з займаемай пасады канчаткова. Дырэктарам выдавецтва у гэты час стаў Марчук Георгій Васільевіч, чалавек энергічны, амбітны, самаўпэўнены. Праўда, як мне здаецца, не ў самы лепшы час. З прыходам новага старшыні ў Камітэт па друку пачалося актыўнае рэфармаванне выдавецкай сістэмы. Каб уявіць сабе, як гэта ўсё адбывалася, паглядзім адзін дакумент, які далі мне ў камітэце. Падаю поўнасцю:

*Председателю государственного комитета Республики Беларусь по печати Заметалину В. Г.*

*Издательство «Мастацкая літаратура» согласно решению коллегии от 24 декабря 1996 года и устных указаний вышестоящего руководства из управления разрабатывает план сокращения сотрудников издательства на протяжении 1997 года, согласно законодательству Республики Беларусь и статусу издательства. За время моей работы (7 месяцев) были уволены по окончанию контракта заведующий редакцией Бородулин Р. И., ведущий редактор Сёмуха В. С., инженер производственного отдела Зинкевич Г. И., техпред Соколовская М. М, редактор Т. Зарицкая, редактор И. Кочеткова. На полставки переведены художественный редактор Малышева Е. М., специалист компьютерного набора Е. И. Санжаревская. В первом этапе сокращения 1997 года прошу Вас перевести библиотеку, которую содержит с огромным трудом на своём балансе наше изда-тельство на баланс другого издательства, которое может себе поз-волить оплачивать сотрудников библиотеки и плату за аренду. Старший библиотекарь Драко Л. Г., старший библиотекарь Авсиевич З. А. (окон-чание контракта 1 июня 1997 года), библиотекарь Тишук Т. И. О плане второго этапа сокращения будет вам сообщено дополнительно.*

*Директор издательства Г. В. Марчук.*

Пісьмо датавана 26. 03. 97 г.

У другі этап скарачэння трапіў і я. Як бачна, за гады працы ў выдавецтве давялося працаваць з рознымі кіраўнікамі. На шчасце, у адным і тым жа працоўным калектыве, найперш і галоўным чынам рэдактарскім. Рэдактарскі калектыў быў літаратурна моцны, прафесійна падрыхтаваны, прынцыповы і адначасова тактоўны ва ўзаемаадносінах з аўтарам. Працавалі рэдактарамі і паэты, і празаікі, і крытыкі, і перакладчыкі. За ўсе гады маёй працы ў выдавецтве тут, так бы мовіць, рэдактарскую службу праходзілі дзесьці трыццаць, калі не больш, пісьменнікаў. Яны, у большасці сваёй, добра адчувалі мастацкае слова, бачылі той ці іншы твор, выдатна ведалі мову. Калі я толькі прыйшоў у выдавецтва, там ужо працавалі такія майстры сваёй справы, як Рыгор Барадулін, Вера Палтаран, Васіль Сёмуха, Алесь Разанаў, Генадзь Шупенька. Крыху пазней прыдуць Уладзімір Арлоў, Барыс Сачанка, Варлен Бечык, Яўген Лецка. Менавіта ў гэтыя гады ў “Мастацкай літаратуры” пачыналі свой рэдактарскі шлях Леанід Дранько-Майсюк, Мікола Мятліцкі, Вадзім Спрынчан.

Варлен Бечык займаў у выдавецтве пасаду намесніка галоўнага рэдактара. Прыйшоў ён сюды дзесьці адразу пасля мяне. Асноўная дзялянка, за якую ён адказваў, была паэзія. А тут было ўсяго, выключна строгі кантроль з боку вышэйшых інстанцый. Працаваў Бечык адказна, патрабавальна, немітусліва. У размове з самымі рознымі аўтарамі ён умеў знайсці належны тон – спакойны, разважлівы. І сярод рэдакцыйнага калектыву выдавецтва, і сярод аўтараў карыстаўся ён нязменнай павагай і пастаянным даверам. Для мяне асабіста працаваць з такім намеснікам (хутчэй чалавекам) было і надзейна, і прыемна. Ведалі мы адзін аднаго, як ужо згадвалася, і раней. Тут жа, у выдавецтве, нашы ўзаемаадносіны, агульныя па працы, па нашай прафесійнай дзейнасці сталі больш даверлівыя і шчырыя ў непасрэдна чалавечым плане. Нярэдка мы падоўгу гутарылі на самыя розныя тэмы. Бечык жыў вельмі актыўным духоўным і эмацыянальным жыццём. Яго ўсё непасрэдна закранала — палітычнае, грамадскае жыццё, праца, прырода, літаратура (і не толькі беларуская). Да ўсяго ў яго былі свае адносіны. З’явілася поўная ўпэўненасць, што ўсё тое, пра што ён гаворыць, пра што мы разважаем, спрачаемся — усё гэта шчыра, адкрыта, праўдзіва.

Пройдуць гады. У 1993 годзе выйдзе яго кніга дзённікавых запісаў “Радкі і жыццё”. І вось там, у запісе, пазначаным 21. 7. 1985 года, чытаю: “Што цешыць, што саграваe душу ў пустым бязладдзі і тлуме — гэта ўзаемапаразуменне з Серафімам Андраюком. Імпануе ўсё: і яго бездакорная сумленнасць, і прынцыповасць, і адданасць справе, і творчая, і адміністрацыйная таленавітасць. Адчуваю ў ім не проста аднадумца — сапраўднага друга. Наогул тут, у выдавецтве, адчуваю прыязнасць многіх — і не горшых — людзей”.

Прачытаў з прыемнасцю. І не толькі таму, што словы цешаць самалюбства. Хоць ёсць і гэта: усе мы не бязгрэшныя. Ён давяраў, верыў мне. Як сёння мне ўяўляецца, каманда выдавецтва — Дубянецкі М. Ф, Бечык В. Л., Андраюк С. А. — была не самая горшая на той час. Але ў жыцці найчасцей здараецца так: нішто добрае не працягваецца доўга.

13. 11. 1985 года Варлен Бечык дачасна памёр. У пачатку наступнага года пайшоў з выдавецтва Міхал Дубянецкі.

Намеснікам галоўнага рэдактара стаў паэт, празаік Мікола Кусянкоў. Чалавек прафесійна падрыхтаваны, дысцыплінаваны, адказны, быў ён унутрана замкнёны, нядужа ініцыятыўны (у гэтым сэнсе, відаць, больш, чым я). Часам гэта выяўлялася.

Як бачна, кіраўнікі выдавецтва за час маёй у ім працы неаднойчы мяняліся, рэдактары мяняліся. Галоўнае – жыццё мянялася. Мяняліся адносіны дзяржавы да выдавецкай справы, людзей – да кніг: ад абагаўлення яе да залічэння ў звычайны прадукт вытворчасці. І вось, азірнуўшыся на тыя немалыя мае выдавецкія гады, узгадваючы тое, што тады адбывалася, — добрае і дрэннае, перачытваючы свае шматлікія інтэрв’ю, якія даво-

дзілася даваць розным газетам, найперш штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, я мушу ўпэўнена сцвярджаць, што мае адносіны да выдавецкай справы, маё стаўленне да кнігі засталося, па сутнасці, нязменным.

Працаваць у выдавецтва прыйшоў я дзесьці на дзесятым годзе яго працы. Была ўжо сфармавана сістэма яго дзейнасці, вызначана яго структура, выпрацаваны пэўныя прынцыпы ўзаемадачыненняў выдавецтва з аўтарамі. Вядома, час уносіў свае змены ва ўсё, але аснова засталася нязменнай. Мэта заставалася адна і тая ─ выдаць кнігу вартую і выдаць на належным узроўні. І тут, можа, самае галоўнае было ─ узаемадачыненні з аўтарам. Рукапіс паступаў у выдавецтва. Прызначаўся рэдактар, які знаёміўся з рукапісам і даваў сваё заключэнне. Калі рукапіс ацэньваўся станоўча, яго аддавалі на знешнюю рэцэнзію. Рэцэнзаваліся, па сутнасці, усе рукапісы. Асабліва новых твораў і новых аўтараў. Прозвішча рэцэнзента пазней давалася ў кнізе. З падрыхтаваным рэдактарам і выпраўленым, калі была ў гэтым неабходнасць, рукапісам знаёміўся загадчык рэдакцыі, ухваляў і перадаваў у галоўную рэдакцыю. Там даваўся канчатковы дазвол на выхад кнігі. Кагосьці з аўтараў такая ўвага магла раздражняць, а для многіх гэта было добрай школай літаратурнага і моўнага майстэрства.

Не трэба забываць і пра істотны момант больш агульназначнага зместу, звязаны з кнігай наогул ─ як з’явай культуры, духоўнага жыцця грамадства. Захоўваўся адпаведны ўзровень зместу і мастацкасці кнігі. У цяперашні час патрэба такога стаўлення да друкавання кнігі асабліва адчувальная. Кніг выходзіць многа, вельмі многа. Часам аднаго малавядомага ці зусім невядомага аўтара кнігі тры-чатыры ў год. Найчасцей гэта кнігі ў мастацкім сэнсе бездапаможныя. І што? Адзін возьме, прачытае ─ і адкіне: ці варта чытаць гэтыя кніг наогул? Другі прачытае ─ яму спадабаецца. Нічога іншага яму больш і не патрэбна. Агульны ўзровень кнігі мастацкай літаратуры паніжаецца, цікавасць чытача да кнігі змяншаецца. Раней кніга была справай дзяржаўнай, сёння ж пераважна ─ прыватнаю. Гэта як галоўны прынцып. У апошнія гады кніг выходзіць намнога больш, чым тое было раней. Разам з тым іх агульны ідэйна-мастацкі ўзровень намнога ніжэйшы.

Жыве і да сёння адчуванне – у тыя часы чытач не проста чакаў, купляў і чытаў кнігу. Зусім не. Была патрэбная кніга пэўнага аўтара. Напрыклад, Івана Мележа, Івана Шамякіна, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна… Пералік можна працягваць яшчэ і яшчэ. Рукапісы такіх аўтараў у выдавецтве не затрымліваліся. Дзе сёння такія аўтары? Пра каго шмат пішуць? Чыімі творамі захапляюцца?

Узнікае адразу ж пытанне: дык што ─ у гэтым вінаватыя толькі выдавецтвы? Зразумела ж, што не. Якая літаратура – такая і кніга. І наогул: якое жыццё, такая і літаратура. Усё быццам і так. Але ж заслуг выдавецтваў у нізкай якасці сённяшняй кнігі ніяк нельга адмаўляць. І яшчэ

істотны момант. Усе праекты тэматычных планаў выдавецтва заўсёды абмяркоўваліся ў Саюзе пісьменнікаў на пасяджэнні прэзідыума.

Напэўна, дзесьці я ўжо захапляўся ўсхваленнем тых часоў, тых выдавецкіх спраў і тых кніг. Яно так — хаця было шмат і такога, пра што зусім не хацелася б узгадваць. Пра гэта пазней. У дадзеным жа выпадку варта проста звярнуць увагу на выдавецкую працу з рукапісам новай кнігі. А гэта была праца асноўная. Найперш праца з аўтарам. Тут былі свае складанасці: аўтар быў розны. Адзін спакойны, разважлівы, умеў слухаць слова рэдактара, пры неабходнасці ўлічваць яго. Іншы быў самаўпэўнены, амбітны, мог слухаць толькі самога сябе. З ім трэба было працаваць.

Праца такога зместу і характару ўласціва была рэдакцыям, як іх называлі, арыгінальнай літаратуры — прозы, паэзіі, крытыкі. У гэтых рэдакцыях было не проста рэдагаванне, а вялася праца больш шырокага характару. Тут рыхтаваліся і выдаваліся штогадовыя альманахі: “Дзень паэзіі”, “Сучаснік” (публіцыстыка), “Вобраз” (крытыка і літаратуразнаўства). Для маладых аўтараў былі заснаваны серыі: “Першая кніга паэта”, “Першая кніга прозы”.

Ва ўсе гады працы ў выдавецтве адным з самых галоўных клопатаў нашых было павелічэнне колькасці выданняў. Пісьменніцкая суполка расла, вярталася творчасць рэпрэсаваных у даваенныя гады, больш шырока адкрывалася багатая спадчына. Усё гэта выданні на беларускай мове.

У 1982 годзе “Мастацкая літаратура” адзначыла першае дзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. Дырэктар выдавецтва М. Ф. Дубянецкі ў сваім дакладзе на святочным сходзе, што праходзіў у Доме літаратара, з гонарам казаў: “За дзесяць гадоў выпушчана больш чым дзве тысячы назваў кніг. Агульны тыраж выданняў склаў каля 80 мільёнаў экзэмпляраў”.

Пройдзе яшчэ дзесяць гадоў. І вось у інтэрв’ю газеце “Літаратура і мастацтва” я, як галоўны рэдактар, называю лічбы: “За 1972–1991 гады выпушчана нашым выдавецтвам 3639 назваў кніг і брашур, з іх на беларускай мове – 2758, г.зн. 75,7 працэнта, па тыражы адпаведна 158,1 мільёнаў эк земпляраў і на беларускай мове 41,4, што складае 26,2 працэнты. На той час пік колькасці выданняў прыпаў на 1988 – 173, з іх на беларускай мове 131, тыражом 1246 тысяч”. Ёсць яшчэ лічбы некалькіх пазнейшых гадоў. 1992 – усяго кніг 177, на беларускай мове – 143; 1993: 155 – 133; 1995: 91 – 73. Далей дзяржаўнае выдавецтва нацыянальнай, а гэта значыць беларускамоўнай, літаратуры кніг выпускае ўсё менш і менш. Самыя багатыя, самыя паспяховыя ў выдавецкай працы былі апошнія 80-я і першыя 90-я — гады сапраўднага нацыянальнага абуджэння, багатыя і колькасна, і якасна. Сярэдзіна і другая палова 90-х — час для “Мастацкай літаратуры” не самы лепшы. Падтрымка дзяржавы (датацыі) зменшылася ў разы. Тыражы зменшыліся зноў жа ў разы. Кніжны рынак захліснула кніга нізкапробная. Бібліятэкі намнога знізілі заказы на нашу кнігу.

У 1994 годзе ў адным інтэрв’ю ў “Настаўніцкай газеце” давялося мне,

тады дырэктару, казаць такія горкія словы: “На сучасны момант дзяржава асаблівых падстаў для аптымізму не дае, а без яе падтрымкі нашай беларускай кнізе не выжыць. А паслухаеш сёння нашых кіраўнікоў, нават самага высокага рангу, дык галоўны клопат сёння, каб выжыць. Гэта, канечне, так, але ці патрэбна гаварыць адно і тое ж, а то пачынаем прывыкаць, што галоўнае ў тым, каб выжыць, неяк існаваць. Але ж гэта не мэта чалавека. Чалавек усё ж павінен жыць, а не існаваць. І тут без духоўнага адраджэння не абыдзешся. Калі кіраўнікі нашы пераканаюцца, што не хлебам адзіным жыве чалавек, толькі тады можна гаварыць пра перспектыву нашага кнігавыдання. Калі ж застанецца ўсё як цяпер — адно выжыць і пра нацыянальнае адраджэнне ні слова, дык нас чакае не лепшая доля. Супакойвае хіба ўсведамленне таго, што ў гэтым жыцці ўсё (ці шмат) праходзіць, кніга ж застаецца на вякі”.

Гаварылася гэта тады, калі было добрае веданне кніжнай справы знутры, калі была змена часоў, калі толькі пачыналася наша сучасная дзяржава. Прайшлі гады. Адносіны дзяржавы да кнігі ніколькі не змяніліся.

Але вернемся ў тыя ранейшыя часы. Звернута ўвага на павелічэнне колькасці назваў кніг. Так, яна найперш была абумоўлена ростам пісьменніцкай арганізацыі. Але не толькі. Быў попыт на беларускую кнігу наогул. У выдавецкіх планах заўсёды адводзілася немалое месца перавыданням, выданню збораў твораў. Існавала як бы няпісанае правіла: да кожнай юбілейнай даты кожны таленавіты аўтар ажыццяўляў паўторнае выданне (у адным ці двух тамах, а то і ў трох). Абавязкова была прадмова. Узгадваюцца, напрыклад, выбраныя творы ў трох тамах (1992–1993) Янкі Брыля, зноў жа ў трох тамах Барыса Сачанкі (1993–1995 ), выбраныя творы ў двух тамах Яна Скрыгана (1985), Анатоля Кудраўца (1987), Янкі Сіпакова (1995, 1997)… Да двух гэтых выднняў (Сачанкі і Кудраўца) я пісаў прадмовы.

Маю ўвагу асабліва прыкоўвала — і як выдаўца, і як літаратуразнаўцу — выданне збораў твораў. З гадоў маёй працы ў выдавецтве выразна вылучаюцца зборы твораў Івана Мележа ў 10 тамах (1979–1985), Максіма Гарэцкага ў 4 тамах (1984–1986). У 1990 годзе ў такім самым афармленні выйшаў дадатковы том “Творы” Максіма Гарэцкага, поўны збор твораў у 9 тамах (9 том у 2-х кнігах) Янкі Купалы, падрыхтаваны ў Інстытуце літаратуры (1995–2003), Максіма Зарэцкага ў 4 тамах (1989–1992), Цішкі Гартнага ў 4 тамах – выйшла 3 тамы (1987–1988), Васіля Быкава ў 6 тамах (1992–1996), Івана Пташнікава ў 4 тамах з маёй прадмовай (1990–1992), Уладзіміра Караткевіча ў 8 тамах, 8 том у 2 кнігах (1987–1991), у 1996 годзе выйшлі першыя тамы збораў твораў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча адпаведна ў 5 і 6 тамах.

Як чытачу і як выдаўцу, мне найбольш блізкія выданні з навуковамасавым ухілам. Як, напрыклад, Гарэцкага, Мележа, Караткевіча. Яны ахопліваюць усе больш значныя і вартыя ўвагі творы пісьменніка, каментар іх

сціслы і змястоўны. Звычайна планы выданняў збораў твораў і выбраных твораў мелі перспектыўны характар. Складаліся на 5 (здаецца) гадоў. Зацвярджаліся, як і штогадовыя тэматычныя планы, у Маскве. Парушэнне іх не прымалася. І ўсё ж іх не так парушэнні, як пэўныя змены, дапаўненні даводзілася рабіць. Пры падрыхтоўцы і выданні збораў твораў Караткевіча выявілася, што васьмі тамоў мала, каб змясціць усё больш значнае, адкрытае на той час. Давялося весці розныя перамовы. Тут актыўную дапамогу аказваў Рыгор Барадулін. Праз пэўны час былі выяў-лены новыя творы, тыя, якія пры жыцці пісьменніка не друкаваліся. Падрыхтаваў гэты том даследчык творчасці Караткевіча Анатоль Верабей, рэдактарам стаў Рыгор Барадулін. Кніга выйшла ў тым жа афармленні (толькі колер іншы), з той жа рэдакцыйнай калегіяй, з тым жа карэктарам падрыхтоўкі тэксту. Том выйшаў у 1996 годзе. Па сутнасці, атрымалася дзесяцітомнае выданне твораў пісьменніка. Выданне па рэдакцыйнай пад-рыхтоўцы, па зместу, па афармленні (кожны том уключаў сшытак фота-здымкаў пісьменніка) выдатнае, у практыцы выдавецтва адно з лепшых.

Узніклі ўскладненні з выданнем збору твораў В. Быкава і М. Гарэцкага. Пра Быкава праўдзіва расказаў усё ў сваіх успамінах М. Ф. Дубянецкі. Яму тая гісторыя нямала каштавала, хоць ён і перамог. Справа ішла пра друкаванне аповесці “Мёртвым не баліць” у 4-м томе збору твораў. Дубянецкаму давялося тэлефанаваць у ЦК КПСС М. В. Зімяніну. Пры выданні збору твораў М. Гарэцкага таксама адбылася гісторыя з 4-м томам. Там упершыню друкавалася “Камароўская хроніка”. У Галаўліце ўзнік цэлы шэраг заўваг, прапаноў аб скарачэнні мясцін ідэалагічнага характару, як яны лічылі. На сённяшні дзень усё гэта проста смешна. Ну, напрыклад: с. 174 “сяляне не за рэвалюцыю…”; с. 35 “але выхоўвалі іх у семінарыі ў рускім, патрыятычным духу і, мусіць, не было ў Міхалкі беларускай адраджэнскай свядомасці”; с. 133 “Іван Фаміч быў юдафоб. Казаў: «Евреи со мной считаются. Они имеют список, какие газеты я читаю»; с. 161 «з беларусаў тут выпісваў “Вольную Беларусь” Война». І мноства іншых мясцін па ідэйных меркаваннях трэба было апусціць. Збор твораў да выдання рыхтаваўся ў Інстытуце літаратуры. Рэдактарам тома, адказным за яго падрыхтоўку да выдання быў А.М. Адамовіч. Была і рэдкалегія выдання. І вось яна вырашыла пазмагацца за захаванне падрыхтаванага тэксту. Быў складзены ліст (аж на 7 машынапісных старонках), дзе доказна даводзілася немэтазгоднасць гэтых скарачэнняў. Падпісаліся члены рэдкалегіі А. М. Адамовіч, Д. Я. Бугаёў, Г. М. Гарэцкая, В. А. Каваленка, М. І. Мушынскі, Б. І. Сачанка. Ліст быў адрасаваны кіраўніцтву выдавецтва: мы ж выдаем. У гэтыя ж дні неяк заходзіць дачка Гарэцкага Галіна Максімаўна. Звяртаецца: “Серафім Антонавіч, не будзеце крыўдаваць, калі я па гэтай справе схаджу да І.І. Антановіча, загадчыка аддзела культуры ЦК?”. Якія тут могуць быць крыўды: гэта вельмі добра. Яна схадзіла. Дзесьці адразу званок з ЦК, запрашаюць зайсці. Я ўзяў

пісьмо і пайшоў. Антановіч сустрэў прыветліва, пагаварылі, я выказаў свае адносіны. Ён папрасіў пакінуць ліст членаў рэдкалегіі, паабяцаў разабрацца.

Праходзіць тыдзень, другі. Я чакаю, што патэлефануюць. Але нічога не чуваць. Тэлефаную сам. Дазваляюць зайсці. Пайшоў. На гэты раз сустрэча была чыста афіцыйная. Размовы па сутнасці не было. Уручыў мне некалькі паперак, ад рукі напісаных: маўляў, там усё, што трэба. Вярнуўся ў выдавецтва. Прачытаў. Даю ў поўным аб'ёме.

5.04. 85

К беседе с т. Антоновичем И. И.

О романе М. Горецкого «Камароўская хроніка»

Что надо иметь в виду:

1. На роман, хоть он ещё не опубликован, давались развёрнутые положительные рецензии о том, что это классическое произведение белорусской литературы.

– Алесь Адамович "Браму скарбаў сваіх адчыняю…" Издат. БГУ 1980

– Алесь Адамович «Класік беларускай літаратуры», вступительная статья в 1 томе собрания произведений М. Гарэцкага, изд. «Мастацкая літаратура», 1984 г.

2. Негативные положения. Там, где речь идёт о политической стороне событий. Где повествуется о революции, об отношении к ней крестьян, о красноармейцах в годы гражданской войны, о крестьянах послевоенной деревни (Дневники, заметки Прохора, Маринки, Лаврина, Кузьмы) даются негативные описания.

Стр. 180, 205, 212, 217, 248, 388, 393.

В рукописи сделаны карандашом пометки, что следует опустить. Согласиться.

Их следует дополнить:

– На стр. 176 ─ «сяляне не за рэвалюцыю»

– На стр. 180 «Вось яно жыццё ни сказак о нём не расскажут, ни песен о нём не споют».

– На стр. 248 снять Ластоўскага

– На стр. 260 «узнаць ідыёвыя падмуркі беларускага рэнесансу». Правомерность выражения
«Национальное возражд.». «Культурн.» (слова незразумелае ─ *С. А.*)

– На стр. 338 ─ аб становішчы ў вёсцы "Дзядзьку Яхіма забралі ─ дзесяць гадоў", "Дзядзьку Рамана засудзілі, здаецца, на пяць", "Брата Грышку вычысцілі з інстытута" і г. д.

Только отрицательное. Думается, что вопросы, затрагивающие работу ГПУ (ВЧК), если они будут опущены редакцией, следует по ним издательству проконсультироваться в Комитете Госбезопасности у т. Русака».

Чые гэта былі заўвагі і рэкамендацыі, невядома: подпісу не было. Мы ж іх атрымалі ад аддзелу культуры ЦК КПБ. Так тады працавала цэнзура, такія былі ідэалагічныя патрабаванні. Але больш пра гэта крыху пазней.

Збор твораў Міхала Гарэцкага рыхтаваўся ў Інстытуце літаратуры, рыхтаваўся не ў самыя лепшыя гады. Не ўсё яшчэ, як відаць, можна было друкаваць: не толькі нейкія ўрыўкі тэксту, але і цэлыя творы. Ды справа ў тым, што спадчына Гарэцкага была адшукана, выяўлена, тэксталагічна падрыхтавана. І як толькі стала магчыма, змянілася грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне, яны былі выдадзены. У 1990 годзе, як ужо згадвалася, у тым жа афармленні, з той жа рэдкалегіяй, навукова-тэксталагічна падрыхтаваны, як і тамы збору твораў, выходзіць том дадатковы — “Творы”. У 1984 г. у палепшаным выданні з’явілася кніга “Максім Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы”, падрыхтаваная адказнымі даследчыкамі літаратуры А. С. Лісам і І. У. Саламевічам. Дарэчы, гэтую кнігу я атрымаў ад Галіны Гарэцкай з дарчым подпісам наступнага зместу: *Дарагому Серафіму Антонавічу Андраюку з найвялікшай удзячнасцю і пажаданнем усяго самага светлага і радаснага ў жыцці і творчай працы 21. 8. 84 г.* І ўжо ў 1992 годзе выдавецтва наша ў серыі “Спадчына” выпусціла вядомую “Гісторыю беларускай літаратуры” Максіма Гарэцкага, зноў жа падрыхтаваную навукова. Пастаянную ўвагу, клопат да выдання твораў Максіма Гарэцкага праяўляла дачка пісьменніка Галіна Гарэцкая. Такіх душэўных, дбайных адносін да зробленага, створанага бацькам, за час маёй працы ў выдавецтве (ды не толькі) я не сустракаў.

Выдадзеныя творы Гарэцкага ў гэтыя пераломныя для краіны гады паказалі, засведчылі, якім духоўным багаццем валодае наша гісторыя, асобы якога маштабу тварылі гэтае багацце.

Неяк на днях, чытаючы “Литературную газету”, у прыватнасці, артыкул, прысвечаны Уладзіміру Салаухіну, зачапіўся за яго разважанні з кнігі “Капля росы”. Як ён разумее аўтабіяграфію: “Чтобы её написать, нужно рассказать о людях, с которыми пришлось повстречаться в течение жизни. Автобиография состоит не из описания самого себя, а из описания всего, что ты увидел и полюбил на земле».

А то ўжо пачаў я думаць: пішу ўсё пра выданне кніг, пра самі кнігі, іх аўтараў… Але ж да ўсяго гэтага я маю самыя непасрэдныя адносіны, чым займаюся, што люблю, урэшце, што ўнутрана таксама маё. Без чаго ў той час я сябе не бачу.

Увесь час маёй выдавецкай працы, асабліва ў канцы 80-х, пачатку 90-х, маім галоўным клопатам было выданне літаратурнай спадчыны.

Сам час патрабаваў моцнай нацыянальнай духоўнай асновы. Жыццё патрабавала, чалавек. Выдавецтва разумела, адчувала гэтую патрэбу. Мне асабіста не раз даводзілася гаварыць, пісаць пра неабходнасць, надзённасць самай пільнай увагі да нашай нацыянальнай спадчыны: яе выдання, вывучэння, даследавання.

У 1993 годзе ў кастрычніку ў інтэрв'ю ў газеце "Літаратура і мастацтва" мне не ў першы раз давялося гаварыць пра выдавецкую дзей-насць, пра кнігу. Дазволю сабе сябе працытаваць. Бо сітуацыя, па сутнасці, мала змянілася.

Такім чынам, тады было сказана і надрукавана: "Гаварыць сёння пра перспектыву выдавецкай дзейнасці вельмі рызыкоўна, бо галоўны ж лозунг часу — выжыць. А пры такім псіхалагічным і духоўным стане — пра якую перспектыву ў кнігавыданні можна гаварыць. Адчуванне такое: улезлі мы, рэспубліка, у дрыгву і топчамся на месцы. Дрыгва зацягвае ўсё больш. А топчамся таму, што не ведаем, куды нам ісці. То кінемся на ўсход, то на захад…

Але і ў гэтых умовах кнігу трэба выпускаць. Кнігу нацыянальную, кнігу, якая б працавала на нацыянальнае адраджэнне, на сцвярджэнне беларускай духоўнай суверэннасці. Хто такую кнігу будзе выпускаць? Нацыянальна свядомыя інтэлігенты? Яны занадта бедныя і непрактычныя. Яны на сённяшні дзень занадта захоплены эйфарыяй мітынгавання і слоўных баталій. Яны вельмі непасрэдна, даверліва ўспрынялі біблейскі афарызм: спачатку было слова. Яно, магчыма, і так. Але якое слова? Слова выпакутаванае, выбалелае, слова агнёвае. Сёння ж пануе слова блудлівае.

Далей хто? Выдавецтвы прыватныя? Але вопыт некалькіх гадоў паказаў, што іх у пераважнай большасці цікавяць грошы і толькі грошы.

Застаецца, як і раней, дзяржава. Дзяржава, якая хоча быць беларускай. Бо без нацыянальнага ўсведамлення, усведамлення і адчування сваёй незалежнасці, самастойнасці ніколі мы не выберамся з дрыгвы. Такога ўсведамлення ў нас сёння, па сутнасці, няма: дзесяцігоддзі, стагоддзі ўсё нацыянальнае вытраўлялася, вынішчалася.

Кніга, мастацкая літаратура і мастацтва не толькі выяўлялі нацыянальную адметнасць, своеасаблівасць беларуса, але і рабілі пэўныя крокі — часта нясмела, стыхійна — на шляху да самасцвярджэння. Менавіта яна ў большай ступені нясе ў сабе нацыянальную энергію. Энергія гэта разлічана на вякі. Таму клопат пра кнігу павінен стаць першаступенным клопатам нашае дзяржавы."

Так меркавалася, планавалася, жадалася тады, гаварылася ў той час, калі наша краіна толькі што стала на шлях незалежнасці, самасцвярджэння. Прайшлі гады, нават дзесяцігоддзі, але і сёння паўтарыў бы ўсё тое, што гаварылася тады, за выключэннем, хіба што, занадта катэгарычнага абзаца пра недзяржаўныя выдавецтвы. Бо час з усёй пераканаўчасцю засведчыў, што справу нацыянальнага адраджэння, нацыянальнага самасцвярджэння праз кнігу і дзякуючы кнізе сёння ажыццяўляе на самым высокім узроўні "Беларускі кнігазбор". Праект гэты, аўтарам і нязменным галоўным рэдактарам якога з'яўляецца паэт, празаік, літаратуразнаўца Кастусь Цвірка, заснаваны быў у 1996 годзе. Праект унікальны па падборы аўтараў, рэдакцыйна-выдавецкай падрыхтоўцы, ідэйна-змястоўнай накіраванасці.

Даўно заслугоўвае найвышэйшай ацэнкі і найбольшай падтрымкі з боку дзяржавы. Аднак…

Вернемся да “Мастацкай літаратуры”. У той час, у духоўнай сітуацыі, у тым становішчы нашай мовы трэба было не проста выдаваць беларускую кнігу, а імкнуцца выяўляць карані беларускасці, выяўляць, пашыраць яе прастору, абсягі. Выдавецтва ўсяляк імкнулася гэта рабіць. Найгалоўнае і найпершае — гэта выданне збораў твораў і твораў спадчыны, класікі. Пра зборы твораў Купалы, Гарэцкага, Мележа, Караткевіча, Гартнага, Зарэцкага гаварылася. Грунтоўнай навукова-тэксталагічнай падрыхтоўкай вылучаліся такія выданні, як “Творы” Язэпа Дылы (1981), “Творы” Уладзіслава Галубка (1983), “Творы” Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984), “Творы” Францішка Багушэвіча (1991), “Творы” Лукаша Калюгі (1992), “Творы” Андрэя Мрыя (1993). ”Творы” Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча па ўзаемнай дамоўленасці рыхтаваў даследчык Язэп Янушкевіч. Праца яго была ацэнена вельмі станоўча. Я асабіста быў задаволены яго адказнасцю і грунтоўнасцю ім зробленага. І сёння скажу шчыра, мне прыемна чытаць дарчы надпіс на кнізе Ф. Багушэвіча: *Серафіму Антонавічу Андраюку, — па -ранейшаму майму хроснаму бацьку ў літаратуры, з сыноўняй удзяч-насцю за давер і трохі радуючыся, што не падмануў Вашых надзей*

*Укладальнік Язэп Янушкевіч.*

*7 траўня 1994 г. думаючы пра гэткае самае “выйсце ў людзі” Кастуся Каліноўскага.*

Дарэчы, і адно, і другое выданне выйшлі як палепшаныя — багата ілюстраваныя фотаздымкамі, у супервокладцы.

Выходзіла і шмат іншых выданняў спадчыны як XIX, так і XX стагоддзя, асабліва тых, хто быў рэпрэсаваны ў 30-я гады. У пераважнай большасці творы спадчыны аказаліся сугучныя новаму часу. З мэтай даць чытачу адчуць дух таго часу, убачыць зрокава колер кнігі таго часу было асвоена факсімільнае выданне самых яркіх кніг мінулага. Так былі перастворанызнакамітыя першыя кнігі Я. Купалы “Жалейка”, Я. Коласа “Песні-жальбы”, М. Багдановіча “Вянок”, А. Гаруна “Матчын дар”, М. Танка “На этапах”, К. Буйло “Курганная кветка”, К. Сваяка “Мая ліра”, Л. Геніюш “На чабары настоены”… Гэтыя кнігі ўспрымаліся з асаблівым нейкім хваляваннем. Іх хацелася адразу чытаць. Яны дыхалі тым часам, гучалі творы іх трохі нязвыкла і захапляльна-заваблiва.

Зноў жа з мэтай прывабіць чытача да беларускай кнігі выдавецтва выпускала так званыя “кнігі-малюткі”. Гэта ўсё былі палепшаныя выданні: “Песня пра зубра” Міколы Гусоўскага, “Вянок” Максіма Багдановіча, “Вершы” Цёткі, “Байкі” Кандрата Крапівы, “Праблiскі” Янкі Брыля, “Святлынь” Ніла Гілевіча…

Нельга не звярнуць увагу на выданні палепшанага тыпу ў выдатным мастацкім афармленні. Вось кнігі, якія ў мяне перад вачыма: Янка Купала “Вершы і паэмы” (мастак Міхаіл Басалыга); Якуб Колас “Выбра-

нае”(мастак Георгій Паплаўскі). Гэтыя аднатомнікі рыхтаваліся да стагадовага юбілею народных паэтаў. Яшчэ: «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча (мастак Васіль Шаранговіч, пераклад Язэпа Семяжона); “Найвышэйшая песня Саламонава” (мастак Арлен Кашкурэвіч, пераклад Васіля Сёмухі)… Было нямала і іншых выданняў падобнага кшталту. У тэматычных планах на кожны год планаваліся два-тры палепшаныя выданні.

Праблема моўнага нацыянальнага самасцвярджэння вымагала не толькі актыўнага звароту ў мінулае (у пошуках каранёў беларускасці), але і больш шырокага погляду на сучаснасць (у выяўленні шырокіх сведчанняў жыццёвасці беларускасці). Апошняе выяўлялася і рэалізоўвалася ў самых розных напрамках. Найперш гэта пераклады замежнай літаратуры — з самых розных моў. Так вывяраліся самыя высокія якасці беларускага слова, яго здольнасці і магчымасці ў перадачы розных узроўняў моўнай культуры, ва ўзнаўленні самых розных сфер чалавечага жыцця і самых розных народаў. У свой час была створана ў выдавецтве серыя “Скарбы сусветнай літаратуры”. У гэтай серыі выйшлі творы Апулея і Лонга, Буніна і Купрына, Гётэ, Вазава, Гогаля, Т. Мана, Мерымэ, Хемінгуэя, Шаўчэнкі, Шэкспіра… Усе творы перакладаліся з арыгіналу. Да гэтай выдавецкай акцыі была падключана немалая кагорта перакладчыцкіх сіл, у тым ліку маладых. Яны, перакладчыкі “скарбаў”, творча сталелі, удас-канальвалі майстэрства, узбагачалі беларускую мову. Далучыць нашага чытача да скарбаў сусветнай літаратуры праз родную мову — то была задача выключнага культурнага, духоўнага значэння.

У канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў, на хвалі агульнанацыянальнага ўздыму, выдавецтва абавязана было звярнуць увагу і на беларускае слова, якое гучала за межамі Беларусі. Бо яно сведчыла, што слова, народжанае зямлёй гэтай, насычанае яе сокамі, жыве і ў іншых умовах, жыве, пакуль жывы яго носьбіт. Якраз у гэтыя гады наш чытач змог пазнаёміцца з творамі на беларускай мове пісьменнікаў з Беласточчыны — Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Сакрата Яновіча, Віктара Шведа, Васіля Петручука. Выйшла ўнікальная кніга аўтара з Ленінграда Мікалая Нікалаева “Палата кнігапісная” (пра беларускую рукапісную кнігу, выданне ў выдатным мастацкім афармленні). Але, напэўна, галоўнае ў гэтай выдавецкай задуме — выданне твораў, напісаных на беларускай мове, — зварот да творчасці тых беларусаў, што жылі ў эміграцыі. Тых, хто воляю лёсу апынуўся далека за межамі бацькаўшчыны і змог захаваць любоў да роднай зямлі, роднай беларускай мовы. У справе азнаямлення беларускага чытача з літаратурай эміграцыі выключная роля належыць Барысу Сачанку. Пабыўшы ў складзе беларускай дэлегацыі на адной сесіі Генеральнай асамблеі ААН, ён змог пазнаёміцца з беларускай эміграцыяй. Пранікся цікавасцю. І потым, калі толькі стала магчыма, ён пачаў знаёміць беларускага чытача з творчасцю эміграцыі. У 1992 годзе “Мастацкая літаратура” выпусціла вялікі памерам (33, 3 выдавецка-уліковых аркушы)

том паэзіі беларускай эміграцыі “Туга па радзіме”, накладам у 5000 асобнікаў. Вельмі аб’ёмна была прадстаўлена паэзія Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, Міхася Кавыля, Уладзіміра Клішэвіча… Усяго ж прадстаўлены творы 15 паэтаў. Укладанне, прадмова і біяграфічныя даведкі Б. Сачанкі. Яшчэ да таго, у 1990 годзе, у кнізе “Сняцца сны аб Беларусі…” была надрукавана праца “Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні” і дадатак да яе “У працяг размовы”. У 1994 годзе з’яўляецца яшчэ адна кніга, прысвечаная беларускай эміграцыі, — “На суд гісторыі”. Зноў жа укладанне, прадмова і звесткі пра аўтараў Барыса Сачанкі. Змест яе складаюць артыкулы мемуарнага зместу вядомых людзей мастацтва з беларускай эміграцыі, а таксама гутаркі з некаторымі з іх. У пэўным сэнсе якраз Барыса Сачанку можна лічыць адкрывальнікам беларускага літаратурнага замежжа. Дзякуючы яго клопатам прыйшла потым да нас проза і эсэістыка Масея Сяднёва, наладжаны сустрэчы з ім у выдавецтве. Пазней былі сустрэчы з Янкам Запруднікам, Кастусём Акулам. Вынікам чаго сталася тое, што ў 1994 годзе з’явіліся знакавыя для выдавецтва кнігі ў серыі “Галасы беларускага замежжа”: раман (шмат у чым аўтабіяграфічны) Кастуся Акулы “Змагарныя дарогі” і трэці выпуск гісторыка-публіцыстычнага зборніка “З гісторыяй на <Вы>”. Ідэя зборніка — Уладзіміра Арлова, які працаваў у выдавецтве і актыўна праводзіў адраджэнскую лінію. Ён быў укладальнікам першых двух выпускаў. Мэтаю было — даследаванне, высвятленне “белых плямаў” беларускай гісторыі, літаратуры, духоўнага і палітычнага жыцця. Укладанне трэцяга выпуску зборніка было зроблена Янкам Запруднікам, яго ж уводнае слова. Зборнік складаюць артыкулы літаратараў, гісторыкаў, публіцыстаў беларускага замежжа. Пазначаны раздзелы: “Бацькаўшчына здалёк”, “Постаці”, “Будучыня ў мінуўшчыне”. Гэтыя артыкулы, дакументы неслі ў сабе думкі, меркаванні не заўсёды звыклыя для нас, часам нечаканыя. У адных гэта выклікала цікавасць, духоўны інтарэс, іншых раздражняла, абурала.

Дарэчы, зборнікі ”З гісторыяй на <Вы>” былі адным з выданняў галоўнай выдавецкай лініі гадоў адраджэння. Важна было даць чытачу багацейшы тэкставы матэрыял (самі мастацкія творы), малавядомы, а то і зусім невядомы. Матэрыял мінулых гадоў (спадчына) і сучасны. І не толькі. Раней увесь гэты матэрыял (творчасць, творы) падаваўся ў негатыўным асвятленні: не сам па сабе, а пераважна праз яго падачу і ацэнку. Цяпер жа (тады на пачатку 90-х) з’явіліся канкрэтныя мастацкія творы, раней або зусім невядомыя, або вядомыя па нейкіх пераказах. Ды і змяніліся крытэрыі ацэнкі мастацкага твора, асабліва ідэйна-грамадскага зместу. З гэтай мэтай выходзілі і іншыя зборнікі — свае амаль у кожнай рэдакцыі. Большасць з іх мелі змест гісторыка-літаратурны. Некалькі выпускаў мелі зборнікі “Шляхам гадоў” і “Скарыніч”. Іх аўтары — даследчыкі розных часоў. І не толькі беларускія, але і некаторыя ўкраінскія, рускія. Прыцягваліся маладыя аўтары. Так, напрыклад, падрыхтоўка

і складанне штогадовага зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў за 1990 год было даручана пазней шырокавядомаму публіцысту і крытыку Сяргею Дубаўцу.

Выданне спадчыны, выданне твораў беларускай эміграцыі патрабавала шмат працы, высілкаў. Новыя творы прозы, паэзіі прыходзілі самі. Толькі друкуй. Іх будуць прыносіць яшчэ і яшчэ. Тут жа трэба было шукаць, рыхтаваць, арганізоўваць, абмяркоўваць, прабіваць, абараняць. У выданні спадчыны і літаратуры беларускага замежжа мой асабісты ўдзел — і як галоўнага рэдактара, і як дырэктара – самы непасрэдны. Тым больш, што ўвага да такой літаратуры, да гэтай кнігі зверху была самая пільная. І ў гады адраджэння.

Узгадваецца гісторыя з выданнем кнігі Кастуся Акулы “Змагарныя дарогі”. Здарылася так, што Акула прыязджаў у Мінск. Было гэта летам 1992 года. Адбылася сустрэча з ім у выдавецтве. Я ў той час быў у адпачынку. І якраз пасля той сустрэчы пачаліся размовы пра выданне чагосьці з яго твораў, тым больш, што ў гэтыя гады выданне кніг літаратараў беларускага замежжа ўхвалялася і падтрымлівалася. Спыніліся на “Змагарных дарогах”, маючы на ўвазе найперш багатую фактычную аснову твора. У тэматычны план 1994 года кніга не трапіла. Была ўключана ва ўдакладнены план, які зацвярджаецца ў канцы года. План быў зацверджаны. Падрыхтоўкай кнігі займаўся У. Арлоў. Кніга выйшла з друку ў самым канцы 1994 года. Мела поспех. Як паведамлялася ў газеце “Наша ніва” (1995, № 4), кніга Акулы па колькасці прададзеных асобнікаў у мінскіх кнігарнях аказалася на 2-ой пазіцыі.

Але, але… Якраз з гэтай кнігай звязана цэлая гісторыя ў жыцці выдавецтва. Дзесьці ў тыя дні прэзідэнт А. Р. Лукашэнка наведаў майстэрню народнага мастака БССР Міхаіла Савіцкага. І вось там раптам яго сын папытаў, чаму і як выходзяць у нас такія кнігі, як кніга К. Акулы. Патлумачыў, што гэта за кніга. Адказ быў: разбярэмся. Усё гэта я сам глядзеў па тэлевізары. Адразу як бы не надаў асаблівай увагі. Але назаўтра, прыйшоўшы ў выдавецтва, адразу адчуў трывогу. Патэлефанавалі з Камітэта па друку (а мо тады ўжо было міністэрства) — А. І. Бутэвіч. Зайшоў да яго. Ён папярэдзіў, што трэба чакаць праверак, адмяніў рашэнне аб датацыі гэтага выдання, папрасіў не хвалявацца асабліва. Пазней, у самым канцы 1995 года, у сувязі з іншымі падзеямі (пра іх крыху пазней), у інтэрв’ю газеце “Літаратура і мастацтва” пра ўсё гэта я гаварыў так: “Згадаем гісторыю з кнігай Кастуся Акулы, разборам займалася служба кантролю Адміністрацыі прэзідэнта. Недзе з паўгода высвятлялі, што і да чаго… Нам былі вынесены нават пэўныя спагнанні. Я разумею: можна той ці іншы твор ацэньваць па-рознаму. Але сёння падобныя адносіны да эміграцыі — проста дзіўныя. Тым больш для краіны, якая імкнецца і хоча быць краінай еўрапейскай. Сёй-той ніяк не можа супакоіцца, яму ўсё хочацца ваяваць, весці класавую барацьбу…” І далей: “Гэты класава-

сацыяльны сіндром, прытым афрыканскага тыпу, ніяк не да гонару нашай дзяржаве. Еўрапейскія краіны — тая ж Іспанія, тая ж Германія, тая ж Польшча — даўно на ўсім гэтым паставілі кропку. Нельга цэлыя пакаленні выхоўваць на нянавісці, калі мы хочам лічыць сябе цывілізаванымі людзьмі. Чаго толькі ні выдаюць сёння з эміграцкай літаратуры нашыя суседзі! Гляньма хоць на нашага "старэйшага брата", на якога мы так любім арыентавацца. У Расіі ж, па сутнасці, ці не ўся эміграцыйная літаратура выдадзена. Праўда, сёй-той можа запярэчыць: маўляў, там творчая эміграцыя ў асноўным першай хвалі, тых, хто ў пераважнай большасці сваёй выехаў за мяжу адразу пасля кастрычніцкіх падзей ці ў грамадзянскую вайну. Запярэчу і я – не зусім так. А іх антысавецкая дзейнасць у пазнейшыя гады? У гады Вялікай Айчыннай вайны? Возьмем хаця б такога зацятага ворага савецкай улады, які ваяваў супраць Савецкага Саюза і ў гады мінулай вайны і якога, узяўшы ў палон, павесілі, генерала Пятра Краснова. Ён, да ўсяго, і вядомы пісьменнік! Дык вось: ягоныя кнігі ў Расіі выдаюцца і перавыдаюцца. Чаму ж, у такім разе, мы не можам прымірыцца?! Тым больш, што беларуская эміграцыя ні ў чым падобным, як Красноў, не замешана. Яе дачыненні да той барацьбы, што вялася ў гады вайны, зусім не такія. Ды і пры выданні мастацкай літаратуры трэба ўсё ж улічваць галоўнае — момант эстэтычны. Праходзіць час, хто кім быў пры розных падзеях — забываецца, застаюцца творы. Сёння самы час збіраць нашы мастакоўскія скарбы?"

Трэба зазначыць, гутарка гэтая адбылася ў сувязі з іншымі абставінамі. 4 лістапада 1995 года ў газеце "Советская Белоруссия" з'явіўся артыкул супрацоўніка выдавецтва, члена Саюза пісьменнікаў Ганада Чарказяна пад назвай „<Адраджэнне> на практике: издательство «Мастацкая літаратура» серьёзно болеет, а это не добавляет здоровья белорусской книге". Ужо сама назва і газета, дзе быў надрукаваны артыкул, адназначна сведчаць пра яго змест і мэту. Артыкул меў значны рэзананс. І вось Алесь Марціновіч амаль адразу прапанаваў у сувязі з гэтым пагутарыць. Я згадзіўся. І сёння ўдзячны яму за гэта. Зразумела ж, першае пытанне было звязана з гэтым артыкулам. І вось што адказаў я ў той час:

"Скажу шчыра: суб'ектыўна некаторыя прычыны ў аўтара гэтага артыкула былі, ён быў паніжаны ў пасадзе, але тое, што напісана, вынесена на чытацкі суд, настолькі неадэкватна прычынам, што ўсё гэта цяжка зразумець. Хіба толькі, калі прычыну пашукаць у паўднёвым тэмпераменце, у нейкай асаблівай чалавечай зацятасці? Ды, зрэшты, гэта па першым уражанні. Калі ж да ўсяго паставіцца больш уважліва, дык высвятляецца, што справа не толькі ў канкрэтным аўтары, які пра ўсё гэта напісаў. Бо ўсе мы, асабліва тыя, хто звязаны з друкам, добра ведаем, што пісаць можна што заўгодна, але гэта ніяк не значыць, што яно абавязкова будзе надрукавана. У дадзеным жа выпадку, як відаць, рэдакцыя ахвотна ўзяла гэты матэрыял. Больш таго, паставіла яго на першую паласу. Вы

працуеце ў газеце, ведаеце, якія матэрыялы і з якой мэтай выносяцца на першую паласу. Ёсць і другі момант, які прымушае задумацца. Выклікае недаўменне: няўжо і аўтар, і газета, і яе галоўны рэдактар лічаць, што ім сама больш “баліць” за беларускую кнігу, і яны найбольш заклапочаны за яе лёс, а астатнія газеты, астатнія рэдактары ды і беларускія пісьменнікі, уся пісьменніцкая суполка, выдавецтвы не задумваюцца над складаным становішчам кнігавыдання? Не задумваюцца, бо ім гэта менш “баліць”?

Адказ ўвогуле, бадай, не толькі ў сённяшнім дні, не толькі адштурхоўваючыся ад гэтай канкрэтнай і непрыемнай сітуацыі. На працягу дзесяцігоддзяў і стагоддзяў нас вучылі іншыя: што пісаць, што друкаваць, што выдаваць, што чытаць, на якой мове гаварыць. Прыкладаў тут больш чым патрэбна. І яны, як высвятляецца, сяму-таму прыгадваюцца толькі пры адной нагодзе – самому пачаць іншых вучыць усяму гэтаму. Так што, хутчэй за ўсё, аўтар выконваў нечы сацыяльны заказ.

І яшчэ адзін момант, на які таксама нельга не звярнуць увагу. У такім тоне, у такім стылі, з такімі абвінавачваннямі пісалі толькі ў сумнавядомыя трыццатыя гады. І раптам падобнае “ўсплывае” сёння. Гэта ўжо не проста здзіўляе”.

Такая была мая рэакцыя на той артыкул тады. Рэакцыя як кіраўніка, як чалавека засталася пры мне. Прайшлі гады. Адносіны мае да той публікацыі засталіся тыя самыя ─ паскудная справа. Публікацыя тая мела немалы рэзананс у выдавецкіх і пісьменніцкіх колах. Адразу ж недзе ў першыя дні пасля публікацыі былі тэлефонныя званкі са словамі абурэння і падтрымкі. Тэлефанавалі, як зараз згадваецца, сябры І. Пташнікаў і Я. Сіпакоў, таксама Г. Бураўкін, І. Чыгрынаў, Г. Далідовіч, А. Дракахруст, Э. Скобелеў… У выдавецтве абураліся У. Арлоў, В. Сёмуха. Дзесьці тады ж сказалі сваё слова яны ў газеце “Звязда”. Было, як ужо згадвалася, арганізавана інтэрв’ю з Алесем Марціновічам у газеце “Літаратура і мастацтва”. Да гэтага ў той жа газеце ў рубрыцы “Кола дзён” была інфармацыя пра тую публікацыю з негатыўнай ацэнкай. Дзесьці ў тыя ж дні прайшлі на гэтую тэму перадачы на радыё і тэлебачанні, куды былі ўключаны гутаркі са мною. Перадачы і інтэрв’ю былі арганізаваны былымі супрацоўніцамі выдавецтва Вольгай Куртаніч і Святланай Кароль (Расянчук). Колькі прайшло часу, але і сёння цёпла згадваецца кожнае слова падтрымкі, сказанае ў той час.

Было б, як найменш, наіўна лічыць, што артыкул гэты атрымаў у выдавецкім калектыве адзінадушнае асуджэнне. Былі тыя, хто аднёсся да гэтага абыякава, былі і тыя, хто пагаджаўся з тым, што было сказана ў артыкуле. Апошняе бачылася ў настроі асобных супрацоўнікаў, таксама ў тым, што асобныя супрацоўнікі якраз у гэтыя дні ў выдавецтве не паказваліся.

Гэта, так бы мовіць, грамадскі рэзананс на публікацыю артыкула. Афіцыйная рэакцыя была некалькі іншая. Патэлефанаваў кіраўнік нашага міні-

стэрства  Анатоль Іванавіч Бутэвіч, “павіншаваў” з добрымі кадрамі. Сказаў, што будзе праведзена комплексная праверка выдавецтва. Праўда, агаварыў, што гэта не ў сувязі з артыкулам, хаця ўсё тут зразумела… Пазней неяк запрасіў зайсці. Супакоіў. Папрасіў спакойна працаваць. Камісія працавала доўга. Правяралася ўсё. Натуральна, што было выяўлена нямала недахопаў, слабых месцаў. Урэшце: для чаго ж праверкі робяцца?! 22 снежня 1995 года адбылася калегія Міністэрства культуры і друку. Асноўнае пытанне: “Аб рабоце выдавецтва “Мастацкая літаратура” ва ўмовах пераходу да рыначных адносін”. Рашэнне калегіі было адносна памяркоўным. Першы пункт (асноўны) рашэння калегіі гучаў так: “Прызнаць работу выдавецтва “Мастацкая літаратура” (С.А. Андраюк) па планаванні і выпуску друкаванай прадукцыі недастатковай”. У праекце, падпісаным першым намеснікам міністра С.А. Нічыпаровічам, ім жа і падрыхтаваным, была прапанова работу прызнаць “нездавальняючай”. Упэўнены: змякчэнне ацэнкі адбылося не без удзелу міністра. Былі ў пастанове і яшчэ 6 пунктаў, якія ахоплівалі ўсе бакі выдавецкай дзейнасці.

Як праходзіла абмеркаванне нашага пытання на калегіі, хто выступаў, што гаварыў, зусім нічога не помню. Столькі да гэтага было ўсяго адмоўнага, непрыемнага, што ўжо мала што належным чынам успрымалася і заставалася ў памяці. І адна праверка выдавецтва, і другая, абмеркаванне дзейнасці выдавецтва на калегіі не надавалі аптымізму, не надавалі творчай энергіі ні выдавецкаму калектыву, а тым больш мне. Ды і ў самой культурна-друкарскай сістэме пачаліся істотныя змены, мэтазгоднасць якіх часта проста нельга вытлумачыць і зразумець. Міністэрства было расфарміравана. Зноў з’явіўся камітэт па друку. Старшынёй яго стаў нехта У.П. Бельскі. Ужо не помню, адкуль ён прыйшоў. У камітэце таксама пачалося кадравае абнаўлене. Начальнікам упраўлення выдавецкай дзейнасці быў прызначаны нехта В.І. Жарыкаў. Якраз ён стаў галоўным тут ─ бесцырымонны, чужы беларускай кнізе, маладасведчаны.

Зразумела, пасля дзвюх праверак за адзін год (няхай сабе нічога злачыннага і не выявілі) пасля пертурбацый і кадравых перастановак у кіраўніцтве друку жыццё выдавецтва стала якімсьці нервова-напружаным. Я як дырэктар спрабаваў яшчэ ў сваіх выступленнях у друку  гаварыць пра неабходнасць дзяржаўнай падтрымкі для беларускай кнігі. Але… Але ўсё гэта было дарэмна. У новыя часы, пры новых уладах, пачала няўхільна зніжацца дзяржаўная ўвага да беларускай кнігі, належная яе падтрымка з боку дзяржавы. Запанаваў рынак. То была сітуацыя агульная для большасці былых рэспублік СССР. Вось што сёння гаворыць шырока вядомы паэт Алжас Сулейменаў пра кніжную справу ў Казахстане: “Вся система распространения и книгопечатания разрушилась, издательства стали частными, рассчитывающими на уличные прилавки и быструю прибыль. Подорожала и книга. Обнищал читатель. Отдав книгу во власть рынка ─ её погубили. Настоящую литературу обессилили, а взамен пришёл

ширпотреб». („Литературная газета”, 2015, № 1-2).

Тое самае і ў нас. Хіба што з папраўкай на асабліва драматычны лёс кнігі беларускамоўнай. Вось дадзеныя на гэты конт за 2014 год Нацыянальнай кніжнай палаты: “Больш за ўсё кніг у Беларусі выдаецца на рускай мове ─ каля 85 працэнтаў. Беларускамоўныя кнігі штогод займаюць нішу ў 10–12 працэнтаў. Усяго ж летась было выпушчана 1160 назваў кніг на беларускай мове сукупным тыражом 3,6 мільёна асобнікаў.

Цікава, што летась выдадзена 799 кніг з мастацкімі творамі беларускіх аўтараў, але сярод іх 500 выданняў на рускай мове і толькі 294 ─ па-беларуску (“Літаратура і мастацтва” 2015, № 3).

Тут таксама паведамляецца: “Сукупны тыраж мінулага года… 31,2 мільёна асобнікаў…” У працэнтных адносінах беларускамоўная кніга складае дзесьці 8,6 працэнта. Дык гэта выпуск кніг. А продаж?.. Там жа, упэўнены, большая палова кніг, асабліва мастацкай літаратуры ─ гэта кнігі выпушчаныя выдавецтвамі Расіі. Цяжка дакладна сказаць, які працэнт складае ў продажы кніга на беларускай мове. Добра, калі працэнты 3.

А ўсё ж, што звязана з рынкавым лёсам кнігі, якраз і пачыналася тады ─ у сярэдзіне 90-х. І добра помніцца. І добра бачацца вынікі сённяшнія.

Пасля праверак, калегіі, кадравых змен у вышэйшых кіруючых органах друку жыццё ў выдавецтве пачалося нейкае няпэўнае, няўс-тойлівае. Засталося адчуванне плёскання ў нейкай бруднай вадзе. Здавалася б, чаму? Адна і тая ж справа, адны і тыя ж людзі… Час, знешнія абставіны мяняюць усё ─ справу, мэты, чалавека. Не кожны можа ў новых умовах застацца самім сабою, а хто-ніхто якраз у новых умовах становіцца сам сабою, раскрываецца ў сваёй сапраўднай сутнасці. Чалавек – ён розны. Прыгожы, высокі ў сваіх марах і памкненнях, шчыры, адкрыты ва ўзаемаадносінах з іншымі, добры, сумленны… І ён жа, чалавек, злосны, крывадушны, помслівы, эгаістычны, дробны ў сваіх памкненнях і дзеях… Тут, у выдавецтве, давялося ўсё гэта ўбачыць, адчуць. Апошняе асабліва ў апошнія гады выдавецкай працы.

22.07. 1996 года быў вызвалены ад дырэктарскай пасады па ўласным жаданні ў сувязі з выхадам на пенсію. На наступны дзень, 23. 07. 1996 года, назначаны па тэрміноваму працоўнаму пагадненню на пасаду галоўнага рэдактара тэрмінам на адзін год. І, нарэшце, 31.12.1997 года быў вызвалены ад займаемай пасады ў сувязі з завяршэннем тэрміну працоўнага пагаднення.

8. 04. 1981 ─ 31. 12. 1997 ─ гады і дні маёй працы ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”. Немалы кавалак жыцця, працы. Працы зусім не той, што была ў Інстытуце літаратуры. Там жыў, працаваў сам для сябе, сам на сябе. Усё, што ты зрабіў, было тваё. Ішло пастаяннае ўнутранае накапленне ведаў, пачуццяў, узбагачэнне твайго ўнутранага свету. Пашыраліся і паглыбляліся твае веды пра чалавека, навакольны свет. Адбывалася ўсё больш глыбокае і ўстойлівае ўгрунтаванне цябе ў жыццё, у навакольны

свет. Унутрана ты пастаянна як бы багацеў, узбуйняўся.

У выдавецкай працы, дзейнасці ўсё зусім не так. Тут ты мала застаешся сам-насам. Па сутнасці, увесь час сутыкаешся з рознымі справамі, кантактуеш з рознымі людзьмі. Не хапае часу засяродзіцца, падумаць, прааналізаваць. Час бяжыць, час і цябе гоніць. Усе вынікі працы — не твае. Яны — вынік працы, клопату, турботаў многіх. Дзесьці твой унёсак большы, дзесьці — меншы. Штосьці застаецца ў памяці, у сэрцы, штосьці нават не закранае. Дзейнасць сама па сабе багатая, але не глыбокая.

Выдавецтва ўвогуле ўвесь час працавала нядрэнна. Былі пастаянныя прэміі, граматы. Спад дзейнасці выдавецтва ў 2-ой палове 90-х гадоў меў агульнадзяржаўную эканамічную і сацыяльна-культурную аснову. Сёння нярэдка прыходзіць думка, што дзесьці ў гэты час, відаць, трэба было кінуць мне гэтую выдавецкую справу. Тым больш, што дырэктарства гэта зусім не маё. І разам з тым якраз у гэтыя гады "Мастацкая літаратура" актыўна пачала асвойваць літаратуру беларускага замежжа, актыўна пашыраць прастору нацыянальнай літаратуры. Значна актывізавалася праца па прапагандзе нашай кнігі. Тут варта згадаць хаця б такія мерапрыемствы, як паездка на Гомельшчыну групы пісьменнікаў і выдаўцоў з кнігай "Прайсці праз зону" (кніга пра Чарнобыльскую катастрофу) або, з мэтай наладжвання прапаганды беларускай кнігі, актыўнае ўзаемадзеянне з кіраўніцтвам культуры Глыбоччыны, з актывам на гэтай ніве. У 1994 годзе мне было нададзена званне Заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, у 1983 узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага савета БССР; узнагароджваўся значкамі "Выдатнік друку", "Ударник одиннадцатой пятилетки», рознымі граматамі, падзякамі.

Таму, я так думаю, так хочацца думаць, калі ў 2-ой палове 90-х нейкія істотныя аспекты дзейнасці выдавецтва (залішняя, як лічылася, увага да літаратуры беларускага замежжа, захапленне нацыянальнай літаратурнай спадчынай пры пэўным зніжэнні фінансава-эканамічных паказчыкаў) сталі недаспадобы кіруючым колам, узяць проста скараціць дырэктара было не зусім лагічна. Зроблена гэта было больш-менш прыстойна.

Гаворачы пра апошнія гады працы ў выдавецтве, пра той непрыемны асадак, які пакінулі яны ў душы і памяці, нельга думаць, што ў ранейшыя гады, асабліва савецкія, усё і заўсёды было ўжо надта добра.

Возьмем хаця б галаўліт — цэнзуру. Ніводзін рукапіс не мог трапіць у друк, не прайшоўшы праз галаўліт. Галоўная ўвага была скіравана на выяўленне памылак, недаглядаў рэдактарскіх ідэйна-палітычнага зместу. Усё гэта з галаўліта ішло ў ЦК ў аддзел прапаганды. Звычайна ў пачатку кожнага года выклікалі ў аддзел прапаганды дырэктараў і галоўных рэдактараў усіх выдавецтваў і адбываўся разбор памылак (так лічылася) за мінулы год. Такіх памылак было няшмат. У нас звычайна 2–3: і рэдактары, і загадчыкі рэдакцый пры рэдагаванні былі пільнымі. Дарэчы, як і галоўная рэдакцыя. Але ўсё прадбачыць і ўсё ўбачыць не заўсёды бывала проста. На

нейкія рэчы рэдактары і цэнзары глядзелі па-рознаму, з рознай мерай пільнасці. Так здарылася з нашым выдавецтвам у 1984 годзе, калі заўваг было асабліва многа. Каб зразумець сутнасць заўваг, гэтых карэктур, дазволю сабе цалкам прывесці тэкст даведкі Галаўліта, што была даслана ў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП Беларусіі.

“О замечаниях политическо-идеологического характера, высказанных Главлитом БССР по содержанию произведений, представленных на контроль издательством “Мастацкая літаратура” в 1984 году.

В порядке информации сообщаем, что за 1984 год Главным управлением высказано 13 замечаний по идейному содержанию художественных произведений, подготовленных к печати издательством “Мастацкая літаратура” (в 1983 г. — 8). По замечаниям редакциями изда-тельства книги пересматривались, в них вносились правки, отдельные произведения снимались полностью. Ниже приводятся названия книг и характер некоторых замечаний…

1. Сборник стихов Н. Кислика «Разные годы».

Внимание редакции обращено на стихотворение «За бортом», в котором звучала безысходность и отсутствие всякой надежды на нормальную человеческую жизнь для инвалидов Великой Отечественной войны. Вернувшись домой, они, якобы, остались за бортом жизни и никому теперь не нужны. Редакцией принято решение опустить последние строки стихотворения.

В этом же сборнике «Извлечение из хроники филологического факультета за 1945–1950 гг.» опущен следующий текст:

Характерность в многообразье морд:
тот явный сукин сын;
а этот – гордый лорд;
вот Санчо, а вот тот – идальго;
один безвестный,
на другом медалька,
тот белоснежен,
тот, как ночка черен,
один мятежен,
а другой покорен,
тот всклоченный, а этот – в завитках…
И все на поводках…

Живописуя собачью выставку, автор переносит свои наблюдения на людей, и они ему представляются такими же, как и собаки на выставке: «все на поводках».

2. Повесть В. Быкова «Знак беды»

Опущена драматическая сцена с описанием подробностей раскулачивания ни в чём неповинных людей.

Кроме того, внимание издательства обращено на обложку повести: мёртвый жаворонок на земле, которую так долго ждали и, наконец, в 30-е годы получили от Советской власти герои повести — Степанида и Петрок. Мёртвый жаворонок, который призван как бы символизировать нелёгкую жизнь и все беды, обрушившиеся на эту семью в последние годы.

Рисунок этот издательством с обложки был снят и заменен другим.

3. Сборник статей «Максим Горецкий».

Сняты сведения, характеризующие пьесу Я. Купалы «Тутэйшыя», как одно из лучших произведений, появившихся в белорусской литературе после Великой Октябрьской социалистической революции. Такая характеристика не соответствует партийной оценке, данной этому произведению.

Пьеса, после её появления в 1922 году, больше нигде не печаталась, в том числе и в собраниях сочинений Я. Купалы не включалась.

4. А. Нёманский, сборник «Произведения»

Снят следующий текст: «В кабинете Смолковского районного исполкома с левого боку на стене был прикреплен портрет, чей неизвестно: может, Либкнехта, может К. Маркса или Зиновьева. Разобрать было трудно, так как мухи его так загадили, что никто не узнал, что это за портрет, без специального расследования».

5. Д. Бичель-Загнетова, сборник стихов «Загастинец»

Обращено внимание редакции на содержание стихотворения «Ходыки», в котором автор сетует на каких-то злопыхателей, мешающих ей отображать правду жизни, на «службиста — робота с мешком инструкций, стоящего перед поэтом и затемняющего свет его стихов».

Редакцией стихотворение поправлено, убраны ненужные акценты.

6. А. Карпюк, книга «Современный конфликт».

В повести «Фронтовой дневник» и «Загадка» содержится ряд негативных моментов:

– О якобы имевшем место массовом мародёрстве солдат Советской Армии на территории Германии;

– О массовом пьянстве советских солдат: «обвешенного флягами со шнапсом пьяного сержанта немцы вели под руки»…так подана картина конвоирования сдавшихся в плен немцев;

– О проявлении недоверия к нему, автору, так как он «западник» и был в немецком концлагере;

– О советских законах, которые можно толковать, как угодно: «бывшему тюремному надзирателю времен Пилсудского назначили пен-сию, а

вот матери погибшего партизана пенсию выдать никак не могут…»

Таких замечаний сделано на 17 страницах книги. Редакция с ними согласилась и внесла правки.

7. И. Мележ, собрание сочинений в 10 томах, т. 10.

Не разрешены к печати отдельные места из текста одного из писем И. Мележа о проведении выборов руководящих органов на 4-м съезде Союза писателей БССР, в которых выражалось сугубо субъективное мнение автора о том, что писателям «нечего было выбирать, всё заранее было определено, а выборы эти – лишь постыдная комедия».

8. Сборник «Далягляды»

Из сборника полностью снята статья А. Мальдиса «В Англии про Белоруссию». В ней популяризировались английские издания и лица, содействующие ныне деятельности белорусских националистов за рубежом, А. Макмилин, А. Ричардсон и др. Без каких-либо политических оценок приводилось имя белорусского буржуазного националиста-изменника Родины А. Надсона (Бучко), сотрудничавшего в годы Великой Отечественной войны с немецко-фашистскими оккупантами. Из содержания статьи следовало, что эти антисоветчики являются чуть ли не лучшими друзьями белорусского народа.

9. Сборник стихов Н. Малявки «Дар».

Внимание редакции обращено на ущербное содержание стихотворения «Улица бескоровная». В нем подчёркивается упадок белорусской советской деревни и сельского хозяйства вообще: в деревне остались «одни пенсионеры, считай – без рук, считай – без ног», которые не в состоянии заниматься не только общественным трудом, но и вести своё личное хозяйство. Поэтому у них «мышами пахнут риги, сараи остыли без коров…», «там прячут торф, прячут дрова и слёзы», и приходится крестьянам «ехать в город за молоком, сметаной и сыром».

Стихотворение редакцией снято из сборника.

10. Сборник стихов А. Глобуса «Груд»

Невозможно определить смысл и назначение большинства стихотворений, в них смакуются авторские, непонятно чем вызванные душевные переживания (стихи «Пустыня», «Сцяна», «Антон», «Валацуга», «Браты» и др.). К примеру стихотворение:

Сцяна

Ляціць душа
Гудзе шаша.
Стаіць сцяна.
Дзвярэй няма.

Чаму наўскос
Ляціць душа?
Чаму наўпрост
І на пагост

Мая душа
У сцяну ўвайшла,
Як чортаў нож.

Імчыць шаша?
Сцяна стаіць.
Душа баліць.

“Браты”
На гары валуны гудуць.
Хмары шэрая каламуць
Зверху падае на зару,
Абдымае, хавае гару.
Пад гарою гарыць агонь.
Праз агонь скача чорны конь.
На кані тым сядзіць салдат.
Пад гарою ляжыць яго брат.
Кліча коннік: – Мой брат, устань!
Будзем разам змагацца са злом,
Блаславлёны мой меч дабром!
Узнялася чырвоная здань.
Застагнала рудая зямля.
Брату брат крыкнуў:
– Зло – гэта ж я!

11. Д. Бугаёў “Чалавечнасць” (літаратурная крытыка)

Книга возвращена издательству на доработку. В ряде статей книги излагаются суждения ошибочного и сомнительного характера.

В основном, это касается вопросов оценки советской действительности 30–50-х годов, в том числе литературы и критики, коллекти-визации и борьбы с националистами, классового подхода в диалектике национального и социального, акцентирования внимания на ошибках того периода в целом и по отношению к отдельным лицам, в частности.

Так, в отношении писателя М. Горецкого неоднократно подчёркивается, что писатель «некогда насильственно вырван из нашей литературной истории», «продолжительное время не только научное, но и художественное наследие Горецкого было практически недоступно для широкого круга»…

Большое место в книге отведено разбору повести В. Быкова «Знак беды» и рассуждению о судьбах белорусского крестьянства, о последствиях коллективизации. Автором настойчиво подчёркивается, что повесть имеет «скрытый подтекст, условно символический аспект». «Припомним Галгофу, – пишет Д. Бугаёв, – как название поля Богатьков, и крест на той Галгофе как знак беды человеческой и синоним жизненных мучений героев. Да и другие знаки беды (мёртвый жаворонок, признаки запущенности на хуторе) имеют свой выразительный символический подтекст».

Много места в книге посвящено защите (непонятно от кого) старой

деревни, как носителя «духовного, марального, человеческого опыта», который собирался «именно в материке крестьянства».

В книге ведётся полемика с анонимными аппонентами, якобы мешающими разрабатывать «пласты истории», а на деле приводящими к дискредитации «национальных традиций».

12. П. Лисицын, сборник рассказов и повесть «Трое разных»

Сборник целиком возвращён издательству на повторное рассмотрение. Высказаны соображения, что в повести «Рокада», составляющей основу сборника, и в рассказе «Пассажир узкоколейки» выведены ущербные герои, трусливые командиры и такие же рядовые, попрошайка-инвалид. Сбор -ник в таком виде вряд ли целесообразно публиковать к 48-летию победы советского народа в Великой Отечественной войне.

Начальник Главлита БССР А. А. Маркевич»

Ксеракопія гэтага дакумента была даслана ў выдавецтва з камітэта па друку з наступнай рэзалюцыяй старшыні Дзяльца М. І.: *Замечания Главлита необходимо обсудить в коллективе, наметить меры, исключающие подобные ошибки в дальнейшем.*

*О принятых мерах доложить Госкомиздату.*

Абмяркоўвалі, пісалі рэдактары тлумачальныя запіскі, дасылалі “тлумачэнні” ў камітэт па друку. Сёння ўсё гэта згадваецца як нейкі недарэчны сон, настолькі ўсе гэтыя заўвагі абсурдныя, як бы нерэальныя. Але… Усё гэта было. І самае істотнае, запамінальнае — гэта абмеркаванне гэтых заўваг у ЦК, у аддзеле прапаганды. Абмеркаванне праходзіла чамусьці вечарам. Толькі аднаго нашага выдавецтва. Запрошаны былі дырэктар і галоўны рэдактар. Прымалі ўдзел у абмеркаванні чалавек 5 з кіраўніцтва аддзела — старшыня, намеснікі. Асноўным дакладчыкам была жанчына — здаецца, першы намеснік старшыні. Выступленне было жорсткае, абвінавачванняў нямала. Выступалі іншыя, старшыня аддзела С.Я. Паўлаў. Іх выступленні былі больш ашчадныя ў адносінах да нас. Давялося і нам нешта гаварыць у адказ. М.Ф. Дубянецкі, дырэктар, энергічна ўсё аспрэчваў. Я штосьці прызнаваў, абяцаў у далейшым улічыць. Выйшлі з цэкоўскага будынку пабітыя. Быў невялікі марозік, зорна. Міхал Фёдаравіч удыхнуў на ўсе грудзі марознае паветра і кажа: “Во, браце. Каб гэта было ў 30-я гады, тут бы нас ужо чакаў “варанок”. Так вось тады пачувалася.

Варлен Бечык запіша ў тыя дні ў сваім дзённіку: “Выклік у аддзел прапаганды – дырэктара і галоўнага рэдактара. Кружышся, жылы рвеш, а яшчэ і лаюць, прытым моцна. Ды і пагражаюць. У пачатку наступнага года мяркуецца калегія па нашаму выдавецтву” (Варлен Бечык, *Радкі і жыццё*. 1993. с. 270).

Сёння ўсё гэта ўяўляецца нейкім недарэчным, нават дзікаватым. Але што было — тое было. Увагай выдавецтва не было абдзелена. І не толькі з боку ўстаноў ідэалагічнага парадку. Мы, выдавецтва, знаходзіліся пад пастаянным наглядам адпаведных службаў органаў бяспекі. Нярэдка наведваўся ў наша выдавецтва куратар, чалавек малады, шустры, гаваркі. Бывалі выпадкі, што якісьці рукапіс не паспяваў з'явіцца ў рэдакцыі, а яны ўжо прыходзілі да дырэктара ці то ў галоўную рэдакцыю і патрабавалі яго чытаць. Водгук давалі аператыўна. Часцей — адмоўны: ведалі, каго чытаць. Выпадковае не чыталі.

Згадваецца гісторыя з адной з кніг Аляксея Карпюка. То было дзесьці на самым пачатку маёй працы ў выдавецтве. Карпюк прынёс рукапіс кнігі, дзе былі дзве аповесці — "Рэквіем" і "Партрэт". Чыталі ў Камітэце дзяржбяспекі. Прачыталі там хутка. Праз нейкі час атрымалі адтуль паперу за подпісам намесніка старшыні Камітэта бяспекі наступнага зместу:

*В повести А. Карпюка «Реквием» автором сделана попытка создания образа советского патриота-разведчика, действовавшего в годы Великой Отечественной войны в стане противника.*

*Не подвергая сомнению серьёзность замысла, автору, к сожалению, не удалось справиться с поставленной задачей. Образ Николая Будника как разведчика показан вне его практической деятельности и поэтому выглядит неправдоподобным, надуманным.*

*Занимаемое Будником у оккупантов положение полицейского, а затем офицера СД, не обеспечивало ему разведывательных возможностей, в связи с чем получение им информации политического и военного характера, как это показывает автор, выглядит неубедительно.*

*В искажённом виде представлены в повести образы чекистов — руководителей десантных групп Мишина, Максимова и Громова, которые наделены лишь отрицательными чертами.*

*Одновременно считали бы целесообразным обратить внимание на субъективное отображение в повести жизни деревни шестидесятых годов и др (стр. 90-92, 96-97, 105, 128, 144, 164, 210, 215, 220-232, 238-239, 274).*

*С учётом изложенного повесть А. Карпюка «Реквием» требует серьёзной доработки.*

Прыехаў Карпюк. Успрыняў усё гэта неяк спакойна. У Маскве ў выдавецтве "Советский писатель» сітуацыя такая самая. Праўда, там да Камітэта бяспекі не дайшло. І як сказаў Карпюку загадчык рэдакцыі, там дазваляюць пра разведчыкаў пісаць толькі Ю. Сямёнаву і Д. Гарчакову. "А Багамолаў?" — папытаў Карпюк. Адказ быў такога зместу: "Багамолаў тры гады хадзіў па інстанцыях. За яго хадзілі К. Сіманаў і А. Твардоўскі… У вас яны ёсць?" На гэтым усё скончылася.

А. Карпюк быў якраз з тых аўтараў, каго пэўныя службы ўважліва, пільна чыталі. Рабілі заўвагі, забаранялі друкаваць. Напэўна, яго свабодны

дух добра адчувалі. Бо такога зместу, характару гісторыі з яго творамі здараліся і ў маскоўскіх выдавецтвах. Сувязь была наладжана выдатна.

Пісьменнікі гэта ўсё добра ведалі. Дзесьці ў той жа час была размова з В. Быкавым. Справа тычылася ўнясення ў выданне беларускае (кніга) правак, зробленых Галаўлітам СССР у рускім выданні аповесці "Знак бяды" (час. "Дружба народаў"). Аднёсся ён да ўсіх патрабаванняў цэнзуры даволі спакойна: маўляў, нармальнае становішча шлагбаўма — закрыты. Якіхсьці змен тут за час, як піша, не бачыць.

Было гэта летам. Размова зайшла пра адпачынак. Быкаў расказаў, што ні ў якіх санаторыях ці то дамах адпачываць (працаваць) не любіць. Там усё спраграмавана, няма адчування ўнутранай свабоды. Найлепш працуецца і адпачываецца дома. Тут рабі што і калі хочаш, тут усё пад рукою, тут сам сабе гаспадар.

З вышыні пражытых гадоў, з улікам пражытага і перажытага, пэўна магу сцвярджаць сёння, што вось гэтая кантрольна-цэнзурная служба — самае непрыемнае і абразлівае ў выдавецкай дзейнасці. Асабліва ў той форме — часта грубай, непаважлівай, — у якой гэта рабілася. Заўвагі ўсе практычна рабіліся ў катэгарычнай і часта абвінаваўчай форме. Атмасфера часу, патрабаванне моманту вызначалі падыход да ідэйнага зместу твора. А мастацкі ж твор пішацца не толькі для гэтага дня, але і дзён будучых. І часта для дзён будучых яшчэ ў большай ступені, што час пацвердзіў.

У 1986 годзе Пімена Панчанку ўгаварылі-прымусілі ў вершы пра мову замяніць радкі:

"Дык чаму адусюль
Нашу родную мову скасілі?"

і

"Беларускія школы закрылі,
А гэта ж духоўны наш хлеб." -

радкамі:

"Дык няўжо наша мова
Сёння страціла даўнюю сілу?"

і

"Мала школ беларускіх,
Бяднее духоўны наш хлеб".

Яны і гэтыя быццам нядрэнныя. Але тут як бы проста канстатацыя. А там быў крык болю. І якраз сёння ён асабліва надзённы, патрэбны.

Такое здарылася не з адным творам і не аднаго аўтара.

З прыкладаў галаўлітаўскіх заўваг і паправак добра відаць: пераважная большасць з іх непасрэдна звязана з пытаннем нацыянальным. Прайшлі гады. І сёння добра відаць, якіх вынікаў дасягнулі ў гэтым напрамку.

Сумна прызнавацца, але, па сутнасці, усе гады маёй выдавецкай працы я не займаўся навукова-літаратуразнаўчымі пытаннямі. Так, час ад часу нешта пісаў. Але ўсё гэта мела прыватны характар: рэцэнзіі, уступныя

артыкулы, інтэрв'ю (выдавецкія). Не зрабіў нават годнага завяршэння таго, што было зроблена раней… Што маю на ўвазе? Манаграфія "Традыцыі і сучаснасць" сваім зместам, праблематыкай, аналітычнасцю, фактычным матэрыялам "цягнула" на доктарскую дысертацыю. Заставалася зрабіць аўтарэферат. Пра гэта неаднойчы мне нагадваў Міхась Мушынскі, які ў той час працаваў сакратаром вучонага Савета па абароне дысертацый. Але, але… не атрымалася. З прычын чыста суб'ектыўных. Пазней не раз шкадаваў аб гэтым. І шкадую.

Ну, але гэта ўсё справы і справы. А за гэтымі ж справамі — рознага характару, рознага зместу, — у гэтых справах — людзі: творцы, выканаўцы. Увогуле ўся мая выдавецкая праца – гэта праца з людзьмі: з рэдактарамі, аўтарамі. Пісьменнікі — людзі амбітныя. Інакш яны, напэўна, не былі б і пісьменнікамі. Бо творчасць — гэта ж найперш выяўленне сябе, свайго бачання і разумення свету, чалавека. А гэтае бачанне і разуменне заўсёды ў значнай ступені эмацыянальна абвостранае, дзесьці і катэгарычнае. У адных гэтая эмацыянальная абвостранасць, уласцівая творчасці, адпаведна выяўляецца і ў чалавечых паводзінах. У другіх увесь унутраны эмацыянальны запас выліваецца пераважна ў іх не заўсёды адэкватных чалавечых паводзінах. Звычайна гэта людзі рознага ўзросту, рознай адукацыі, рознага грамадскага становішча. Яны бегаюць па кабінетах, спрачаюцца, крычаць, пішуць лісты ў вышэйшыя інстанцыі, часта ў ЦК. Даводзіцца разбірацца, пісаць адказы, тлумачыць. І ўсё роўна яны заўсёды незадаволеныя, пакрыўджаныя.

Дарэчы, комплексам недаацэнкі, недаверу былі надзелены і некаторыя пісьменнікі заслужаныя, таленавітыя. То ім здавалася, што іх доўга не ўключаюць у план, то доўга рэдактар працуе з рукапісам, то выдавецтва затрымліваецца з разлікам… Пастаянна турбуюць супрацоўнікаў, выдавецтва… Часам даходзіла да смешнага. Пісьменнік вядомы, выдаецца часта, займае нядрэнную пасаду. І раптам ён ходзіць у бухгалтэрыю, просіць, ледзь не клянчыць грошы, бо ў хаце няма ні капейкі, сям'я галодная. Супрацоўнікі пасміхаліся, жартавалі. Было трохі няёмка за такіх аўтараў. Але што зробіш… Такое жыццё, такі чалавек.

І ўсё ж пераважная большасць пісьменнікаў у творчых стасунках з выдавецтвам паводзіла сябе годна. І што цікава (а хутчэй заканамерна) — былі гэта творцы значнага таленту, сумленныя ў сваёй творчасці. Дасюль цёпла помняцца Ян Скрыган, Янка Брыль, Пімен Панчанка, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Іван Пташнікаў, Міхась Стральцоў, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Генрых Далідовіч, Алесь Жук… Я назваў тут толькі тых, з кім даводзілася не раз сустракацца, гутарыць, тых, хто не раз заходзіў у галоўную рэдакцыю і з кім свабодна можна было пагаварыць, тых, хто, здавалася, мне давяраў і каму я верыў. Гэтыя гутаркі, такія размовы, няхай сабе і не працяглыя, надавалі ўпэўненасці, здымалі ўнутраную напружанасць, скаванасць.

Багатыя знаёмствы з творчымі людзьмі ─ самымі рознымі, рознага таленту, рознага характару ─ для мяне адназначна засведчылі, што чалавек у сваёй глыбіннай псіхічнай і духоўнай сутнасці застаецца тым самым і ў жыцці, і ў творчасці.

Той жа Янка Брыль ─ вялікі жыццялюб, які ўсёй душой успрымаў навакольны свет, усё да драбніц у жывой прыродзе, захапляўся прыгажосцю людзей, прыроды. Пра гэта пісаў ўсхвалявана, тонка, вельмі шчыра. Душа была адкрытая і шчодрая.

З хваляваннем, душэўным цяплом заўсёды бяру ў рукі кнігі з яго дарчымі надпісамі. Яны не шматслоўныя, стрыманыя, але сардэчныя. Такіх кніг у мяне шмат. Ганаруся тым, што мне пашчасціла да яго кнігі, што была выдадзена ў серыі “Беларускі кнігазбор”, напісаць прадмову. Па просьбе аўтара. З прыемнасцю, хваляваннем перачытваю віншавальную паштоўку, якую я атрымаў у дзень майго 60-годдзя.

*Дарагі Серафім Антонавіч. У гэтыя Вашы дні і мне прыемна думаецца пра Ваша разумнае, таленавітае, па-сапраўднаму заклапочанае слова пра родную літаратуру, і мне прыгадваюцца сустрэчы з Вамі, спакойна, дзелавіта і прыязна мудрым беларусам, разам з якімі лягчэй верыць, што дабро ўсё-такі пераможа, як ні цяжка, асабліва сёння, верыць у гэта і змагацца, паслядоўна працаваць.*

*Віншую Вас і жадаю ўсяго добрага!*

*10. III. 93* *Я. Брыль.*

Разумеючы ўсю юбілейную абумоўленасць гэтых слоў, усё ж не магу не прызнацца, што яны ў сённяшнія нярэдкія ўжо пахмурныя дні жыццёвага шляху неяк унутрана мацуюць, дазваляюць трошкі весялей думаць пра пражытае і перажытае.

Дарчы Брылёў надпіс да апошняй, відаць, прыжыццёвай кнігі “Парастак” (2006): *Дарагому Серафіму Антановічу на добры ўспамін. 9. VIII. 06.* Подпіс. Такога ж зместу дарчы надпіс і ў папярэдняй невялікай кніжачцы “Блакітны зніч”: *Дарагому Серафіму Андраюку на светлы сяброўскі ўспамін. 20. II. О4.* Дарэчы, і адна, і другая кніга выйшлі дзякуючы ўвазе Хрысціны Лялько і выдавецтву “Про Хрысто”. Дарчыя надпісы: на ўспамін ─ як прадчуванне хуткага адыходу. Сёння, гэта год 2015, прызна-юся, мае ўспаміны пра гэтага чалавека, пра гэтага пісьменніка светлыя, самыя добрыя.

Васіль Быкаў – нешматслоўны, стрыманы, увесь пагружаны ў сябе. У яго няма пустых слоў, прыгожых апісанняў. Асноўнае для яго ─ выявіць, спасцігнуць экзістэнцыйны сэнс і змест падзеі, з’явы, чалавечай асобы. Перадаць гэта ў слове.

Ян Скрыган выключна абыходлівы, вытрыманы ў абыходжанні, проста шляхетны. Ніколі не падумаеш, што чалавек гэты прайшоў высылкі, рэжымныя калоніі. Слова яго простае, але эмацыянальна прыгожае. Яму верыш. З прыемнасцю чытаю дарчы надпіс, зроблены ім да збору твораў у

двух тамах:

*Серафіму Андраюку.*

*Прызнаюся, што мне вельмі прыемна падпісваць гэты двухтомнік.*

*Вельмі сардэчна.*

*3. III. 85 Ян Скрыган*

Або да кнігі "Некалькі хвілін чужога жыцця": *Серафіму Андраюку.*

*Сардэчна і ўдзячна.*

*20.05.80 Ян Скрыган.*

Па-свойму прыгожа, шчыра.

Аляксей Карпюк. Эмацыянальна-узбуджаны, які як бы заўсёды стрымліваў напор унутранай энергіі. Упарты, настойлівы. Праўдзівы, шчыры, душэўна адкрыты. Смелы.

Іван Пташнікаў. Можа, як ніхто закрыты ў жыцці штодзённым. Стрыманы ў выяўленні сваіх думак, пачуццяў. Не даверлівы ва ўзаемаадносінах з таварышамі, сябрамі. Пра сябе не любіў гаварыць. І не гаварыў. Не выпадкова ж, мусіць, мы нідзе не знойдзем яго творчай, ды і проста чалавечай аўтабіяграфіі. Не раз ён паўтараў: мая біяграфія ў маёй творчасці. У гэтым пераконваешся, прачытаўшы яго "Ненапісаную аповесць". Пасля неяк па-іншаму глядзіш і на астатнюю творчасць. Сапраўды, у яго творчасці ўсё яго жыццё. Больш за тое: увесь яго свет. І свет гэты паглынуў і яго самога. Адчуванне такое, што тут ён усё сказаў у творах, усё да драбніц. І пра што больш гаварыць?..

Янка Сіпакоў. Здаецца, што за часы нялёгкага дзяцінства (бацькі загінулі ад рук фашыстаў) у душы яго накапілася столькі шчырасці, сардэчнасці, што эмоцыі проста пульсавалі, білі цераз край. Гэта і ў творчасці, і ва ўзаемаадносінах з таварышамі, з сябрамі. Усё вельмі добра відаць, адчуваецца і ў яго аўтографах. Іх у мяне шмат.

Вось адзін з самых сардэчных у 1-м томе «Выбранных твораў» у двух тамах. Тут ёсць і мая прадмова.

*Дарагому Серафіму Антонавічу Андраюку ─ шчыра, з удзячнасцю, пасяброўску. Як радасна, мой дружа, адчуваць і Тваю падтрымку, і Твой локаць, і Тваё такое дарагое для мяне слова. Дзякуй за падораную радасць, і няхай Табе самому будзе заўсёды радасна ў жыцці!*

*Сардэчна ─ Твой ─ Янка Сіпакоў*

*21 кастрычніка 85 г.*

Ён такі і ў жыцці, і ў творчасці – Янка Сіпакоў. Быў і застаўся. І ўпэўнены ─ не толькі для мяне.

Больш цесныя і чалавечыя, і творчыя ўзаемаадносіны ў мяне былі з тымі некаторымі пісьменнікамі, хто працаваў у выдавецтве. Тут найперш хацелася б назваць Рыгора Барадуліна, Барыса Сачанку, Уладзіміра Арлова, Яўгена Лецку, Міколу Мятліцкага, Леаніда Дранько-Майсюка.

Барыс Сачанка ў выдавецтве працаваў у 1986–1993 гадах. То былі гады, пазначаныя атмасферай духоўнага ўздыму, нацыянальнага адраджэння.

Гады знаёмства з літаратурнымі скарбамі іншых народаў, вяртання літаратуры беларускай эміграцыі. То былі гады, якія так адпавядалі літаратурна-грамадзянскай пазіцыі Сачанкі, давалі магчымасць поўна раскрыцца, рэалізавацца яму як кніжніку. То быў яго час. Зроблена ім ў літаратуры і для літаратуры вельмі многа. Якраз у гэтыя гады падрыхтаваў і выдаў кнігу паэзіі беларускай эміграцыі “Туга па радзіме” (1992). Рыхтуе і выдае першы ў новым часе зборнік паэзіі Ларысы Геніюш “Белы сон” (1990). Ён жа, Сачанка, падрыхтаваў зборнік прозы Масея Сяднёва, вядомага паэта і празаіка беларускай эміграцыі. Зноў жа дзякуючы яму, Сачанку, была арганізавана сустрэча з гэтым пісьменнікам у выдавецтве. Істотна, што гэтыя кнігі пісаліся, ствараліся для выдавецтва. Тут выдаваліся. Моцна ўплывалі на агульную атмасферу ў выдавецтве. Увогуле Сачанка ў гэтыя гады выключна актыўна жыў і працаваў. Усё гэта адбывалася на маіх вачах. Па многіх пытаннях ён раіўся са мною, я — з ім. Не было такога дня, каб не заходзіў да мяне – пагаварыць, параіцца, падзяліцца навінамі. Ён, так бы мовіць, ведаў усё і пра ўсіх. Актыўнасцю, энергіяй быў перапоўнены. То быў перыяд у яго творчым жыцці — грамадска-публіцыстычны. Зроблена ім у гэтыя нядоўгія гады нашага адраджэння шмат — і як чалавекам, грамадзянінам, і як пісьменнікам. Усё гэта я добра бачыў, адчуваў, быў далучаны да гэтага.

І сёння мне прыемна чытаць дарчы надпіс Масея Сяднёва на кнізе “Туга па Радзіме”: *Серафіму Антонавічу Андраюку, нашаму цудоўнаму адраджэнцу сардэчна М. Сяднёў. 22. 10. 92.*

Пра тое, што выдавецтва і я, як адзін з яго кіраўнікоў, спрыялі справе нацыянальнага адраджэння, сведчаць дарчыя надпісы да кніг, аўтографы і маладзейшых аўтараў.

Уладзімір Арлоў. Кніга “Рандэву на манеўрах”, 1992: *Шаноўнаму Серафіму Антонавічу Андраюку з удзячнасцю. Жыве Беларусь.*

Зноў жа яго кніга “Рэквіем для бензапілы”, 1998: *Шаноўнаму Серафіму Антонавічу Андраюку зь цьвёрдай вераю ў тое, што рэквіему па нас яны не дачакаюцца.*

А вось дарчы надпіс да першай кнігі паэзіі “Кроў на сумётах” (1989) аднаго з самых ваяўнічых маладых адраджэнцаў таго часу Сержука Сокалава-Воюша: *Шаноўнаму Серафіму Антонавічу Андраюку зь верай у адраджэньне бацькаўшчыны. 21 траўня 1990 г.*

*Жыве Беларусь.*

Шкада, што сёння гэтае прозвішча знікла з літаратурнага небасхілу.

У тыя гады нельга было ўявіць выдавецтва без Рыгора Барадуліна. Працаваў ён у выдавецтве з 1979 і аж да 1997 года. Спачатку рэдактарам, потым загадчыкам рэдакцыі. Рэдактар ён быў выдатны. Паэтычны тэкст некаторых маладых (ды і старэйшых) аўтараў правіў імгненна. Часам думалася, што тут ён можа лічыцца сааўтарам. Ды пра гэта ён і сам часам гаварыў. Шанаваў аўтараў таленавітых. Некаторых, праўда, і таленавітых

па тых ці іншых прычынах (найчасцей звязаных з іх грамадскімі і чыста чалавечымі паводзінамі) не прымаў зусім. Многім (у тым ліку і мне) гаварыў пра іх адкрыта. Якіхсьці стасункаў, размоў з імі пазбягаў. У вочы нікому нічога дрэннага не гаварыў. Людзей бачыў наскрозь. Усе іхнія і станоўчыя, і адмоўныя якасьці. Фальш улаўліваў адразу. Здзіўляе ягоная працавітасць, актыўнасць, пастаянна некуды ідзе, увесь час недзе выступае, з некім сустракаецца. І піша… Шмат піша.

Згадваецца, што ў першыя год-два пачатку 90-х гадоў творчасць яго, як тады мне падавалася, прыкметна змянілася. Паменшала іскрыстай жартаўлівасці, з'едлівай іранічнасці, досціпу і віртуознасці ў слове. Паэзія (не проста асобныя вершы) стала глыбінна-сумная, разумна-сур'ёзная. Уражанне было: паэт хоча сказаць па-сапраўднаму шчырае, глыбокае, сардэчнае слова пра сваё самае роднае, блізкае. Ад чытання ахоплівалі трывога, занепакоенасць. Неяк у размове я папытаў пра гэта. У адказ: дрэнна адчуваю. Сказана было шчыра.

Не захапляцца яго таленавітасцю, адчуваннем слова было нельга. Працаўнік ён быў вышэйшага класа. Мае адносіны былі самыя паважлівыя, шчырыя. Яго адносіны да мяне, так лічу я сёння і так здавалася тады, даволі па-чалавечы нармальныя. Такімі яны бачацца ў яго аўтографах. Яны арыгінальныя, далёкія ад якойсьці стандартнасці.

Зборнік "Амплітуда смеласці": *Шаноўнапаважаны Серафім Антонавіч! Прыміце ад мяне гэтую кніжачку з даўнімі непахіснымі пачуццямі прыязні і павагі!.*

*Ваш Рыгор Барадулін. Мінск, 83.*

Кніга "Выбраных старонак лірыкі" "Трэба дома бываць часцей…": *Дарагі Серафім Антонавіч! Працуючы ў Вас, зразумеў я выраз быць у Бога за пазухай.*

*Дзякуй Вам за ўсё!*

*Ваш Рыгор. Менск, 93.*

І вось такое віншаванне атрымаў я 12.V.94: *Вяльможнаму спадару Серафіму А. Андраюку*

*Ён зь людзей,*
*Якіх сьвянціла праца,*
*Ён з краёў вяльможных,*
*А ня з лужыны.*
*Працаўнік,*
*Дапытнік*
*І дарадца*
*Андраюк*
*Заслужана заслужаны!*
*З удзячнасцю — Рыгор Барадулін.*

Увогуле ў аўтографах выяўляліся і сам аўтар іх і яго адносіны да таго, каму аўтограф гэты быў адрасаваны. З часоў працы маёй у выдавецтве

захаваліся сотні кніг з дарчымі надпісамі іх аўтараў. Яны (надпісы гэтыя) рознага характару, рознага зместу. Пераважную большасць чытаю з пачуццём удзячнасці за давер, за шчырасць.

Ну, вось хаця б гэты аўтограф Станіслава Шушкевіча да зборніка вершаў «Дарога ў залатую восень», выдадзены у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі»: *31 мая 1983. Дарагі Серафім Антонавіч! Няхай гэта маленькая жменька вершаў нагадае Вам аўтара, які прайшоў нямала дарог, але збярог у памяці і сэрцы сваю Радзіму. З павагай Станіслаў Шушкевіч.*

Або гэты Алега Лойкі да кнігі «Янка Купала», выдадзенай у Маскве ў серыі ЖЗЛ: *Дарагому Серафіму Андраюку з сімпатыяй і братняй павагай, бо з гнязда мы з ім аднаго — з гнязда новага гісторыка — дарагога ўсім нам Юльяна Сяргеевіча. Шчыра Алег Лойка. 2 сакавіка 1983. Мінск.*

Увогуле кнігі з дарчымі надпісамі — гэта пра мінулыя гады, дзесяцігоддзі, памяць, успамін. Возьмеш у рукі такую, глянеш на тытульную старонку, прачытаеш напісанае — і думкі паплывуць у тыя ўжо замглёныя часам далёкія гады. Згадаецца пісьменнік, чалавек, нярэдка пэўныя гісторыі, звязаныя з кнігай. А гэтыя, такія кнігі, ой, як патрэбны мне на завяршальных вёрстах жыццёвай дарогі. Яны суцяшаюць: штосьці ж рабілася і нядрэннае для іншых, для справы кніжна-літаратурнай. Становіцца на свеце святлей.

Праца, праца, праца… Пішаш пра гэта, чытаеш, згадваеш, перажываеш… І здзіўляешся з самога сябе: што, у жыцці больш нічога не было? Але, мусіць, гэтая праца, такая праца, шмат патрабуе ад чалавека, шмат забірае і — адначасова — пакідае. Думаецца, пастаянныя кантакты з іншымі людзьмі на ўзроўні разумова-эмацыянальным пакідалі свой след, свой адбітак і ў памяці, і ў светаразуменні. Гэта засталося.

Але… але было ж і жыццё сямейнае, працоўнае, фізічнае, побытавае. Яно ішло сваім шляхам. Не заўсёды ад цябе залежным. Часта зусім не залежным ад тваёй працоўнай ці то грамадскай дзейнасці. Раслі, гадаваліся дзеці. Вучыліся ўвогуле нядрэнна. Ва ўсякім разе праблем для бацькоў ніякіх не стваралі. Пазней атрымалі вышэйшую адукацыю. Старэйшая Света закончыла факультэт архітэктуры ў Палітэхнічным інстытуце. Малодшая Алеся абрала сабе прафесію мадэльера: закончыла Тэатральна-мастацкі інстытут. Павыходзілі замуж. Тут усё склалася добра. Праз пэўны час бацькам (адразу ж і дзядам) падарылі ўнукаў: Света – Івана, Алеся – Алёшу і Ваню. Якая гэта радасць для дзядоў… Унукі клопатаў і турботаў больш патрабуюць ад бацькоў, усё ж, а не ад дзядоў. Зразумела, мы ніколі не адмаўлялі дзецям, калі ўзнікала якаясь патрэба паняньчыць, пaглядзець унукаў.

Калі не было яшчэ кватэры, часта ездзілі ў свае Бербашы на Міршчыне. Звычайна то было летам. І нягледзячы на цеснату, скучанасць у хаце, усе гэтыя дні, праведзеныя ў вёсцы, пакідалі ў душы адчуванне

святла, прастору, якойсьці душэўнай расслабленасці, лёгкасці. Незабыўныя былі паходы па ягады: спачатку — суніцы, маліны; пазней — чарніцы. А якой радасцю былі паходы па грыбы, гэта ўжо познім летам, восенню. Зразумела, што найперш гэта баравічкі, было нямала і краснагаловікаў. Самыя раннія – лісічкі. Якая гэта смаката – смажаныя з цыбулькай лісічкі. Ды яшчэ з маладой бульбачкай. Да самай позняй восенні шукалі зялёнкі. Гэтыя грыбочкі заставаліся на зіму. Увогуле, прыезд у вёску не быў пустым: запасаліся на зіму варэннем, грыбамі. Трошкі памагалі і бацькам.

Зімою нярэдка прыязджалі бацькі — пагасцяваць трохі. Заязджалі браты. Усё было як трэба. Як і павінна быць.

Дзесьці ў пачатку 80-х пісьменніцкай арганізацыі быў выдзелены добры кавалак зямлі ў раёне вёскі Малая Валоўшчына Мінскага раёна. Побач з ранейшым пісьменніцкім дачным пасёлкам (слова «лецішча» у той час я не помню, хаця само па сабе слова прыгожае). То ўжо было «Узор'е – 2». Падумаўшы, параіўшыся ў сям'і, падаў і я заяву на участак зямлі. Заяў было шмат. І праўленне Саюза пісьменнікаў вырашыла задаволіць просьбы ўсіх, але выдзеліць зямельныя участкі меншыя — усяго па 4 соткі. Дазвалялася па 6.

Участак зямлі даводзілася разы тры мяняць. Былі свабодныя ці нехта адмаўляўся. На трэцім спыніліся – вуглавы, блізка каля лесу. Суседзямі былі Анатоль Вялюгін і Іван Пташнікаў. Суседзі добрыя. За ўвесь час нашага там пражывання ніякіх прэтэнзій ні ў нас да іх, ні ў іх да нас не помніцца.

Пачалося асваенне ўчасткаў, будаўніцтва. Праца па асваенні зямлі была цяжкая. Зямля ўся здзірванелая, шмат камення. Настойліва, мэтанакіравана давялося капаць, выбіраць каменне, вытрасаць пырнік. Стамляліся, бывала, страшэнна, але ж была ўнутраная радасць, задавальненне зробленым. Вынікі былі перад табою — рэальныя, адчувальныя. Усё рабілася, здаецца, не горш, чым у іншых, чым у суседзяў. З цягам часу з'явіліся градкі, пасаджаны былі дрэўцы, кветкі. Як сёння згадваецца, усе працавалі апантана, як бы з нейкім уздымам. Уяўлялася, што гэта абудзілася, вышла на волю наша адвечнае сялянскае — любоў да зямлі. Такое было амаль ва ўсіх. Неяк нечакана заўважылася, як акуратна вёў усё на сваім участку сусед Іван Пташнікаў. Ён ледзь не «пад вяровачку» рабіў свае градкі. Нават жонка жартавала. А яму хацелася, каб ў яго ўсё было як найлепш. Гэта выразна бачылася. Увогуле, здавалася, што ва ўсіх было гэтае жаданне — рабіць найлепш.

Нярэдка можна было бачыць, як за нашымі ўчасткамі, дзе было запушчанае поле і дзе пасвілі кароў з суседняй вёскі, дзесьці пасля снедання некаторыя «новыя гаспадары» хадзілі з вёдрамі і збіралі каравякі. Занятак гэты быў настолькі распаўсюджаны, што нават вершы пра гэта з'явіліся.

Отливают росы серебром,

За кустами вскрикивают чибисы
Я иду с пластмассовым ведром
И стальной лопаткою на выпасы.
Я в работе лишь заря взойдёт —
Мне ли уповать на помощь Сороса!
Подбираю и парной помёт,
И уже прошитый острой порослью.
У дубов угрюмых на виду,
Принуждённый воровской эпохою,
Я ищу усердно, а найду —
Низко наклоняюсь над лепёхою.
Как и в детстве, брать коровяки
Мне с руки и на пороге старости
Возле валунов, где родники,
Вдоль просёлка, у лозовой заросли.

Гэта радкі з верша Б. Спрынчана «На выпасах». Радкі і верш цалкам цытаваў у сваім заключэнні (адмоўным) на машынапіс кнігі вершаў Б. Спрынчана «На полях бытия» загадчык рэдакцыі Л. Дранько-Майсюк. Зразумела, тэкст гэты ўспрымаецца як самапародыя. Аднак жа ў аснове — жыццё рэальнае.

Прайшлі гады — і ўсё ў гэтым кутку Малой Валоўчшыны змянілася непазнавальна. Змянілася і на ўсёй дачнай дзялянцы, і на кожным участку. З’явіліся невялікія хлеўчыкі, дамы. У асобных дачнікаў немалыя, прыгожыя. Вызначыліся вуліцы. Мы на сваёй дзялянцы таксама працавалі заўзята. Зрабілі грады, пасадзілі дрэвы — яблыні, слівы, кусты парэчкі, маліны. Жонка захапілася кветкамі. Праз пару гадоў пабудавалі дом, хлеўчык маленькі. Дапамаглі сябры. Частку грошай пазычыў Сачанка Барыс, частку — Сіпакоў Янка. Узяў крэдыт невялікі ў банку. Разлічвацца давялося даўгавата. Вясна, лета, восень… То быў дачны перыяд. У пятніцу ехалі на сваё «Узор’е», у нядзелю вярталіся. У пераважнай большасці то былі дні і адпачынку і працы.

Працаваць даводзілася ўвогуле нямала. Але працавалася з ахвотай. Бо то была праца, ад якой заўсёды быў вынік. Больш ці менш хутка. А якія смачныя былі гурочкі, памідоры, цыбулька са сваёй градкі! А які пах і смак мелі ягады, якія ты сам вырошчваў, даглядаў, сам збіраў… Здавалася б, усё ж гэта было ў дзяцінстве ў маіх Грэдэлях, Бербашах. Так, было. Але ж не зусім тое. Тут гэтай гародніне, гэтым ягадам, пазней садавіне аддавалася цяпло, пяшчота душы тваёй, твайго сэрца. І яно, аплодненае сокамі зямлі і неба, узбагачанае імі, набывала асаблівую жыццёвую энергію і асаблівы той смак. Як сёння ўяўляецца, там, на дачы, праходзілі ў тыя часы самыя, напэўна, светлыя ў маім жыцці часіны. Зусім зблізку шумеў лес, ласкава свяціла сонца, неба сіняе і глыбокае. Нават больш глыбокае, чым тое ўяўлялася ў светлыя гады дзяцінства.

З суседзямі былі па-сапраўднаму добрыя суседскія адносіны. У жанчын таксама было нямала агульных інтарэсаў, гаспадарчых клопатаў. З Іванам Пташнікавым пастаянна абменьваліся рознага зместу навінамі, найперш з жыцця пісьменніцкага. Дзіўная рэч: здавалася, ён не надта з кім сутракаўся, мала хто з пісьменнікаў-дачнікаў прыходзіў да яго, сам не надта да каго хадзіў, а ведаў усяго надта многа. Дасведчаны быў ў літаратурным жыцці, ва ўзаемаадносінах прыватных у пісьменніцкім асяроддзі. Але гэта ні ў малой ступені не мела характару якогасьці абгавору ці то плётак. Пра творчасць сваю не любіў расказваць. Ды і не расказваў. Пра жыццё сваё таксама. Праўда, часам, як бы забыўшыся, мог ён сказаць штосьці са свайго мінулага жыцця, ці то жыцця бацькоў сваіх, роднай вёскі.

Я тады якраз пісаў крытычны нарыс (планаваная інстытуцкая праца) пра творчасць Івана Пташнікава. І вось гэтыя пастаянныя гутаркі ўсё больш пераконвалі мяне ў тым, у якой ступені (самай высокай) творчасць яго грунтуецца на жыццёвым вопыце яго жыцця, жыцця родных і блізкіх яго роднага краю. У той працы, якая тады сталася кнігай «Чалавек на зямлі», аналізуючы раман «Мсціжы», яго выключную праўдзівасць у апісаннях прыроды і ў раскрыцці ўнутранага свету яго герояў, я прыводзіў два прыклады рэальнага жыцця, увасобленыя ў творы.

У рамане «Мсціжы» ёсць сцэна выключнай праўдзівасці і эмацыянальнай пранізлівасці. Гэта, дзе апісваецца, як Вялічка, галоўны герой рамана, вязе ў кузаве машыны з гарадской бальніцы памерлую жонку. Адбілася ў творчасці асабістае. Памерла ў Пташнікава маці. Яму давялося везці яе з гарадской бальніцы ў вёску. Усё пражытае тады, набалелае, перадуманае засталося ў сэрцы і памяці.

І яшчэ Пташнікаў расказваў, як у яго нарадзілася карціна ветру ва ўступе да гэтага ж рамана, якая вызначае агульны эмацыянальны лад твора і так адпавядае душэўнаму стану Вялічкі. А ўсё вельмі проста. Неяк позняй восенню пайшоў ён сустракаць сына са школы. Хлопчык затрымліваўся. Давялося чакаць. Была позняя восень. Усчаўся страшэнны вецер. Зрываў і нёс апошняе лісце. Вырываўся з вуліцы, з-за дамоў; аж свістаў і выў у агароджы. Была ў гэтым якаясьці непадуладная чалавеку сіла. З'явілася адчуванне як бы сваёй нязначнасці, бездапаможнасці. Гэта ўвасобілася ў творы.

Пра ўсё гэта я пісаў у сваёй кнізе. Пройдуць гады, з'явяцца пазнейшыя творы пісьменніка, у прыватнасці, «Ненапісаная аповесць». І стане яшчэ больш зразумела, у якой, самай высокай, ступені ўся творчасць сваёй падзейнай асновай, выразамі, апісаннямі побыту, пейзажнымі карцінамі, непасрэдна звязана з яго біяграфіяй, біяграфіяй яго сям'і, лёсам яго вёскі. Не кажучы ўжо пра эмацыянальны лад, духоўнае напаўненне.

І вось добрыя, таварыскія, хутчэй сяброўскія ўзаемаадносіны, нагоды бачыць яго ў жыцці бытавым, сямейным і добрае знаёмства з яго

творчасцю прывялі мяне да цвёрдай высновы: які чалавек — такі пісьменнік. Ідэйны змест яго твораў, іх духоўная аснова, эмацыянальнае напаўненне, сюжэтна-кампазіцыйнае канструяванне — усё гэта ў першую чаргу, галоўным чынам ён, пісьменнік, асоба. Жыццёвы матэрыял, героі, нават гістарычна рэальныя — гэта яго героі, ім убачаныя і перастваораныя, хутчэй створаныя. І чым паўней, глыбей асоба аўтара выяўлена ў творы, тым больш значны твор у плане эстэтычным.

У гэтым мяне глыбока пераконвае і творчасць такіх пісьменнікаў, як Іван Мележ, Янка Брыль, Ян Скрыган, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Рыгор Барадулін, Барыс Сачанка, Янка Сіпакоў, Анатоль Кудравец, Кастусь Цвірка… Іх творчасць я ведаў, ведаў, як яна развівалася; з некаторымі з іх сябраваў, таварышаваў, разам працаваў, з іншымі быў блізка знаёмы, не раз меў шчырыя, даверлівыя гутаркі, з цікавасцю назіраў за імі.

Другі наш памежны сусед на лецішчы быў Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін, выдатны паэт, сцэнарыст, адмысловы паэтычны рэдактар. Знаў сабе цану, трымаўся з годнасцю, але чалавек душэўны, адкрыты. Адносіны ў нас склаліся па-суседску шчырыя, добрыя. Здаралася, што нават часам чарку бралі. Гаварылі пра літаратуру, літаратурныя справы. Становуча гаварыў пра Міколу Лупсякова, яго прозу: у яго фраза пісьменніка (для мяне яго думка было цікавая, бо тады я якраз пісаў пра Лупсякова). Расказвае Вялюгін: неяк той пытае ў яго, хто раней за ўсіх устае ўлетку. Вялюгін, зразумела ж, адказаў: жаваранак. Той: не, павук; да таго як пачынаюць прачынацца іншыя, ён ужо павуціну заснуе. Вялюгін выключна высокай думкі пра талент А. Куляшова, пра яго пісьменніцкую незалежную пазіцыю. Пра Кузьму Чорнага: прыкідваўся то мужычком, то местачкоўцам, але ўзроўнем інтэлекту, таленту пераўзыходзіў многіх іншых. Лічыў яго моцным раманістам. Апавяданні, меркаваў, слабыя. Захапляўся прынцыповасцю, мужнасцю Янкі Брыля. Увогуле яго ацэнкі літаратурных з’яў, фактаў, саміх пісьменнікаў былі арыгінальныя, свежыя.

Яго шанавалі, цанілі маладзейшыя за яго паэты. Пастаянна да яго хтосьці прыходзіў. Ды не проста так, а са сваімі творамі. Ён сапраўдны паэтычны настаўнік. Частымі гасцямі ў яго былі Казімір Камейша, Мікола Мятліцкі…

Адносіны не толькі ў мяне да Вялюгіна як суседа былі добрыя, палюдску, але ён цёпла адносіўся і да мяне, і да маёй сям’і як суседзяў. Сведчаннем таму можа быць паштоўка з выявай вясновай Белавежы (там ён адпачы-ваў), якую даслаў у дзень майго шасцідзесяцігоддзя:

*Дарагі Серафім Антонавіч!*
*Віншую са слаўным выхадам на рубеж сталасці.*
*60 — гэта станцыя без перапынку.*
*А наперадзе — здабыткі, здабыткі і паўсёдныя радасці,*
*Як вось гэта вясна ў Белавежы.*
*Шчасця Сыну Вясны! Абдымаю, Анатоль Вялюгін.*

*5.03.1993 г.*

Адначасова была невялічкая паштовачка з віншаваннем маім жанчынам: *Шчасця і любові Вам, Тамара Пятроўна і слаўныя дочкі Сына Вясны — Святлана і Алеся. А. Вялюгін.*

Добрыя суседзі – добрыя, шчырыя ўзаемаадносіны. І сёння ўзгадваюцца гады жыцця на лецішчы як нейкі асаблівы перыяд, пласт жыцця. Светлы, сонечны, з удыханнем на поўныя грудзі заўсёды свежага паветра, заўсёды насычанага здаровым лясным водарам. У памяці праца ў выдавецтве і жыццё на лецішчы засталіся як бы кожнае само па сабе.

Але жыццё наогул, жыццё кожнага з нас ідзе сваім шляхам, непадуладным чалавечай волі, непрадказальным і невытлумачальным.

Захварэла, у хуткім часе памерла жонка Івана Пташнікава. Гэта моцна яго падкасіла. Захварэў, выразалі нырку. На лецішча амаль не прыязджаў. Дзеці зрэдку наведваліся. Потым зноў хвароба — інсульт. Зусім на вуліцу не выходзіць — дзеці лецішча прадалі маладой сям’і іх суседзяў. З імі ніякіх кантактаў: «Добры дзень» — «Здрасце».

Восенню 1994 года памёр Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін. Праз нейкі час і жонка яго. Прайшоў час і на іх лецішчы з’явіліся новыя гаспадары. Яны неяк адразу адгарадзіліся двухмятровай вышыні шыферным плотам. Таму ніякіх кантактаў асаблівых не было. Так, віталіся. Трохі пазней даведаліся, што суседам нашым стаў вядомы артыст балета Юрый Траян.

Ды і мы самі пачалі прыязджаць сюды ўсё радзей і радзей. З’явіліся хваробы, працаваць асабліва нельга было. Прапаў імпэт, знікла цікавасць. Усё стала нейкім абыякавым. Дагляду не стала ніякага. Думаў нават прадаць. Але дочкі сказалі, што яны будуць ездзіць. Праўда, да гэтага часу (2015 год) пакуль нічога не відаць. Увогуле ж усе гады, звязаныя з лецішчам, згадваюцца светла, сонечна. Вакол шмат кветак, асабліва ружаў. Адчуваюцца прастора, глыбіня нябёсаў, спакойны шум блізкага хвойнага лесу. Дыхаецца свабодна…

Напэўна, у кожным чалавечым жыцці сувязі, узаемадачыненні з бацькамі, братамі, сёстрамі, увогуле з роднымі, сваякамі адыгрываюць важную ролю. Ва ўсіх адносінах: у развіцці фізічным, духоўным, эмацыянальным. Духоўнае сталенне, душэўнае самапачуванне дзіцяці найперш абумоўлена ўмовамі сямейнага бытавання. Нармальнае пасталенне і сталенне ў гады юнацтва і ранняй маладосці зноў жа найбольш натуральна адбываецца ў сем’ях дружных, моцных, працавітых.

Я ўжо згадваў: сям’я ў нас, у маіх бацькоў, была вялікая. Пяцёра дзяцей — хлопцаў. Лёс склаўся па-рознаму. Самы меншы Пеця памёр у часы нямецкай акупацыі. Яшчэ ў Польшы — у Грэдэлях. Запаленне лёгкіх. Старэйшы Коля загінуў ад маланкі. Пас каровы. Навальніцы ў першыя пасляваенныя гады былі страшныя. Я іх баяўся вельмі. Брат сярэдні Грыша, на год маладзейшы за мяне, вырас у Бербашах. Тут жаніўся. Працаваў шафёрам. Часта заязджаў да нас у Мінск. У бацькоў быў галоўны

памочнік. Відаць, самы любімы сынок. Пабудаваў дом, побач з халупай бацькоў. Нарадзіліся два сыны — Юрый і Андрэй. Сёння якраз яны, мае пляменнікі, з дзядзем Сімам падтрымліваюць сувязі — наведваюць, тэлефануюць. Іх бацька пакінуў іх рана. Памёр неяк нечакана, ды і неяк недарэчна ці што. Ехаў на машыне, вёз збожжа. Дзесьці за кіламетры два ад вёскі спыніўся. Пайшоў па патрэбе ў лес. Праз пэўны час жанчыны, якія ехалі з ім, занепакоіліся. Пайшлі шукаць. Ён быў мёртвы. Сувязь з Бербашамі, з маёй другой малой радзімай, аслабела. Хаця прыязджалі да нас і старэйшы брат, і бацькі. Бацькі часцей прыязджалі зімою: летам трэба было штосьці па гаспадарцы рабіць. Але час ішоў, проста імчаў. Незаўважна бацькі пастарэлі. Бацька неяк у апошнія свае гады махнуў на ўсё рукою. Аслабеў, больш ляжаў. Цікавасць да ўсяго, што навокал дзеецца, знікла. Час ад часу прасіў у маці, каб схадзіла ў суседнюю вёску ў магазін купіла пляшку віна. Маці, хоць і сама ўжо старая была, хоць увесь час сварылася з бацькам за гэтую выпіўку, збіралася і ішла. Купляла гэтае віно. Што зробіш — хворы. Шкода. Памёр бацька ў 1982 годзе, не дажыўшы да 80 гадоў аднаго года. Маці, пасля смерці бацькі, усё больш пачала слабець, губляць цікавасць да сваёй гаспадаркі. Нейкі час жыла ў сваіх Бербашах. Пачалі чапляцца розныя хваробы. Прыязджала да нас ў Мінск. Праз нейкі час пагадзілася пераехаць да нас назусім. Жылося маці ў нас, як разумею сёння, не зусім хараша. То быў не той свет, у якім праляцелі яе немалыя папярэднія гады. У кватэры быццам усё нармальна: быў выдзелены асобны невялікі пакойчык. Якраз перад гэтым я атрымаў ад Саюза пісьменнікаў чатырохпакаёвую кватэру. Тут мне пашанцавала: былі то ці не апошнія кватэры, якія выдзяляў Саюз пісьменнікаў. Далей для творцаў слова наступяць іншыя, далёка не лепшыя часы. Сёння, як паглядзіш, ніхто не клапоціцца пра самога пісьменніка, а не толькі пра яго родных.

Праўда, як вядома, шчасце чалавека не вымяраецца пакойчыкам. Маці не адчувала вясковага прастору, далучанасці да навакольнай прыроды. Ні жадання, ні магчымасці штосьці рабіць не было. Адна ў хаце. Здароўе горшала і горшала. Праз нейкі час не магла ўжо хадзіць. Здарылася так, што памірала маці, калі дома быў я адзін. Божа! Дай ёй супакаенне на тым свеце… Памерла ў 1998 годзе, памерла на дзевяностым годзе жыцця. Пахавалі ў Бербашах. Магіла побач з магілаю бацькі. Радзімай усё ж лічылі, асабліва маці, Бельшчыну. Адбылося гэта — смерць і пахаванне маці — ужо ў паслявыдавецкія гады майго жыцця.

Вяртаючыся да папярэдніх гадоў жыцця, гадоў, звязаных з выдавецкай працай, хочацца колькі слоў сказаць і пра тое, як праходзіў час у дні адпачынкаў, якія ўзаемадачыненні панавалі ў пісьменніцкім асяроддзі, якая атмасфера панавала там. Знаходзячыся ў рамках Саюза, пісьменнікі Беларусі маглі адпачываць у санаторыях, дамах адпачынку творчага тыпу і за межамі рэспублікі. Чытаючы мемуары, дзённікавыя запісы, лісты літаратараў, чыё творчае жыццё праходзіла яшчэ ў ранейшыя гады, яшчэ

тыя — савецкія, нельга не здзіўляцца, якія сацыяльна-бытавыя ўмовы для творчасці і адпачынку былі ў іх. Пісьменнік меў права і магчымасць адпачываць у дамах творчасці Крыма, Прыбалтыкі, Падмаскоўя, у сваіх беларускіх. Там панавала атмасфера шчырасці, творчага ўзаемаразумення, творчага ўздыму. Колькі выдатных твораў было напісана ў тых спрыяльных для душы ўмовах, колькі творчых задум выспелена і рэалізавана. Чытаеш асабістыя сведчанні творцаў пра іх творчыя светлыя часіны, пра тыя мясціны, дзе жыццё і творчасць мелі змест і сэнс, — і па-добраму зайздросціш, смуткуеш і шкадуеш. Ды ці толькі дамы творчасці, санаторыі, дамы адпачынку! Саюз пісьменнікаў меў сваю паліклініку. А Дом літаратара? Дзе ўсё гэта? Што там? Хто ведае… А Дом жа літаратара — гэта ж быў адзін з цэнтраў нацыянальнай культуры, нацыянальнага духоўнага жыцця. Там жа была багатая бібліятэка нацыянальнай літаратуры. Дзе яна? Няма такой сёння. А гэта ж было ў часы, калі мы яшчэ не мелі сваёй дзяржавы. Сёння мы яе маем, беларускую. На жаль, у сённяшняй нашай Рэспубліцы Беларусь менш той беларускасці, чым у той рэспубліцы, якая была ў складзе вялікай дзяржавы СССР. А ўвагі сёння да духоўнага развіцця нацыі, да развіцця беларускай культуры вельмі і вельмі мала. Такое адчуванне. Пэўнай палітычна-ідэалагічнай праграмы такога зместу няма. Пра яе не чуваць. І тут пануе рынак. Па сутнасці, той жа Дом літаратара стаў рынкавым аб'ектам. А былі ж часы, калі там пастаянна наладжваліся творчыя вечарыны, гучала мастацкае слова, гуртавалася пісьменніцкая грамада. Праходзіла тут нямала і пісьменніцкіх пленумаў, семінараў, сходаў, сустрэч. Арганізоўвалася, мацавалася пісьменніцкая грамада, якая ядналася інтарэсамі і клопатамі, агульнымі для народа і дзяржавы. І гэта — не інтарэсы, клопаты прыватныя, нярэдка групавыя: яны таксама былі. То быў саюз менавіта беларускіх пісьменнікаў — па духу, па зместу і характару творчасці, па мове. Для нацыі, якая няўпэўнена ішла па шляху свайго ідэнтыфікавання, гэта было так неабходна. І сёння працэс гэты працягваецца, але носьбітамі, творцамі яго з'яўляюцца асобныя пісьменнікі. Найбольш маладыя. І яны ў сваім нацыянальным самаўсведамленні, самасцвярджэнні больш ідуць не ад жывой, зямной, народнай асновы, а ад высноў разумовых, сканструяваных, ажыццяўляемых лагічна. Але добра, што хоць так. Можа гэта і дасць належны вынік. Увогуле ж кожнаму часу сваё і час творыць яго. Гэты і наогул, і для кожнага народа асобна.

Згадваючы сёння, сямнаццаць з паловай гадоў пасля, выдавецкі перыяд жыцця майго, не магу не звярнуць увагу і вось на які момант. Якраз у тыя гады, пазнейшыя ў гэты жыццёвы перыяд, я пачаў па-сапраўднаму адпачываць. У дамах творчасці, дамах адпачынку, санаторыі ў Юрмале. З жонкай, з дзецьмі, з унукамі. Адчуў, зразумеў, што такое сапраўдны адпачынак. Асабліва помняцца адпачынкі ў доме творчасці на Іслачы і ў Юрмале. Дом творчасці на Іслачы сваёй творчай атмасферай, насычанасцю

беларускім духам, што так адпавядала сапраўднай, беларускай прыродзе. Тут лёгка дыхалася, дзесьці далёка адыходзілі і ўсе штодзённыя выдавецкія клопаты і турботы. Тут былі, як кажуць, усе свае людзі: пісьменнікі, таксама тыя, хто так ці інакш быў звязаны з літаратурай. Іх сем'і. Сустрэчы, гутаркі, размовы. Усё схіляла да шчырасці, даверлівасці. Свет уяўляўся больш прыгожым, гарманічным, людзі – добрымі. Станавілася зразумела, чаму многія пісьменнікі асабліва любілі працаваць у дамах творчасці.

Дзесьці ўжо ў апошнія гады выдавецкай працы давялося некалькі разоў адпачываць у санаторыі ў Юрмале. Ужо ўнукі былі. Адпачывалі з імі, з дзецьмі. Здзейснілася мая дзіцячая мара – я пабачыў, адчуў і пачуў мора. У параўнанні з нашым, беларускім, там усё іншае: прырода, сацыяльныя абставіны, само паветра, мора. І разам з тым неяк усё блізкае душы, роднае. Тут адчувальна набіраўся і сілы, і здароўя. Чароўная казка-мара дзяцінства тут стала явай. У ціхія, спакойныя сонечныя дні можна было доўга сядзець і глядзець, глядзець у бясконцую водную роўнядзь, слухаць закалыхваючае паплёскванне хваляў. Гэта ніколі і ніколькі не надакучала, не стамляла. Здавалася, мора тоіць у сабе якісьці невядомы дух пастаяннага фізічнага і псіхічнага абнаўлення.

Штосьці пагрозліва-таямнічае і чароўнае вылучала мора ў часы нячастых непагодлівых дзён. Ужо здалёк было чуўся яго трывожны, унутраны пагрозлівы шум. Шум гэты, здавалася, быў бясконцы. Пры набліжэнні да берага шум гэты ўзмацняўся, станавіўся больш злавесны, магутны. Хвалі вышынёй некалькі метраў, са злосцю рашуча білі ў бераг, пляжную паласу зямлі і, нібы пабуркваючы, паціху адступалі назад. І так аднастайна, здавалася, бясконца. Адчуваўся няспынны рух часу, рух жыцця. Ён захопліваў цябе, як бы пераносіў у іншы свет. Рэальныя жыццёвыя клопаты і турботы станавіліся зусім нязначнымі, дробнымі. Праўда, на жаль, толькі на нейкі час. Жыццё рэальнае, штодзённае ад сябе не адпускала. Але тваё існаванне, бытаванне ў гэтым свеце станавілася больш спакойным, узважаным, больш светлым і прывабным.

Гады маёй выдавецкай працы адметныя для мяне значным пашырэннем разумення неабходнасці і значнасці прафесійнага, майго прафесійнага (у дадзеным выпадку выдавецкага) занятку, узбагачэннем ведання свету і людзей, пэўнымі зменамі ў светабачанні і светаразуменні. Выявілася, што веданне кніг – справа не толькі вузка мясцовага, нацыянальнага (хаця гэта ўсё ж галоўнае) прызначэння. Кніга ішла ў свет, яна несла вестку, веды пра наш край, народ наш іншым людзям, іншым краінам. Кожныя два гады працаваў Маскоўскі міжнародны кніжны кірмаш. Не адзін раз мне даводзілася быць адказным за наша выдавецтва. Падрыхтоўка да ярмаркі заўсёды вельмі адказная. Кірмаш быў і выставай. Кнігі для выставы адбіраліся самыя значныя, цікавыя ў мастацкім афармленні. Асобна разглядаліся, адбіраліся кнігі, прызначаныя для

выдання за мяжой. Наша выдавецтва, здаецца, заўсёды займала першае месца па колькасці падпісаных кантрактаў на продаж нашых кніг. І тут абсалютна выключалася якоесьці сяброўства, прыяцельскія адносіны. Галоўнае – значнасць кнігі (твора) ў нацыянальнай літаратуры. Зразумела ж, падпісвалі мы пагадненні на выданне кніг замежных аўтараў на беларускай мове. То найчасцей былі пісьменнікі іншых рэспублік СССР, а таксама краін сацыялістычнага лагера.

Помніцца, у розныя гады падавалі заяўкі на выданне ў сваім перакладзе замежных пісьменнікаў вядомыя нашыя аўтары: Міхась Стральцоў – эстонскага празаіка Юрыя Тууліка, Алесь Разанаў – літоўскага паэта Эдуардаса Межалайціса, Рыгор Барадулін – рускіх паэтаў Андрэя Вазнясенскага, Ігара Шклярэўскага, Васіль Быкаў – знакаміты раман Уладзіміра Багамолава «У жніўні сорак чацвёртага…». Такія заяўкі часцей за ўсё ўлічваліся. Падчас кірмашу яны афармляліся юрыдычна.

Час на гэтым кірмашы пралятаў імкліва. Наведванне павільёнаў іншых краін, іншых выдавецтваў, найперш профільных, сустрэча з наведвальнікамі ў сваім павільёне, гутаркі і з выдаўцамі, і з наведвальнікамі… Усё трымала ў пастаянным напружанні, узбуджала цікавасць выдавецкую, кніжную, ды і часта чалавечую. Здаралася так, што найчасцей даводзілася гутарыць з выдаўцамі з Польшчы і з Югаславіі. Нечакана адкрыў для сябе, што прадстаўнікі розных рэспублік той жа Югаславіі не надта пранікнуты любоўю і павагай адзін да другога. Відаць было, што гэта не асабістае. Праглядаўся момант рэлігійна-этнічны. Пазнейшы развал Югаславіі ўжо паказаўся зусім не нечаканым.

Атрымалася неяк так, што ў апошнія савецкія гады мне давялося (проста пашчасціла) некалькі разоў бываць ў Польшчы. Не ведаю чаму, але і сёння вельмі многае, што звязана з гэтай краінай, неяк па-асабліваму цікавіць, выклікае нейкае хваляванне. Напэўна, дзесьці захавалася на генным узроўні. У канцы 80-х гадоў у нашага выдавецтва склаліся добрыя адносіны з Лодзінскім выдавецтвам. Быў я запрошаны ў Лодзь дырэктарам выдавецтва Яцэкам Загорскім. Наладжана была сустрэча з мясцовымі пісьменнікамі. Наведалі Жэлязову Волю, музей Ф. Шапэна, усклалі кветкі да помніка славутаму кампазітару. У горадзе па-добраму ўразілі адносіны палякаў да помнікаў, высокае, чыстае стаўленне да творцаў нацыянальнай культуры. У Кельцэ наведалі музей дзіцячых і юнацкіх гадоў С. Жэромскага. Было падпісана пагадненне аб абмене выданнямі, далейшым супрацоўніцтве. Аднак палітычныя змены і ў Польшчы, і ў Савецкім Саюзе ўсе нашы планы і задумы звялі на нішто. А мы рыхтавалі анталогію беларускай паэзіі…

Некалькі разоў даводзілася ўдзельнічаць у Варшаўскім кніжным кірмашы.

У 1956 годзе на Беласточчыне было ўтворана Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ). У 1958 годзе з’явілася літаратурна-мастацкае аб’яднанне «Белавежа». У 1988 годзе аб’яднанне адзначала 30-годдзе

дзейнасці. Адзначыла шырока, урачыста. Пашчасціла і мне прымаць удзел у гэтых урачыстасцях. Уражанні незабыўныя. Паехалі мы з Барысам Сачанкам. Дарэчы, хораша, цёпла расказаў ён пра гэтую нашую паездку ў нарысе «На зямлі беластоцкай». Паехалі спачатку ў Варшаву. Пасяліліся мы ў гасцініцы пры Доме літаратара. Апекаваўся намі Алесь Барскі, на той час старшыня праўлення БГКТ, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, чалавек, які нямала зрабіў для таго, каб літаратура беларусаў Беласточчыны стала вядомая ў Беларусі. З ім мы наведалі кафедру, якую ён узначальваў, пабывалі ў Доме савецкай навукі і культуры, у тыя гады значным культурным цэнтры ў Варшаве. Пабывалі ў гасцях у Алеся дома. Тут панавала вельмі цёплая, сардэчная атмасфера, па-сапраўднаму хатняя. І Алесь і яго жонка Ніна сваёй адкрытасцю, шчырасцю выклікалі прыхільнасць, даверлівасць. Шмат было перагаворана, зведана. Алесь быў чалавек дасведчаны, шмат дзе пабываў у свеце, многае ведаў. Мяне ўразіла колькасць, разнастайнасць выданняў (кніг, часопісаў, газет) беларусаў дальняга замежжа. Штосьці і нам было падорана. Усё гэта ўзбуджала неяк, мацавала веру — Жывем! Тут, у Варшаве, Алесь Барскі пазнаёміў нас з гасцямі са Злучаных Штатаў Амерыкі, якія таксама прыехалі на свята «Белавежы»: то былі Мікола Заморскі — беларус, які пасля вайны апынуўся спачатку ў Германіі, потым у Амерыцы, і Томас Бэрд — прафесар, саветолаг, вывучаў гісторыю Беларусі. Гутаркі з імі ў Варшаве, потым у Беластоку — асабіста для мяне зусім новыя старонкі з жыцця беларускай эміграцыі — мінулае, сучаснае, побыт, перажыванні, думкі.

У Беласток цягніком ехалі разам. Там да нас далучыліся два навукоўцы з Беларусі — Аляксей Пяткевіч і Уладзімір Казбярук, які родам з Беласточчыны. Тут, у Беластоку, панаваў святочны ўздым, жыццё віравала. Была арганізавана сустрэча з беластаччанамі. З нагоды 30-годдзя «Белавежы» два дні праходзіла навуковая канферэнцыя. Выступалі і ўсе мы, прадстаўнікі Беларусі. Ашаламляльнае ўражанне пакінула святкаванне Купалля ў Белавежы. То было штосьці для мяне датуль ды і пасля нябачанае — чароўнае, таямнічае, іскрыстае, танцавальна-музычнае. І ўсё гэта было нашае, беларускае, беластоцкае.

Мне пашчасціла пабываць ў маіх родных Грэдалях, сустрэцца з роднымі, са знаёмымі, трохі пагаварыць за чаркай. У вёсцы многае непазнавальна змянілася. Месца, дзе была наша сядзіба, было не пазнаць. Але адчуванне цеплыні, сонечнасці нагадала мне светлыя дні дзяцінства. І яно, гэтае і такое адчуванне, і па сённяшні дзень жыве ўва мне.

Не магу не згадаць і яшчэ адну старонку майго жыццёвага лёсу, звязаную з Польшчай, зямлёй, дзе я прыйшоў на гэты свет і адкуль пайшоў у шырокае жыццё. 28 мая – 7 чэрвеня 1991 года ў Кракаве праходзіў Сімпозіум па культурнай спадчыне дзяржаў – членаў СБСЕ. Удзел прымалі 34 краіны – усе краіны Еўропы, ЗША, Канада. У складзе дэлегацыі СССР былі прадстаўнікі Расіі, Украіны, Беларусі і Таджыкістана. Ад Беларусі ў

склад дэлегацыі  пашчасціла ўвайсці мне. У час працы Сімпозіума адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар нашага асветніка, першадрукара ўсходніх славян Францыска Скарыны, 500-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася ў мінулым годзе. На адкрыццё мемарыяльнай дошкі прыязджаў наш міністр замежных спраў — Пётр КузьмічКраўчанка. Ён і выступаў на адкрыцці яе ў Ягелонскім універсітэце. Прысутнічалі дэлегаты Сімпозіума, беларусы з Беласточчыны, выкладчыкі і студэнты з універсітэта. Панавала атмасфкра ўрачыстасці і шчырасці. Душу перапаўнялі гонар, хваляванне. Гучала роднае Скарынава беларускае слова. Гучала яно і на сустрэчы ў рэктара Анджэя Пельчара. Міністр карыстаўся беларускай мовай свабодна, натуральна. То была яго родная мова. Здарылася ў гісторыі так, што з Кракавам быў звязаны жыццёвы і творчы лёс не аднаго толькі Скарыны.

У Кракаве ў 1891 годзе быў выдадзены першы паэтычны зборнік пачынальніка новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская», у прадмове да якога паэт заклікае (менавіта «заклікае», бо гэта і сёння гучыць надзённа): «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерці».

На кракаўскай зямлі ў 1920 годзе знайшоў апошні прытулак паэт і змагар за нацыянальнае адраджэнне Беларусі Алесь Гарун, чыя творчасць толькі ў тыя гады пачала прыходзіць да беларускага чытача.

Пра гэта гаварыў я ў сваім выступленні на Сімпозіуме. Ды не толькі. Галоўным было – агульная сітуацыя з нашай культурнай спадчынай. Здарылася так, што ў гісторыі народа цэлыя стагоддзі, дзесяцігоддзі пазначаны нацыянальным прыгнётам і падаўленнем, заняпадам нацыянальнага духоўнага, культурнага жыцця. Час ад часу (і адбывалася гэта не так рэдка) валы ваеннага нашэсця пракочваліся па нашай зямлі то з захаду на ўсход, то з усходу на захад, руйнуючы і спусташаючы і зямлю, і душы людзей. Кожны цягнуў народ наш на свой бок, разрываючы яго на часткі. Культурныя каштоўнасці аднымі вывозіліся на ўсход, другімі — на захад. Вывозіліся і там асядалі. Для свайго народа знікалі. Далей цытую: *Сённяшняе наша нацыянальнае адраджэнне —і свядомае і стыхійнае, а то і проста інстынктыўнае. Ёсць імкненне, усвядомленае жаданне стварыць выразны нацыянальны вобраз на абломках з абломкаў. Для гэтага патрэбна глыбінная аснова і высокая мэта. Мэта ёсць. Аснова — гэта культурная спадчына ва ўсім сваім багацці і разнастайнасці. Нацыянальны арганізм патрабуе сёння духоўнага наталення якраз за кошт спадчыны. Яна ў нас ёсць. Але яна павінна быць даступна людзям, кожнаму чалавеку. Ён павінен хаця б ведаць пра ўсё багацце і разнастайнасць. Еўрапейская культура — гэта культура ўсіх яе нацыянальнасцяў. І нацыянальнае адраджэнне любога народу павінна стаць клопатам усёй суполкі еўрапейскіх народаў, адчуваць іх падтрымку.*

Так думалася і бачылася тады. Прайшоў час… І сёння добра відаць,

што сітуацыя ў краіне, калі і змянілася, то далёка не ў лепшы бок.

Але вернемся да Сімпозіума.

Як мне тады ўяўлялася, арганізацыя Сімпозіума была вышэй усялякіх пахвал. Дзелавітасць, арганізаванасць неяк натуральна спалучалася з уважлівасцю, добразычлівасцю гаспадароў. Дні стаялі цёплыя, пагодлівыя; было цёпла, але не горача. Дажджу за ўвесь час практычна не было. Горад цудоўны, дзесьці як бы таямнічы, засяроджаны ў сабе, але ўнутрана светлы, добры. Гараджане добразычлівыя, уважлівыя. Агульная атмасфера горада па-добраму неяк уплывала на тую атмасферу, у якой праходзіў Сімпозіум. На пасяджэннях (і пленарных, і дзвюх рабочых груп) спектр пытанняў, характар праблем, якія вылучаліся выступоўцамі, быў даволі шырокі і значны. Археалогія і архітэктура, жывапіс і скульптура, кнігі і архіўныя пісьмовыя матэрыялы, народная творчасць і мова, паркі і культурны ландшафт, культурная спадчына і сучасная экалагічная сітуацыя, культурная спадчына і тэхнічны прагрэс, захаванне і абарона культурнай спадчыны, абмен інфармацыяй, падрыхтоўка кадраў – пра ўсё гэта гаварылася і ў агульным плане і на падставе канкрэтных прыкладаў. Усё было цікава, хвалявала, бо ўсё гэта ў большасці выпадкаў мела непасрэднае дачыненне да нашай краіны.

Належная ўвага была аддадзена гэтаму маштабнаму мерапрыемству і ўладамі Польшчы, і іншых краін. Нямала было выступленняў міністраў, звязаных з культурай, выступаў прэм’ер-міністр Польшчы, віцэ-прэзідэнт ЗША Альберт Гор. Былі арганізаваны прыёмы на вышэйшым узроўні, экскурсіі. Наведалі Асвенцым. Гэта штосьці выключна жахлівае. Не верыцца, розум не прымае, сумленне не можа і катэгарычна не хоча дапусціць, што такое магчыма сярод людзей, што такое можа рабіць чалавек (а ці чалавек гэта?!) з чалавекам. Гэта штосьці д’ябальскае, прычым цывілізаванае д’ябальскае. Ураженне, хутчэй уздзеянне, усё тое, што там, у Асвенцыме, бачаць людзі, надоўга іх пазбаўляе весялосці, веры ў чалавека. Увогуле ўдзел у гэтым Сімпозіуме быў цікавы і карысны для мяне асабіста ў многіх адносінах. Я адчуў, зразумеў як патрэбна ў такіх сітуацыях веданне замежных моў. Пабачыў, што самай вялікай увагай сярод іншых дэлегацый і дэлегатаў карысталіся дэлегацыі ЗША, Ватыкана і Ізраіля. Для мяне то было трохі нечакана. Але ж гэта было так. Адчуў, можа, больш, чым калі, як важна, проста неабходна, у пэўных умовах умець пераадолець унутраную скаванасць, прымусіць сябе адкінуць прэч адчуванне, быццам ты горшы ледзь не за ўсіх астатніх.

Прайшоў час. Час шмат чаго сцірае з нашай памяці. Згадваю найбольш актыўныя гады маёй працы, гады маіх найбольш шырокіх кантактаў з іншымі людзьмі, наведвання іншых мясцін, і часцей за ўсё згадваю падзеі, людзей, справы, звязаныя з краем майго нараджэння — Польшчай. І сёння гэта працягваецца. Такое, відаць, шчаслівае наканаванне лёсу.

Такімі вось помняцца мне мае выдавецкія гады працы і жыцця.




Тамара Тарасевіч, *A Horse*, 2004 (амерыканскі перыяд).

**Анатоль Вярцінскі**

# РАЗМОВА НА ДОСВІТКУ

Рыхтуючыся да ўдзелу ў паэтычным свяце “Бабіна лета ў Белаазёрску з Нінай Мацяш”, якое ўжо стала традыцыйным, знайшоў раптам амаль паўзабыты прысвечаны ёй верш. Пад назовам “Размова на досвітку”. З нейкай прычыны не апублікаваны. Вырашыў зрабіць гэта цяпер, з нязначнымі праўкамі. Заўважу: “досьвітак”, “світанне”, “світальны” – адны з улюбёных слоў Ніны Мацяш.

Тры дні таму, за горадам, на дачы,
Дакладней – на сваёй мансардзе дачнай,
У прадсвітальнай летняй цішыні
Я абудзіўся з думкай пра цябе
(ці не прыснілася мне перад гэтым?).
Звярнуўся ў думках я з пытаннем:
“Ці ведаеш, ці ўяўляеш ты,
Як многа для мяне ты значыш?
Як важны для мяне твой лёс?”
Падумаў “для мяне” і спахапіўся,
І стаў вініцца ў той жа міг
За тое, што вось так эгаістычна
Пачаў на досьвітку з табой размову,
І крыху ўдакладніў сваё пытанне:
“Ці ведаеш, ці уяўляеш ты,
Як многа значыш ты для нас,
Для сваіх блізкіх – па крыві і духу?
Для ўсёй сваёй шматлікае сябрыны?
Для ўсяе роднае краіны?
Ты – са сваёй усмешкай і слязой,
Ты – са сваёю доляй і нядоляй,
Ты – з сэрцам, сэрцайкам сваім,
Такім вялікім і такім дрыготкім,
Такім трывалым і такім пяшчотным,
Ты – са сваімі праўдай і сумленнем,
Ну і, вядома ж, са сваім “Агменем”...
Ці ведаеш, ці ўсведамляеш ты?”
І ў перадранішнім святле
Мне уявілася твая усмешка,

Усмешка незвычайная твая,
І мудрая, і крышку іранічная
твая усмешка, воблік твой.
І ў прадсвітальнай цішыні
Пачуўся мне ў адказ твой голас:
“Чаму пра гэта я павінна ведаць?
Чаму павінна гэта уяўляць?
Чаму ўсведамляць павінна?
Мне што – няма чаго рабіць?
Займацца чым? Пра іншае што думаць?
Які мой лёс, якая сама ёсць, –
Такую і прымайце, ягамосць!
Вам лепей знаць, што значу я для вас,
А мне відней, што для мяне вы значыце,
Вы – блізкія па духу і крыві,
Мая сябрына і мая краіна.
Ямчэй прымошчваю я на плячах свой крыж
І вам усім кажу я: – Будзьма!
Ды рушайма  далей сваёй дарогай!”

## БУРКОЧУЦЬ НА БАЛКОНЕ ГАЛУБЫ...

Па матывах верша Г. Бураўкіна
“Калі ты жыў нямала на зямлі”

Буркочуць на балконе галубы...,
Няма найлепшай птушкі хатняй.
Я ўжо прывык да іх “г-у-у-у”, нібы
Балкон мой стаў ім галубятняй.

На лецішчы праз сон, – сон у руку, –
Пачулася спагадлівае, ветлае,
Як ранішнія промні, светлае,
Чароўнае зязюліна “ку-ку”.

І тут жа бачыцца мне у акне:
На провад ластаўка ўвішна села,
Зашчабятала ласкава, запела...
Ці не вітала гэтак вось мяне?

Калі ж з мансарды я спусціўся ўніз,
Мяне чакаў яшчэ адзін сюрпрыз,
Стаў сведкаю яшчэ адной падзеі:
Шпак са шпачыхай прыляцелі!

Вярнуліся усё ж назад,
Адолеўшы цяжкое падарожжа, –
На тое ж месца, ў той жа сад
І да маёй шпакоўні той жа.

Зязюля, ластаўка, шпакі...
А ў агародзе блізка-блізка
Галодная прабегла міма пліска,
Ледзь не крануўшыся маёй рукі.

І як ніколі, ў гэты майскі дзень
Адчуў я, што я нешта значу,
Што прызначэнне нас, людзей –
Не толькі клопат пра сваю удачу,

А што ў адказе мы яшчэ якраз
За ўсіх, каго мы прыручалі,
За ўсіх, хто сам прывык да нас,
За ўсё жывое у сваёй Айчыне.

Найгоршы грэх – не апраўдаць
Даверу іх, іх спадзявання...
Такім вось чынам, дарагі Генадзь,
Я успрыняў тваё пасланне.

Ці слушна прачытаў твой верш?
Ты можаш, дружа, не спяшаць з адказам.
Ты ў вершы жыў і ў ім жывеш,
Ну а ў маім – жывем мы разам.

30 траўня 15 г.

## КАВАЛЬ, ПАДКОВА І ВУХНАЛЬ

Аднога толькі вухналя
На той раз нехапіла ў каваля,
Каб падкаваць каня як след.
А колькі зведаў палкаводзец бед!
На вараным сваім у бой
Павёў ён войска за сабой.
Ды хоць быў конь той, як агонь,
Ды спатыкнуўся раптам конь.
Пайшла зямля з-пад яго ног,

І болей ён устаць не змог.
Упаў з ім разам верхавы,
Ледзь не пазбыўшы галавы.
І тут жа конны ўвесь атрад
Стаў паварочваць назад...
А ўсё з-за тога вухналя,
Якога не хапіла ў каваля,
З-за той падковы, што каваль
Прыбіў няўдала, на вялікі жаль.

Чаму згадаў я гэты іншаказ?
Ён сам згадаўся неяк раз.
Магчыма, ўзнік па той прычыне ён,
Што актуальны і для нашых дзён.
Бо і сягоння знаем, што каня
Каваць патрэбна верна, спакваля,
Бо калі хібяць кавалі, тады –
Чакай бяды.

## УСЯГО АДЗІН КРОК

“Ад вялікага да смешнага”.
Ад высокага да грэшнага.
Ад прыгожага да нягожага.
Ад прыязнага да варожага.
Ад сапраўднага да падманнага.
Ад прасветлага да паганага.
Ад любові да нелюбові.
Аж жыцця-быцця да Эболы.
Ад узлёту да падзення.
(Вось рэальная падзея,
Якой жахі свет уразілі –
Ад Галандыі да Малайзіі).
Аж шчаслівага да жахлівага.
Ад праўдзівага да хлуслівага.
Ад разумнага да беспрычыннага.
Ад паважнага да злачыннага.
Ад прыстойнага да нягоднага.
Ад узнёслага да подлага...
Можа, фарбы згушчаю занадта я?
Але ж факты – рэч упартая,
І не ўнікнеш неабвержнага.
“Ад вялікага да смешнага”.

# ТРЫПЦІХ

I

І чуць не чуў,
І бачыць не бачыў,
І ведаць не ведаўю

II

Шмат чаго чуў,
Шмат чаго бачыў,
Шмат чаго зведаў.

III

Чуць ці не чуць?
Бачыць? Не бачыць?
Ведаць? Не ведаць?
Што лепей? Што горай?
Вось жа пытанне...



Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# З кніжкі **“Вершы для Хомкі”**

## І дзецям, і дарослым...

Уступ

Размаўляць з сабакам іншы раз цікавей, чым з чалавекам.

Чалавек цябе можа слухаць, але ягоная ўвага ў гэты момант хутчэй за ўсё ахоплена абыякавасцю, раздражнёнасцю, зайздрасцю, а то і непрыхаванай злосцю.

Увага ж сабакі – заўсёдная дабрыня!

Чалавеку тут павучыцца б у сабакі…

Што можа адбыцца ў двары, на вуліцы, у грамадскім транспарце, калі вы незнарок штурхняце сабе падобнага?

Можа нічога не адбыцца, і дзякуй Богу!

Бо ёсць яшчэ людзі шляхетныя…

Але часцей за ўсё, нават і тады, калі вы папросіце прабачэння, пачуеце пра сябе ўсё што хочаце!

Тут вам будзе і незадаволенасць, і крык, і лаянка!

А штурхніце незнарок сабаку?

Ды ён, калі ляжыць, падымецца і без ніякай незадаволенасці адыдзе ўбок – лёгка саступіць вам дарогу!

Прыродны настаўнік, ён сваімі самавітымі паводзінамі можа навучыць і цярплівасці, і сапраўднай весялосці.

Вялікая навука – умець не крыўдзіцца, і вялікае майстэрства – крыўду, ці тое, што здаецца крыўдай, умець ператварыць у творчасць, у той настрой, які спрыяе натхненню…

Вывучаючы Хомкаў нораў, я шмат зрабіў вершаваных адкрыццяў, галоўнае з якіх якраз гэтае – сабакі амаль не крыўдзяцца, а калі часам і адчуваюць крыўду, то адчуванне гэтае зусім кароткае, можна сказаць, імгненнае!

Я ведаю, што асобныя мае чытачы ў вершах для Хомкі пазнаюць сябе – непрывабныя рысы свайго характару, як і свае несамавітыя ўчынкі.

І што?

Вядома што – злуюцца.

Мушу такім сказаць: не варта злавацца; у дакументальным творы сябе пазнае адзін, а ў мастацкім – сябе пазнаюць усе!

Канкрэтныя ж супадзенні з нейчымі характарамі, учынкамі ці нават лічбамі (калі раптам здараюцца такія ў маіх вясёлых вершах!) – заўсёды памастацку выпадковыя…

Вывучаючы Хомку, я зразумеў: сабака – не проста свойская жывёлінка, гэта філасофія!

А гутаркі з сабакам – з'ява ў літаратуры і вядомая, і змястоўная.

У якасці прыкладу нагадаю знакамітыя "Лісты да сабакі" Язэпа Пушчы.

Гэтыя лісты – напружаныя і драматычныя па сваім гучанні, а мае вершы для Хомкі наадварот – светлыя, іранічныя, часам з нотай сацыяльнай і палітычнай сатыры.

Але хто такі Хомка?

Французскі бульдог – радасць нашай сям'і!

У ягоны пашпарт удрукавана ідыёцкае імя – Дэрык.

Мы пагарталі расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік В. Ластоўскага і знайшлі роднае імя – Хомка…

Хомку восем гадоў; ён любіць, калі з ім размаўляюць па-беларуску; яму падабаецца рытмізаваная гаворка на зразумелыя, газетныя, народныя тэмы!

Так і пачалі з'яўляцца яны – вершы для Хомкі.

І што цікава, гэтыя вершы з'яўляліся не за пісьмовым сталом, а складаліся ў руху, на хаду; спачатку вусна прамаўляліся, а тады ўжо занатоўваліся на кардонінках.

Чаму на кардонінках?

Бо яны не гнуцца, і, стоячы, на іх даволі зручна рабіць запісы…

Пасля першых публікацый, мяне спыталі:

– А можа, гэта вершы не для Хомкі, а пра Хомку?

Пытанне слушнае, і мой адказ быў такі:

– Дзеля настрою, дзеля хатняй весялосці я пачынаў складаць вершы для Хомкі, а далей стала бачна, што гэта вершы пра Хомку. І менавіта ж толькі пра яго, як у народзе кажуць, француза! Але ці варта мяняць пачатковую назву? Думаю, не…

Са мной згадзіліся, а яшчэ сказалі:

– Твой Хомка – з'ява сацыяльная!

– І не толькі сацыяльная, – адказаў я, – і грамадска-палітычная, бо Хомку цікавіць усё!

Мой ранейшы зборнік "Цацачная крама" меў жанравы падзагаловак "Кніжка для вялікіх і малых".

Сэнсава гэткі ж падзагаловак маюць і "Вершы для Хомкі", бо і яны адрасаваны і дзецям, і дарослым.

## Хомка і хохлік

*“Хохлік бегаў ля варот…”*
*Янка Купала*

Верш пра хохліка паэт
Склаў – няхай чытае свет!
І курганнага паэта
Хохлік палюбіў за гэта.

Хомка паясніў: “Удала
Пра яго сказаў Купала!
Памятае хай народ:
*Хохлік бегаў ля варот*!

Я ж таксама – не сакрэт –
Хоць сабака, а паэт;
Падабаюся я ўсім
Простым вершыкам такім:

Будзь начальнікам, тады
Грошы будзеш мець заўжды;
Кажуць недарма ў народзе –
Хто начальнік, той і злодзей!”

## Ідучы з Хомкам па вуліцы Леніна

Сумненні душу аплялі?
Каго пахваліць ты не знаеш?!
Хто корміць – таго і хвалі,
І большую місу прыдбаеш!

## Хомка-эстэт

Хомка з радасцю нязменнай
Захапляецца Шапэнам
І Радэнам, і Верленам,
А таксама ж і Гагенам…

Гукі, пластыку і слова
З фарбамі адначасова
Успрымае Хомка ў купе,
Нібы з мясам бульбу ў супе!

І таму прыняць Шапэна
Ён не можа без Радэна,
Як не можа і Верлена
Ён засвоіць без Гагена.

А Гагена без Верлена,
А Верлена без Радэна
І, само сабой, Радэна
Не ўспрымае без Шапэна…

Зона слаўная Шэнгена,
Ты здаволіш Хомкаў густ…
Патрусі, Брусель і Вена,
Гэткае праблемы куст!..

Нібы сонечная казка,
Пра Шэнген прыйшла падказка,
І Хама… О, Божа мой!
Што тут сталася з Хамой!

Просьбу на імя Шэнгена
Хомка напісаў хутчэй,
Каб сумесны для Шапэна
І Радэна, і Верлена,
І, вядома ж, для Гагена
Збудаваны быў музей
Пад адным вялізным дахам…

І каб сталі там стаўма
Ўсе, каго адзіным махам,
Любіць успрымаць Хама!

## Хомка і *Гэта*

Беларуская прыкмета:
У бяду і без бяды
Верыць чалавек у *Гэта*
Не раз-пораз, а заўжды.

І прыкметы згодна тое
Суцяшае сам сябе,
Што не верыць ён у *Тое*,
Як у грушы на вярбе.

Нават знае недарэка
Сталася от так чаму:
*Гэта* – грэе чалавека,
*Тое* – рве душу яму!

Хомка мудрасць ушаломкаў,
А ўшаломкаўшы, тады
Паміж *Тым* і *Гэтым* Хомка
Выбраў *Гэта* назаўжды!

## Хомка і планёрык

Праляцеў планёрык нізка
Па-над паркам і з яго
Шуранулася запіска:
“Хомка, ты француз – ого!”

Хомка ўзрадаваўся вельмі,
Хомка любіць пахвальбу;
Гэты камплімент нядзельны
Ўшчасціў Хомкаву гульбу.

І дарунак планерыйны,
Тое мілае пісьмо
Хомка сціснуў – і ў ашыйнік,
Нібы золата само!

Хай на памяць застаецца
Гэты нечаканы ліст,
Бо напісаны ад сэрца –
Дзякуй, слаўны планерыст!

А калі пісьмо-запіска
Ад дзяўчыны, то сказаць:
“Дзякуй-дзякуй, планерыстка!” –
Гэтак трэба нам, відаць?!

## Хама і “ма”

Сёмы год ужо Хама,
Скажам так, аднаскладова
Кожны дзень гаворыць: “Ма” –
Любіць Хомка гэта слова.

Што такое слова “ма”?
На дзіцячай мове гэта –
“Мама”, а яшчэ – “няма”…
Больш не мае “ма” сакрэтаў!

Хомка сталы, ды заўжды
(Адмыслова мы адзначым!)
Праз усе свае гады
Размаўляе па-дзіцячы.

Кожны дзень гаворыць: “Ма”
(“Мама” і “няма”) – о Божа! –
Маму кліча наш Хама
І даклікацца не можа.

## Хомка і баран

“Хомка, што такое клан?” –
Запытаў Хаму баран.
А яшчэ спытаўся ён:
“Хомка, што такое клон?”

Хомка адказаў: “Баран,
Мноства клонаў – гэта клан!
А як выпруць з клана вон,
На такога кажуць – клон!”

## Хомка і фатограф

Вясёлую работку
Адзін фатограф меў,
Як моладзь кажа, фоткаў
Усіх, каго хацеў!

Ніколі не лайдачыў
Фатограф той, таму
Калі Хаму пабачыў, –
Імгненна зняў Хаму!

І фота – не, не лажа, –
А выйшла залатым,
Як тая ж моладзь кажа:
Прыкольным і крутым!

Майстэрская работа,
Заўжды патрэбна ты…
Так, дзякуючы фота,
І Хомка стаў круты!

## Хомка і мора

“Як жыццё тваё ад гора
Зробіцца зусім благім, –
Не сумуй, а едзь на мора,
Мора памяншае гора
Шумам векавым сваім!” –

Хомка так усім гаворыць
І вялікім, і малым…
А ці быў ён сам на моры?
І як быў, то на якім?

Не, не быў Хама на моры
Ні на гэтым, ні на тым…
Проста, кажучы пра гора,
Думае Хама пра мора
І гаворыць так усім:
“Мора памяншае гора
Шумам векавым сваім!”
Мае Хомка розум быстры
І таму, як той мудрэц,
Ён складае афарызмы
З гэтага і ў той канец!

## Хомка і лайдакі

Як аглушаных быкоў,
Лайдакоў наўкол багата;
Вечарам з усіх куткоў
Выпаўзаюць, як на свята.

Кожны сам сабе баран,
Раскідаючы няўмеру
Недакуркі, цэлафан,
Гумкі, жуйкі і паперу.

Соску той і гэты ссе
(Электронная атрута!),
Па-сяброўску, па чарзе –
Гэта ж, ведаеце, крута!

Дзе па два, а дзе па тры,
Дзе без ліку – проста заедзь! –
Пруць у паркі і двары,
Свіслач густа аппаўзаюць.

Бар пад назвай “Радзівіл”,
Што насупраць “Журавінкі”,
На тэрасны свой насціл
Іх вайфаіць без замінкі.

З Менска ўсе? Ды не, бо ёсць
Адусюля, нават з Оршы.
Вунь з-пад Клецка ягамосць
Свішча, бараду задзёршы.

Гэта пешыя, а ўслед
Матацыклаў сыпле зграя!
Кожны замульдонны шкет
*Байкамі* іх называе…

“Бесклапотная арда! –
Хомка атэстуе строга. –
Згінь, пустая чарада
З беларускага парога!”

## Хомка і мда

“Гора, мда, – заўсёды гора,
І бяда – заўжды бяда…” –
Хомка мдакае з напорам
У сваім выслоўі: мда!

Што за дзіўнае выслоўе?!
Для каго? Ні для каго?!
Для настрою, для здароўя
Хомка згадвае яго?!

Не, хутчэй за ўсё для суму…
Хомка наш не легкадум,

Думае цяжкую думу,
І адсюль – бясконцы сум!

Хомка ведае, што гора,
Хомка знае, што бяда
З чалавечаю прасторай
Век былі і будуць… мда!

## Хомка ў гістарычным цэнтры Менска

У гістарычным цэнтры Менска
Хомка восьмы год жыве,
І жыве сабе някепска,
І не косіць, і не жне.

Іншаю заняты працай,
Што тут лішне гаварыць:
Хомка спіць гадзін дванаццаць,
Можа, нават болей спіць!

І наспаўшыся даволі,
Скаўтануўшы сонны хрып –
Ў гістарычны цэнтр паволі
Ён выдрыбвае – дрыб-дрыб.

І нібы ў сваім гародзе,
У глыбі свайго двара
Ён ля ратушы паходзіць,
Ля “Гасціннага двара”!

А далей сваю прагулку
Павядзе, як мае быць,
Па Музычным закавулку,
Дзе масонаў дом стаіць.

І па вуліцы Гандлёвай,
Што Зыбіцкай стала зноў,
Каб залегчы спаць нанова,
Ён вяртаецца дамоў.

## Хомка і трэнд

Хомка знерваваўся ўшчэнт
І таму сумуе,
Што бясконца слоўца трэнд
З кожнай дзіркі чуе.

І студэнт, і прэзідэнт,
Журналістаў зграя
Толькі рот разявяць – трэнд
З рота выпірае!

Пад спадніцу і ў штаны
Трэнд ужо заскочыў,
І авечкі й бараны
Быць у трэндзе хочуць!

Вабіць трэнд усіх сабак
З хэнцю і без хэнці,
Толькі Хомка аніяк
Быць не хоча ў трэндзе!

## Хомка і Саладуха

Як спявае Саладуха,
Хомка лапаю тады
Любіць пачасаць ля вуха
І крыху ля барады.

Калі чэша ён ля вуха,
Трэба гэтак разумець:
“Паглядзіце!.. Саладуха!..
Проста радасна глядзець!..”

І нібыта заклікае,
Як вядзе па барадзе:
“Саладуха вам спявае!
Рукі?
Рукі вашы дзе?!”

Ці міжволі, ці міжвольки…
Талент ёсць, ці талент е…
Хомка чэшацца, як толькі
Саладуха запяе.

## Хомка і Стас Міхайлаў

Як пяе Міхайлаў Стас, –
Соладка-салодка, –
То кабет уміг, зараз
Аж бярэ дрыготка.

Донжуан ва ўсёй красе
І на сто працэнтаў,
І таму кабеты ўсе
Млеюць на канцэртах.

Вокам блісне, падміргне,
Усміхнецца ў вусік;
Сэрца кожнай казытне:
"Я з табой, пампусік!"

Хомка, нюхаючы след
З водарам сучыным,
Радуецца за кабет –
Ёсць у іх мужчына!

## Хомка і далькажык

Хомка тэатралу кажа:
"Патурбую трохі я вас,
Аддалькажце свой далькажык,
Бо спектакль пачнецца зараз!"

Гэтак і студэнтам кажа:
"Кожны (юнакі й дзяўчаткі!) –
Аддалькажце свой далькажык,
Бо даўно ідуць заняткі!"

І на тых і гэтых сходах,
Што начальнікам патрэбны,
Хомка спраўна, як па нотах,
Зноў жа тую ж просьбу рэкне.

Так сваё чаўпе і творыць –
Лапка ў лапку, ладка ў ладку!
А чаму ён так гаворыць?
Бо пільнуецца парадку!

І салдатам, дэпутатам,
Гімназістам і таксістам,
І, вядома, хакеістам,
Як і ўсім астатнім чыста –
Далікатна, асцярожна
І на ложку, і з-пад ложка
Скажа ўрэшце гэтак: “Знайце
Правіла – як толькі можна,
То далькажыкі ўключайце!”

**Хомкава лічылка**

Раз, два, тры, чатыры, пяць –
Добранька ў чарзе стаяць!
На каго ні глянь: усе
Людзі добрыя ў чарзе!

А па што стаяць яны –
І разумны, і дурны?
Па валюту, па яе…
Тых пільнуюць, хто здае…

А здаюць не вельмі каб,
На адзін, як кажуць, хап,
І каб трошачкі займець,
Кожны мусіць тут марнець!

Стой ні стой, а ўсё дарма,
Бо валюты ўсім няма…
Хоць няма, а ўсе стаяць –
Раз, два, тры, чатыры, пяць!

**Хомка і ведамка**

Хомка ў чулым разуменні
Словы новыя стварае;
SMS-паведамленне
Ведамкаю называе.

Веды, ведаць і паведаць –
Вось адкуль узнікла слоўца
Яснае, нібы паветра!
Яркае, нібыта сонца!

*10.IV.51.*

*Любыя мае хлопчыкі!*

*Як-раз сёньня, у дзень майго нараджэньня, прыйшла ласкавая маміна вітальная тэлеграма, дзіўны ліст і харошы, ласкавы ліст Радзімкі – № 9. Ось дзякуй Табе, мой дарагі сынуля, за пацеху, за мары, за лятуценьні. Ніхай бы яно так было! А мо і будзе? Пасылаю гэты Твой ліст маме. Такую вялікую радасьць прынесьлі сёньняшнія лісты ў нашу хату! Малайцы, і мама, і Радзімка!*

*Тэлеграма Славіка спачатку засмуціла нас. А потым мы агоўталіся. Бо Калужсская вобласьць добрая і па клімату, і па людзёх, і па блізкасьці да Масквы. Можна б было Славучку паступіць у завочную асьпірантуру, калі гэта магчыма. Бяры, Славунька, толькі мінімум лекцый, каб мець больш вольнага часу на асьпіранцкія заняткі. Мы Табе будзем дапамагаць матэр'яльна, усебакова. Ну, а калі і ў завочную асьпірантуру Табе трапіць нельга, – ну, тады займайся сам, самастойна, па асьпіранцкай праграме, па ўсіх праграмах, якія рэгулярна дастаўляць Табе папрасі каго-небудзь з таварышоў.*

*Не сумуй, Славунчык, Ушынскі, Макарэнка, Песталоццы асьпірантамі ня былі, Талсты таксама. Працуй сам над сабою і над сваёй любай, педагагічнай працай, як працавалі яны. І радасьць будзе з Табою неадлучна.*

*Ну, а з Табою, мілы, любы сібірак, давай ужо памірымся, – хоць я і да гэтага часу супраць Сібіру, а за Краснадарскі край, поўдзень, Украіну, калі ўжо нельга трапіць на Беларусь.*

*Але за Твой цудоўны ліст – згодзен часткова і на Сібір – толькі беражы Ты там сваё здароўе!*

*Цалуем Вас, абыймаем, лашчым, любім.*

*Буля, дзеда, тата.*

*30.IV.51.*

*Дарагі мой, любы Славучок!*

*Кожнаму бацьку было б вялікім шчасьцем атрымаць ад сына такі выключны ліст, які напісаў Ты мне, – для мяне-ж гэта шчасьце падвойнае. Рад за Цябе, мой сынуля, ганаруся Табою, тваімі думкамі, жаданьнямі, імкненьнем, настроямі. Ідзі сваёй абранаю любаю сьцяжынкаю, ніхай ніколі не згасае зорка наперадзе – і лягчэй Табе будзе ісьці па жыцьцёваму шляху, часта цярністаму, і ня стомішся Ты, нават калі мэта Твая ўсё роўна заставацца будзе далекай, недасяжнай.*

А.Л. Яншын – тады толькі кандыдат геолага-мінералагічных навук, а пазней акадэмік, Герой Сацыялістычнай працы, выдатны вучоны сучаснасці, – з якім Радзім пазнаёміўся ў час летняй практыкі ў Казахстане, запрасіў яго на працу ў Інстытут геалагічных навук Акадэміі навук СССР, адну з найлепшых геалагічных навуковых устаноў краіны, а можа, і свету. Параіўшыся з

бацькамі, сын даў згоду.

Кіраўнік геалагічнага сектара Інстытута, выдатны вучоны Мікалай Сяргеевіч Шатскі, які добра ведаў Г.І. Гарэцкага, адразу даў згоду на працу Радзіма, сказаўшы: “Я веру ў спадчыну: з сына такога бацькі павінен быць толк”.

У 1955 годзе Г. Гарэцкага прызначылі на працу ў філіял Гідрапраекта СССР, а ў 1956 годзе канчаткова перавялі туды. Гэта ўстанова знаходзілася ў горадзе Дзедаўск, прыблізна за 40 км ад Масквы.

Нягледзячы на цікавую працу, якой, як заўсёды, Г. Гарэцкі аддаваў увесь свой імпэт, дастаткова някепскі дабрабыт і спакой сям’і, думкі ўвесь час вярталі яго да Беларусі. Калі ж здзейсніцца мара ўсяго жыцця і атрымаецца трапіць на Беларусь, працаваць для роднай Радзімы? Ён вёў на гэтую тэму перапіску з Якубам Коласам, акадэмікам Паўлам Рагавым – сваім даўнім сябрам – і іншымі, якія прыкладалі шмат намаганняў, каб Гарэцкаму дазволілі вярнуцца на працу ў Акадэмію навук, але пакуль быў адмоўны адказ з ЦК КПБ.

Ды вера жыла і ніколі не пакідала Гаўрылу. На адбітках сваіх прац якія прэзентаваў сыну, ён пісаў: *Любаму майму сынулі Радзіму – у знак будучай яго працы на гонях беларускае культуры і навукі*; *Любаму майму сынулю Радзімку – чарговы крок набліжэння да родных прастораў Беларусі – ад бацькі*.

Моцны станоўчы ўплыў бацькі і яго магутнай асобы сыны адчувалі не толькі да канца яго жыцця, але і ўвесь час пазней. Не ўсё, пра што марыў Гаўрыла Гарэцкі, здзейснілася. Жыццё і яго ўдзельнікі ўносілі свае шматлікія карэктывы. Старэйшы сын на ўсё жыццё застаўся ў Маскве, дзе стаў выдатным букварыстам і педагогам, членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук, прафесарам, членам Саюза журналістаў Расіі, шматгадовым галоўным рэдактарам часопіса “Начальнач школа”. Яго калегі і вучні пасля яго смерці (25.04.2009) выдалі кнігу *Опережая время*. *Избранные труды В.Г. Горецкого, воспоминания о его жизни и творчестве*. М.: «Начальная школа и образование», 2010, 288 с.

Гаўрылу Гарэцкаму ўсё ж удалося вярнуцца на сваю любую Бацькаўшчыну, дзе ён апошнія дваццаць год жыцця апантана працаваў і лічыў іх самым шчаслівым сваім часам. Асабліва яму было радасна, што ён працуе ў адным Інстытуце са сваім малодшым сынам, які і да гэтых дзён ўжо на працягу амаль 45 гадоў працуе ў НАН Беларусі.

г.Менск, чэрвень 2014 – красавік 2015



Тамара Тарасевіч, *Curious World of Eternity*, 2006 (амерыканскі перыяд)

**Галіна Самойла**

# Жанчына з ціхімі вачыма

***

Загарыцца зорачка над вячэрняй вёскай.
Вось ужо й не горача,
Ад вокнаў палоскі.
Выйду я на лавачку да суседкі Люды.
Спамянём пра мамачкаў.
Ёсць, была, не буду…

Па нялюднай вуліцы прагуляцца можна.
Месячык цалуецца
З лужынкаю кожнай.
Ці даўно прыехалі, папытае стрэчны.
Пад сваімі стрэхамі
Ў гасцях недарэчна.

Зялёныя яблычкі аскому набілі.
Спамянём пра татачкаў,
Што сады садзілі.
Гукі, пахі, контуры – знаёмыя цуды.
Спынімся над Котраю.
Ёсць, была, не буду…

***

Сумны лес з апалымі лістамі,
Я пад вечар да цябе прыйду.
Мы ўдваіх над ціхай рэчкай станем,
Заглядзімся ў стылую ваду.

Пацячэ рака па тваёй кроне,
Па маіх плячах і галаве.
Памаўчым на беразе нявоўным
У пажоўклай, высахлай траве.

Шэры змрок ахутае нам ногі,
Знікнуць нашы цені на вадзе.
Добры лес, выбоістай дарогай
Ты мяне дадому давядзеш.

***

Трава, трава расою ногі мочыць.
Трава, трава ўзнялася да калень.
Як добра па траве высокай крочыць
Да ўскрайку лесу з соснамі ў смале.

Шуміць, шуміць прыбой зялёных хваляў.
Шуміць, шуміць, у ранак несучы.
Ружовым вокам сонца заміргала,
Нібы з-пад коўдры, з хмары ўстаючы.

Дзівак, дзівак лякарствамі абклаўся,
Дзівак, дзівак даверыўся б траве.
Вось гэтым соснам ранішнім аддаўся б,
І боль нягод заціхне, аджыве.

***

Поле чорнае і няроўнае:
То нізіначка, то пагорачак,
Распластанае свежым ворывам,
Над ім кропелькі ціхіх зорачак.

Дзе-нідзе вада нерухомая.
Белы бляск яна шле да месяца.
Бог, які гэта ўсё ахоўвае,
То ледзь чуецца, то ледзь свеціцца.

Свет  нібы нанова ствараецца
З гэтай глебы і неба зорнага,
І ўжо душы наперад каюцца,
Каб не ўзнікла чаго нядобрага.

***

Мужнасць кінулі ў агонь,
Хай гарыць.

Хай абвугліцца ў стогн
На кастры.
Хай абпаліцца ў віск:
“Я не я!”,
Кіем скрыўленым уніз
Збітая.
Мужнасць знікне назаўжды
Ў полымі.
Застанецца толькі дым
З попелам.
Застанецца толькі страх
Скурчаны.
Болем жудасным прасцяг
Змучаны.
Свой чырвоны зуб касцёр
Вышчарыў.
Кат далонямі пацёр:
Знішчана.
Усміхнулася яна:
“Эх, гаротныя,
Ці ж не ведалі,
Што я –
Бессмяротная?”

## Цішыня

Ціха-ціха.
Бязмежны прастор цішыні.
Толькі нешта звініць, звініць
Над ракою.
Мабыць, птушка махнула крылом,
І згубіла пяро,
І яно на цішу лягло
Непакоем.

Ціха-ціха.
Ні крыку, ні слёз, ні хлусні.
Толькі нешта звініць, звініць
Па-над збожжам.
Мабыць, зліты ў адзінае мы,
Дрэнна некаму ў гэты міг,
І пранізвае гора ўсіх,
І трывожыць.

Ціха-ціха.
Няма ні крыві, ні вайны.
Толькі штосьці звініць, звініць
Каля гаю.
Мабыць, ніці нябачна сплялі
Нас усіх на вялікай зямлі.
Недзе кулі праз сэрцы прайшлі…
Адчуваеш?

***

Жанчына з ціхімі вачыма
Вязе ў чаўне сваю красу.
Патух праменьчык з той прычыны,
Што ўбіўся ў светлую касу.
Сукенка, нібы аблачына,
Збірае ў складачкі расу.
Вярбінка на плячах дзяўчыны
Варушыць ценяў паласу.
Нібы душа маёй Айчыны
Люляе ў рэчцы сіні сум.

***

Не папракай мяне,
Што надта сціплая,
Што я за модай
Не ганюся.
Адно з даўных-давён
Нашу шаўковы лён,
Бо я з ліцвінаў-беларусаў.

Не папракай мяне,
Што лішне мяккая,
Што саступлю хутчэй,
Чым пасваруся,
Злом не адолець зло,
Я берагу святло,
Бо я з ліцвінаў-беларусаў.

Не папракай мяне,
Што вельмі гордая:
Перш прыглядаюся,
Пасля гарнуся.

Хто скрыты вораг мой,
Хачу адчуць душой,
Бо я з ліцвінаў-беларусаў.

Не папракай мяне,
Што я ашчадная,
Дабром раскідвацца
Асцерагуся.
Як будзе час ліхі,
Я развяжу мяхі,
Бо я з ліцвінаў-беларусаў.

Не папракай мяне,
Што знешне кволая,
Што абыякавай
Падчас здаюся.
Сярод віхур любых
Я не сыйду ў нябыт,
Бо я з ліцвінаў-беларусаў.

***

Пакуль жыву на свеце я,
Жывуць са мной мае святыні:
Мая душа, мая сям'я
І на Зямлі – мая краіна.

Душой малюся, сню, расту,
Смяюся, веру і рыдаю.
Лаўлю хвілінаў перастук,
Хварэю, падаю, лятаю.

Сям'я – цяпельца і страха,
Пакута-радасць, боль-заслона.
У дасягненнях і грахах
З'яднаны мы і пасля скону.

Край, крэўнасць, кут – любоўю поўняць,
Ад Полацка вядзе нас шлях,
З Літвы са звонкаю Пагоняй
Да Беларусі ў васільках.

## Фаіна Самойла

# Цягнула рукі да людзей

### Узыход сонца

Святло перамагае ночы змрок,
І рэжа ноч крыламі птушкі белай,
І, парадзіхай стогнучы нясмелай,
Так сутаргава б'ецца аб пясок.

За ім услед паружавела неба.
З палос крывавых выплюхнуўся шар.
Туман пялюшкі выслаў на абшар,
А вецер пах з палёў даносіць хлеба.

Стаю я ў роздуме на сцежак скрыжаванні.
У зрэнках воч трымцяць святло і цень.
Жыцця кіпенне нараджае дзень,
Што крэпне і шліфуецца ў змаганні.

***

Патану я ў званочкавым звоне
Ля падножжа дубоў векавых.
Пакладу ў васільковай кароне
Галаву між мурожнай травы.

І акрыюць мяне дыванамі
Ночы ў кропельках чыстай расы.
І пяшчотна пагрэюць агнямі
Днём мне рукі і твар верасы.

"Спі, засні, – скажа бездданню неба
У міргнанні халодных зарніц. –
Ты нікому на свеце не трэба
З мовай траў – чабароў, медуніц…

## Мужу

У знямелай, астылай душы
Тлее прысак, сухі і гарачы,
Ты прыляж у мяне на плячы,
Адпачні ад пякучай няўдачы.

Стармазі востраў думкі струну,
Прытушы боль душы твой пякучы.
І глядзі на мяне на адну:
Спад і ўзлёт у жыцці немінучы.

## Восень

Што так, што так
Ў небе мая зорачка
Ўспыхне і замрэ?
Восень, восень,
Вельмі непагодная,
Нада мной плыве.

Вецер, вецер
Абтрасае багру
З трапяткіх бяроз.
Поўны, поўны
Мае вочы буйных
Кропель слёз.

Сэрца, сэрца,
Ты мяне тугою
Не гняці.
Доўгім, доўгім
Яшчэ будзе шлях мой
У жыцці.

## Цягнула рукі

Цягнула рукі да людзей –
І апаліла нечакана…
Цяпер крывіць, зіяе рана.
Цягнула рукі да людзей,
Якімі страўлена, загнана.

А ўсё ж не трачу ў іх надзей.
Я іх люблю, як і раней…
Мне гэтак цяжка без даверу.
Крывёй спісала ўсю паперу.
Адкрыйце, людзі, ў душы дзверы.
Пакіньце зайздрасці манеру.
Люблю людзей, як і раней…
Жыць не магу я без даверу.

## Матулі

Гудзі, злосны вецер,
Гудзі, завывай.
Матуля, сыночкаў
Ідзі паклікай.

А можа спаткаеш,
А мо адзавуцца,
На горкія слёзы
Ў адказ усміхнуцца.

Не знойдзеш у свеце –
Знайдзі пад зямлёй.
Абмый ты ім раны
Жывою вадой.

Крывавыя целы
Тулі да грудзей.
Пабітыя твары
Губамі сагрэй.

О! Гінулі сокалы
Ў сіле надзей,
Што будзе шчаслівая
Доля ў людзей.

## Сыну Валянціну

Мой родны сын –
Святло надзеі.
Як перст, адзін
Між бур завеі

У полі.
Нашу ў душы
Цяпла хаценне:
“Не здрадзь ні ў чым
Свайму сумленню
Ніколі.
Знясілішся – крыніц
Глынай вадзіцу.
Зняверышся – бацькоў
Цалуй зямліцу…
Сляды іх болю”.

## Дачцы Галіне

З буйных зерняў у глебе
Будзь бы лустай у хлебе.
Будзь апорай гняздоўю,
Паі сэрца любоўю.
З чыстых водаў-крыніцаў
Будзь святою вадзіцай.
Будзь руплівай пчалою –
Майго шчасця слязою.
Будзь ты птушкай крылатай,
Думкай-песняй багатй.
Будзь жа згусткам сумлення
Для  свайго пакалення.

## Зварот у дзяцінства

Іду з поля дадому
Па сцяжынцы ў расе.
Пошум збожжа знаёмы
У дзяцінства нясе.

Луг духмяны ля хаты,
Котры чыстыя воды.
І арэхаў зярняты,
І бяроз карагоды.

Цяпло бацькавай ласкі,
Солад груш і чарэшні.

І братоў маіх казкі,
І сясцёр маіх песні.

Вечар. Вокліч савіны.
Мамін збан сырадою.
Любы клёкат буслiны
Над хацінай маёю.

Здрады чорныя ніці
У гадзіну закляту.
Боль па Сеню і Віцю*,
Што нахлынуў у хату.

Іду з поля дадому,
Стану ў звілках дарог:
Пошум збожжа знаёмы
На твар думаю лёг.

*Двух братоў маёй мамы, Сеню і Віцю, закатавалі фашысты ў гады Вялікай Айчыннай вайны. (Допіс – *Галіна Самойла*)



# Лісты Васіля Гадулькі, Галіны Самойла, Фаіны Самойла

## Ад рэдактара

*Ліставанне Васіля Гадулькі (1946–1993) і Галіны Самойла мае сваю непаўторную літаратурную каштоўнасць – сустрэліся таленавітыя паэты, адкрытыя да болю душы адно перад другім. Зышліся два лёсы, выяўленыя самім жыццём у жанры чалавечай драмы, якую немагчыма было ім заўчасу ні прадбачыць, ні тым болей прадухіліць...*

*Да друку матэрыял (уключна з эпіграфам) падрыхтвала Галіна Самойла. Лісты самой паэтэсы – з архіва Леаніда Галубовіча, дзякуючы якому пабачыў свет адзіны пакуль зборнік Васіля Гадулькі “Голас”, Мінск 2004.*

*У квадратных дужках – каментарыі Галіны Самойла.*

*Загалоўкі – ад рэдактара (Я. Ч.).*

## Лісты Галіны Самойла Яну Чыквіну

Добры дзень, спадар Ян!

Я надрукавала пісьмы Васіля Гадулькі ў храналагічным парадку. Дадала два лісты, якія ён напісаў маёй маме, Фаіне Ігнатаўне Самойла. Яны на рускай мове, але ў іх ёсць цікавыя звесткі пра школьныя гады Васіля, яго разважанні аб літаратуры і жыцці. Мама пісала да яго, калі я сказала ёй, што Васіль знішчае ў печы свае вершы, і вельмі расстроілася з-за гэтага.

Мы пазнаёміліся з Васілём на нарадзе маладых пісьменнікаў у Іслачы ў 1986 годзе. На той час я ўжо сустракалася з іншым мужчынам, і пазней выбрала яго. Мой муж таксама быў творчым чалавекам, пісаў бардаўскія песні і таксама нікому, апроч сяброў, іх не паказваў. Добра, што ён запісаўся на магнітафон, і цяпер я іх ацыфравала і пераявляла на дыск.

Мой муж, брат, Васіль Гадулька і сама я – мы ўсе не змаглі ўпісацца ў жыццё. Як казала мая мама, "боўтаецеся ў гэтым жыцці". Мужчыны пілі гарэлку з роспачы, напэўна, і рана паўміралі. Мяне ўратавалі ад адчаю мае

дзеці. Я вельмі змагалася за жыццё, за здароўе, каб яны не асірацелі і не трапілі ў інтэрнат.

Дасылаю Вам свае вершы, прысвечаныя маёй сям'і, маёй вёсцы Бандары, што ў 40 кіламетрах ад Гродна, а таксама маёй Беларусі. Яны ўсе ранейшыя, але нідзе шырока не друкаваліся.

Прапаную Вам таксама пазнаёміцца з вершамі маёй мамы, каб Вы цалкам мелі ўяўленне пра нашу паэтычную сям'ю. Мой бацька вершаў не пісаў, але вельмі іх любіў і адчуваў, а таксама быў нашым "крытыкам". Дарэчы, мая мама – стрыечная сястра Міхася Васілька, які ўвайшоў у беларускую літаратуру як заходнебеларускі паэт і які нарадзіўся за тры кіламетры ад маіх Бандароў, у вёсцы Баброўня.

Маё шчырае прывітанне Галіне.

Святла Вам і дабрабыту. Да пабачэння, Галіна.

(4.06.2015 – *Я.Ч.*)

Дарагі спадар Ян, добры дзень!

Ну вось і зрабіла я, дзякуючы Вам, падарожжа па часе. Сустрэлася ў сваіх пісьмах да Васіля з сабою маладою, такою далёкаю ўжо ад мяне сённяшняй па розуме, і такою блізкаю па душы. Дзякую Вам вельмі за гэтую магчымасць.

Шкада крыху, што амаль палова маіх лістоў да Васіля не захавалася. А можа, усё ж яны дзе-небудзь ёсць? Але і так усё зразумела ў нашай перапісцы. Там, дзе маіх лістоў няма, я дала каментарыі. Рашыце самі, патрэбныя яны ці не.

Васіль памёр у 1993 годзе, у 1996 не стала майго бацькі, у 2004 – мамы, у 2008 годзе зышоў у нябыт мой брат, а ў 2012 – муж Барыс Зяневіч. Развітваючыся з імі, я паступова развітвалася і з сабою, са сваім тым жыццём, якое было запоўнена імі. Бо дарослыя дзеці – гэта ўжо новае жыццё, іншае пакаленне, іншыя погляды на ўсё.

Доўгі час я думала: "Вось выгадую дзяцей, і вярнуся тады на сваё прозвішча Самойла", вярнуся да сваіх бацькоў, свайго роду. А цяпер не хачу гэтага: Галіны Самойла на свеце ўжо няма. Ёсць Галіна Зяневіч, якую стварылі муж і дзеці. І нават яна ўжо паступова знікае.

Пасля апошняй смерці – мужа – я жыву з адчуваннем, што пастаянна развітваюся з былым, адпускаю яго ў адасобленае ад мяне жыццё, аддзяляюся ад яго. Відаць, таму з'явілася ў мяне жаданне аддаць у друк пісьмы Васіля Гадулькі, далучыць іх да яго творчасці, якая жыве цяпер сама сабою ў інфармацыйнай прасторы і да якой яны, несумненна, належаць. Ёсць такое выказванне: "Добрая творчасць жыве самастойна, дрэнная – толькі разам з аўтарам". Вось хай і яны жывуць – не з ім, не са мною, а самастойна.

З пашанай да Вас – Галіна Самойла (Зяневіч).

Перадавайце маё шчырае прывітанне спадарыні Галіне.

Да пабачэння.

(15.07.2015 – *Я.Ч.*)



*Ні дарагой няма, ні дарагога…*
*А пісьмо ляжыць прад Богам,*
*Доказам таго, што варта жыць было,*
*Хоць і жыць давалася нямнога.*
Ян Чыквін

[Калі мы абменьваліся адрасамі з Васілём у “Ісдачы”, я сказала яму: “Пішыце, калі будзе сумна”, таму ён пачаў свой ліст менавіта з радка пра сум.]

**Ліст першы**

в. Федзькавічы

Добры дзень, Галя!

Вырашыў напісаць Табе, не чакаючы, калі мне стане сумна. Пакуль што мне не сумна, жыву пад уражаннямі.

Спачатку мне хацелася б хоць коратка, але, па магчымасці, аб’ектыўна і без прыўкрас расказаць пра сябе ўсё, каб Ты ў цэлым ведала, з кім маеш справу. Гэта неабходна.

Мне ўжо 40 год. Гэта, вядома, ні ў якім разе не трагедыя, але здароўе ўжо, зразумела, не тое. Я маю на ўвазе, што перад семінарам крыху захварэў, але не паехаць не мог. На семінары адчуваў сябе нядобра і выгляд меў не лепшы. Ад гэтага таксама бянтэжыўся звыш меры, маючы і без таго характар занадта сціплы.

Можа, якраз з-за гэтай чортавай сціпласці і жыццё маё дагэтуль склалася ў цэлым з няўдач. Я заўсёды адмоўна адносіўся да розных прыстасаванцаў, кар’ерыстаў і г.д., а самога сябе сцвердзіць як асобу сярод людзей не ўдавалася. Дый у каханні таксама не шанцавала неяк, таму сёння я – стары халасцяк, а гэта, мне здаецца, у вачах людзей яшчэ горш, чым калі б я быў, напрыклад, разведзены, або нават проста пакінуты жонкай. А так кожны цябе лічыць у лепшым выпадку дзіваком, а часцей за ўсё, як асобу, круглым нулём. Паводзіў я сябе таксама не так, як лічыцца неабходным весці сябе старому халасцяку, а, як кажуць, аскетычна, ставячы на першае месца каханне, якога не знаходзіў, дый не шукаў. Таму перспектыва завесці сям’ю ўсё болей звужалася, і сёння я лічу яе для сябе,

можа, нават і нерэальнай. Але… урэшце хто яго ведае! У жыцці часам здараюцца і цуды.

Астатняе ты ўвогуле пра мяне ведаеш: што трохі пісьменны і што працую ў саўгасе, што матэрыяльна жыву да смешнага неўладкавана.

Калі ты прачытала свой верш, я адразу заўважыў, што ў Цябе ёсць не толькі сапраўдны (шчыры) талент, але й, галоўнае, нейк мне здалося, што тваё светаўспрыйманне, настрой, думкі – усё гэта тое ж, што і я сам адчуваю або адчуваў, толькі выказаць не паспеў ці не змог… Потым вельмі ўзрадаваўся, калі й Барадулін пахваліў той самы верш, і наогул, твой поспех – гэта якраз тое, чаго я вельмі хацеў і што здарылася.

Сорамна мне было б рабіць Табе прызнанне ў каханні, я й не раблю яго, а пакуль што прызнаюся толькі ў адным: бачу ў Табе па-сапраўднаму прыгожага і добрага чалавека з характарам, у нечым сугучным майму характару (гэта калі не зважаць на пэўныя недахопы ў маім), і жаданне ў мяне адно: калі ты не супраць, будзем сябраваць проста як людзі, перапісвацца, а, можа, калі-небудзь і сустрэнемся. (Я ўпэўнены, што Ты зразумееш мяне, таму і пішу пра ўсё гэта проста і адкрыта).

Ці згодна Ты з маёй прапановай? Са свайго боку гарантую шчырасць і ніякай гульні ў флірт.

Мне таксама хацелася б ведаць, як Ты жыла і як жывеш, пра бацькоў, братоў, сясцёр. А таксама і тваю думку пра мяне, ці Ты верыш мне.

Калі будуць вершы, дасылай мне, калі пажадаеш, а я Табе – калі будзе сумна.

Мне здаецца, калі мы будзем сябрамі, мы гэтым у многім будзем карыснымі адно аднаму, а мне дык хоць жыць будзе весялей на свеце, пачну вучыцца жыць па-сапраўднаму і мэтанакіравана.

На развітанне заадно віншую Цябе з наступаючым Новым годам. Няхай прынясе Табе ён многа шчасця, цудоўных вершаў, далейшых поспехаў. І радасці – той, што будзе.

P. S. Даруй, калі што не так. Упершыню ў жыцці пішу пісьмо па-беларуску, а каб да дзяўчыны – дык, мабыць, ужо гадоў з дваццаць не даводзілася складаць падобных эпістул.

З радасцю чакаю Твайго адказу. З прывітаннем, Васіль.

А яшчэ (можа, я ўжо й замнога прашу?) калі не цяжка, вышлі мне, калі ласка, сваю фатакартку, якую-небудзь, маленькую, якая ёсць. Вельмі буду ўдзячны.

18 снежня 1986 г.

[На жаль, мой першы ліст да Васіля, відаць, не захаваўся, і наогул дрэнна захаваліся мае адказы на яго лісты на пачатку нашай перапіскі.

Калі мы пазнаёміліся, я працавала ў дзіцячым садку ў Гродна выхавацелем. А па адукацыі была настаўніцай рускай мовы і латаратуры. У той час існавала размеркаванне падрыхтаваных кадраў, згодна з якім я адпрацавала настаўніцай тры гады ў Шчучынскім раёне: два ў Каменскай сярэдняй школе і адзін у Багушоўскай базавай. Перавялася з сярэдняй

школы ў базавую сама, таму што ў 7 – 8 класах у мяне на ўроках была вельмі дрэнная дысцыпліна, а ў базавай школе (васьмігодцы на той час) былі значна меншыя класы і спраўляцца з падлеткамі для мяне было лягчэй. Я прасіла дырэктара каменскай школы, каб мне пакінулі толькі малодшыя класы – 4 і 5, але ён не задаволіў маю просьбу. Падчас майго звальнення завуч школы, якая лічыла мяне добра падрыхтаванай у адносінах методыкі выкладання прадмета і яго ведаў настаўніцай, сказала мне: "Ніколі не думала, што ў вас так востра стаіць пытанне <быць або не быць>". Але яно ў мяне стаяла менавіта так, бо рабіць што-небудзь дрэнна для мяне было вельмі сорамна, я тады была максімалісткай.

Адпрацаваўшы сваіх тры гады, я пераехала ў Гродна, бо ў той час, хоць вырасла я ў вёсцы, мне, як і большасці маіх равеснікаў, хацелася пражыць жыццё ў горадзе.

На працу ў школе ў той час была чарга ў райана, і я пайшла ў дзіцячы садок выхаваўцелем. Да таго ж школы я ўжо пабойвалася…

Відаць, пра гэта я пісала Васілю, а таксама пра свой залішне сціплы і баязлівы характар, які я вельмі не любіла і з якім змагалася ўсё жыццё. Напэўна, штосьці пісала я і пра вершы. Мае творы заўсёды былі ясныя па думках і пачуццях. А ў некаторых іншых аўтараў я чытала глыбокадумныя і яркія творы, глыбокая думка "я" каторых дасягалася налётам затуманенасці на іх, а яркасць – метафарычнасцю і асацыятыўнасцю. Мне вельмі хацелася навучыцца ствараць падобныя вершы. Магчыма, я разважала пра гэта ў сваім лісце да Васіля.

Да таго ж, калі я дасылала свае творы ў рэдакцыі розных газет і часопісаў, то ў адказ атрымлівала ў асноўным парады працягваць працаваць над імі. Друкавалі мяне даволі рэдка, і мне здавалася, што, калі б я навучылася пісаць "па-сучаснаму", то на мяне абавязкова звярнулі б большую ўвагу. На жаль ці на шчасце, не ведаю, але мне такія вершы аказаліся недаступнымі.]

**Ліст другі**

Добры дзень, Галя!

Не ведаю ўжо, як і дзякаваць за такое харошае пісьмо, якое я атрымаў ад цябе і за навагодняе віншаванне, якое таксама прынесла мне многа радасці.

Я разумею цябе і добра ўяўляю сабе твой душэўны стан, таму што і сам у свой час перажыў у некаторай ступені нешта падобнае. Але мне было ўсё ж лягчэй, чым табе, бо я ніколі не марыў і не збіраўся стаць настаўнікам. Займаўся на факультэце перакладчыкаў. Займаўся вельмі добра, але калі пачалася практыка (з 2-га курса) стала цяжэй. Па-першае, трэба было добра апранацца (у нас тады лічылася абавязковым для перакладчыкаў нават на заняткі хадзіць у белай кашулі з гальштукам). А ў нас была стыпендыя

тады – 28 руб., ад бацькоў з вёскі атрымліваў 5 – 10 руб. у месяц. Уяві сабе да таго маю сарамлівасць… А тут яшчэ трэба было якраз рыхтавацца да паездкі на паўгода на практыку ў ГДР, а зарабіць грошай не было дзе. Ну і я, у адчаі, насуперак усім парадам выкладчыкаў (бо я ўсё ж быў выдатнікам), я ўсё-ткі перавёўся на завочнае аддзяленне, але ўжо на педагагічны факультэт, бо для перакладчыкаў няма завочнага аддзялення. Папрацаваў трохі ў адной школе – прызвалі ў армію (служыў, між іншым, у Гродна), а пасля арміі здаў адразу ўсе экзамены (і па педагагічным дысціплінам таксама) за 4-ы курс і зноў пачаў працаваць з восені, ужо ў другой школе. У мяне не было ніякай практыкі, а ўрокаў далі многа (і ў 7-8 кл. таксама). Праводзіў па 8 урокаў у дзень. Я таксама ведаў, як цікава правесці ўрок па замежнай мове, ведаў методыку, рыхтаваўся старанна. А вось дысцыпліна… Сама разумееш: без яе ўрок правесці немагчыма. Да мяне не выказвалі прэтэнзіі ні завуч, ні дырэктар, але ж і дапамогі чакаць не было адкуль. Не было кватэры, начаваў у адной старэнькай бабкі ў вёсцы, пакуль яна не захварэла і сын яе не забраў да сябе ў горад. Вось тут я і прыняў “нулявое рашэнне”. Я не шкадую аб гэтым, шкадую, што не закончыў інстытут. Што не ўладкаваўся дзе-небудзь з веданнем замежных моў (а такія магчымасці ў мяне, напэўна, былі), а пайшоў назло ўсяму і ўсім на будоўлю. І працаваў гадоў з 14, нядрэнна засвоіў некалькі будаўнічых спецыяльнасцей. Але на будоўлі ўсё ж цяжка, ды зрэшты фізічная праца – усюды фізічная праца.

А ты… ты малайчына. І па-першае, у цябе яшчэ ўсё наперадзе, па-другое, ты і сама цяпер адчуваеш у сабе больш упэўненасці. Я веру, што ты сябе сцвердзіш у жыцці. Ты ўжо сябе сцвердзіла. Тое, што здарылася з табой, дужа не прымай да сэрца, такое здараецца часцей, чым ты думаеш. А наконт характара… Гэта мужчыне быць занадта сарамлівым (а па той прычыне часам і баязлівым) нельга. А сціплым і нават пяшчотным і яму можна. Толькі цвёрдым і сумленным пры сваёй сціпласці.

А ў цябе характар цудоўны. Такія, можа, сёння сустракаюцца рэдка, ва ўсякім разе мне, здаецца, не сустракаліся дагэтуль…

Будзем сябраваць, абяцаю, што гэта табе не пашкодзіць, а мне дык знаёмства з табой ужо нават азначыла нейкі пераломны момант у светаадчуванні, ды і ў жыцці наогул – да лепшага, светлага. Хто яго ведае, можа і я калі-небудзь стану сапраўдным паэтам, а ты будзеш маёй зоркай, калі нават і недасяжнай – усё роўна цудоўна.

“Асяроддзя” свайго я не баюся. Я так і не прызвычаіўся, напрыклад, да грубай лаянкі і т.п. Характару свайго ламаць не стаў, каб прыстасаваць яго да адпаведных умоў, і – дзякуй богу. Усе даўно прывыклі, што я “белая варона”, і таму ніхто ўжо не заўважае гэтага, наадварот, з цягам часу, здаецца, нават пачалі паважаць нават і ў гэтым асяроддзі, хоць я “не выбіўся ў людзі”.

Канешна, здаралася, і выпіваў і нават піў з роспачы (ілгаць табе не хачу). Марылася і аб каханні, але неяк не канкрэтна і сумна. Вось як у вершы “Сумны санет”, які я напісаў зімой мінулага года і якога табе

высылаю, каб не быць занадта шматслоўным у адлюстраванні “пакут свайго самотнага жыцця”. Не ведаю, што са мной, але цяпер мне не сумна і дзякуючы перапісцы з табой – не самотна.

А цяпер пра вершы. Не адзін я заўважыў, што ў сучаснай паэзіі занадта многа знешняга бляску, “бенгальскіх агнёў”, як пісаў нейкі крытык. Некаторыя, і нават многія, верш не лічаць вершам, калі ў ім няма нечага такога, каб адразу кальнула ў вока. Гэтыя вершы часта вельмі дасканалыя па форме, нават бліскучыя і арыгінальныя, але:

Верш прыгожы ўспыхнуў і згарэў
фейерверкам асляпляльных промняў,
і нікому сэрца не сагрэў,
і ніхто нічога не запомніў…
(гэта мае радкі).

Няма ў іх звычайнага пачуцця, часам мала і думкі. Тым не меней такія вершы адразу кідаюцца ў вочы пры няўважлівым іх разгляданні, як гэта і робяць, напэўна, у рэдакцыях.

Пішы, Галя, так, як пісала дагэтуль. Удасканальвай форму колькі хочаш, але каб твае вершы заўсёды, як і тыя, што чуў ад цябе, клаліся на сэрца мягка, а думкі і пачуцці, перажытыя ці ўяўна-перажытыя – шчырымі.

Па-мойму, гэта твой стыль, які адпавядае твайму характару – хоць я табе і не ўказ. Вер: у цябе талент, і талент цудоўны, бо шчыры, і не сумнявайся, што цябе зразумеюць і ацэняць. Дарэчы, чые гэта вершы былі апублікаваны ў Ліме перад Новым Годам? Прозвішча Самойла, імя не запомніў, і таксама з Гродна. Мабыць, нехта таксама з тваёй радні? Няўжо ў вас усе там – паэты і паэткі?

Шлі мне свае вершы, якія хочаш і калі хочаш, я буду рады, захаваю для сябе і не згублю ніводнага.

Слухаў наша выступленне па радыё. Вельмі мне не спадабаўся мой голас і вельмі шкадую, што не пазычыў у пляменніка магнітафон і не запісаў для сябе твой. Але нічога, голас твой помню, калі чытаю тваё пісьмо, быццам чую, як ён гучыць, а вось твар неяк смутна… толькі вочы і бровы, прыгожыя… (Прабач, гэта я ізноў наконт фота. Прышлеш – буду вельмі ўдзячны).

Пішы мне, калі ласка. Чакаю.

Будзь здаровай і – да пабачэння.

Вася.

10/I – 87 г. Маразы страшэнныя – беражы сябе.

СУМНЫ САНЕТ

Ноч пакінула цёмны закутак.
Ціха выпаўзлі прыцемкі з нор.
Надышоў шэры час шэрых сутак –
ані месяца ў небе, ні зор.

Сэрца ў роспачы млее: чаму так
цьмяна свецiцца вокнаў узор,
I чаму на заснежаны двор
шэрым iнеем лёг шэры смутак?

Неба – возера шэрай нуды –
нагрувасцiла снежных аблокаў.
Згасла рэха тваiх лёгкiх крокаў,
замятае завея сляды.

I здаецца, што ўжо назаўжды
твае вочы далёка-далёка.

**Лiст трэцi**

Добры дзень, Галя!

Дзякуй табе за тое, што ты адгукнулася на маё пiсьмо i напiсала мне гэтулькi добрых слоў у мой адрас. Аднак мяне пачынае непакоiць, чаму ад цябе так доўга няма адказу на другое маё пiсьмо. Дасылаў я яго на твой першы (вясковы) адрас, i цяпер хвалююся: можа, ты яго не атрымала, можа яно згубiлася або трапiла каму-небудзь iншаму ў рукi. Там я пiсаў табе трохi пра сябе (больш падрабязна), а цяпер толькi хачу спытаць, па якому адрасу табе больш зручна атрымлiваць пiсьмы ад мяне.

Яшчэ хачу ведаць, цi не выклiкалi цябе партыйныя органы, (калi ты таксама паставiла свой подпiс пад пiсьмом), i што табе гаварылi. Нас выклiкалi ў абкам, гутарылi.

У мяне ўсё добра. Цяпер я часова працую начным вахцёрам на прахадной цэнтральнай сядзiбы нашага саўгаса (або вартаўнiком). Тут заўсёды цёпла, работы нiякай, вельмi многа вольнага часу, маю магчымасць спакойна рыхтавацца да паступлення ў БДУ, хоць цвёрда яшчэ й не вырашыў: паступаць або не.

Не хвалюйся, калi ласка, i не перажывай, што першыя твае крокi ў настаўнiцкай дзейнасцi цябе расчаравалi. Мне здаецца, што ты пры жаданнi будзеш настаўнiцай, i настаўнiцай вельмi добрай, бо добрае маеш сэрца i светлы розум, i веды таксама. А з цягам часу станеш больш упэўненай у самой сабе. Акрамя таго, ты добры паэт. Дарэчы, напiшы мне, цi многа ты ўжо, дзе i калi друкавалася. Я дык толькi ў раёнцы ды некалькi вершаў у абласной газеце.

Прабач, што не дачакаўся твайго адказу i напiсаў табе зноў. Ведаеш, калi я цяпер, пасля першых уражанняў спрабую вызначыць для сябе, што галоўнае ў тым, што даў мне асабiста семiнар, дык падыходжу да высновы, што гэта было перш за ўсё знаёмства з табой. Бо хоць ты трошкi перабольшваеш, быццам зусiм нiхто мяне тут не разумее, але ў цэлым

маеш рацыю. Людзі адносяцца да мяне някепска, але сапраўдных сяброў, а тым болей сябровак, у мяне няма.

Пішы, калі ласка. А можа ты ўсё-такі атрымала тое маё пісьмо.

Паведамі, калі ласка, калі ў цябе дзень нараджэння.

Да пабачэння. 30/I – 87 г. Васіль.

[У наступным лісце я адказваю Васілю, што ў нашай радні толькі дзве паэткі, я і мама , таму што мой брат Валянцін пісаў вершы патаемна ад нас. Ён не ставіўся сур'ёзна да свайго таленту і не лічыў сябе паэтам. А талент у яго, па-мойму, быў вялікі. Мне ўсё ў жыцці давалася цяжкай працай: і вучоба ў школе (матэматыка, фізіка), і паэтычнае майстэрства. А яму – усё было лёгка. Вучыўся без напружання і вершы складаў без напружання, як птушка спявае. І з той жменькі вершаў, што ён запісаў, – усе дасканалыя. Даведаліся мы з мамай пра яго вершы ад ягоных сяброў і калег па настаўніцкай працы зусім выпадкова і якраз тады, калі задумалі выдаць сямейны зборнік. Відаць, так трэба было Богу, каб кніга па-справядлівасці называлася не "Сола двух галасоў", а "Сола трох галасоў".

Аднойчы я сказала Валянціну: "Напэўна, таму ты не можаш ці не хочаш спраўляцца са сваёй п'янкай, што табе ўсё ў жыцці было лёгкім, ты не прывык працаваць над сабой, чагосьці дамагацца". Ён згадзіўся: "Напэўна, так".]

Добры дзень, Васіль!

Прабач, што затрымалася з адказам. Справа ў тым, што я жыву і працую ў Гродна, дамоў прыязджаю толькі на суботу і нядзелю. У сувязі з маразамі некалькі тыдняў зусім дамоў не ездзіла, вось тваё пісьмо і заляжалася. Даваць свой гарадскі адрас таксама не хачу, таму што там я жыву то ў інтэрнаце, то ў рознай радні, карацей, дзе прыйдзецца.

У "ЛіМе" былі надрукаваны вершы маёй мамы. Яна вельмі просіць цябе, калі ёсць такая магчымасць, выразаць іх з газеты і прыслаць нам, бо недзе наша газета згубілася. Паэтаў і паэтак у нашай радні, на жаль, толькі дзве: яна і я.

Усе астатнія ставяцца да паэзіі як хто: адны захапляюцца, другія пасмейваюцца (практыкі). Пасля таго, як для мяне больш-менш рэальным стаў зборнік, практыкі пачалі падлічваць, колькі ж грошай я атрымаю і, здаецца, прасякнуліся павагай.

Няўдачы свае розумам я не перабольшваю, а сэрцам не заўсёды магу кіраваць, нападае туга, і тады, пакуль не перахварэю, не супакоюся. Кепска, што ні да чаго ў жыцці я не ўмею ставіцца лёгка і проста, усё ўспрыймаю глыбока. І ва ўсім вінавачу сябе, калі штосьці не так, як трэба. Але ў асноўным пераадольваю сябе. Мне вельмі падабаюцца словы Марыі Складоўскай-Кюры: "Чалавек павінен верыць у тое, што ён чагосьці варты

на гэтай зямлі, і гэтага чагосьці ён павінен дамагчыся, чаго б яму гэта ні каштавала”. У мяне ёсць талент, я ў гэта веру. Крыўдна толькі, што сілы, якія можна было б укласці ў творчасць, даводзіцца затрачваць на “прапіхванне” твораў. Але ж можа гэта і справядліва: калі ты талент, даказвай гэта кожны дзень; з болем, з пакутай – даказвай, адстойвай сваё права пісаць. Нездарма ж Быкаў Васіль сказаў, што таленту мала, і працы мала, патрэбен яшчэ і характар, каб сцвердзіць сябе.

Мне здаецца, Васіль, што ты дарэмна сябе прыніжаеш, называючы мяне сваёй “недасяжнай зоркай”. Ты чалавек вельмі таленавіты, вельмі здольны. І мне, і маім бацькам вельмі спадабаўся дасланы табой верш. Ты абавязкова павінен сабраць свае вершы, дапрацаваць, дзе што не так і выдаць іх. І ці не здарыцца так, што будзеш недасяжнай зоркай для мяне?

Я нядаўна напісала верш. Мае бацькі чамусьці лічаць яго мудрагелістым. А мне ён зразумелы…

Я пяшчотай сваёй захлынуся.
Я парэжуся ёй, як лязом.
Акрываўлюся, і рвануся,
І стамлюся, і стану слязой.
    Паглядзі: я цяпер без колераў,
    Я з душой, дагала раздзетаю.
    А не ўбачыш, дзе сорам, дзе гонар мой,
    Дзе я простая, дзе я з сакрэтамі.
Пакаштуй: я цяпер салёная.
Непрыемная я, гаркавая,
Я на смак як гора з праклёнамі,
Не зап’еш маю горыч каваю.
    Дакраніся: цяпер я мокрая.
    Я на ўсім сляды пакідаю.
    Не загоіш мной рану: я вострая,
    І не зловіш: праз пальцы ўцякаю.
Я няўвагай тваёй захлынуся.
І зраблюся тваёю слязой.
Ты заплачаш, а я не прал’юся.
Я ў табе варухнуся лязом.

Пішы, калі ласка. Да пабачэння. Галя.

**Ліст чацвёрты**

Добры дзень, Галя!

Прабач, што не дачакаўся адказу, вырашыў напісаць да цябе па твайму гарадскому адрасу, які быў на канверце (Азёрскае шасэ і г.д.). Шкада, калі

пісьмо не трапіць у твае рукі, але нічога страшнага, ліст быў кароценькі, пісаў я толькі, што цяпер для мяне асабіста знаёмства з табой здаецца, бадай, самым галоўным з усяго таго, што даў мне семінар, і яшчэ пытаўся, ці не выклікалі цябе для гутаркі наконт пісьма ў ЦК.

Не знаходжу слоў, каб выразіць табе сваю ўдзячнасць за фотакартку. Буду берагчы яе і нікому не паказваць без патрэбы, хоць можа, хто-небудзь іншы на маім месцы часам і не ўтрымаўся б, каб не пахваліцца перад сябрамі, што знаёмы з паэтэсай, а яна акрамя таго яшчэ бачыце, якая прыгожая! Дарэчы, ты маеш рацыю: сяброў у мяне тут сапраўды няма, дый разумення ў цэлым таксама не знаходжу. Але затое з табой цяпер я магу заўсёды адкрыта пагаварыць пра ўсё самае набалелае і параіцца, калі ў гэтым будзе патрэба. А галоўнае, часам проста хочацца адчуць і ўпэўніцца, што не адзін ты на свеце думаеш, напрыклад, так, а не гэтак, пачуць добрае слова ў падтрымку ад чалавека, які цябе разумее.

Таму я цяпер часам адчуваю сябе амаль шчаслівым чалавекам, як ніколі дагэтуль, здаецца. Акрамя таго, усё тое, што адбываецца сёння ў грамадстве наогул, радуе мяне надзвычайна. Весялей стала жыць, вальней дыхаць. Быў час, калі я ледзь не страціў усялякую веру ў праўду і справядлівасць (між іншым, як і мільёны іншых). Быў час, калі й жыць не хацелася. Але гэта ў мінулым…

Ведаеш, Галя, я ў свой талент не дужа веру. Можа і надрукую калі-небудзь сваю кніжку (чаму не?), але наўрад ці паспею зрабіць многа: занадта позна пачаў. Таму хочацца, каб кніжка была добрая ва ўсіх адносінах і каб усё тое, што будзе надрукавана, было дасканалым, па-магчымасці, вядома. Таму цяпер я кожны свой верш, здараецца, перарабляю па некалькі разоў і не спяшаюся публікаваць. Тыя вершы, што я прывёз на семінар, сёння шкадую, што аддаў. Некаторыя з іх ужо перарабіў, іншыя зусім забракаваў. У мяне ёсць каля ста вершаў. Гэтага мала. Друкаваўся толькі ў раённай ды некалькі разоў у абласной газетах. У студзені напісаў вянок санетаў (!), спачатку здавалася вельмі добра, а праз колькі дзён захацелася, як звычайна, шмат чаго ў ім перарабіць, а гэта цяжка і зацягнецца, відаць, надоўга. Нікому не паказваў, але табе, калі табе цікава, буду высылаць потым, па частках.

Напішы мне, калі ласка, ці даўно ты пішаш, дзе ўжо і калі друкавалася, што табе казаў Барадулін тады, у апошні вечар у "Іслачы".

Дзякуй за верш. Ён сапраўды атрымаўся ў цябе крыху "мудрагелісты", але мне здаецца, я яго зразумеў, як трэба. Шкада, не ўсё ў ім пакуль што добра: па-мойму, замнога жорсткасці, выкліку. Акрамя таго, згадзіся: першы радок чацвёртай страфы ("Дакраніся…" і г.д.) без спецыяльнага ўдакладнення дзеючай асобы (сляза ці аўтар?) можа вызваць смешныя асацыяцыі. Ты, калі ласка, пакуль што не пасылай гэты верш нікуды, папрацуй яшчэ над ім, ён таго заслугоўвае. Некаторыя радкі проста цудоўныя ("Пакаштуй: я цяпер салёная, непрыемная я, гаркавая…" (сляза), або: "… і не зловіш: праз пальцы ўцякаю…").

Даруй мне, Галечка, і не крыўдуй, калі ласка. Я не крытык і мог бы не

выказваць гэтых заўваг, калі б быў абыякавы да цябе, тваіх вершаў, як і наогул, да твайго лёсу. Але ж, як кажуць, сапраўны друг не той, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа. А я па-сапраўднаму веру ў твой талент, таму можа і больш патрабавальна стаўлюся да тваіх вершаў, чым ставіўся б да іншых. Напішы, ці згодна ты са мной у гэтым.

Перадавай маё прывітанне маме, яна ў цябе, відаць, слаўная. Добрага ёй здароўя і дзякуй.

У мяне засталася толькі маці, старая ўжо… і амаль непісьменная. Бацька памёр. Ёсць яшчэ два браты, старэйшыя, жывуць з сем'ямі адасоблена. Для іх я – ніхто, бо яны, на жаль, усе "практыкі" (не ў лепшым сэнсе гэтага слова, вядома).

Паведамі, калі ласка, калі ў цябе дзень нараджэння.

А вось верш, якому, як я лічу, яшчэ далёка да дасканаласці, але ўсё ж…

Не пазірай
на захад сонца з жалем.
Вер: наша радасць
нас не абміне.
Надыйдзе ноч –
сваё святло запалім:
лучынку,
свечку,
лямпачку ў акне.
І радасць будзе
ад таго не меншай,
калі да нас яна –
хай праз гады –
а ўсё-ткі
завітае на агеньчык
з тым, каб ужо застацца
назаўжды.

Пішы, калі ласка. Чакаю.

8/II – 87 г. Да пабачэння. Васіль.

P. S. А ўсё ж ты будзеш маёй недасяжнай зоркай, бо як жа чалавеку жыць без зоркі? Per aspera ad astras, як кажуць (да зор праз пакуты!).

[Тут ізноў няма майго ліста. Магчыма, я давала ў ім адказ на пытанне Васіля, ці выклікалі мяне ў партыйныя органы для гутаркі пасля паездкі ў "Ісլач", дзе мы напісалі калектыўны ліст у ЦК партыі аб стане беларускай мовы ў нашай рэспубліцы. Мяне выклікалі ў абкам партыі. Гутарылі. І я плакала там. Пасля ў мяне пытаўся тагачасны старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, спадар Аляксей Карпюк, чаго я плакала. Усе падумалі – таму, што раскаялася, навошта паставіла свой

подпіс пад пісьмом. А на самай справе я плакала ад таго, што са мной размаўлялі вельмі груба. Гэта цяпер я магу "трымаць удар" грубасці, магу і адказаць на яе. У той час я не пераносіла грубасці зусім, магла, напрыклад, заплакаць у магазіне ад грубага тону прадаўца.

Мяне тады запрашалі прыходзіць у абкам са сваімі літаратурнымі праблемамі, але я не хадзіла ніколі з-за той сваёй першай "грубай" сустрэчы з імі.

Загадчыца дзіцячага садка, сёння ўжо нябожчыца, Клаўдзія Пятроўна, у хуткім часе пасля майго выклікання у абкам падышла да мяне і сказала: "Ужо некалькі разоў званілі з абкама партыі і пыталіся, чаму і навошта вас узялі на працу ў наш дзіцячы сад? Але я не веру, што гэта з абкама партыі. Напэўна, гэта нехта з вашых знаёмых жартуе…" Я прамаўчала ў адказ, нічога не тлумачыла ёй, а пра маю "літаратурную дзейнасць" яна нічога не ведала.

З працы ў садку мяне ніхто не звальняў, я сама пайшла адтуль летам, пасля адпачынку. Мне былі тады зусім незразумелымі малыя дзеткі, да таго ж я ніколі не мела здольнасцяў да танцаў, спеваў, выкананняў розных акцёрскіх роляў, таму гэтая праца была "не мая".]

**Ліст пяты**

Добры дзень, Галя!

Не трэба прасіць у мяне прабачэння за затрымку з адказам. Вядома, мне заўсёды цікава і радасна атрымліваць ад цябе пісьмы, але не лічы для сябе, калі ласка, нейкім няўхільным абавязкам рэгулярнасць нашай перапіскі, інакш яна можа здацца вымушанай. Зрэшты, я добра ўсведамляю і тое, што ў выніку пэўных змен у тваім асабістым жыцці можа некалі здарыцца, што перапісвацца табе са мной стане няёмка і непажадана. Тады папярэдзь мяне, калі ласка, я не пакрыўджуся. Буду сачыць за тваім творчым лёсам здалёк, па-ранейшаму з цікавасцю і захапленнем. А пакуль што – пішы мне, калі ласка, калі адчуваеш у гэтым <u>патрэбу</u>, настрой або неабходнасць выказацца.

Тваё разважанні наконт цвёрдасці характару прымусілі мяне яшчэ раз упэўніцца ў тым, што часам мне яго, на жаль, якраз і не хапае. Асабліва злуюся на сябе за тое, што згадзіўся выступіць па тэлебачанні, нягледзячы на тое, што сцэнарый выступлення быў складзены неахайна, вершы не лепшыя ды і я сам быў непадрыхтаваны (пасля начнога дзяжурства, выгляд быў хворы і г.д.). І вось, нягледзячы на ўсё гэта, я ўсё-такі згадзіўся, не адмовіўся, каб не падводзіць тых, хто рыхтаваў перадачу. А ў выніку атрымалася ўсё бязглузда і, мякка кажучы, нецікава.

Напэўна, у кожнага ў жыцці ёсць моманты, пра якія ўспамінаць непрыемна. Для мяне гэта якраз той выпадак. Але затое добры ўрок на будучае. Цяпер я больш насцярожана стаўлюся да людзей, бо падазраю

нават, ці не было тое выступленне наўмысна падрыхтавана не на маю карысць? Хто ведае. Ва ўсякім разе нельга быць неабачным, і ва ўмовах кан'юнктуры не разлічваць на дабрачыннасць мала знаёмых людзей, нават калі яны паэты – якіх ёсць і будзе процьма. Якім усімі праўдамі і няпраўдамі пашанцавала апублікаваць адну ці дзве кніжкі. Якія паспелі пераканаць сябе, што паэтычная творчасць – адзіны сэнс іх жыцця, а цяпер бачаць, што гэта не так, пакутуюць, зайздросцяць, а самі шэдэўраў ствараць ужо не могуць, а выратаваць можа толькі шэдэўр… Небяспечныя людзі, вартыя жалю. Баюся трапіць у іх лік, вось адкуль мая няўпэўненасць у сваіх творчых здольнасцях. Вось чаму я не спяшаюся выходзіць (тым болей сілком ірвацца) у шырокі свет. І гэта ўжо не ад мяккасці характару, як бачыш, а таксама хутчэй за ўсё ад гордасці, якой і ўва мне заўсёды хапала. (Бо чым жа яшчэ растлумачыць той хоць бы факт, што маючы ўсе магчымасці ўладкавацца на лепшую работу, я выбраў горшую і ўсё жыццё спрабую сцвердзіць тую простую ісціну, што сапраўдная годнасць чалаека не залежыць ад знешніх умоў?)

Хачу удакладніць, у якім сэнсе я ўжыў тэрмін "недасяжная зорка", маючы на ўвазе цябе.

Па-першае: за апошні час я прачытаў вельмі многа вершаў розных вядомых і невядомых дагэтуль мне аўтараў. Міжволі прыходзіцца параўноўваць, аналізаваць… Твае вершы мяне ўразілі і ўражваюць паранейшаму, іншых аўтараў лёгка забываюцца, а твае заўсёды пакідаюць след…

Чаму – сам хачу зразумець. Можа, я надта суб'ектыўна стаўлюся да іх, а можа і сапраўды тут закладзена нейкая сіла пранікнёнасці… Адным словам, яны мне падабаюцца, і мне хацелася б самому навучыцца гэтак пісаць, але ведаю ўжо: ніколі не атрымаецца. Лірычныя вершы ў мяне наогул слабыя.

Па-другое: ты мне падабаешся як чалавек, у многіх адносінах з якога можна браць смела прыклад: адкрыты, смелы, сціплы і г.д. Спалучэнне ўсіх тых рыс, якія я цаню ў чалавеку, але рэдка сустракаю.

Па-трэцяе: у кожнага мужчыны, нават у тых, хто наогул расчараваўся ў жанчынах (ёсць і такія), мне здаецца, павінен быць нейкі ідэал жанчыны, якому адпавядае канрэтны вобраз у жыцці. Хай сабе гэта і "недасяжная зорка", але шлях паказвае правільны… Дарэчы, а як ты, напрыклад, ставішся да кахання, якому не суджана здзейсніцца? (Здараецца ж) Ці мае яно права на існаванне?

(Даруй, вучнёўскае пытанне – адказваць не абавязкова).

Доўга думаў наконт таго, ці варта мне паступаць вучыцца. Ну, паступлю, а што далей? Шукаць месца ў школе? Гэта я мог бы і цяпер паспрабаваць, паперкі ж сякія-такія ёсць. А пяць ці шэсць гадоў – гэта маладому толькі лёгка сказаць… А беларускую мову я можа й сам з цягам часу вывучу як след, абавязкова вывучу. Падумаю яшчэ…

Дарэчы, напішы мне, ці многа я раблю памылак (пунктуацыя, арфаграфія – гэта яшчэ не самае галоўнае, а так, наогул).

Дзякуй табе за верш. Прачытаў твае надрукаваныя вершы, якія знайшоў. Што падабаюцца, я ўжо казаў.

Фотакартку я табе абавязкова вышлю, толькі пачакай крыху. Цяпер якраз у мяне няма, бо даўно ўжо не фатаграфаваўся, а гэтак праз тыдні два, добра?

Не крыўдуй, калі ласка, калі што не так. Настрой у мяне ў апошні час бывае не з лепшых. Ніводнага нават верша не напісаў. Поспехаў табе і добрага настрою.

Да пабачэння.

4/III – 87 г. В.

[Наступны мой ліст, напэўна, адсканіраваны не цалкам. Пачынаецца старонка без майго звароту да Васіля. Трэба запытаць у спадара Леаніда Галубовіча яшчэ раз, бо некаторыя лісты ён адсканіраваў па два разы. Магчыма, заблытаўся трохі.]

Добры дзень, Васіль!

Не ведаю, ці трэба табе паступаць у інстытут. Нічога асаблівага ён табе, я ўпэўнена, не дасць. І беларускую мову ты там не вывучыш. Я яе таксама не ведаю добра, карыстаюся слоўнікам. Я дык цяпер ужо нікуды не паступала б. А ў сучаснай школе працаваць вельмі складана. Трэба мець каменныя нервы. Мае бацькі абое не дарабілі да пенсіі, пайшлі па хваробе на 40% заўчасна. Думай сам. А памылак ты не робіш, ва ўсякім разе я не знайшла ніводнай.

Хачу яшчэ з табой параіцца. У мяне ёсць верш, які я напісала ў 8-м класе – “Бывай, дзяцінства”. Бацькі кажуць, што яго можна ўключаць у зборнік. А як лічыш ты?

Зноў капяжы ля хаты зазвінелі,
У лесе першыя пралескі зацвілі.
А годы нашага дзяцінства паляцелі,
Як быццам восенню у вырай жураўлі.
А мы адлёт іх непапраўна праглядзелі,
Мы не заўважылі хвілін тых або дзён.
Рукою нават памахаць ім не паспелі
І не паслалі развітання наўздагон.
Яны на крылах жураўліных не вярнуцца,
Ў суровай вечнасці не выпрасіш ключы.
Як будзе цяжка, мы ж захочам азірнуцца,
У абароненасць дзяцінства уцячы.

Хацела яго крыху перарабіць, скараціць у, нічога пакуль што не атрымліваецца.

Добрага табе настрою, Васіль!

Не губляй яго, калі ласка. Ты вельмі добры, разумны, шчыры чалавек. А гэта – самае галоўнае ў жыцці. Дасылай свае вершы, асабліва хацелася б пачытаць твой “Вянок санетаў”.

Пішы. Да пабачэння.

Галіна.

10. III – 1987 г.

**Ліст шосты**

Добры дзень, Галя!

Прабач, калі ласка, што затрымаўся з адказам. Не таму што быў у дрэнным настроі: такое пісьмо, як ты мне напісала, можа нават чалавеку і ў вялікім горы вярнуць добры настрой. А якое ж у мяне гора? Але дзякуй табе, яшчэ і яшчэ раз дзякуй. Як ты ўсё добра разумееш, нават тыя мае думкі, якія я не рашаюся выказаць адкрыта! Што ты перабольшваеш пазітыўныя якасці майго характару – гэта нічога: усё-такі прыемна, і акрамя таго нясцерпна хочацца сапраўды быць такім: разумным, шчырым, добрым чалавекам. А цябе я ніколькі не ідэалізую. Кажаш, мала ведаю цябе… Але ж я цябе адчуваю. Дый таго, што пра цябе ведаю, дастаткова, бо ведаю я самае галоўнае. І калі ўжо быць шчырым і адкрытым да канца – люблю цябе, проста люблю, і гэтага не можаш забараніць нават ты. Дый навошта забараняць? Я гавару пра любоў, але маўчу пра каханне, хоць шчыра кажучы… Зрэшты, любоў можа існаваць і без кахання, а вось каханне без любові – не бывае сапраўднага. Я пра гэта думаў усе гэтыя дні. Ты разумная, і я ўпэўнены, што зразумееш мяне правільна: я ніякім чынам не парушу твае жыццёвыя планы, каб наблізіць іх да сваіх. І калі мне хочацца стаць лепшым, як быў дагэтуль, дык гэта “вовсе не затем, чтоб ты меня любила, просто потому, что я тебя люблю». Адно, чаго прашу, дык гэта каб сяброўскія адносіны паміж намі працягваліся сапраўды, як і дагэтуль. А найвялікшае маё жаданне – каб ты была шчаслівай у жыцці. У гэтым я здолею і для сябе знайсці долю сапраўднага, хай сабе і крыху засмучанага, шчасця.

Ну вось – dixi, et animam levavi (сказаў і аблегчыў сабе душу). Прабач мне. Не паказвай гэтыя радкі бацькам, калі ласка. Бо напэўна, смяяцца будуць.

Мара мая – сустрэцца з табой, пабачыць цябе. Калі б ты згадзілася, я прыехаў бы ў дамоўлены дзень ці ў Гродна, ці ў вёску, хоць на гадзінку ці на некалькі гадзін. Гэтак у канцы мая або ў чэрвені. Лепей у вёску, бо прырода і ўсё… Але ж на гэта трэба згода тваіх бацькоў. Дарэчы, у мяне 18 мая дзень нараджэння, а я ўжо некалькі год адзначаў яго без сяброў. Напішы, калі ласка, што ты думаеш наконт усяго гэтага.

Я таксама да гэтага адзін раз здымаўся на абласным тэлебачанні. Але

тады было ўсё інакш. І таксама перадачу рыхтавалі брэсцкія паэты – А. Каско і М. Пракаповіч. Пракаповіч мне чамусьці не падабаецца. А зрэшты я яго мала ведаю. Дый хопіць пра гэта.

Сярод нашых паэтаў ёсць адзін толькі чалавек, якму я магу даверыцца ва ўсім. Гэта карэспандэнт нашай раёнкі Васіль Сахарчук. Мы ездзілі разам на семінар, ён як перакладчык. Можа, помніш: чарнявы, з вусікамі. Спачатку ён быў мне ў многім настаўнікам, а цяпер чамусьці вырашыў, што я ўжо і так дастаткова адукаваны, і ў вершах маіх, якія аддае ў друк (ён кіруе літаб'яднаннем пры рэдакцыі) не кране нават знакаў прыпынку, хоць у пунктуацыі я яшчэ "плаваю". Твае вершы яму таксама падабаюцца, але ён спачатку захапіўся В. Куртаніч, нават надрукаваў у газеце два яе вершы, якія – не пачутыя, а прачытаныя з паперы – уразілі мяне значна менш. Дарэчы, у мяне ёсць адрасы і Куртаніч, і Марціновіч. Але пісьмаў я да іх не пішу – дый навошта? Замужнія жанчыны, розныя людзі. Павіншаваў толькі абедзвюх з Новым Годам. Куртаніч прыслала ў адказ паштоўку.

Ты мне бліжэй яшчэ і таму, што мова ў нас і на Гродзеншчыне хоць і адрозніваецца ў вымаўленні, затое ў лексіцы амаль супадае. Я пачаў вывучаць (для сябе) дыялектныя асаблівасці беларускіх гаворак і знайшоў многа таму пацверджанняў. А можа я й памыляюся, можа зноў гэта суб'ектыўны падход.

Калі-небудзь сустрэнемся – пачуеш, як у нас гавораць, ад мяне. Пісаць нельга – атрымаецца па-украінску з памылкамі.

Твой верш для васьмікласніцы здаецца занадта добры. Бачыш: талент прасвечвае і ў такім просценькім вершы. Сам не ведаю, ці ўключаць табе яго ў зборнік. Ва ўсякім разе скарачаць там нечага, а паправіць трэба. Напрыклад, тое слова, што мы "кідаем наўздагон". Але калі цяжка, не муч сябе – за гэты час напішаш другі верш. Мне цяжка адшукваць твае надрукаваныя вершы. У "Работніцы і сялянцы" знайшоў. У бібліятэцы падшыўкі не захоўваюцца. Таму дасылай мне, калі ласка, колькі зможаш. Я таксама буду. І ў гэтым пісьме дасылаю табе некалькі розных вершаў.

Да пабачэння.

Зноў буду чакаць твайго пісьма, як свята. А "Вянок санетаў" я пакуль што дарабляю. Бачу, што атрымаецца, таму стараюся давесці да кандыцыі.

24/ІІІ – 87 г. Васіль.

Гэты верш слабенькі – не звяртай на яго ўвагі.

***

Не ў тым бяда твая, паэце,
што змалку гора не спазнаў –
затое ў душным кабінеце
гарбеў над вершам дапазна.

Ты завіхаўся, не лайдачыў,
але – дый то не без прыўкрас –
заўжды адзін бок праўды бачыў,
звычайна той, што напаказ.

А сейбіт не паўпраўды прагне.
Яму няпроста дагадзіць.
Табе, бач, поле хлебам пахне,
яму арганікай смярдзіць.

Далёка не адно і тое ж –
на яве бачыў ці прысніў.
Чаго не ведаеш, не ўтоіш…
Дый не дарос ты да хлусні.

Аднак за тое жалю варты
(каб слова горшага не ўжыць),
што сам не знаў жыццёвай праўды,
а ўсіх вучыў, як трэба жыць.

(Той верш, што на адваротным баку гэтага ліста, калі ласка, нікому не чытай. Я яго дасылаю табе, каб ты ведала, што не толькі Вольга Куртаніч, але і я магу пісаць крыкліва, злосна і рэвалюцыйна. Напісаў яго пад уплывам верша Панчанкі “Труба”, змешчанага ў адным з нумароў “ЛіМа” за студзень. Чытаю сярод рабочых, калі ў адпаведным настроі. Рэдакцыя не возьме: перабольшана, сустракаюцца русізмы і г.д. Ды і сам не хачу)

***

Народ мой, няўжо ты навечна запрогся
ў ярмо дармаедаў, дзялкоў і хапуг?
Твой лёс вырашаюць – цябе не запросяць.
Куды табе! Гэта ж выбраннікаў круг.
Выбраннікаў тых, што паселі на карку
і душаць, ды так, што аж стогне зямля.
І ў голас у п’яным застоллі пад чарку
смяюцца, што рукі твае ў мазалях.
Прывыклі: на ніве дзяржаўнай пасуцца.
Дапалі да ўлады… Ты мне – я табе.
Махлярства… Карупцыя… П’янства… Паскудства…
Няўжо не адчуў ты на ўласным гарбе:
разбэсціла душы мараль спажывецтва
(Вучыся, сынок, не рабіць – зарабляць),
начхаць ім на праўду, на лёс чалавецтва…
Упартыя – пойдуць на ўсё з-за рубля…
Народ мой! Ты горшыя вынес пакуты,

аднак не скарыўся і ў чорныя дні.
Няхай мне не кажуць: народ мой сапсуты
дзесяцігоддзямі звыклай хлусні:
хто з вогнішча выйшаў, галодны і босы –
не веру, каб чыстай душу не збярог.
“Бі ў барабан і нічога не бойся”, –
хай лозунгам будзе тваіх перамог.

(Бацькам можна прачытаць гэты верш толькі ў тым выпадку, калі ты ўпэўнена, што яны не напужаюцца).

**Роднае дрэва**

Вунь лісцік на дрэве – ахоплены тлом,
Гарыць-дагарае апошнім святлом
і хутка на дол разам з іншымі ляжа.
Гуллівы вятрыска яму так і кажа:
“Гляджу на цябе, і шкада мне да слёз:
кароткі твой век і трагічны твой лёс”.
А той у адказ яму шэпча: “Не трэба
мяне шкадаваць. Кінь свой позірк на дрэва –
я разам з братамі яго ўзгадаваў:
лавіў промні сонца – яму аддаваў,
сцярог яго гонар ад хцівага вока.
І роднае дрэва ўзнялося высока,
і роўных яму сярод роўных няма…
яму я жыцця свайго скарб нездарма
дарэшты аддаў, калі сам быў зялёны:
хай заўтра я згасну, як згаслі мільёны,
хай кропелькай сонца згублюся ў траве –
мне ў памяці жыць, пакуль  дрэва жыве.

**Прыгожы верш**

Верш прыгожа ўспыхнуў, і на крок
змрок спалохана падаўся ўбок,
свет набыў дзівосныя адценні,
але толькі на адно імгненне:
верш прыгожа ўспыхнуў і згарэў
фейерверкам асляпляльных промняў,
і нікому сэрца не сагрэў,
і ніхто нічога не запомніў.

***

Разлілася зара –
і ў паўнеба не ўмесціцца.

Адгуляла завея.
Сціх вецер калючы
І ўзыходзіць такі вастразубы серп месяца,
што аж нават вачам ад яго – балюча.
Снег звініць пад нагамі. Па сцежцы ўтаптанай,
як па струнах напятых ідзеш, і здаецца,
быццам кожны ў завулку твой крок апантана
гулкім рэхам аб шыбы прамёрзлыя б'ецца.
Белай парай з грудзей тваіх рвецца дыханне.
Вусны, твар казытліва халодзіць паветра.
Быццам, зноў малады, ты ідзеш на спатканне –
гэтак хораша ў думках, спакойна і светла.
І прыемна ўявіць: поўня ў небе, як люстра,
залівае блакітным святлом наваколле,
а ты крочыш і крочыш каханай насустрач,
курс узяўшы на зорку ў заснежаным полі.
О, зімовая даль! Пах смалістай яліны,
цеплыня тваіх рук і пунцовыя шчокі…
Не адны толькі ў сэрцы жывуць успаміны,
калі гэтак нас вабіць яшчэ
свет шырокі.

P.S.

Фота прыдзецца яшчэ пачакаць. Мне ж усё-ткі хочацца хоць крышку падабацца табе і знешне таксама. Але й маладым выглядаць на старых сваіх фатаграфіях таксама не хачу.

Васіль.

**Ліст сёмы**

Добры дзень, Галя!

Прабач мне, але я так і не дачакаўся адказу на сваё пісьмо, якое паслаў у той жа дзень, як і бандэроль. Чаму, не ведаю. Можа ты яго не атрымала, а можа я не атрымаў твайго. Тады, мабыць, ёсць нехта зацікаўлены ў тым, каб мы не перапісваліся. А можа ты перадумала? Усякія думкі лезуць у галаву. Пісьмо тое было напісана шчыра і адкрыта. А можа ты пакрыўдзілася, што я напісаў, што люблю цябе, даючы зразумець, што на каханне не разлічваю (розніца ўзростаў). Ці можа вершы мае табе не спадабаліся? Яшчэ я пісаў, што мару ўбачыцца з табой, прыехаць калі-небудзь да цябе хоць на некалькі гадзін у вёску, калі ты згодна. Вельмі шкада, калі ты не атрымала таго пісьма. Не ведаю нават, што ты ў такім разе пра мяне падумала.

Што б там ні было, прашу цябе, напішы мне, калі ласка, хоць адно яшчэ пісьмо. Адкажы на мае пытанні. Твае пісьмы былі заўсёды вялікай падтрымкай. І акрамя таго мне неяк не верыцца, што ты магла спыніць перапіску пасля таго, як упэўніла мяне ў сваёй зацікаўленасці ёю.

Стаміўся чакаць, але ўсё роўна буду чакаць. Хоць некалькі радкоў, калі ласка.

16/IV – 87 г. Васіль.

Добры дзень, Васіль!

Па лесе росным
Брыду ігліцай, імхамі.
Даруй, мой родны,
Я цябе не кахаю.
Я злая, мусіць,
Цябе пакрыўдзіла горка.
Дажджу малюся,
Палянам, дрэвам, узгоркам.
Ім усё роўна…
І боль сумлення сціхае.
Даруй, мой родны,
Я цябе не кахаю…
Кажу запозна.
Ты мне не верыш упарта,
То шлеш пагрозы,
То пераходзіш на жарты.
Рукой халоднай
Разлука ўдалеч махае.
Даруй, мой родны,
Я цябе не кахаю.

Гэты верш напісаны мною не цяпер, і не пра нашы з табою адносіны, але ж да нас ён таксама падыходзіць, асабліва тры першыя куплеты. Я атрымала два тваіх пісьма і бандэроль. За бандэроль вельмі ўдзячная табе. Я люблю творы М. Багдановіча. Мне здаецца, гэта адзіны паэт на Беларусі, паэтычнае майстэрства якога ўзнялося да сусветнага ўзроўню.

А вось адказаць на пісьмы было вельмі цяжка. Я ставілася да цябе як да сябра, як да старэйшага брата, як да добрага чалавека. А ты ўсё часцей і часцей узнімаеш тэму кахання. Што можна адказаць на такое пісьмо, якое ты мне даслаў? Або прызнацца табе таксама ў каханні, або парваць усялякія адносіны. Не магу ж я рабіць выгляд, што нічога не разумею і здзекавацца над табою. І адказаць на твае пачуцці таксама не магу. Не таму, што ты старэйшы за мяне. Калі б ты быў маім равеснікам, я напісала б табе тое ж самае. Проста я кахаю другога. Ці кахаю, ці болей прывыкла

да яго, я яго даўжэй ведаю, часцей з ім сустракаюся.

Я разумею, што гэтым пісьмом зраблю табе балюча. Але ж як зрабіць інакш? Будзь, калі ласка, Васіль, не толькі рамантыкам, але і рэалістам, і філосафам. Прыязджаць да нас пакуль што не трэба. Магчыма, сустрэнемся пасля. А пісаць? Часам узнікае неабходнасць падзяліцца думкай, крыўдай, вершам. Не трэба толькі пра каханне да мяне. Не прымушай мяне іграць ролю каварнай сірэны.

Вершы твае добрыя. Чытала ўсе бацькам. Ім таксама спадабаліся.

Да пабачэння.

28. IV - 1987г. Галя.

**Ліст восьмы**

Добры дзень, Галя!

Дзякуй табе, што ты мне ўсё-такі напісала. Я ніколі на цябе не крыўдую. Было трошкі крыўдна, калі ад цябе не было пісьмаў, бо я не мог нічога зразумець. Ты, як заўсёды, маеш рацыю, і я з табою павінен згадзіцца. Сапраўды, часам я перастаю быць рэалістам і “філосафам”, калі мне хочацца нейкім чынам уздзейнічаць на рэальнасць, паправіць яе так, каб яна была больш падобна да ідэальнай. Але ўмею нарэшце і спахапіцца і не пакутаваць ад непазбежнага расчаравання. Але ж і ты не павінна была сумнявацца ў самых добрых маіх намерах. Зрэшты, давай сапраўды не нагадваць адзін другому пра гэта. Дзякую табе за далікатнасць, ты ж магла б і пасмяяцца з мяне, і пакпіць. Але гэтага не зрабіла. Таму акрамя ўдзячнасці ў адносінах да цябе я нічога іншага не адчуваю і не павінен адчуваць.

Рады, што табе спадабалася кніга. Але радок прысвячэння (ад рукі) прашу выкрасліць, бо ён цяпер ужо не мае сэнсу нават таго, што меў.

Ведаеш, Галя, я раней думаў калі-небудзь сабраць і адаслаць табе ўсе свае лепшыя вершы для захавання. Бо ў мяне яны могуць згубіцца. Варта толькі неяк выпадкова не ўберагчыся самому, і ніхто іх шукаць не будзе. Ты толькі не падумай нічога гэткага – гэта проста спроба цвяроза і рэалістычна прадбачыць і прадухіліць горшае.

Але гэта ў тым выпадку, калі вершы тыя маюць рэальныя вартасці. Мне ж часам здаецца, што яны іх не маюць, бо яны проста – не патрэбны. Я ведаю, што многія з тых, хто піша вершы, час ад часу прыходзяць да гэтай думкі.

Сёння я таксама дасылаю табе некалькі сваіх вершаў, напісаных раней. Але толькі, калі ласка, не кожнае з іх чытай сваім бацькам.

Цікава яшчэ ведаць, як ты ставішся да таго, што я ў асноўным карыстаюся традыцыйнай дакладнай рыфмай. Рыфме я надаю наогул не асноўнае значэнне, а можа гэта таму, што пісаць па-беларуску я пачаў параўнальна нядаўна і старыя рыфмы яшчэ для мяне не страцілі сваёй навізны?

А ўсё-такі, адчуваю, што нешта трэба мне тэрмінова рабіць са сваім жыццём, а то ўсё ілюзіі, ілюзіі і больш нічога. Але ж і паэзія – ілюзія, і музыка, і вера ў лепшае будучае…

Пішы мне, калі хочаш. Дасылай болей вершаў. А калі не захочаш – пастараюся ўспрыняць гэта па-філасофску. Але ж тая самая філасофская абыякавасць, здаецца мне, таксама – ілюзія.

Да пабачэння.

Даруй мне, калі ласка, песімістычныя ноткі. Чакаю тваіх радкоў.

4/V – 87 г. Васіль

**Хмарка**

Прыпякала. Нерухома, ціха
млявы летні дзень вісеў над полем.
Нават дуб і той ужо ледзь дыхаў,
ценю прагнучы сасмяглым голлем.
Хмарка шэрая яму паспагадала,
адвяла бязлітасныя промні.
Пад крыло ўзяла – павеццю стала.
І заварушыўся непрытомны.
"Дай дажджу", – прашалясцеў. Ды дзе там!
Вецер падхапіў яе знянацку
і панёс яе над белым светам,
лёгкую у яго руках, як цацку.
Па-над ёй – бяздонная сінеча,
перад ёй – бязмежжа далягляду,
а унізе дуб ёй "дзякуй" кажа.
Не за паратунак,
за спагаду. (1986)

***

У бальнічнай палаце – бяссонныя ночы.
Але ж я іх чамусьці за тое й люблю,
што магу чуць і бачыць, заплюшчыўшы вочы,
а дзяжурная прыйдзе – хай думае: сплю…

Цішыня – акіян дробных кропелек-гукаў,
што ўзнікаюць і гаснуць. І так давідна.
Вось ізноў нехта ціхенька ў шыбу пастукаў –
можа вецер, а мо… Шкло гудзе, як струна.

То здаецца мне: раптам праз фортку ў акенцы
залятае нябачная птушка ўначы.

Я з пасцелі ўстаю. “Кыш”, – ганю яе ў сенцы,
“Кыш адсюль”, – а яна ўжо ў мяне на плячы.

Сэрца ўздрыгвае ў сне ад раптоўнага жаху,
мрой бясконцых рвучы чорна-белую ніць.
Праз акно бачна: месяц-лунатык на даху
над абрывам сцяны, як над прорвай, стаіць. (1986)

***

Дачакаліся – адбылося,
што павінна было адбыцца:
на зямлю, катаваную лёсам,
снег пайшоў, а здаецца, быццам
гэта мёрзлых анёлаў пер’е,
ад якога ў паветры шоргат.
Быццам лялечны, быццам з паперы
белы твар у нябожчыка з морга.
Завіхаліся, дыхалі парай,
гуртам неслі труну да машыны…
На яго скамянелым твары
аніводнай журботнай маршчыны.
Што яму цяпер холад люты,
ад якога кроў стыне ў жылах?
як і што пра яго скажуць людзі,
перш, чым возьме яго магіла –
нежывому ўсё роўна гэта.
Ён ужо ні на кога не ў крыўдзе.
Бо цяпер ён сам-насам з мэтай,
да якой яшчэ кожны прыйдзе.
А жывому – каб мог прад вякамі
праўды гэтай розум скарыцца –
сэрцам трэба ў халодны камень
чалавеку
пераўтварыцца. (1987)

А тут, Галя, некалькі санетаў з “Вянка” пра каханне, якое патрабуе рэабілітацыі (яно ў апошніх санетах з філасофскімі абагульненнямі). З гэтых вершаў бачна, што, як нехта сказаў, усё новае – гэта добра забытае старое.

II

“Сярод зорак яго адшукала…” –
так я потым санет свой пачаў.
Ты мяне выпадкова спаткала,
я ж наўмысна цябе сустракаў.

І хоць выпала надта ўжо мала
для знаёмства хвілін і падстаў –
покуль “Хто ты? Адкуль ты?” пытаў,
сэрца сэрца адразу пазнала.
І хоць варта прадбачыць было:
крыжам лягуць – разыйдуцца сцежкі –
Зерне радасці ўжо прарасло,
і сумненняў развеяла рэшткі
шчырасць позірку, шчодрасць усмешкі.
Дзякуй, дзякуй табе – за святло.

III

Дзякуй, дзякуй табе за святло,
за вясёлкавых промняў суквецці.
Ты і я – больш нікога на свеце
не было і не трэба было.
Але ж сэрца – дарма што ў сакрэце
ад самога сябе берагло
гэты смутак – яно не магло
Не заўважыць, што ёсць нехта трэці,
шчаслівейшы: яму, а не мне
ты ўжо ўсё, што магла, абяцала…
Тут бы мне й спахапіцца, ды не –
дзень праходзіў бы ў казачным сне,
а надзея той сон вартавала
і ў адчаі душу саґравала.

IV

Што ў адчаі душу саґравала?
Можа толькі надзея адна…
А між тым прад вачыма сцяна
непазбежнасці раптам паўстала.
Ці то лёс гэтак склаўся няўдала,
а прыгожыя словы – мана?
“Уяві сабе: гэта ж яна
на вяселле цябе запрашала.
на сваё!” Чуў я, гэтак бывала:
калі восень на кожным лісце
свой аўтограф ужо пакідала,
раптам яблыня зноў зацвітала –
вяне ліст, а яна ўсё цвіце…
Покуль вецер той цвет не змяце
ў гразь і смецце з лістотай апалай.

V

Дзён мінулых лістотай апалай
не закрэсліш у думках той дзень,
што запаў табе ў памяць трывала
разам з крыўдай, атрутай надзей.
Сярод тлуму размоў і падзей
навіна тая сэрца сціскала,
ад яе, нечаканай, нідзе
выйсця, сховішча не існавала.
Пакуль ваша вяселле гуло,
я з Самотай заручыны справіў,
прыкрым словам цябе не зняславіў,
бо ці ж мог я зрабіць табе зло?
Час над "і" свае кропкі расставіў.
Золкім снегам шляхі замяло.
І г.д.

Здаецца, атрымалася і дакументальна-біяграфічна, і што галоўнае – іранічна-самакрытычна. Што было – было.

[Да наступнага ліста, напэўна, прыкладалася разгорнутае віншаванне з днём нараджэння Васіля на паштоўцы.]

Добры дзень, Васіль!

Я цяпер у водпуску, крыху адпачываю, крыху падлечваюся. Хачу сабраць усе свае вершы і падрыхтаваць да адпраўкі ў выдавецтва. А яшчэ пішу казку для дзяцей. Пішацца яна ў мяне ўжо каля трох гадоў. Хутка будзе канец.

Пішы, як твае справы, як здароўе? Над чым зараз працуеш? У нас цяпер вельмі прыгожа, усё цвіце. Часта хаджу ў лес, на раку.

Прабач за кароценькае пісьмо. Пішы.

Да пабачэння. Галіна.

**Ліст дзявяты**

Добры дзень, Галя.

Прабач, што доўга не пісаў. Справа ў тым, што мяне цэлы месяц не было дома. Пазаўчора толькі вярнуўся з бальніцы, куды трапіў з-за хворага зуба, якога выдалілі, але няўдала, прышлося доўга лячыць і нават рабіць аперацыю пад наркозам – адным словам, мала прыемнага. Такім чынам, свой дзень нараджэння я сустрэў у абласной бальніцы, а тваё пісьмо і

віншаванне атрымаў, калі вярнуўся дадому. Ты можаш сабе ўявіць, як я табе ўдзячны, а ў мяне нават слоў не хапае. Часам думаецца з жахам: за што ты так добра адносішся да мяне, як ніхто? Хіба я заслугоўваю такія адносіны? Праўду кажучы, мне ўсё жыццё не шанцуе і да такіх ласкавых адносін з боку людзей я проста не прывык. Так доўга ляжаць у бальніцы, нават калі б нічога не балела, усё роўна не дужа прыемна, дый не было каму наведаць хоць раз, таму калі я прыехаў дамоў і атрымаў тваё пісьмо – радасна было ўдвайне. Не ведаю, як складзецца мой асабісты далейшы лёс, але запомню назаўсёды добрыя словы, якія ты знаходзіш для мяне. У наш час людзі наогул вельмі абыякавыя да іншых, асабліва каму жывецца лёгка, а твая ўвага да мяне прымушае мяне не сумнявацца, што чалавечнасць існуе, і чалавецтва не загіне… І далёкі чалавек можа быць блізкім і зразумелым.

Прабач мне за сумныя і жорсткія вершы, якія табе паслаў. Я іх выкіну, не падабаюцца мне. А помніш такі мой верш “Народ мой, няўжо ты навечна запрогся…”? Дык яго не пабаяліся надрукаваць у раёнцы, чым здзівілі мяне вельмі. Зараз нічога не пішу. Я ж яшчэ хаджу ў паліклініку. І баліць яшчэ шчака, і ад болю думкі блытаюцца.

Трэба было б і мне адаслаць куды-небудзь некалькі вершаў, ды няма на чым аддрукаваць, прасіць іншых не хочацца. Няхай будзе так пакуль што. Будзе яшчэ час.

А той вянок санетаў усё-такі я выкіну, хоць ёсць у ім і добрыя месцы (у канцы). Сёння табе пасылаю толькі XIV-ты санет, бо ён як быццам табе трошкі прысвечаны. Але ты іх, калі ласка, не захоўвай. Прачытай і кінь.

Вось і ўсё. Сумна, і пісьмо сумнае. Пішы мне, калі ласка.

Зараз мне асабліва цяжка было б адмовіцца ад радасці атрымліваць ад цябе пісьмы.

Да пабачэння. В.

XIV

Сэрца знойдзе і ў цемры святло.
Прыгадай, калі смутак нахлыне:
голас твой не згубіўся ў пустыні.
І хоць рэха тых дзён адгуло,
але ў сэрцы дагэтуль не стыне
слоў тваіх развітальных цяпло,
што няўхільна да шчасця вяло,
хай і ў шчасці цябе не пакіне…
Свет яшчэ не дарэшты сапсуты.
Перажытае плён свой дало –
каб нікому не крыўдна было,
каб заўжды быў твой голас пачуты,
каб да зор ідучы праз пакуты,
сэрца ў цемры дарогу знайшло.

[Тут ізноў няма майго ліста.

Пасля адпачынку я звольнілася з дзіцячага садка і жыла летам у сваёй вёсцы Бандары ў бацькоў. У маладосці ў мяне былі слабыя нервы. Я дрэнна пераносіла жыццё ў рабочым інтэрнаце (мой садок быў ад “Гроднаэнерга”). У студэнцкія гады я таксама жыла ў інтэрнаце, але там былі студэнты-філолагі, і мы больш-менш разумелі адны адных. А тут я трапіла да зусім незразумелых мне рабочых людзей. А таксама праца з калектывам дзяцей, як я цяпер разумею, была мне не пад сілу, мне не хапала энергіі на гэта. Таму мне паставілі дыягназ “истощение нервной системы», (не ведаю, як перакласці гэта на беларускую мову). Я лячылася амбулаторна і, напэўна, пісала пра гэта Васілю.]

**Ліст дзясяты**

Добры дзень, Галя.

У мінулы раз я неяк не звярнуў увагі, а сёння ўжо нават занепакоіўся, даведаўшыся з пісьма, што ты сябе не вельмі добра адчуваеш. А што з табой? Гэта ж, мабыць, сур’ёзна, калі – уколы, таблеткі. Але спадзяюся, што ўсё будзе добра. Адпачывай, пакуль ёсць такая магчымасць, і ні аб чым надта не думай. Я вось таксама пасля бальніцы ўзяў водпуск, які ўжо тым часам канчаецца. І вось – здавалася б, ёсць усе ўмовы для адпачынку: і часу хапае, і лес і рэчка побач, ды неяк няёмка адчуваеш сябе, калі ўсе на рабоце, а ты ходзіш па лесе або загараеш на пляжы – таму вось і сяджу я большай часткай дома, толькі ўвечары часам пайду ў клуб, у кіно, хоць нічога цікавага ў тым клубе для сябе не знаходжу. Адчуваю, як час ляціць марна, і неспакойна неяк, што хутка зноў трэба будзе выходзіць на работу, а я ўжо амаль за два месяцы адвык ад яе і разгультаваўся – за ўвесь водпуск хату нават не перафарбаваў, а меў намер прывесці яе ў належны выгляд. Тое ж самае назіраецца і ў маіх літаратурных спробах. Нічога вартага ўвагі не напісаў, так толькі некалькі баек і сатырычных мініяцюр у вершах на тэмы перабудовы – гэта для раёнкі, дробязь. А што пісаў дагэтуль – лічы: пройдзены этап, проба пяра, разбег… Гэта ў лепшым выпадку. Вось я прачытаў твой сапраўды цудоўны верш і нават пазайздросціў табе, у захапленні, як лёгка, натуральна і нібыта без намаганняў кладуцца ў цябе радкі ў вершы, і ў кожным – паэзія, а ў цэлым – песня атрымліваецца, не проста верш. Гэта талент. А ў мяне гэтага няма і ніколі не будзе. Я гатовую ўжо думку імкнуся ўвасобіць у пэўную форму, пры гэтым, калі пашанцуе знайсці нейкі новы і па магчымасці дакладны вобраз для яе ўвасаблення – можа атрымацца верш, а можа і не атрымацца. Я вельмі ўдзячны табе за твае вершы. Яшчэ раз прашу: дасылай мне іх, калі можаш, як мага болей, я і люблю іх, і вучуся на іх спасцігаць таямніцы лірычнага ў паэзіі (!) І тое, што вершы твае адзначаны пачуццём асабістага смутку – мне гэта вельмі падабаецца ў тваіх вершах.

Ці не занадта я патрабавальны да сябе? Не, тут справа ў зусім іншым. Разумееш, Галя, я, як кажуць, яшчэ “не знайшоў самога сябе”, а лепей сказаць – зусім заблытаўся і ў самім сабе, і наогул. Так, напрыклад, калі я дагэтуль ускладаў надзеі на перабудову, цяпер, калі перабудова набывае рысы рэчаіснасці, я ўсё больш пераконваюся ў тым, што асноўнага пытання – аднаўлення і сцвярджэння сацыяльнай справядлівасці – яна не вырашыць. Таму я – песіміст, а песіміст хіба можа быць добрым паэтам? Сцвярджаць ідэю нейкага абстрактнага дабра? Але ж мы ўсе матэрыялісты, нават прагматысты… А што рабіць!

Гэта праўда, што друкуюцца вершы і горшыя за твае, але і без гэтага я лічу неабходным, каб твае творы надрукавалі. Гэта патрэбна не толькі для цябе. І я веру, што ты гэтага даб’ешся – ты настойлівая, такою і будзь заўсёды. Я дык упэўнены, што абавязкова калі-небудзь будзе ў мяне на стале твая кніжка. Тады і я скажу: “Я не самотны, я кнігу маю…”

Прабач, але адраса Міклашэўскага я не знайшоў. У мяне толькі запісана: Міклашэўскі Яўген Васільевіч, і адрас Саюза пісьменнікаў БССР: 22 00 34, Мінск, Фрунзе, 5.

Звяртайся да Міклашэўскага, ён, мне здаецца, добры чалавек, можа ў чым і дапаможа. І мне пішы, калі ласка, хоць з мяне карысці для цябе – аніякай, а ты ўсё ж пішы.

Да пабачэння. Васіль.

30/ VI – 87 г.

А гэтыя вершы (пейзажная лірыка) я шлю табе проста так, каб атрымаць ад цябе што-небудзь узамен.

**Ноч**

Кажуць: ноч, а колькі ў ёй святла
невыказнага! Адно, пакуль ты крочыш
вуліцай асветленай сяла –
сціплага святла не бачыш ночы.
Цемра – што? Ёй сонца не скарыць:
нават, калі пойдзе на спачынак –
над зямлёй святло яго гарыць
тысячамі водбліскаў-іскрынак.
Цень яго хавае пад крыло,
а яно знаходзіць выхад нейкі…
Ноч – не толькі цемра, ноч – святло
праз апушчаныя ў сне дрымотным вейкі.

**Месячнае святло**

Адусюль з вышыні
ў цішыні

вольна хваля за хваляй святло плыве
і запальвае зорак агні
ў цёплых
кроплях
расы на поплаве.
Таямнічы той час і дзівосны,
калі ноч нараджае святло
і паблісквае ў кропельках росных
каляровае бітае шкло.

Добры дзень, Васіль!

Ты заблытаўся. І я таксама заблыталася і ў сабе, і наогул. У сабе супярэчнасці і навокал супярэчнасці. І невядома, як, немагчыма іх прымірыць. Я нават адкрыла нядаўна для сябе, што такое шчасце: “Шчасце – гэта калі ў душы – гармонія; у хаце – гармонія; у краіне – гармонія; у свеце – гармонія”. Але ж гармоніі няма. Ты песіміст? Я таксама песіміст. Штосьці не так – і ў мяне зацяжная меланхолія. Лічыш, не варта сцвярджаць ідэі абстрактнага дабра?

Але ж ёсць у кожнай з’явы (грамадскай) сацыяльныя прычыны, але ж ёсць і асабістая воля канкрэтнага чалавека паддацца гэтым прычынам ці паўстаць супраць іх, не прыняць. Напрыклад, я лічу, што масавае п’янства мае сацыяльныя прычыны. І ўсё ж не ўсе п’юць. Мабыць, усё ж трэба сцвярджаць чалавечнасць і дабрату, таму што пры любой фармацыі жывуць на зямлі людзі, якія стаяць над сваім класам, не прыстасоўваюцца да канкрэтных умоў існавання, а жывуць дзеля высокіх і найчасцей абстрактных ідэй. Кожнаму з іх патрэбна ведаць, што ён не адзін. А кагосьці, мабыць, паэзія зробіць лепшым, і крышку лепшым (яшчэ на аднаго чалавека) стане свет. Не знішчай свае вершы, Васіль. Захавай. Ніякая праца не бывае дарэмнай. Калі вершы напісаны шчыра, яны – гісторыя чалавечай душы. І – акно ў гісторыю чалавецтва. Вось пішу я, напрыклад:

Гора горкае бяздоннае,
Не для ўсіх вада цудоўная.

І не ведаю, як ты зразумееў, а я хачу сказаць: не ў кожнага чалавека на зямлі аднолькавыя правы (ды і ў краіне). І гісторыку будучага ясна: у гэты час не было гармоніі.

Я цяпер чытаю Караткевіча. Выпадкова трапіла ў рукі яго кніга нарысаў “Зямля пад белымі крыламі”. Напэўна, так, як ён любіў Беларусь, не любіць яе ніхто. Вельмі хацела б павандраваць па Беларусі, паглядзець яе прыроду, гістарычныя месцы. На жаль, няма з кім. Адной мне сумна і непрытульна кудысьці ехаць.

Дасылаю табе новы верш.

Паглядзі ўгору:
Падае яблык,
Як поўня,
Вялікі і жоўты.
Няўмольна настаў яго міг упасці.
Страціў апору,
І голле насцеж.
І аб зямлю зразлёту,
І пад траву рахмана.
Возьме той, каму наканавана.

Паглядзі ў сэрца:
Падае мара,
Як ветразь,
Пругкая і лёгкая.
Сто метраў
Да берага не хапіла.
Знік вецер.
І нерухомасць – магіла.
І чужая зайздрасць галёкае,
Што мара ў хвалях акіяна.
А яна выплыве, калі наканавана.

Да пабачэння.

Галя.

Пішы, дасылай вершы.

P.S. Ці чытаў ты падборку вершаў Вольгі Куртаніч у “Маладосці”– (№ 5 за гэты год)?

**Ліст адзінаццаты**

Добры дзень, Галя!

Ты, як быццам, хочаш мяне суцешыць і падтрымаць маральна – за гэта дзякуй табе, шчыра і ад усяго сэрца.

Я сапраўды некаторы час жыў нібыта ў нейкім ружовым сне, або ў палоне ілюзій. Цяжка бывае развітвацца з імі, бо заўсёды прыходзіцца адначасова прызнавацца сабе, што памыляўся, і тады сорамна перад самім сабой, і хочацца закрэсліць усё – таму ў мінулым пісьме я пісаў табе, што заблытаўся. Усё гэта так, і ўсё ж мне здаецца, што ўжо я здолеў выкараскацца неяк з таго пекла разгубленасці, у якім апынуўся. І зрабіў крок наперад, нарэшце.

Не ведаю, як табе растлумачыць – адным словам, цяпер я вымушаны

зусім інакш, чым раней, ставіцца да жыцця – ніякіх ілюзій, мар, спадзяванняў, бо “жыццё ў марах – казка, а на самай справе – гніенне раба і вечная…” (С. Палуян).

Узняцца над сваім класам я не магу і не павінен, бо страчу адзіную і апошнюю апору, і ні ў якім іншым класе не прыжывуся. Інтэлігенцыю я не люблю за інфантыльнасць, за тое, што яна не ведае жыцця, за балбатню, безадказнасць і мяшчанства, кіруючыя слаі – за прагу да ўлады, бескультур’е, нахабства, рабочы клас – за дробна-буржуазныя амбіцыі. Я таксама рабочы, але з самых нізкааплачваемых (пры працоўным дні ў 12 гадзін у полі заробак складае ў сярэднім 3 – 4 руб. А саўгас лічыцца багатым!) І ўсё-такі я не кіну гэтую сваю работу, бо ўжо ніякая пасада і ніякія грошы не прымусілі б мяне заплюшчыць вочы і “дремать в неведенье счастливом”. Ды і бацькі мае і ўсе продкі, наколькі мне вядома, жылі ў галечы, а чым я ад іх лепшы? Або ад сваіх таварышаў па працы?

Не веру я таксама, што паэзія і літаратура зробіць кагосьці лепшым або наогул зможа паўплываць нейкім чынам на жыццё. Пакуль што, на мой погляд, уся наша паэзія ў цэлым служыць для таго, каб нейкім чынам усё-ткі прыаздобіць жыццё, адцягнуць увагу ўбок ад самага галоўнага. (Гэта можна аднесці нават да апошніх паэтычных выступленняў С. Грахоўскага, а што ўжо гаварыць пра іншых). Паэты скардзяцца: “Мала нас чытаюць”, – а В. Высоцкага перапісвалі недрукаванага (?)

(A propos, у тваіх вершах мяне зацікавілі як раз не лёгкія, непавярхоўныя адносіны да жыцця, а я тады гэтага не ведаў, як назваць – назваў: шчырасць). Таму, калі табе ўдасца надрукаваць кніжку адну-другую, можа здарыцца, што яны будуць мець нейкую каштоўнасць на фоне соцень, прабач, нікчэмных і непатрэбных нікому кніжак, якія друкаваліся раней і цяпер друкуюцца. Галоўнае ж – загадзя не цешыць сябе марамі. Кнігі гэтаксама, як і людзі, habent sua fata (маюць свой лёс).

А цяпер пераходжу да самакрытыкі. Большасць сваіх вершаў, напісаных у апошні час, я ўжо ўсё-ткі кінуў у печ, лёс астатніх вырашаецца. Занадта многа ў іх хлусні. Вось напрыклад – нагадаю радкі толькі з некаторых, знаёмых табе сваіх вершаў:

“Вер: наша радасць нас не абміне…”,

“Па-над шляхамі захмараных лёсаў
ранак настане ў сонечным ззянні
адшліфаваных да бляску нябёсаў…”,

“Адно толькі Праўды магутнае слова –
і досыць, каб знішчыць падмурак маны…”,

“Бі ў барабан і нічога не бойся –
у гэтым зарука тваіх перамог…”,

“Хай кропелькай сонца згублюся ў траве –
мне ў памяці жыць, пакуль дрэва жыве…” і г. д.

Усё самападман, а ў адносінах да чытача – хлусня, якой ён ніколі не паверыць, а калі паверыць – тым горш для яго.

Пісаць я напэўна буду яшчэ, але ўжо не так. Як – яшчэ сам не ведаю, але навучуся пісаць праўдзіва і пра сябе, і пра жыццё, якое яно ёсць… Разумееш, Галя, тое, што я пісаў дагэтуль, не задавальняе мяне, а можа нават не задавальняла з самага пачатку. Рады цяпер, што ўстрымаўся ад распаўсюджання іх, як мне раілі. Можа ты і не згодна са мной зараз, але потым калі-небудзь абавязкова зразумееш мяне, сённяшняга…

З У. Караткевіча я пачаў чытаць беларускую літаратуру, каб не ён, можа, я і дагэтуль ёю б не цікавіўся… Але не разумею, як гэта можна – любіць Беларусь. Пра любоў да Беларусі сінявокай, пра родны край, пра бусла, што кружыцца над роднаю хатай, напісана столькі, што каб сабраць усё напісанае, дык напэўна ж хапіла б на цэлую зіму паліць у печы. А пamойму, любіць яе ніякім чынам нельга, а можна толькі шкадаваць. Мне дык шкада яе за цяжкі і шматпакутны лёс яе народа – гістарычны і цяперашні таксама. І ўсё. А да беларускай мовы я звярнуўся не таму, што сам я беларус (мільёны з нас даўно ўжо для зручнасці адракліся ад роднай мовы), а таму што палічыў справядлівым стаць на бок слабейшага. Вось калі б я таксама калі-небудзь змог паездзіць па Беларусі, пабываць у яе розных кутках – але гэта наўрад ці магчыма – для мяне. (Шчыра кажучы, каб у мяне былі грошы, я даўно гэта зрабіў бы, а сёлета напэўна папрасіўся б да цябе ў спадарожнікі. Але – “жыццё ў марах – казка, а на самай справе…”)

Вершы В. Куртаніч я, вядома, чытаў. Яны мне (некаторыя) спадабаліся больш, чым тыя, што яна чытала на семінары. А як табе спадабаліся вершы майго земляка В. Сахарчука – у тым жа нумары?

(Галя, ты, калі ласка, не асуджай мяне за тое, што я выказваю адкрыта свае сённяшнія пагляды на жыццё, а дакладней кажучы, не асуджай гэтыя мае пагляды. Яны яшчэ, можа, не цалкам склаліся, але адно што я цвёрда ўсвядоміў, гэта тое, што трэба адкрыта глядзець праўдзе ў вочы, а праўда – гэта не тое, што павінна было б быць, а тое, што ёсць). Напішы мне, калі ласка, пра свае справы, якія ў цябе ёсць ужо перспектывы, можа, у сэнсе падпісання дагавора з выдавецтвам на кніжку, вельмі зацікаўлены ў тым, каб твая мара здзейснілася.

Дзякуй за верш. Табе не маю нічога паслаць. І даруй, што пісьмо атрымалася трошкі блытанае, стаміўся сёння і ўжо позна.

Да пабачэння.

P. S. Дзіўна аднак атрымліваецца часам. Уяві сабе, я таксама калісьці паняцце шчасця сфармуляваў амаль як ты: гармонія паміж унутраным светам чалавека і знешнім светам**.** Я і цяпер нічога не маю супраць гэтай фармуліроўкі, толькі цяпер я памятаю, што гэта таксама ілюзія, і адчуваць

сябе шчаслівым лічу памылкай і нават – не магу зусім.

Васіль.

29/VII – 87 г.

Уважаемый Василий Владимирович!

Это письмо пишет Вам мама Гали Самойло.

Последнее Ваше письмо она дала мне прочесть, так как была крайне расстроена его содержанием.

Уважаемый, вся душа моя протестует против Вашей выходки. Ну зачем Вы сожгли стихи свои? И такие стихи!.. Оптимистические строчки в них – это не «самападман”, не иллюзия. Без таких строчек все впали бы в пьянку и в блуд, что и делают те, кто не читают. А ещё хуже – звереют от жажды к наживе.

Другое дело, что есть вредные книги и им почему-то дают ход.

Ваш XIV сонет «Сэрца знойдзе і ў цемры святло” равен Шекспиру. Ну и что, что Вы его не опубликовали? Но Вы в нём выразили себя с самой лучшей стороны и возвеличили и утвердили себя перед самим собой навечно.

Без стихов, без литературы жить нет смысла. И Вы счастливы уж тем, что пишете. Мой род крестьянский. Но ещё дед ходил косить, а в кармане нёс сборник стихов Кольцова, чтобы в обеденный перерыв где-то под тенью дуба прочесть: «Развернись, плечо, раззудись, рука...». Мой отец в длинные зимние вечера зачитывал вслух главы из «Новай зямлі» Якуба Колоса. И вся семья, вяжущая, прядущая, вышивающая, смеялась и плакала от его волшебного таланта. А брат при панской Польше участвовал в постановке спектаклей («Модны шляхцюк», «Боты», «Мікітаў лапаць”, “Прымакі”, “Пінская шляхта”, “Паўлінка” і г.д.). И удваивались силы, и это спасало от мещанства и духовного вырождения.

Я тоже с детства читала стихи Буйлы, Цёткі, Лермонтова, Некрасова, а потом стала писать и сама. Пусть они и несовершенны в аб-солютном большинстве, но в них, как в дневнике, отражены моя боль и радость. Ведь жизнь многогранна.

Тоже печаталась в районке, и не это важно. А важно то, что я самовыражалась письменно. Это как-то облегчало и возвышало душу.

А интеллигенция... В ней есть глубины и мели. И ещё какие глубины! Руководящие силы... Там тоже немало талантов, только они очень быстро изнашиваются, как и мы, интеллигенты. Крепки здоровьем только твердолобые люди. Прошу Вас, не отчаивайтесь и верьте в хороших людей.

Вас заело однообразие и одиночество. Встряхнитесь, походите пешью по лучшим уголкам страны. Ведь ничто Вас не вяжет. Можете приехать к нам, познакомитесь с нашей Скидельщиной. Потолкуем. Я в жизни была оптимисткой. Ну, а теперь уже стара, перегорела. Но всё равно люблю

жизнелюбивых людей.

Всего Вам самого хорошего.

6. VIII – 87 г.

**Ліст дванаццаты**

Уважаемая Фаина Игнатьевна!

Мне очень жаль и стыдно, что моё последнее письмо к Гале расстроило её, да ещё и Вас заставило взяться за перо. Вам я очень благодарен за все добрые слова, а Гале я обещаю (через Вас) не писать больше таких писем.

Ничего страшного не вижу для себя в том, что я уничтожил стихи, которые мне не нравятся, я уже и до этого много раз так делал. Я не верю, что они представляли хоть какую-нибудь художественную ценность, несмотря на то, что Вы и расхвалили их чрезмерно (конечно же, по доброте своей душевной, а не строго объективно). Я вовсе не против оптимизма и даже не против самоубаюкивания стихами (хорошо рассказанная сказка со счастливым концом иногда помогала на время людям забыть тяготы жизни и т.д.), но всё равно это не настоящее лечение, а скорее всего наркоз или обезболивающая таблетка. Кстати, у Гали в стихах (которые я читал) больше оптимизма и больше правды, чем в тех моих «оптимистических» строчках, которые я приводил.

Короче, я пришёл к выводу, что писать я ещё не умею по-настоящему, но, может быть, когда-нибудь научусь. А как Вы думаете, смог бы вообще какой-нибудь <u>косарь</u> написать такое <u>красивое</u> стихотворение, как у Кольцова, о своей работе, особенно если эта работа ему в тягость, если это – рабский труд? Я считаю, что искренне – не смог бы. (Извините, это я всё в оправдание того, что Вы назвали «выходкой» с моей стороны).

Без литературы я не жил ни дня с тех пор, как самостоятельно в пять лет научился читать. В школе знал наизусть «Мцыри», многие стихотворения М. Богдановича, Коласа, затем всё собрание Есенина (кроме поэмы «Пугачёв», из которой наизусть помню лишь отрывки), читал в оригинале Гёте, Шиллера и Гейне, и даже А. Данте. И теперь я вовсе не отрекаюсь от литературы, как, может быть, Вам показалось. Просто теперь я более разборчив – может быть, во вред самому себе, а может – и не во вред.

Хорошие люди, конечно, есть везде, их может быть больше, чем плохих, но что они могут? Самое большее – ценой самоотверженных усилий и жертв оставаться хорошими людьми – для самих себя, и только. Я уверен, что 99, 99% людей земного шара за уничтожение ядерного оружия, а что из того?

И не одиночество меня тяготит, не оторванность от жизни, а наоборот – сопричастность и в то же время ощущение своего бессилия изменить что-либо к лучшему как в окружающей жизни, так и в своей собственной

судьбе. А одиночество во многих случаях даже полезно, в этом мне самому приходилось убеждаться не раз.

Впрочем, зачем я Вам всё это пишу? Я Вас очень уважаю (Галя мне писала о Вас), и, наверно, поэтому я Вам больше доверяю, чем имею на это прав.

Может быть, Галя читала Вам и другие мои письма, и хоть в них, кажется, не было ничего предосудительного, а всё же, при желании, кое-что в них можно было истолковать и не так. Пользуясь случаем, хочу Вас заверить, что наша с ней переписка носит чисто дружеский и почти деловой характер и при желании с её стороны может быть прервана. Я никогда не перестану уважать её и любить за доброту в характере, искренность и готовность сочувствовать (хоть самому мне нуждаться в сочувствии не позволяет гордость. Наоборот, мне очень хотелось бы быть ей чем-нибудь полезным, а вместо этого, видите, написал письмо, которое её расстроило, и теперь сам переживаю).

Спасибо Вам, Фаина Игнатьевна, за приглашение приехать. Весной я и сам писал Гале, что мечтал приехать на день или два. В Гродно я служил в армии, бывал в Скиделе, в Индуре где-то живут мои родственники по матери… Но это было весной. А теперь это, пожалуй, невозможно. Отпуск свой я уже отгулял в июне и немного в июле. Полтора месяца перед этим провалялся в больнице. А теперь надо изо всех сил работать – попросту говоря, зарабатывать на хлеб.

Конечно, лет сто тому назад, наверно, можно было бы с палкой в руке и котомкой за плечами отправиться в путешествие по историческим и святым местам нашей необъятной родины. Полиция была в те времена ещё малоопытная и не отличалась расторопностью. Да и закон на бродяжничество смотрел сквозь пальцы. А теперь – что же? Изловят и водворят. Только и всего. (Извините, что я снова иронизирую).

Может быть, в будущем… Но лучше не загадывать вперёд и не предаваться никаким иллюзиям.

Передайте, пожалуйста, Гале, что я искренне прошу у неё прощения. И у Вас тоже.

Всего Вам самого доброго. Спасибо Вам за участие ко мне, за желание подбодрить и – может быть – наставить на путь истинный.

За всё – спасибо.

9/VIII – 87 г. В. Годулько

Добры дзень, Васіль!

Хацела пачаць пісьмо да цябе цытатай з твораў Караленкі, але недзе згубіла яе. І цяпер проста перадам яе сэнс: (усё ў жыцці чалавека падпарадкоўваецца імкненню яго да дабраты і шчасця. А калі нехта нешчаслівы? Што ж… Выключэнне не абвяргае правіла… Няма шчасця ў аднаго чалавека, ёсць у іншых…) Я спачатку не згаджалася з думкамі ў

тваім пісьме да мяне. А пасля зразумела цябе, хоць па-ранейшаму не згодна. Я разумею, як пакутна жыць бязрадасна, аднастайна, як цяжка адчуваць сябе бяссільным у чым-небудзь, як крыўдна натыкацца раз-пораз на няспраўядлівасць чалавечую і грамадскую, як няпроста змірыцца з тым, што для нармальнага жыцця часта няма неабходных матэрыяльных сродкаў, і гэта агранічвае чалавека.

Але ж навошта думаць, што навокал незадаволеныя жыццём? Шмат людзей, якія знайшлі сваё шчасце, калі не ва ўсім, дык хаця б у чым-небудзь: ці ў працы, ці ў сям'і, ці ў матэрыяльнай забяспечанасці, ці ў творчасці. Мне цяпер здаецца, што шмат у якіх сваіх няшчасцях вінаватая я сама, мой характар. На мяне таксама часта нападае страшная туга, душа баліць так, што стагнаць ці выць хочацца. І хочацца быць адной, схавацца ад людзей, ні да чаго рукі не горнуцца.

Калі б у мяне не было падтрымкі ад бацькоў, наўрад ці надрукавала б хоць адзін свой верш. Наваляцца думкі, што ўсё жыццё бессэнсоўнае, што я – найгоршая, і магу цэлы дзень прасядзець, нічога не робячы. Мяне трэба ўвесь час падштурхваць, падбадзёрваць, бо сама ў сабе я не знаходжу апоры. Такі дрэнны характар. У жыцці я таксама заблыталася. Вось цяпер сяджу без работы і не ведаю, куды падацца. Здаецца, што ні да чаго не здатная, усё не атрымліваецца. А пайсці тэхнічкай, ці прыбіральшчыцай я не грэбую, але ж якая задаволенасць такой работай можа быць? Ад супярэчнасцей у сабе самой я стамілася больш, чым ад супярэчнасцей у знешнім свеце.

Але я разумею тое, што ёсць людзі, якія знайшлі ў жыцці сваё месца, ні больш, ні меньш, а столькі на сабе нясуць, колькі могуць. Я бачу, што другія змаглі тое, чаго не змагла я пры тых жа ўмовах. А значыць, я проста слабейшая за іх, ці проста – не такая. Наўрад ці трэба імкнуцца пераварочваць свет, жадаць у ім вышэйшай справядлівасці. Па-мойму, трэба проста жыць, радавацца, што дадзена такая магчымасць: пабыць на зямлі, і пастарацца стварыць шчасце (хай няпоўнае, але максімальнае пры канкрэтных умовах). Я так думаю, але і ў мяне так не атрымоўваецца. І характар замінае, і залішне высокія патрабаванні да жыцця, і парывы ад рамантычных ілюзій да трэзвасці і расчараванасці. З тым, што літаратура ўсё прыўкрашвае і адцягвае ўвагу ўбок, я не згодна. Ёсць літаратура, якая абуджае, ад якой плачуць, якая не дае супакоіцца, вучыць бачыць і разумець жыццё, гучыць, як набат. І нават тая ж казка не толькі наркотык, адпачынак ад рэчаіснасці. Яна яшчэ і ачалавечвае, і падказвае, што сапраўды каштоўнае, а што – мішура ў жыцці, і папярэджвае: шчасця не бывае без барацьбы, а перамагчы ў барацьбе можна з дапамогай добрых людзей.

І хай сабе не ўсе перамагаюць. Але ж для кагосьці перамога – рэальнасць. Ну і што, што не для мяне…

Пішы, калі ласка. Галя.

23. 08. 1987 г.

**Ліст трынаццаты**

Добры дзень, Галя.

Яшчэ раз прашу прабачэння за тыя свае пісьмы, за свой дрэнны настрой і г.д. Добра, што ты мне ўсё-такі напісала, а то я ўжо думаў, што ты моцна на мяне пакрыўдзілася, і адчуў раптам такую пустэчу. А апошняе тваё пісьмо мяне вельмі ўзрушыла. Я разумею цябе і добра ўяўляю твой стан, бо і сам калісьці не ведаў, куды пайсці працаваць і ледзь не год быў без работы, пакуль не адважыўся нарэшце пайсці на будоўлю. Пачуццё асабістай віны, няўпэўненасць, безвыходнасць. Але ўсё-такі ты не прымай паспешлівых рашэнняў і не ідзі на абы-якую работу. А ці не магла б ты часова ўладкавацца дзе-небудзь, напрыклад, бібліятэкарам? Не ведаю, як у вас, а ў нас у раёне такіх кадраў не хапае, бо заробак мізэрны. Ты толькі не надта перажывай, не паглыбляйся ў самааналіз і “самобичевание». Ты маладая і прыгожая, а жыццё вялікае наперадзе. І тое, што сёння табе не ўдаецца або ўяўляецца немагчымым, павер мне, праз нейкі час здасца табе да смешнага лёгкім і звычайным.

У цябе ж ёсць і адукацыя, і талент, і характар цудоўны, і ты сама яшчэ будзеш абавязкова па-сапраўднаму шчаслівай, я ў гэтым упэўнены. Мне, паглядзі, намнога цяжэй, калі пачну думаць пра сваё жыццё. Мне ўжо 41 год, а ні сям’і, ні дзяцей, ні работы, якая забяспечвала б хоць само існаванне, не маю. Аж страшна падумаць. Хто ў тым вінаваты? Па-першае, канешна, я сам… А ўсё ж я не лічу жыццё сваё пражытае без сэнсу, і падсвядома жыве яшчэ ў сэрцы надзея, хай сабе і неажыццявімая. Вучуся радавацца таму, што ёсць, хоць з узростам радавацца становіцца ўсё цяжэй… А галоўная радасць для мяне твае пісьмы. Пішы мне, калі ласка, Галечка, і не саромейся пісаць пра свае няўдачы, бо хоць я і не ў стане табе практычна дапамагчы, але не сумнявайся ў тым, што я заўсёды цябе зразумею і заўсёды я – на тваім баку, бо і я таксама ў чымсьці такі ж, як і ты.

Цяпер табе цяжка. А ты пішы вершы. Калі чалавеку цяжка, вершы атрымліваюцца сапраўдныя. А работа з цягам часу знойдзецца, не перажывай.

Мне тут далі адрас В. Жуковіча (зямляк мой нейкі, з Камянецкага раёна) і прасілі паслаць яму некалькі вершаў (ён складае зборнік “Паэзія – 87”). Я адмовіўся, але калі ў цябе ёсць жаданне, дык ты пашлі яму сваіх вершаў 4 – 5, можа што-небудзь змесціць. Вось адрас:

220090, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, д. 12, корп. 1, кв. 182

Жуковічу Васілю Аляксеевічу

(Вершы ў двух экземплярах, праз 2 інтэрвалы)

Сам я пакуль што нічога не пішу, але пісаць буду.

Не прымай, калі ласка, мае роспачныя разважанні пра літаратуру занадта ўсур’ёз. Сапраўды сучасная літаратура ў цэлым мяне не задавальняе. Мне здаецца, мала ў ёй жыццясцвярджальнай праўды. Спробы

праўдзіва і рэалістычна адлюстраваць цёмныя бакі жыцця пакідаюць уражанне цяжкае, змрочнае, няма станоўчых герояў. Але ж ёсць класіка, і калі мне нявесела, я звяртаюся да яе.

Калі я атрымаў пісьмо ад тваёй маці, мне падумалася, што ты ўжо мне не напішаш, і я па-сапраўднаму зразумеў, як мне патрэбны твае пісьмы.

Да пабачэння. Не сумуй. Усё будзе добра.

Васіль

Вось два жартаўлівыя вершы, каб не так было сумна.

***

Калі спознішся –
раптам упусціш свой момант –
не дагоніш, хоць зноў станавіся ў чаргу…
Многа маю сяброўак і проста знаёмых,
а каханай ніводнай назваць не магу.
Запалохаў жанчын знешні выгляд мой дзікі –
гардэроб, што даўно ў непрыгоднасць прыйшоў:
заільсніўся каўнер, на каленях – дзве дзіркі –
не мужчына, а воблака без штаноў.
Гэтак хочаш не хочаш – трымайся дыстанцыі.
Тая ж самая думка і ў кожнай на ўме:
“Хіба пойдзеш з такім у кафэ ці на танцы?
У яго і ў кішэнях, бадай, вецер дзьме”.
Я дык сціпла паводжу сябе і карэктна.
Крыўдаваць на пагарду з іх боку не след,
Бо
Кахаць можна ўсіх
І нікога канкрэтна,
А зусім не кахаць хіба можа – паэт?

**Вясновы жарт**

Вясна. За ёй, каб не спазніцца,
пасля зімы, нуды і змроку –
глядзі: жанчыны ўжо ў спадніцах
з разрэзам ззаду або збоку.
Паблісквае ў іх кожным кроку
ледзь-ледзь прыкрытае вядзьмарства.
Ды не для сэрца, а для зроку
яно – атрута і лякарства.

31/VIII – 87 г. Пішы.

Дорогой наш Василий Владимирович.

Всем семейством хотим мы перемены в Вашей судьбе. Хоть и знаем, что хотеть – это мало, а как это сделать? Знаю, что «человек нравственно чистый и цельный не может принадлежать лагерю реакции...». Всю жизнь мне хочется примирить святость моральную с политикой.

Неужели это заблуждение? Настоящая поэзия, наверное, и рождается в отшельничестве, как у Вас, хоть есть творцы и «огненные серафимы».

Знакомы ли вы с творчеством Болеслава Пруса – великого писателя Польши? Я читала его «Ляльку» на польском языке. Она мне очень и очень пришлась по душе. Ещё есть у него книга «Фараон». Читала на русском языке. Может, не всё там поняла с политической точки зрения, но прочла её единым дыханием. Прочтите, пожалуйста.

Безумно все мы любим Короленко, который сказал: «Боритесь же за свою идею, но не осмеливайтесь в этой борьбе забыть человека в вашем противнике». А мне в своей школе и бороться-то было не с кем, ибо смешали бы с грязью и только.

Мне только в детях хочется видеть хоть чуть продолжение себя, пусть это и новое время...

Не помню, чьи это слова, но передаю их…

Должна же быть какая-то гармония людей чувства с людьми мысли и даже действия. А отдельные представители интеллигенции, а, может быть, и не отдельные, те, что впереди народа, достойны того, чтобы стать перед ними на колени.

Стоит в глазах мне мой польский учитель, который погладил по головкам деток, которые прочли что-то на белорусском языке, придя в польскую школу. Брал на руки детей, за свои средства покупал обувь, чтобы зимой не оставляли школу, но и бил линейкой непослушников, хоть и им прощал. Каждое движение его, каждый жест мне в памяти. Ничего не знаю о его судьбе, но вот мой стих о нём. Далеко не совершенный стих. Ещё тогда мне с двоюродной сестрой хотелось играть в школу.

Табе адрасую я
Сціплыя вершы,
Мой мудры настаўнік,
Мой родны, мой першы.
У снах цябе бачу
І шчасця, і мукі…
Ты браў нас маленькіх,
Бы птушак на рукі.
І ты паднімаў мне
Каўнерык высока,
Каб шчочкі не мерзлі,
Бо хата далёка.
Табе адрасую я

Лепшыя вершы,
Мой добры настаўнік,
Адзіны мой – першы.

Мама Галі

Верьте… 10. IX – 87 г.

**Ліст чатырнаццаты**

Уважаемая Фаина Игнатьевна!

Я Вам очень признателен за Ваше письмо, но я, признаюсь, ждал письма от Гали, а не от Вас. Мне кажется, что в настоящее время именно она нуждается в поддержке со стороны, а не я. Если судить по её последнему письму, ей теперь очень нелегко. Помогите же ей (вы же родители) как-нибудь устроиться, преодолеть растерянность. Как – вам виднее. Вот моя единственная просьба к Вам.

Почему Вы решили, что я живу отшельником? Наоборот, я постоянно нахожусь в самой гуще жизни, и может быть даже в некотором смысле на дне её. А для поэзии действительно нужно уединение и главное – время. Но я верен поэзии остаюсь, и пишу – для себя разумеется. Только –

… Мне б свой край апяваць,
працавітых людзей – гонар Брэстчыны,
мне б паднесці каханай
узнёслых санетаў вянок,
а я бачу вялізны натоўп
прагавітых,
нахабных,
разбэшчаных –
і ласкавага слова для іх
не знайду
і не ўцісну ў радок…

Я тоже читал когда-то «Ляльку» Болеслава Пруса, и тоже в оригинале – но очень давно, ещё студентом во время каникул. Попалась мне в нашей сельской библиотеке старая толстая книга на польском языке, и я прочёл её. Но польский язык я так и не изучил по-настоящему, только читать научился. Теперь некогда, но я обязательно прочту ещё раз и «Куклу» и «Фараона», раз Вы советуете.

Меня очень тронуло Ваше стихотворение и Ваши тёплые воспоминания о своём первом учителе. Удивительное совпадение, но и у меня в первых классах начальной школы был учитель-поляк (П.П. Кашицкий).

Учил, разумеется, по-белорусски, но в припадке раздражения ругался: «Psiakrew» и бил непослушников, а меня не бил: я был примером во всех отношениях, да ещё – круглый отличник. Хороший был учитель, но когда в четвёртом классе пришла к нам молодая учительница, красивая, ласковая – тут же влюбился в неё и помнил её ещё долгие годы…

Я понимаю Вас, и не осмеливаюсь больше утверждать, что вся интеллигенция и всегда была такой, какой она в своём большинстве стала теперь «в силу всё той же суровой необходимости приспосабливаться к условиям потребительского общества, в котором происходит непрерывный процесс деградации моральных ценностей…» и т.д.   Но согласитесь, что престиж интеллигенции упал неспроста, даже престиж учителя… Впрочем, почему я должен вроде как бы спорить с Вами – мы же как раз не противники, а однодумцы, а говорим об одном и том же как будто на разных языках.

Фаина Игнатьевна!

От Гали нет письма, и я не знаю, ждать ли мне от неё письма или нет. Если Вас не затруднит – впрочем, не знаю, смею ли просить об этом – сообщите мне в нескольких словах, пожалуйста, не надоел ли я ей своими письмами, а то она написать постесняется, а я буду ждать, ждать и сомневаться. Спасибо Вам за добрые пожелания, и хорошего Вам здоровья.

Привет Гале.                    В. Годулько.

21/IX – 87 г.

Добры дзень, Васіль!

Ты непакоішся, чаму я не пішу (мама паказала мне ліст ад цябе). Нічога не здарылася, проста, калі на мяне нападае туга, я замыкаюся ў сабе, адасабляюся ад усіх, бо артыстычных здольнасцей у мяне няма, рабіць выгляд, што ўсё добра, я не ўмею, а перакладваць свой дрэнны настрой на кагосьці лічу непатрэбным. Тое папярэдняе пісьмо я напісала табе для таго, каб ты зразумеў, што калі нам з табою не шанцуе, дык гэта не значыць, што ўсім дрэнна. Усё ж такі для многіх перамога – рэальнасць, хай сабе і праз пакуты. А мы з табою ў многім самі вінаваты. Нездарма ёсць пагаворка: "Пасееш характар – пажнеш лёс". Чэхаў прызнаваўся, што ён па каплях выціскаў з сябе раба. Ува мне таксама сядзіць раб. Можа і я калі-небудзь з сябе яго выцісну.

А наогул усё ў мяне не так ужо безнадзейна і смяротна. Яшчэ нідзе не працую, але прыпіска гродзенская захоўваецца, дзякуючы адной бабульцы. У вёску вяртацца не хачу. Не люблю вёску за цікаўнасць, за пляткарства. Кажуць, што горад раз'ядноўвае людзей. Але ж не заўсёды хочацца, каб пра цябе ўсё ведалі і лезлі ў душу. Была ў канцы верасня на XI рэспубліканскім семінары творчай моладзі. Гэта ўжо наш абласны аддзел СП мяне

накіраваў. Апошні час яго старшыня звярнуў раптам на мяне ўвагу. Нечакана яму спадабаўся адзін мой верш, надрукаваны ў абласной газеце. Семінар праходзіў у нас у Гродна. З нашых знаёмых па Іслачы была толькі Галя Тычко (памятаеш, працуе ў “ЛіМе” у аддзеле крытыкі). Узнімалі тыя ж пытанні, што і ў “Іслачы” і таксама мала што вырашылі. Сабрана была моладзь розная: мастакі, кампазітары, акторы, дзеячы кіно, паэты, пісьменнікі, архітэктары. Пабачыла столькі энергічных жыццёрадасных людзей. Крыху падняўся настрой.

Я цяпер нічога не пішу. Чамусьці не пішацца, нейкая апатыя да ўсяго. Вывучаю гісторыю Беларусі.

Я не згодная з табою, што Беларусь трэба шкадаваць. Ёю трэба ганарыцца. У яе не менш вялікіх імёнаў і вялікіх людзей, чым у другіх народаў. Яна сістэматычна губляла лепшых сваіх людзей у бясконцых войнах. У час сялянскіх войнаў у 17 стагоддзі яна згубіла кожнага 2-га беларуса (пасля і наступіў у яе гісторыі заняпад). Але ж яна не знікла, выжыла. Можа толькі здзіўляць беларуская цягавітасць, працаздольнасць, выжывальнасць. А колькі беларусаў, не маючы магчымасці стаць героямі сваёй краіны, праславілі іншыя. Шкада, што мы амаль не вывучаем сваю гісторыю ў школе. І дазваляем літоўцам глядзець на нас звысока, хоць княства было беларуска-літоўскім, а не наадварот.

Пішы. Галя.

**Ліст пятнаццаты**

Добры дзень, Галя!

Вось і добра, што ты не адчайваешся. А то мне, прызнаюся, здавалася, што ты часам схільна перабольшваць безнадзейнасць становішча – што ў цябе менавіта <u>такі</u> характар… І калі ён у цябе сапраўды такі, усё роўна наракаць на свой характар табе не раю. Лёс чалавека залежыць у першую чаргу ад знешніх умоў, ад эпохі, у якую жывеш, ад месца ў грамадстве, якое адведзена чалавеку, часам яшчэ да таго, як ён нарадзіўся, ад розных выпадковасцяў і вельмі мала ад самога чалавека. Някрасаў нават пра Ламаносава пісаў, што той не толькі па сваёй, але і “по божьей воле стал разумен и велик». А Пушкін хіба стаў бы сапраўдным Пушкіным, калі б ён нарадзіўся, напрыклад, у сям’і прыгоннага селяніна? Яго б тады, мабыць, – «и старик Державин не заметил бы, и, в гроб сходя, не благословил бы». А ў наш час чалавечыя магчымасці, яго свабода ў выбары свайго лёсу абмежаваны яшчэ болей, чым калі-небудзь. І ў гэтых умовах застацца самім сабою, захаваць <u>свой характар,</u> сваю індывідуальнасць – таксама перамога. Тым болей, калі ў <u>цябе</u>, я знаю, характар залаты.

Я чаму непакоіўся за цябе? Таму што ведаю, што часам чалавек, апынуўшыся без работы, пастунова траціць кантакт з людзьмі, бо няёмка,

калі пытаюцца ў цябе: “А дзе ты працуеш?” Трэба кожнаму штосьці тлумачыць, а ў самога на душы аж моташна, і тое, што для іншых проста і лёгка, для цябе ўжо амаль праблема…

(Гэта я – са свайго колішняга вопыту). Але вось ты пабывала на семінары, сярод цікавых для цябе, энергічных і жыццярадасных людзей – і ў пісьме нават адчуваецца больш упэўненасці, хоць ты і пішаш, што нападае часам туга. Нічога, усё будзе добра.

Я ў сваім асяроддзі людзей жыццярадасных і энергічных амаль не бачу. Ды і ў самога – якая там энергія, калі з работы ўвечары ледзь валачэш ногі? Але і ў мяне ёсць часам перамогі: дацягнуў да чарговай зарплаты – ужо перамога, выкапаў сваю бульбу ў полі – таксама… А радасць – хіба калі атрымаю ад цябе пісьмо, ды й то не ведаю, ці гэта сапраўдная радасць. Калісь, у мінулым нават яшчэ годзе, радаваўся, калі верш надрукуюць які-небудзь мой у раёнцы або ў абласной газеце, а цяпер і гэта мяне не цікавіць. Неяк у мінулым месяцы знайшла мяне на рабоце ў полі карэспандэнтка з абласнога радыё, хацела нешта запісаць для перадачы, дык я наадрэз адмовіўся, будучы не ў настроі. Так яна і паехала, і нават пакрыўдзілася. Наогул, заўважаю, што стаў у нечым зусім не такі, як раней: пасталеў, ці хутчэй за ўсё – пастарэў. Так, напрыклад, у мінулым годзе мне вельмі хацелася паехаць на семінар у “Іслач” (і я не шкадую, што паехаў), а сёння, напэўна, не паехаў бы, а калі б і паехаў, дык не хваляваўся б ужо, як тады, і вершы тыя не чытаў бы.

Пішу часам тое-сёе для сябе, і ад гэтага адчуваю палёгку. Для мяне неабходна, каб напісанае з цягам часу для мяне самога не страціла актуальнасці і каб я потым ужо ў надрукаваным не мог больш нічога паправіць – каб мне самому не захацелася нічога ў ім папраўляць.

Гісторыяй сёння цікавяцца многія. Але я лічу, што ведаць гістарычныя падзеі, факты (прычым яны заўсёды ў літаратуры асвятляюцца з пэўных класавых пазіцый і таму часам ацэньваюцца дыяметральна па-рознаму) мала. Веданне гісторыі павінна вучыць нас разумець сучаснасць. Я таксама лічу сябе патрыётам (ва ўсякім разе не абыякавы да лёсу беларускага народа), тым не меней трэба пагадзіцца з тым, што заняпад нацыянальнага – гістарычна заканамерная з’ява. Тыя ўмовы, пры якіх складваліся нацыі, сёння адсутнічаюць (тэрытарыяльнае, эканамічнае адзінства, мова і г.д.). Класавая няроўнасць падрывае духоўнае адзінства народа. Каб людзі адной і той жа нацыі змаглі зразумець адзін другога, агульнай мовы яшчэ мала. Нават асобныя словы для прадстаўнікоў розных сацыяльных груп маюць рознае значэнне. (Так для сытага слова “хлеб” – проста харчовы прадукт, а для галоднага – гэта і жыццё, і ласунак, і цяжкая праца). Для мяне бюракрат, кар’ерыст, хапуга – нават калі ён не толькі па паходжанню беларус ці ўкраінец, ці рускі, а калі нават і родны брат мой – вораг усё роўна. А патугі інтэлігенцыі захаваць культуру і мову народа асуджаны на няўдачу, бо не інтэлігенцыя стварае культуру, а народ. А тое, што тыя ж літоўцы ці хто іншы глядзяць на беларусаў звысака – гэта ўжо сапраўды нацыянальная абмежаванасць, якая шкодзіць духоўнаму збліжэнню і аб’яднанню ўсіх

людзей добрай волі ў змаганні за сацыяльную справядлівасць, правы чалавека і адраджэнне нацыянальных культур.

Прабач, можа ты ў чым-небудзь і не згодна са мной. Але ж я толькі выказаў свае погляды, дый то не ўсё выказаў, што на сэрцы маю.

Пішы, калі ласка, калі маеш час. Не сумуй.

З прывітаннем   Васіль.

4/X – 87 г.

Віншую цябе і тваіх родных з Днём Настаўніка.

Добры дзень, Васіль!

Не крыўдуй, калі ласка, што даўно табе не пісала. Чаму не пісала? Надакучыла і няёмка скардзіцца бясконца. А вясёлага ўсё мала ды мала.

У маім жыцці адбыліся змены: я выйшла замуж за чалавека, якога даўно ўжо кахала. Але каханне, аказваецца, зусім не гарантуе ўзаемаразумення. І таму зрабіла я, відаць, дрэнна. Яшчэ цяжка хварэе мама. За мяне перахвалявалася – і здалі нервы. І мае ўласныя нервы зусім растрэсеныя. Не ведаю, ці трэба так ныць у пісьме. Але вельмі хочацца табе ўрэшце напісаць. А навіны ўсе сумныя. Добрая толькі адна: Хрысціна Лялько збіраецца надрукаваць мае вершы ў “Беларусі”. А вось ад Міклашэўскага няма адказу. Я паслала яму рукапіс зборніка (ён сам прапанаваў на семінары, а цяпер нешта маўчыць).

Апошнім часам мала пішу. І цяжка. У вершах раней я вылівала тугу. А цяпер не магу ад яе вызваліцца. Купіла зборнік Галіны Булыка “Сінтэз”. Вельмі спадабаліся яе вершы. Адметныя ад усіх. Яшчэ нідзе не працую. Пайшла б біблтіятэкарам, як ты раіў, але ж яны вельмі марудна атрымоўваюць кватэры. А мне так хочацца мець хоць пакой асобны  ў Гродна.

Як твае справы? Як здароўе? Настрой? Чым займаешся?

Дашлі свае новыя вершы, калі ласка. Пішы.

Галя.

**Ліст шаснаццаты**

Дзень добры, Галя!

Прабач, што крыху затрымаўся з адказам.

Віншую цябе са шлюбам. Жадаю табе вялікага і сапраўднага шчасця ў тваім новым жыцці. Узаемаразуменне, мабыць, прыйдзе з цягам часу. А зрэшты, ты ведаеш, я ў гэтых справах – не дарадчык. А наогул, думаю, цяпер трэба табе больш паклапаціцца аб тым, каб неяк больш утульна ўладкаваць сваё жыццё, але навучыць гэтаму не магу нікога, бо і сам не

ўмею.

Табе здаецца, што ты ў сваіх пісьмах толькі “ныеш”. А я ў тваім пісьме гэтага не знаходжу. Хвалюешся, трывожышся занадта, і нават адчайваешся, па-мойму, у большасці выпадкаў беспадстаўна. Але такі ўжо ў цябе характар і душа надта ранімая, відаць. Навучыся як-небудзь не зважаць на дробязі, вызнач галоўнае і трымайся яго… Не, не мая гэта справа – павучаць. Суперажываць хіба толькі… А зборнік надрукаваць – сама ведаеш – для гэтага трэба не год і не два нават.

На тым тыдні я атрымаў запрашэнне ў Мінск на семінар журналістаў па пытаннях сатыры, але не паехаў, бо які ж я журналіст? Прыношу ў раёнку часам сатырычныя вершы або байкі, але сам адношуся да іх не вельмі сур’ёзна.

Для сябе пішу таксама мала і цяжка. Настрой – адпаведны. Працую на ранейшым месцы. Мне б таксама вельмі хацелася пачытаць твае новыя вершы. Таму дасылаю табе свае апошнія, не вельмі ўдалыя (у раёнку можа й пойдуць).

**Навагоднія стансы**

Зноў неба ў зорках.
Пацяплела… Вецер сціх.
Дзень добры, Новы Год!
Заходзь да хаты.
Сядай за стол –
налью табе гарбаты.
А цукар – свой дастань.
І падзялі на ўсіх.

Гарбата на стале.
А цукар – дэфіцытны…
Ва ўсякім разе
на паліцах не відаць.
Купіць яшчэ
складаней, чым дастаць –
на гэта чалавек патрэбны
спрытны.

Прыстасаванец
альбо той жа кар’ерыст
не знік яшчэ
і не сышоў са сцэны.
І нешматлікія пакуль што
перамены –
няўзнак яму
і нават – на карысць.

Цяпер –
слуга сваіх амбіцый і патрэб –
хапуга
тое, што паспеў накрасці,
не ў рэчы – як раней –
а ў справу
прагне ўкласці
і ўпотай марыць соладка
пра НЭП.

А кар’ерыст
употай прагне ўлады,
але й публічнасць для яго –
не дым:
вітаючы
дэмакратычны ўздым,
ён спадзяецца
на вакантныя пасады.

А колькі тых
сляпых і млявых душ,
занятых усур’ёз
гульнёй у словы,
не трапіла яшчэ
пад ачышчальны душ
і не адчула на сабе –
перабудовы?

Але ці варта
ўспамінаць аб іх –
псаваць сабе і ўсім
настрой святочны?
Прагноз на заўтра
хай не будзе змрочны –
зноў неба ў зорках.
Пацяплела. Вецер сціх.

І па традыцыі
пад поўнач
Дзед Мароз
зноў пасля дня турбот
і хваляванняў –
калі не цукру, дык
надзей і спадзяванняў
у падарунак нам
паўнюткі мех прынёс.

І свет узрушыла
выдатная падзея,
і з радасцю
адзначыў кожны з нас:
трашчыць лёд  ядзернай зімы,
і самы раз –
павіншаваць саміх сябе
з надзеяй.

Віншуйце ўсіх –
хай спраўдзіцца яна.
хай птушка радасці
не зложыць крылы ў стоме…
Мір на Зямлі,
святло ва ўласным доме –
дзве мары,
а па сутнасці – адна.

**Мікітава хвароба**

Звярнуцца да ўрача бухгалтара Мікіту
прымусіла адсутнасць апетыту:
“Пакутую, а што рабіць – не ведаю, хоць плач…”
“Вы дзе працуеце?” – пытае ўрач.
“Ды я – бухгалтарам галоўным у канторы…
Пасада ж надта неспакойная ў мяне:
бясконцыя праверкі, рэвізоры…
Праз іх я ў рэшце рэшт такі зрабіўся хворы,
што ўжо не п’ю й не ем і трызню ў сне”.
“Так-так.. Я вам параю – тэрмінова
адмовіцца ад працы разумовай.
З рыдлёўкай папрацуйце год-другі –
няхай тым часам адпачнуць мазгі”.
Мікіта ў роспачы патыліцу пачухаў,
але скарыўся – доктара паслухаў.
Работу новую знайшоў сабе як бач –
пайшоў з рыдлёўкай выгружаць вагоны…
Праз год пытаецца ў яго той самы ўрач
пра апетыт і пра настрой ягоны
і чуе: “Дзякуй вам і людзям – за давер;
ўжо з год ніводная мяне праверка не чапае.
І вельмі добры апетыт, але цяпер
на ежу мне зарплаты не хапае”.

***

Чакай, калі ў даждлівы сумны дзень
нарэшце выгляне пад вечар праз аблокі
і раптам адлюструецца ў вадзе
блакітных лужын твар зары пунсовашчокі,
калі здалёк на ўсходзе бачныя ледзь-ледзь
пачнуць патроху хмаркі ружавець
і неба, у якога шэры твар быў,
зайграе ўсплёскам светлых колераў і фарбаў
і ў кроплях заблішчыць расплаўленая медзь –
тады ты выйдзеш на дажджом абмыты ганак,
і ўмомант ад маршчын разгладзіцца чало:
скупы на радасць быў, захмараны, твой ранак,
затое вечар – шчодры на святло.
На схіле дня яно вяртаецца, як рэха
світання, да пары схаванага ў імгле,
і ёсць для сэрца ў тым запозненым святле
і радасць, і салодкі сум, і боль, і ўцеха.

Дзякуй за пісьмо. Дашлі свае вершы, калі можаш.

23/XII – 87 г. Васіль.

**Ліст сямнаццаты**

Добры дзень, Галя.

Дзякуй за віншаванне і паштоўку. Прабач, што не павіншаваў цябе з Новым годам, проста неяк не хацелася звяртаць на сябе тваю ўвагу і яшчэ раз напамінаць аб сваім існаванні.

А сёння дазволь у такім разе павіншаваць цябе з Новым годам – па старому стылю – і пажадаць табе вялікага шчасця і поспехаў у жыцці, моцнага здароўя, добрага настрю і паспяховага ажыццяўлення ўсіх тваіх творчых задум і планаў на будучае.

У маім асабістым жыцці за мінулы год не адбылося ніякіх значных змен. Здароўе някепскае, працую, як і раней, у сваім саўгасе. Зарплаты з нацяжкай хапае на самыя прымітыўныя надзённыя патрэбы. Даволі рэгулярна чытаю перыёдыку, у прыватнасці часопіс “Огонёк”, на які мне пашанцавала падпісацца і ў гэтым годзе. Такім чынам я ў асноўным у курсе тых падзей, якія зараз адбываюцца ў жыцці грамадства. Хацелася б і самому мець магчымасць прыняць хаця б пасіўны ўдзел у барацьбе за дэмакратычнае аднаўленне грамадства, асабліва сёння, калі сілы антыперабудовы актывізуюцца і пераходзяць у адкрыты наступ. На жаль, у мяне такой магчымасці няма…

Пішу вершы, некаторыя з якіх, галоўным чынам сатырычнага напрамку, друкуюцца часам у раённай газеце – але задавальнення ад гэтай сваёй “творчай дзейнасці” не адчуваю, ды яно і зразумела…

Мне было б цікава даведацца больш падрабязна, як склаўся твой лёс, у тым ліку і пра твае літаратурныя поспехі – але сумняваюся, ці прыстойна будзе, калі я звярнуся да цябе з просьбай напісаць мне некалькі слоў аб тым, як ты жывеш сёння.

Бывай! Перадавай прывітанне паважанай Фаіне Ігнацьеўне, перад якой мне сёння сорамна за рэзкасць і гарачнасць некаторых сваіх меркаванняў, выказаных мною ў апошнім лісце да яе.

Усяго найлепшага!

4/I – 89 г. Васіль Г.

Добры дзень, Васіль!

Прабач, што так доўга не адказвала на твой ліст. Усё не магла сабрацца.

Якія ў мяне навіны?

Першая – маю сына, яму 7 месяцаў, вельмі дасціпны, рухавы хлопчык. Я яго моцна люблю і шчаслівая, што ён у мяне ёсць. Пакуль не працую, збіраюся вывучыць машынапіс і стэнаграфію, каб пасля ўладкавацца на працу не ў школу і не ў дзіцячы сад.

Вершаў цяпер не пішу. У нас у Гродна выходзіць калектыўны зборнік “Краю мой, Нёман”. Узялі ў мяне туды два вершы. Мабыць, надрукуюць. Я. Міклашэўскі раней паведамляў мне, што мяне ўключылі ў план на 1990 – 91 гг., што мае вершы ён адрадактаваў. Прасіў, каб прыехала. Але пакуль не паеду, бо няма з кім пакінуць сына: бацькі старыя, муж ненадзейны.

Сама не ведаю, ці патрэбны мой зборнік людзям. Усё ўспамінаю, як холадна прынялі мае вершы на семінары ў Іслачы. Можа, яго ніхто чытаць не будзе?

Як ты жывеш, Васіль? Пішы мне хоць зрэдку пра свае навіны.

Галя.

[Пасля дэкрэту я выйшла на працу ўсё ж такі ў школу і настаўнічала да 2005 года з перапынкамі. Такім чынам, за “месца пад сонцам” я змагалася значна даўжэй, чым Васіль Гадулька. Напэўна, таму, што мяне падтрымлівала мама, яна жыла да 2004 года. А пасля яе смерці ў маім жыцці адбыўся абвал: калі раней былі праблемы толькі з вучнямі, то пачаліся яшчэ і з кіраўніцтвам школы. Дырэктар школы сказаў мне : “Вы нідзе не будзеце працаваць”. Напэўна, ён меў на ўвазе другія школы. Я адказала: “Буду”. Таму што ў школу ўжо і не імкнулася. Працавала ў жэсе, мыла пад’езды, пасля ўладкавалася на Гродна Азот, даглядала тэрыторыю.

А заканчваю свой працоўны шлях таксама, як і Васіль Гадулька, – вахцёрам (праўда, яшчэ і прыбіральшчыцай) у дапаможнай школе г. Гродна, дзе вучацца дзеці з рознымі ступенямі разумовай адсталасці, многія – інваліды. Такім чынам кола майго працоўнага лёсу замкнулася на школе, каб я ўсё ж зразумела, што і ў звычайнай школе вельмі шмат дзяцей, якія проста не могуць вучыццца, і з-за таго, што ім наогул нецікавая і недаступная ў патрэбных памерах разумовая праца, парушаюць дысцыпліну. А я не разумела гэтага, хацела навучыць усіх і патрабавала ад усіх старанлівасці ў навучанні. Цяжкія да навукі дзеці ад гэтага з парушальнікаў дысцыпліны па неабходнасці рабіліся злоснымі парушальнікамі, бо пачыналі мяне ненавідзець. ]

**Ліст васямнаццаты**
неадасланы (знойдзены ў архіве Васіля)

Добры дзень, Галя.

Дзякуй табе за ліст. Я рады, што ў цябе склалася ўсё так добра. У мяне нават у самога настрой палепшыўся, калі я прачытаў тваё апошняе псьмо. І што ёсць надзея на тое, што будзе нарэшце калі-небудзь надрукаваны зборнік тваіх вершаў – таксама добра. Я ўдзячны буду атрымаць ад цябе экзэмпляр з аўтографам, але калі гэта яшчэ будзе?

Зрэшты, я жартую. Аднак жа Я. Міклашэўскі, відаць, добры і сумленны чалавек. Ён мне асабіста падабаецца: у адным з нумароў “Маладосці” ён так “расклаў” праграму і літаратурныя дасягненні “Тутэйшых”, што мне нават шкада іх стала. Але, па-мойму, справядліва.

У мяне справы яшчэ больш пагоршыліся – на рабоце. За такую дробязь, якую плацяць, пражыць становіцца зусім немагчыма. Наадварот… Але гэта нецікава. Адчуваю, што хутка і з гэтай работы мяне зволяць (за якую з упартасць вар’ята трымаўся колькі год, спадзеючыся на нейкія змены) – зволяць за тое, што паводжу сябе неспакойна. І тыя, каго абараняў, не заступяцца. І добра, бо трэба ж усё-ткі нешта мяняць у асабістым жыцці, а ў мяне такі характар, што без штуршка збоку я , можа, на гэта ніколі не наважуся…

[Нашы лісты рабіліся ўсё больш рэдкімі, і ўрэшце-рэшт перапіска сама сабой спынілася. Мне здаецца, мы абодва ўнутрана вырашылі маўчаць пра свае няўдачы. Пра няўдачы можна гаварыць, пакуль спадзяешся іх вырашыць. І зусім непрыгожа і непатрэбна скардзіцца на невырашальнае. Дапамагчы адзін аднаму мы не маглі, бо абодва выжывалі на мяжы сваіх жыццёвых сіл і падзяліцца імі было немагчыма.

Васіль не адаслаў у Гародню свой апошні ліст. Я не напісала яму ў папярэднім, што мой першы сынок, Юрачка, нарадзіўся з парокам сэрца,

што ў яго часта бываюць прастуды, што рэаманітолаг настойліва раіць рабіць аперацыю, калі ён крыху падрасце. (У жніўні 1991 г. я паехала з ім у Кіеў, дзе ў клініцы Амосава яго прааперыравалі, пасляаперацыйны перыяд быў вельмі цяжкім). Не пісала я таксама аб тым, што мой брат і муж маюць вялікія праблемы з алкаголем. З гэтай прычыны мяне мала хто разумеў, але ўсё ж у студзені 1991 г. я нарадзіла другога сына. У хуткім часе "згарэлі" усе мае і бацькоўскія зберажэнні, і мне было вельмі цяжка матэрыяльна. Але сёння менавіта малодшы сын – мая апора.

Мой першы зборнік вершаў, які павінен быў называцца "Раўнавага" і пра які я так доўга марыла, таксама не выйшаў – з-за адсутнасці сродкаў у новай дзяржаве, Рэспубліцы Беларусь. Усё, што выдадзена нашай сям'ёй, а потым і асабіста мною, – выдадзена за ўласныя нашы грошы. Ці трэба было гэта рабіць, не ведаю. Тады хацелася. А цяпер я гэтага ўжо не рабіла б. Калі вершы вартыя таго, павінен усё ж хтосьці іх заўважыць і выдаць, а не сам аўтар. Як і адбылося гэта з творчасцю Васіля Гадулькі.]

# ДАДАТАК

**Прызнанне**

Па лесе росным
брыду ігліцай, імхамі.
Даруй, мой родны,
я цябе не кахаю.

Я злая, мусіць,
цябе пакрыўдзіла горка.
Дажджу малюся,
палянам, дрэвам, узгоркам.

Ім усё роўна,
і боль сумлення сціхае.
Даруй, мой родны,
я цябе не кахаю.

Мой ліст засмуціць
цябе тугой непазбежнай.
На жаль, пачуцці
жывуць ад нас незалежна.

Рукой халоднай
разлука ўдалеч махае.
Даруй, мой родны,
я цябе не кахаю.

***Галіна Самойла***

1987 г.

***

Уяўляю: калі мне самотна,
калі бераг мой тоне ў імгле,
мне паэтка Галіна Самойла
свой аўтограф і фота прышле…

Каб я нос у маркоце не вешаў,
нагадае яшчэ раз: пішы,
і падорыць мне некалькі вершаў,
каб ізноў пасвятлела ў душы.

За давер шчырым словам аддзячу –
прысвячу ёй свой лепшы санет.
І пачну сабе марыць наўдачу,
як хлапчук, закаханы ў партрэт.

***Васіль Гадулька***

Пачатак 1990-х гг.

## Трыялет

*Васілю Гадульку*

Душы высокае гарэнне
Зіхціць, як зорка між начы,
З зямлі ў бязмежнасць летучы.
Душы высокае гарэнне
Знайшло святое прызначэнне,
Каб шчасце ў горы зберагчы.
Душы высокае гарэнне
Зіхціць, як зорка, між начы.

***Фаіна Самойла***

1993 г.

***

*Васілю Гадульку*

Я сябе не любіла за сціпласць.
З-за яе не было мне цаны.
І таму неабачліва ліпла
да нахабных, пустых, прабіўных.
Я зрабіла свой выбар смяротны
і загнала сябе ў цёмны кут.
Я нячула, на жаль, незваротна
сябра кінула ў жорнах пакут.
Зло забрала душу на закланне,
з ім цяпер паміраць мне і жыць.
І маё трапяткое каханне
горкі лёс мой распнуў на крыжы.
Я ад сціпласці ў смеласць ляцела…
Шлях нятупкі: ралля ды ралля…
Што знайшла? Толькі тое, што мела –
зорны покліч душы Васіля.

***Галіна Самойла***

2008 г.

## СТУДЭНЦКАЯ СТАРОНКА

Аліна Паўлоўская
**Гродна**

**ПАЭЗІЯ**

Паэзія, пасланніца нябёсаў,
Ты клікала мяне за небакрай,
І басанож ляцела я па росах
Да сцежкі, пратаптанай проста ў рай.

Мяне ласкала хмара песняй слёзнай,
Загорнутай у шэрую нуду.
Паэзія, пасланніца нябёсаў,
Чакай мяне, я да цябе іду!

***

Мне не бракуе сіл –
Мне не хапае цноты.
Мацаю небасхіл –
Неба калючым дротам
З жарсцю цалуе ў скронь.
Не дапамогуць латы.
То не мая далонь –
Краты.

***

Разбіваюцца хвіліны
Аб задумлівыя скалы,

Выгінае месяц спіну,
Закругляецца памалу.

Сонца коціцца няспынна
Дагары, згары, згарае...
Чалавек сядзіць ля млына,
А душа – за небакраем.

## ДВАЦЦАТАЙ ВЯСНОЙ

Дваццатай, растрывожанай вясной
На беразе самотнага чакання
Пад хвалямі вільготнага расстання
Знікалі мары – музы дзіўных сноў.

Іх воклічы глушыліся вадой.
Іх рукі, што шукалі прагна Бога,
У роспачы хапаліся за ногі
Мае – цягнулі ў цемру за сабой.

І я ішла, пакорная, на дно,
Пакінуўшы на беразе чаканне.
Канала недарэчнае каханне
Дваццатай, растрывожанай вясной.

***

Палоняць сэрца Вашы вусны
Журботным подыхам нябёс,
Няўлоўным водарам спакусы,
Салодкім болем. Вы – мой лёс.
Ад слоў сваіх не адракуся
Ні ў вольным небе, ні ў турме.
Кахаю… дзеля Беларусі.
Таму яна яшчэ жыве!

***

Задумлівы гадзіннік састарэў.
Маркотная зязюля дзюбу звесіла.
Гады ў рады. Кагосьці не стае.
А лічбаў шэры шэраг мной закрэслены…

Ціхмяны дзень сыходзіць басанож.
Мінае ноч цыганкаю бяздомнаю.
Чакаю сонца, а прыходзіць дождж.
Яшчэ імгла – жывая і бяздонная.

Пад глыбай гэтай церпкай цішыні
З іскрынак зор я вогнішча распальваю,
Каб вершы гартаваліся ў агні
І сэрца накрывала лава хваляю.

Я веру, што надыдзе іншы час,
Развеецца туман падманных правілаў
І сонца прамянёвы свой абцас
Зламае аб хрыбты паэтаў здрадлівых.

## ПАМЯЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Твая душа – малюнак артыстычны.
Душа мая – тугі самотны спеў.
Маё жыццё – бязлітасны кастрычнік.
Жыццё тваё – лагодны майскі спеў.

Я воблік твой малюю на аблоках –
Хай вецер закалыша вечны сум.
Я вымалю задумлівага Бога,
Каб вызваліў цябе ад цяжкіх дум…

Хоць кволыя мае зусім радочкі
І пахнуць недаспелым васільком,
У небе расцвітуць яны паўночным
І голас твой аздобяць сном-вянком.

## МАНАЛОГ БЕЛАРУСІ

*Памяці Ларысы Геніюш*

Памяці заступніцы пакутнай,
Маці ненароджаных сыноў,
Да Радзімы на вякі прыкутай
За сваю адданую любоў…

– Не чакай ты літасці ад мяне:
Маю абяздоленых цэлы край!
Маё сэрца цяжкае не кране
Ні малітва слёзная, ні адчай.

Не глядзі дакорліва на раба:
Волі пераможаным не даюць.
У самоце скідвае ліст вярба –
З шапаценнем падае…Беларусь…

**МОВА**

Жывая мова родная:
Зіхцяць дзяўчыны слічныя.
З вачамі, нібы знічкамі,
І круцяцца спаднічкамі,
Гукаюць за сабой.

І молайцы высокія –
Аж пераймае лёгкія! –
Вытопваюць, выскокваюць,
Ды баюць пра любоў…

А сонца непагаснае
Усмешкаю прыязнаю
Прыветна апаясвае
Усё, што навакол.

І сыплецца гуллівае
Малечаю шчасліваю
Праменне пераліўнае
На дрэвы і на дол.

І марыцца, і верыцца,
І да аблокаў сцелецца,
І грэецца, і свеціцца
У полымі надзей

Мелодыя ласкавая,
Гучыць бесперастанку, ах…
І песняю-вяснянкаю
Зрываецца з грудзей.

Жывая мова, родная,
Прыгожая, лагодная,
Спрадвечная і… модная!
Адкінь сумневы ўбок!

Каштуй, пакуль гарачае,
Гаючае і смачнае
Святое слова матчына,
Што нам пакінуў Бог!



Вікторыя Смолка
**Гродна**

***

Яшчэ пабачу светлыя часы,
Завяне хмара, што мне замінае.
Пайду на Божых птушак галасы -
І глеба пад нагамі залунае.

Яшчэ мяне пацешыць успамін,
Закружаны кастрычніцкай лістотай.
А там, дзе слёзы выпілі палын,
Усмешка пакаштуе цёплай цноты.

Яшчэ я прытулюся да сяброў
І выдыхну радочак рыфмаваны.
Каб толькі мне дажыць да тых часоў,
Калі душу ускрыляць мае мары!

***

**А**дкуль ў Тваім сэрцы струмень цеплыні
**Б**яздонны, як неба, як зоры,
**С**амотны, як вечарам песня зямлі,
**Т**рывожны, як серп на разоры?

**Р**асцвіў на далоні Тваёй васілёк,
**А**днойчы забіты вятрыскам.
**К**алі пагляджу я на кветку здалёк,
**Т**ы станеш мне самаю блізкай.

**Н**айроднейшай, найпрыгажэйшай вясной
**А**дразу Цябе я успомню.
**Е**вангеллем сэрца, і явай, і сном,
**Я** буду з Табою да скону...

***

Хачу я ўзляцець ў Неба вышай,
Паслухаць, як знічкі спяваюць.
Шчаслівыя вершаў не пішуць –
Шчаслівыя вершы чытаюць.

Не ведаючы, што песня
Народжана болем і стомай,
Пяюць ў аўтобусе цесным,
Калі сцежка кліча дадому.

Каханаму або каханай
Выконваюць "Зорку Венеру".
І, дзякую Богу, не знаюць,
Як сэрца крывіць на паперу...

***

Ужо не страшна ісці наранку –
Не спіць прамень, яго будзіць спеў,
Ужо Вясніца пяе вяснянку
Сярод галінаў цяжарных дрэў.

Калі заплача нячутным шэптам
Лісток ў зялёненькіх паўзунках,
Яго загойдае маці ветру
На сваіх лёгкіх святых руках.

Ужо ліхтарыкі мроі ў цемры,
Паўстала музыка аблачын.
І ветрык звонкіх дажджынак зерне
Нябачна сыпле ў нябесны млын.

А млын памоліцца за лістоту,
Зашалясціць нада мною званчэй.
І вып'е сонечны дзень самоту
З маіх шырока закрытых вачэй...

***

Мне здаецца, што заўтра прыйдзе  красавік,
І красуня-зямля пад смарагдам патоне.
Лёгкаспеўна над намі ўзляцяць салаўі,
Залунаюць крылатыя мроі.

Адчуваю: нябёсы з цяплейшым святлом
Раніцою ў акно сыплюць вецер вяснявы.
Быццам думкі мае не завуцца больш сном,
А завуцца душэўнаю явай.

Хутка дзень, як гармонік, раскрые свой міг,
Зазвініць і пазбавіць чаканне ад болю.
Мне здаецца, што заўтра прыйдзе красавік
І прыйдзе менавіта з табою...

***

Напішы да мяне у Гародню
Не адна, а з сыночкам і мужам.
Перадай ў папяровых палотнах
Беласнежнае памяці ружы.

Вецер, не разгінаючы спіну,
Хутка жне залатое калоссе.
Сёмы годзік ужо твайму сыну
Прабіваюць гадзіннікі лёсу.

Ён маленечкі – самы галоўны,
Бо яшчэ вельмі кволыя крылы,
Бо сынок поруч з маці-іконай
Ад калыскі і да магілы.

Часта скрыллі душы маёй плачуць,
Што зацішшам лісты абарваны -
Да маленства мой шлях, няйначай,
Як схавалі лясы і саванны.

Дні плывуць па рачуланьцы-сіньцы
За кісельнымі берагамі
Напішы беларускай дзяўчынцы
Мілагучнейшымі слязамі...



*Шчыра ўдзячны ўсім, хто адгукнуўся з віншаваннямі
на маё 75-годдзе:*

Архіепіскап Лодзінскі і Познаньскі Сымон Раманчук
Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандр Авер'янаў
Дырэктар Цэнтра Культуры Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко
Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч;

Даследчыкі, пісьменнікі, сябры:
Міхась Андрасюк, Серафім Андраюк, Юрый Баена, Ніна Баршчэўская, Аляксандр Баршчэўскі, Анатоль Брусэвіч, Юрка Буйнюк, Наталля Гардзіенка, Святлана Грымута, Гаяна Джыгарханян, Тэрэса Занеўская, Міра Лукша, Хрысціна Лялько, Лідзія Маліноўская, Жэня Мартынюк, Таццяна Мейкшане, Ангеліна Мельнікава, Зоя Мельнікава, Вольга Нікіфарава, Галіна Нікіціна, Алесь Паплаўскі, Ала Петрушкевіч, Анна Саковіч, Ірына Саматой, Анатоль Сідарэвіч, Дзмітрый Шатыловіч, Данута Шпрынгман, Вольга Шынкарэнка;

а таксама:
Беларуская інтэрнэт-бібліятэка, "Беларусы ў свеце" (Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"), "Літаратурная Беларусь", „Przegląd Prawosławny", Беларускае радыё "Рацыя", "Роднае слова", Рэдакцыя "Нівы", Саюз беларускіх пісьменнікаў.

З павагай ***Ян Чыквін***



# Быць дзейснымі ў любові

## Гутарка Аксаны Данільчык з Хрысцінаю Лялько

***— Ведаю аўтараў, якія дакладна могуць сказаць, што месца нараджэння для іх літаратурнай дзейнасці не мела вялікага значэння. Іншыя наадварот, лакалізуюць свае творы менавіта ў роднай мясцовасці. Што для Вас Лідчына?***

— Радзіма. Найпрыгажэйшая ў свеце і найбольш мілая майму сэрцу. Але калі казаць пра творчую лакалізацыю, то найперш трэба мець на ўвазе мой родны хутар, які знаходзіцца за 18 км ад Ліды і за нейкага паўтара кіламетра ад вёскі Хадзюкі — сярод поля і лесу, з векавымі дзедавымі бярозамі на падворку і ў садзе і з такою цішаю, якую ў XXI стагоддзі ўжо і ўявіць цяжка. Там мой свет, там творчыя вытокі і вытокі самых глыбокіх перажыванняў. Там найбольш моцна адчуваю зпітаванасць з усім родным, з прыродаю і з сабою, толькі там бачу сябе такою, якою мяне «задумаў Бог, а не вылепілі абставіны». Там успрымаю і прымаю жыццё ў яго вертыкальным вымярэнні — ад каранёў да кроны, і разумею, што яно адзінае, нападзельнае і вечнае. Там найлепш разумею выказванне Кузьмы Чорнага пра тое, што «не хопіць цэлага жыцця, каб апісаць адну толькі вуліцу ў родных Цімкавічах…».

***— Прыгадайце самыя яркія моманты дзяцінства.***

— Усё дзяцінства. Чым больш жывеш на свеце, тым больш ясна ўсведамляеш, што дзяцінства — гэта аснова ўсяго жыцця, што чалавек, па сутнасці, ніколі не выходзіць з дзяцінства, ён там застаецца назаўсёды. Пра гэта калісьці выдатна сказаў Сяргей Параджанаў у сваім фільме «Я умер в детстве». У дзяцінстве ўсё яркае, усё непаўторнае: і дыяментавы бляск снегу ўзімку, і карункавая шэрань на бярозах, і глыбінная сінеча нябёсаў над імі, і садок у духмянай квецені ўвесну, і жоўты разліў дзьмухаўцоў, і першае куванне зязюлі, і салаўі на досвітку… Маё маленства, як сонцам, было сагрэта мамінаю любоўю да ўсяго жывога ў гэтым свеце. Мама казала: «Сонейка свеціць», «дожджык ідзе», «пчолкі гудуць»… І гэта не было сюсюканнем, у гэтым была замілаванасць і дабрыня, і ў гэтым была процівага і супрацьстаянне жорсткай калгасна-бальшавіцкай рэчаіснасці, якая ўрывалася і на наш хутар, калі знішчалі дзедаў лес, калі абразалі «па вуглы» зямлю, бо ў нас, бачыце, быў завялікі падворак… Але каб адказаць на Вашае пытанне, прыгадаю, бадай, самы балючы момант з дзяцінства, які перажыла як першую вялікую драму і страту, бо з гэтага моманту ўзнікла ў

душы ўсвядомленае жаданне выказаць той боль словам… Рэч у тым, што калісьці ў нас быў свой лес. Потым той лес, як і ўсю зямлю, забраў калгас, але ўсё роўна ў свядомасці не толькі нашай сям'і, але й іншых людзей — нашых суседзяў-хутаранцаў і вяскоўцаў лес заставаўся Гурскавым — па прозвішчы майго дзеда Вінцука, якога разам з самым малодшым сынам Віктарам у 42-м годзе застрэліў нямецкі паліцай. Таму лес быў адзіным рэальным напамінкам пра дзеда. Гэта быў не проста лес, гэта была казка майго маленства, якую аднойчы знішчылі дарослыя бязглузда-жорсткія людзі. Калгасным начальнікам заманулася выразаць лес, як быццам на нейкую пільную патрэбу — збіраліся рамантаваць ці будаваць канюшню… Самае крыўднае, што ў выніку так нічога й не было ані адрамантавана, ані збудавана. Спілаваныя дрэвы расцягалі і раскралі.

Памятаю, што лес пілавалі зімою, а ўвесну бярозавыя пні ружавелі і сцякалі сокам… Немагчыма было без слёз на ўсё тое глядзець. Лес застаўся ў маёй памяці, у снах і ў вершах. Пазней я напісала аднайменную аповесць…

***— Звычайна перш чым нешта напісаць, чалавек пачынае чытаць. Апошнім часам адбыліся цікавыя дыскусіі наконт беларускай літаратуры, якія прымусілі задумацца над пытаннем: дзеля чаго мы чытаем. Для Вас чытанне – гэта што?***

— З маленства чытанне — мой любімы занятак. Цяпер — гэта найперш рэдактарская праца ў часопісах «Наша вера» і «Ave Maria», у выдавецтве «Pro Christo». Даводзіцца чытаць не толькі матэрыялы ў нумар, не толькі ўсе прапанаваныя аўтарскія тэксты, але ўвогуле шмат рэлігійнай, духоўнай літаратуры — кніг, часопісаў, артыкулаў у інтэрнэце, праглядаць інфармацыйныя хрысціянскія сайты дзеля таго, каб знайсці штосьці новае і цікавае для друку ў сваіх часопісах, каб быць у курсе найбольш важных падзеяў хрысціянскага жыцця. Зразумела, даводзіцца таксама пастаянна чытаць навуковую тэалагічную літаратуру дзеля самаадукацыі… На чытанне для душы застаецца, на жаль, не вельмі шмат часу, але ўсё роўна стараюся яго знаходзіць і пастаянна адкрываю для сябе новых цікавых аўтараў. Іншы раз адкрыцці бываюць проста ашаламляльныя ў тым сэнсе, што здзіўляюся самой сабе: як можна было гэтулькі пражыць і гэтулькі прачытаць, а не ведаць, напрыклад, што ёсць такая цудоўная і такая глыбока хрысціянская нарвежская пісьменніца як Сігрыд Унсет і яе выдатныя раманы, асабліва раман-сага «Крысцін, дачка Лаўранса»… Гэта сапраўдная, вялікая літаратура. Яна будзе патрэбная і важная датуль, дакуль будуць жыць на гэтай зямлі людзі. Чытанне такіх кніг зноў і зноў пераконвае, што літаратура заўсёды была, ёсць і будзе перадусім мастацтвам слова, падсвечаным глыбінёю пачуцця і думкі, што ўсе постмадэрнісцкія выверты, якія імкнуцца ператварыць літаратуру ў пустыя, хоць часам і бліскучыя бразготкі — пустая забава, на якую не варта траціць часу.

***— Як адбыўся Ваш першы радок? Ён быў празаічны ці вершаваны?***

— Сваім першым радком я абавязана маме: разам з ёю, яшчэ ў маім дашкольным маленстве, мы вусна склалі просценькі вершык пра восень. Дасюль яго памятаю, як і той вечар, калі ў цёплай і мілай утульнасці нашай хаты, слухаючы, як шуміць за вокнамі вецер, мы з мамаю нечакана загаварылі ў рыфму (мама казала — «складна») і здарыўся маленькі цуд — нарадзілася тое першае вершаня. Аказваецца, такое не забываецца — светла памятаецца праз усё жыццё і грэе душу. Таму — дзякуй за гэтае пытанне…

***— У кожнага літаратара свой каштоўны вопыт уваходзінаў у, скажам так, прафесійную літаратуру. Як гэта адбылося з Вамі? Мяне цікавяць, напэўна, не столькі першыя публікацыі, колькі тагачасны літаратурны кантэкст.***

— З кантэкстам мне пашанцавала. Зрэшты, як і ўсім літаратарам майго пакалення 80-х. Ніколі не забуду тых першых пісьменніцкіх з’ездаў у маім жыцці, калі, седзячы дзе-небудзь на галёрцы з такімі самымі сябрамі-пачаткоўцамі, мы захоплена разглядалі залу. А там былі Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Максім Танк, Пімен Панчанка, Ян Скрыган, Міхась Стральцоў, Жэня Янішчыц… Можна называць і называць імёны тых, каго мы, улюбёныя ў кнігу, чыталі і ведалі па творах, хто быў, ёсць і будзе гонарам нашай літаратуры, каго пашчасціла бачыць і чуць, а з некаторымі не раз размаўляць і сябраваць…

Як тады ўмелі старэйшыя радавацца маладзейшым! Як умелі заўважыць з першых публікацый і падтрымаць: і добрым словам, і парадаю, і рэкамендацыяй у часопісы і выдавецтвы. Мне ў гэтым сэнсе асабліва пашчасціла на зычлівую ўвагу незабыўнага Яна Аляксеевіча Скрыгана; на падтрымку нашых народных пісьменнікаў — Ніла Гілевіча і Янкі Брыля; на блізкае сяброўства з Данутаю Бічэль, Жэняю Янішчыц і Валяю Коўтун; на прыязныя адносіны з Анатолем Кудраўцом, Арсенем Лісам і Нінаю Мацяш; на душэўнасць і зычлівасць Веры Палтаран, Алены Васілевіч і Алы Сямёнавай…

Усім ім, згаданым тут і не згаданым, я вельмі ўдзячна. Гэта такое шчасце — спазнаць у маладосці столькі чалавечай дабрыні і святла, гэта зарад на ўсё астатняе жыццё.

***— Хто са старэйшых літаратараў найбольш паўплываў на Вашае станаўленне?***

— Адказ на гэтае пытанне вынікае з папярэдняга: той «кантэкст», пра які я казала, несумненна, так ці іначай уплываў. А да таго ж было ўжо захапленне творамі Я. Купалы і Я. Коласа, К. Чорнага і М. Гарэцкага, Л. Калюгі і М. Зарэцкага. Была замежная літаратура, асабліва французская, была руская з маёю асабліваю любоўю да І. Буніна і А. Купрына, да М. Цвятаевай і А. Ахматавай… Не магу не сказаць пра сваю захопленасць прозаю В. Адамчыка, І. Пташнікава, Алеся Жука…Але цяжка сказаць, хто

з усіх тут названых (і не названых) канкрэтна паўплываў на маё станаўленне. Як любіў казаць Ян Аляксеевіч Скрыган: «Мы да канца жыцця застаемся вучнямі». Гэта сапраўды так, і якое шчасце, што ў нашай літаратуры было і ёсць у каго вучыцца.

***— Большасць пісьменнікаў праходзяць праз філалагічны факультэт. У Вас класічны ў гэтым плане шлях? Хто з выкладчыкаў найбольш запомніўся?***

— Так, у гэтым сэнсе сапраўды «класічны» шлях: я закончыла філфак БДУ. З выкладчыкаў удзячна запомніліся многія, але найперш і найбольш — народны паэт Беларусі, прафесар Ніл Сымонавіч Гілевіч, які выкладаў у нас вусную народную творчасць і раскрываў нам, разгубленым першакурснікам, вочы на тое багацце, якое маем, дапамагаючы ўсвядоміць, хто мы і адкуль, запальваючы ў нашых сэрцах любоў да ўсяго роднага, а найперш — да беларускага слова…

Удзячна памятаю паэта і прафесара Алега Антонавіча Лойку, які не толькі выкладаў у нас беларускую літаратуру, але і кіраваў літаб’яднаннем «Узлёт», а таксама быў кіраўніком маёй дыпломнай працы. З удзячнасцю згадваю таксама Ніну Іванаўну Гілевіч, Вячаслава Пятровіча Рагойшу. Кузьму Рыгоравіча Хромчанку — кіраўніка маёй курсавой працы. Былі ў нас добрыя і цікавыя выкладчыкі антычнай і замежнай літаратураў, мовазнаўства, лацінскай і замежнай моваў.

***— Вырасці ў горадзе і вырасці ў вёсцы – рэчы розныя. Ці адчувалі вы розніцу з гарадскімі аднагодкамі? Ці адчуваецца розніца ў светапоглядзе цяпер?***

— Я ўжо казала, што вырасла на хутары, а гэта не тое самае, што ў вёсцы. Некалі Данута Бічэль у прадмове да маёй кнігі «На далонях любові» пісала: «Хутар — гэта завершанае ў сваёй паўнаце жыццё. Ён расце ў нябёсы дрэвамі, ён заглыбляецца ў гісторыю радаводам, ён упрыгожваецца працаю. <…> Хутар збірае адзінае багацце — любоў…» Зразумела, што гэта найперш прыгожы паэтычны вобраз, але ёсць у ім прыцягальная для мяне праўда. Нашыя хутары былі менш саветызаваныя і менш акалгасненыя, чым нашыя вёскі. Хутаранцы ўсё ж жылі на сваёй зямлі, хоць і забранай і часта спустошанай, як у выпадку з нашым выпілаваным лесам, але мы як маглі баранілі і захоўвалі сваю духоўнасць і рэлігійнасць. У нас у гародчыках каля хатаў заўсёды стаялі крыжы, у хатах віселі абразы, ніхто ніколі іх не здымаў і не хаваў. Да нас на маёвыя набажэнствы сыходзілася ўся вёска і кожны месяц май, як і спрадвеку, дарослыя і дзеці малітвамі і спевамі ўшаноўвалі Маці Божую. У маёй душы дасюль гучаць тыя родныя галасы і тыя марыйныя песні… Мы святкавалі ўсе святы: Божае Нараджэнне, Вялікдзень, Сёмуху; нядзеля для нас заўсёды была святым днём, і ў гэтым жыла не толькі традыцыя, але й глыбокая духоўнасць… Усё яно фармавала светапогляд і ён, несумненна, адрозніваецца ад светапогляду гараджанаў і нават вяскоўцаў. Таму гэтая розніца адчуваецца таксама і ў

творчасці. Пачытайце ўважліва прозу і паэзію літаратараў-хутаранцаў, напрыклад, Артура Цяжкага, Дануты Бічэль, Мар'яна Дуксы — і Вы гэта зразумееце.

***— Як склалася Вашая прафесійная дзейнасць пасля заканчэння ўніверсітэта?***

— Мая прафесійная дзейнасць ад самага пачатку склалася даволі ўдала: адразу пасля ўніверсітэта я чатыры гады працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, дырэктарам якога ў той час быў вядомы пісьменнік і цікавы чалавек Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі. Пасля паўгода мне давялося папрацаваць у аддзеле крытыкі тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» і затым — амаль дванаццаць гадоў у аддзеле літаратуры часопіса «Беларусь», які ўзначальваў светлы, інтэлігентны чалавек і вядомы журналіст Аляксандр Андрэевіч Шабалін…

Божы Провід так пакіраваў, што на пачатку 90-х, яшчэ працуючы ў «Беларусі», я далучылася да арганізацыі і стварэння часопісаў «Ave Maria» і «Наша вера», а неўзабаве была прызначаная іх галоўным рэдактарам. І ўжо больш за 20 гадоў, наколькі хапае сілы, разам з сябрамі-аднадумцамі, калегамі і аўтарамі шчырую на гэтай Божай ніве.

***— Паэзія і проза – гэта розныя віды творчасці. Як яны размяжоўваюцца для Вас?***

— Калісьці Леанід Галубовіч, пішучы пра маю кніжыцу вершаў, заўважыў, што наколькі я «шматслоўная» ў прозе, настолькі ашчадная ў словах у паэзіі, што ў маіх вершах шмат «маўчання», недагаворанасці… Я згодная з ім. Мяне заўсёды прываблівае ў паэзіі лаканізм, калі ў радках больш пачуцця, настрою, чым словаў. Увогуле, апошнім часам пішуцца трох-чатырохрадковікі. Зрэшты, як слушна заўважыў Чэслаў Мілаш, «пытанне пра тое, што з'яўляецца паэзіяй, вызначае ўвогуле не форма як запіс ці сегментацыя тэксту, а яго эмацыйны, інтэлектуальны змест».

Зразумела, што паэзія і проза — гэта розныя віды творчасці, але паглядзіце, колькі нашых таленавітых творцаў аднолькава паспяхова пісалі і пішуць і тое, і другое: Валянціна Коўтун, Данута Бічэль, Уладзімір Арлоў, Ул. Някляеў, Л. Дранько-Майсюк…

***— Літаратар Хрысціна Лялько – гэта ў першую чаргу.... Прадоўжыце, калі ласка.***

— У першую чаргу — гэта, на жаль, рэдактар, пасля — перакладчыца і ў рэдкія хвіліны — паэтка, якая ўвесь час думае пра свае незавершаныя апавяданні, пра сваю прозу…

***— Вашае літаратурнае пакаленне, якое яно?***

— Гэта пакаленне 80-х, апошняе з «сістэмы развітага сацыялізму»... Многія з нашага пакалення, на жаль, заўчасна адышлі ў вечнасць: Алесь Пісьмянкоў, Алесь Асташонак, Уладзімір Марук, Іван Рубін, Віктар

Стрыжак…

Імёны тых, хто сёння плённа працуе ў літаратуры, гавораць самі за сябе: Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Леанід Галубовіч, Франц Сіўко, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Чобат, Галіна Тварановіч, Ірына Багдановіч, Ірына Жарнасек, Уладзімір Ягоўдзік… Пералік можна доўжыць.

***— Як узнікла задума часопіса “Наша вера”? Які папярэдні прафесійны вопыт аказаўся найбольш каштоўным?***

— Задума ўзнікла выпадкова, падчас сяброўскай вячэры ў мяне на кухні. Хоць ці ёсць што-небудзь зусім выпадковае ў гэтым жыцці? Проста ўсе мы тады, на пачатку 90-х, добра разумелі, што без друкаванага слова ніякае духоўнае і рэлігійнае адраджэнне немагчымае. Пустка ж была абсалютная. Адзіны часопіс «Хрысціянская думка», які пачала выдаваць Беларуская каталіцкая грамада, у хуткім часе перастаў выходзіць. Таму абавязкова трэба было штосьці даць тым, хто цікавіўся гісторыяй хрысціянства ў нашым краі, каго хвалявалі пытанні веры, хто ўвогуле хацеў чытаць тэксты на тэалагічную, філасофскую тэматыку, хто хацеў хоць што-небудзь ведаць пра сакральнае дойлідства і мастацтва, пра духоўную хрысціянскую літаратуру і г.д.

Прафесійны вопыт, дзякаваць Богу, быў — найперш, як я ўжо казала, 12-гадовы досвед працы ў часопісе «Беларусь».

***— Пасля адной з дыскусій, я пачала актыўна чытаць паэзію маладых, але даволі вядомых аўтараў, і ў мяне склалася ўражанне, што ўся іх паэзія нейкая разгубленая. Тут я толькі канстатую факт. Як Вы лічыце, гэта натуральная прыкмета нашага часу?***

— Напэўна, так. Заўсёды на пераломе стагоддзяў адбываецца «пералом» не толькі часавы, эпахальны, але й экзістэнцыяльны. Гэта непазбежна і гэтак было, па сутнасці, ва ўсе часы. Ідуць пошукі новых арыенціраў і новых кропак адліку. І мне здаецца, што гэта датычыць не толькі маладых творцаў, але іх — найбольш і найбалючэй…

***— Як вядома, мастацтва – само сабе мэта. Аднак Альбер Камю лічыў, што ў любым творы, адчуваецца час, у якім жыве аўтар. Ці павінна, на Вашую думку, мець месца сацыяльная ўстаноўка ў працэсе тварэння або літаратурны твор набывае нейкае сацыяльнае значэнне пасля напісання?***

— Я ўвогуле не прыхільніца якіх бы то ні было «ўстановак». Калі гэта сапраўдная літаратура і па-сапраўднаму мастацкі твор — ён абавязкова будзе мець значэнне — і сацыяльнае, і грамадскае, а найперш — духоўнае. Але сапраўды А. Камю меў рацыю, гэтаксама як і Ф. Бюхнер, які трапна заўважыў, што не толькі мы жывем у свеце, але і свет жыве ў нас…

***— У такім разе натуральнае наступнае пытанне: чаго бракуе беларускай літаратуры з эстэтычнага і з сацыяльнага пункту гледжання?***

— Бракуе больш паглыбленага аналізу духоўнага стану героя, жадання разабрацца, што адбываецца з нашым постсавецкім грамадствам, у чым прычына гэтай павальнай «засяроджанасці» на кансумпцыі, гэтага пачварнага геданізму — абцэсійнага пошуку задавальнення любым коштам, нават коштам уласнага здароўя і жыцця, не кажучы ўжо пра жыццё чужое… Радуе, што ў нас ёсць творцы, якіх хвалююць гэтыя праблемы. Я маю на ўвазе найперш Юрыя Станкевіча, Андрэя Федарэнку, Франца Сіўко, Вінцэся Мудрова…

***— Літаратурная дзейнасць – паняцце шырокае, якое ўключае ў сябе і пераклады. Ведаю, што Вы перакладаеце з польскай. Адкуль прыйшоў самы першы імпульс да перакладу?***

— Ад Кастуся Цвіркі. Яшчэ недзе ў сярэдзіне 80-х ён прапанаваў мне перакласці з польскай мовы нарыс «Мінск» Ул. Сыракомлі. І гэта быў мой першы перакладчыцкі досвед.

***— Любы перакладчыцкі вопыт каштоўны, але пры гэтым ён вельмі асабісты. Што Вам як літаратару даў пераклад польскай святарскай паэзіі, якія нюансы літаратурныя і духоўныя дазволіў убачыць?***

— Даў вельмі шмат. У першую чаргу для паглыблення ўласнай духоўнасці і дасканалення духоўнага жыцця. І найперш пераклад «Дзённіка» св. Фаўстыны Кавальскай і кніг сёння ўжо святога Папы Яна Паўла ІІ, асабліва ягоных інтэрв'ю, якія сталі кнігамі-бестселерамі: «Пераступіць парог надзеі» і «Памяць і самасвядомасць».

Што да літаратурных і духоўных нюансаў — у кожным асобным выпадку яны былі розныя. Напрыклад, калі перакладала вершы кс. Яна Твардоўскага, была найбольш захопленая ягонаю амаль дзіцячаю шчырасцю і даверлівасцю, з якою ён звяртаецца да Бога. У вершах святара і тэолага Ежы Шыміка ўражвае менавіта тэалагічная глыбіня; у паэзіі кс. Яна Соханя — смеласць і «свецкасць» ягоных вобразаў і яго паэтычнага мыслення і г.д. Пра ўсіх і пра ўсё тут сказаць проста немагчыма.

***— Зразумела, што пераклад тэалагічных тэкстаў павінен выконваць веруючы чалавек, але не магу не спытаць, якіх прафесійных якасцяў вымагае ад перакладчыка такая праца?***

— Як і любая іншая: і ведання мовы, і пэўных здольнасцяў, і цярплівай працавітасці, і спецыяльных ведаў, а яшчэ, думаю, практыкі веры, каб, калі скажам, у рэлігійным ці духоўным тэксце гаворка ідзе пра белы пшанічны хлеб на алтары, перакладчык разумеў, што маецца на ўвазе, выбачайце, не батон ці булка, а Хрыстова Цела… І такіх, вельмі важных нюансаў шмат сустракаецца ў тэалагічных тэкстах. Тут перакладчыку трэба быць асабліва чуйным, каб сваёю сутворчасцю з аўтарам не пацвердзіць вядомае італьянскае выслоўе *Traduttore traditore* («Перакладчык — здраднік»).

***— Чым, на Вашую думку, «Наша вера» і «Ave Maria» могуць зацікавіць не толькі каталіцкіх вернікаў, але ўсіх хрысціян, а магчыма нават прадстаўнікоў іншых рэлігій ці атэістаў?***

— Тым, што на старонках нашых часопісаў закранаюцца тэмы і праблемы, якіх чытач не знойдзе ні ў якіх іншых выданнях. Каб пераканацца ў гэтым, трэба проста разгарнуць любы нумар часопіса. А наконт атэістаў… Я думаю, што іх таксама хвалююць вечныя праблемы, у тым ліку эсхаталагічныя…

***— У сувязі з папярэднім пытаннем не магу не згадаць радкі з верша Міхася Скоблы пра “сістэму каардынатаў крыжа”. Што можна параіць тым, хто “страціў арыенціры”?***

— Знайсці тую «сістэму», адкрыць яе для сябе. Кожны з нас у гэтым жыцці нясе свой крыж: лёсу, веры, бязвер’я… Не трэба баяцца крыжа — Бог не дае яго нам цяжэйшага за той, які мы здольныя несці. Што праўда, часам мы падаем пад яго цяжарам, але на нашым шляху, таксама як і на Хрыстовым, абавязкова сустрэнецца Вераніка, якая вытра пот, што залівае вочы, або Сымон Кірынэец, які падставіць сваё плячо…

***— У адным з інтэрв’ю Вы гаварылі, што большую частку часопіса займаюць перакладныя творы ў сувязі з адсутнасцю арыгінальных тэкстаў па тэалагічных пытаннях. Ці выправілася сёння сітуацыя, ці з’явіліся арыгінальныя працы беларускіх аўтараў у галіне тэалогіі і сумежных дысцыплінаў?***

— Сёе-тое з’яўляецца, але не ў такой колькасці, як хацелася б. У гэтым сэнсе радуе, што нашымі аўтарамі становяцца ўсё больш беларускіх адукаваных святароў, якія не толькі пішуць на тэалагічную ці філасофскую тэматыку, але й вядуць рубрыкі ў часопісе «Ave Maria»: «Святар адказвае на пытанне», «Школа малітвы». А на «Старонцы псіхолага» цяпер друкуюцца тэксты манашкі, псіхолага па адукацыі сястры Паўлы Бобер.

***— Наколькі, на Вашую думку, у творах маладых беларускіх літаратараў адчуваецца хрысціянскі светапогляд? І ці адчуваецца ён увогуле?***

— Дзякаваць Богу, ёсць ужо маладыя таленавітыя аўтары, у творчасці якіх сапраўды адчуваецца хрысціянскі светапогляд. Гэта найперш хрысціянская моладзь — каталіцкая, праваслаўная, якая жыве з Богам у сэрцы і па Яго запаведзях, якая ходзіць на сустрэчы з Ім, жывым і прысутным, у святыні і не саромеецца вызнаваць сваю веру. Гэта новае дыханне і новыя духоўныя глыбіні ў нашай літаратуры, знішчаныя за гады ваяўнічага атэізму.

***— Вашыя выданні працуюць з маладымі аўтарамі?***

— Зразумела, працуюць з вялікаю радасцю. Ды і ў нашых часопісах, і ў выдавецтве «Pro Christo» шчыруюць маладыя таленавітыя творчыя асобы — паэтка і перакладчыца, даследчыца роднай літаратуры Ганна Шаўчэнка,

паэтка і перакладчыца Юля Шэдзько…

***— Што такое ўвогуле хрысціянская літаратура, духоўная літаратура?***

— Пытанне, на якое цяжка адказаць нейкім адным азначэннем. Паняцце хрысціянская літаратура, тым больш — духоўная — вельмі шырокае. Па сутнасці, літаратура *apriori* павінна быць духоўнаю, інакш — якая гэта літаратура? Хрысціянская літаратура — гэта літаратура, якая шукае адказаў на самыя важныя пытанні чалавечай экзістэнцыі, якая сцвярджае ідэалы дабра, любові, праўды, распавядае пра гісторыю хрысціянства. Для мяне яскравым прыкладам сапраўднай хрысціянскай літаратуры з'яўляюцца творы амерыканскага пісьменніка Л. Дугласа «Шата» і «Вялікі рыбак», нобелеўскага лаўрэата, паляка Г. Сянкевіча «Quo vadis?», творы Г. К. Чэсцертана, Кл. Льюіса, С. Унсет, якую я ўжо згадвала на пачатку нашай гутаркі, вершы і проза майго найбольш улюбёнага хрысціянскага аўтара манаха-трапіста Томаса Мэртана. У беларускай літаратуры — гэта творы нашых класікаў Я. Купалы і Я. Коласа (не выхалашчаныя савецкаю цэнзураю), паэзія К. Сваяка, А. Зязюлі, Ул. Жылкі, Н. Арсенневай, Л. Геніюш. З сучасных паэтаў і празаікаў, якія з'яўляюцца заўсёды чаканымі аўтарамі часопісаў «Наша вера» і «Ave Maria» — гэта Данута Бічэль, Галіна Тварановіч, Ірына Жарнасек… Нядаўна, дарэчы, з'явілася таленавітая кніга маладога беларускага аўтара Аляксея Шэіна «Сем камянёў» — сапраўднае хрысціянскае фэнтэзі…

***— Рэдакцыя часопіса "Наша вера" — гэта інтэлектуальны асяродак еўрапейскага ўзроўню. Наколькі цесныя стасункі мае часопіс з калегамі з замежных краінаў? З кім з іх супрацоўніцтва найбольш плённае?***

— Не настолькі цесныя, каб гэтым можна было пахваліцца. Ёсць некаторыя хрысціянскія выданні, такія як дамініканскі часопіс «W drodze» або тыднёвік «Gość Niedzielny», якія ласкава дазваляюць нам выкарыстоўваць іх тэксты для перакладу і публікацыі ў нашых выданнях… Ёсць асабістыя кантакты з некаторымі замежнымі — нямецкімі і польскімі журналістамі.

***— Вы любіце падарожнічаць? Раскажыце пра Вашае апошняе падарожжа.***

— Так, я лічу, што падарожжы, адкрыццё новых мясцінаў, сустрэчы з новымі людзьмі — гэта найбольш цікавае і захапляльнае, што можа быць у жыцці.

Адно з маіх апошніх падарожжаў было ў Італію, якую я адкрыла для сябе яшчэ ў маладосці і якую з таго часу люблю. На гэты раз я была ў Фларэнцыі і, ці трэба казаць, што вярнулася захопленая. Па сутнасці, гэта музей пад адкрытым небам — прыгожы і вельмі старажытны, заснаваны яшчэ ў 59 годзе да Нараджэння Хрыста, гэта радзіма Дантэ, Пятраркі,

Баккача. Фларэнцыя ўразіла мяне сваімі музеямі і святынямі. Я не магла адарваць вачэй ад карункавай готыкі базылікі Санта Марыя дэль Фіёрэ, ад званіцы Джотта… Але, хіба, найбольш запомнілася, як у базыліцы Святога Крыжа, дзе знаходзіцца Пантэон знакамітых людзей Італіі (там пахаваны Дантэ, Мікеланджэла, Рассіні, Галілей, Макіявеллі) я шукала грабніцу нашага Міхала Клеафаса Агінскага. Ён памёр у Фларэнцыі 15 кастрычніка 1833 года і пахаваны ў гэтым Пантэоне… Ніколі не забуду таго светлага суму, з якім у ціхай малітве стаяла каля шэрага мармуровага надмагілля, чуючы ў душы шчымлівую мелодыю «Развітання з Радзімай»…

Усё ж добра, калі з самых прыгожых і рамантычных падарожжаў у чалавека ёсць магчымасць вярнуцца дадому…

***— У Анатоля Сыса ёсць верш "У Чырвоным касцёле" з такімі радкамі: "У Чырвоным касцёле, / за спінамі боскай сябрыны, / ёсць таемныя дзверы, / дзе нехта дрыготкай рукой / золкам іх расчыняе, / і з храма выходзіць Хрысціна, / і да боскай сябрыны вяртаецца боскі спакой". Хочацца спытаць: Вашае імя – супадзенне?***

— Не магу адназначна адказаць на гэтае пытанне. Памятаю, як аднаго разу мне патэлефанаваў Анатоль і сказаў, што трэба сустрэцца. Тая наша сустрэча адбылася на кватэры ў Аляксея Дударава. На жаль, цяпер ужо не магу прыгадаць, чаму мы сустрэліся менавіта ў Аляксея, але якраз там, падчас сяброўскай бяседы Анатоль, загадкава ўсміхаючыся, прачытаў нам свой верш «У Чырвоным касцёле». Напэўна, мы тады былі яго першымі слухачамі і дзеля гэтага ён хацеў са мною сустрэцца. Шчыра прызнаюся, што ні тады, ні пазней я так і не магла да канца зразумець гэтага верша…

***— Якое пытанне не прагучала, але Вы б хацелі, каб яно было зададзена?***

— Дзякуй Вам, мне здаецца, што пытанняў было больш чым дастаткова…

***— Ну што ж, тады будзем заканчваць. Напрыканцы гутаркі звычайна пакідаюць нейкія пажаданні. Пажадайце, калі ласка, што-небудзь і тым, хто піша, і тым, хто чытае.***

— Тым, хто піша: не забываць, што літаратура — гэта найперш мастацтва слова і што трэба памятаць: мы ўсё ж у адказе за тое, «як наша слова адгукнецца…»

Тым, хто чытае: каб не бракавала шчаслівых сустрэчаў з сапраўднаю літаратураю, з цікавымі аўтарамі і захапляльнымі, глыбокімі творамі, ад якіх святлее душа і з'яўляецца надзея.

А ўсім нам разам — быць дзейснымі ў чыненні дабра, быць дзейснымі ў любові, бо, як сказаў Авідзій: «amor odit inertes» («любоў не любіць інертных»).

# ЭСЭІСТЫКА
# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## МАКАРАНІЧНЫЯ ВЕРШЫ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ПАЭТАЎ: ЗВАБА АНГЕЛЬСКІХ ВАРВАРЫЗМАЎ

**Арнольд Макмілін**

Ангельская мова, як выяўляецца, вабіць шмат каго з маладых беларускіх паэтаў – бывае, што і голасам Сірэны. Аднак ва Усходняй Еўропе не заўжды афіцыйна прызнавалі яе ролю: у некалькіх надрукаваных за савецкім часам кнігах на тэму будучай сусветнай мовы/моў (усе яны, як ні дзіўна, выйшлі ў Менску) не згадваліся кітайская, іспанская і, пагатоў, ангельская[1]. В. П. Рагойша ў “Літаратуразнаўчым слоўніку” вызначае макаранічны верш як той, у якім “дзеля дасягнення камічнага эфекту тэкст перанасычаецца варварызмамі, падпарадкаванымі законам роднай мовы паэта”[2]. Дарэчы, у Англіі XVIII ст. слова *macaroni* азначала не толькі кулінарную страву, але і дэндзі, якія пераймалі замежную моду.

У гэтым артыкуле збольшага не разглядаюцца французская, нямецкая і руская мовы, хоць прысутнасць рускай, вядома, заўважная не толькі ў нязводнай “трасянцы”, але і – неўсвядомлена – у творах шэрагу “моўна нячыстых” паэтаў; адрозна ад заходнееўрапейскіх моў, руская нясе рэальную пагрозу[3]. Таксама не разглядаюцца міжнародныя кампутарныя тэрміны і ўласныя імёны (у прыватнасці, асабовыя імёны і геаграфічныя назвы), хоць яны часта ўжываюцца ў макаранічных рыфмах.

*

Звабнасць ангельскай мовы не варта прыпісваць толькі ўплыву Шэкспіра і Галівуду – да яе часткова спрычынілася і іранічнае стаўленне ў некаторых краінах да напаўміфалагізаванага чынавенства Брытанскай імперыі. Што да Беларусі, пасля Ул. Някляева з ягонай дзівоснай фантастычнай паэмай “Індыя”[4], у якой малады ангельскі афіцэр адкрывае

індыйскую паэзію і рэлігію, Анка Упала (нар. у 1981 г.) у адным са сваіх нешматлікіх вершаў пад назвай “Правы бок” піша пра ангельскага афіцэра з абсурдным шатландскім імем Маклкадлдадл: ён “сьпіну трымае прама” і не заўважае, што

кладзець у чашку сахар
трыццаць восем раз падрад[5].

Можна меркаваць, што герой-арыстакрат у вершы “Нядоўга думаў Тэд Макена...” трагічна загінуўшага Дзяніса Хвастоўскага (1976–2001) – шатландзец, а не ангелец, бо ягоная мова перасыпаная гэльскімі фразамі. Бадай, самы эксцэнтрычны ўчынак Макены ў тым, што ён запрашае ў свой замак пацукоў: “Come, come, come...”[6] – але далей Макена выступае непахісным змагаром за справу шатландскіх горцаў (Хвастоўскі, 64). Адрозна ад некаторых іншых, Хвастоўскі добра разумеў праблему замежных моў. Гэта відаць у апошніх чатырох радках ягонага верша “У солездабытную шахту...”:

Няпростыя словы чужыя
мазоляць нязвыклы язык:
цікуе суседская шыя
ангельскае мовы “азы” (Хвастоўскі, 96).

Перш чым конча развітацца з Англіяй (але не з ангельскай мовай), трэба сказаць пра некаторы шок ад таго, што Андрэй Хадановіч (нар. у 1973 г.) уваскрашае зашмальцаванае дыкенсаўскае клішэ “туманны Лёндан”, хай сабе і ў жартаўлівым дыялогу. У вершы “Проста сакавік галавакружны...” ў яго трапляецца слабая рыфма: “ў дзеўкі: Не халодна” – “не ў туманы Лёндану”[7].

*

Ангельская лаянка – нярэдкая з’ява ў маладой беларускай паэзіі, хоць большасць нават самых смелых аўтараў, як, напрыклад, Сяргей Прылуцкі (нар. у 1980 г.), Віталь Рыжкоў (нар. у 1986 г.) і Марыя Мартысевіч (нар. у 1982 г.), ужываюць замест мата “фігавыя лісткі” эліптычных канструкцый. М. Мартысевіч таксама напісала забаўнае кароткае эсэ пра брыдкаслоўе па-беларуску[8]. Аднак калі паэты не дазваляюць сабе ўжываць у друку беларускую ненарматыўную лексіку, у ангельскай мове іх, відаць, нішто не стрымлівае. У гарэзлівым вершы “Belarus – England, Варшава – Менск” (у назве змяшаныя розныя мовы) М. Мартысевіч апісвае, як п’яны канстэбль з Ланкастэра едзе цягнікам праз Усходнюю Еўропу. У дарозе задзіўлены тутэйшы рабочы выцягвае чэлес ангельца; як і чакалася, чуецца лаянка:

і – хопа! Выцягвае штыр
у Джона спаміж ног.
“ФОК – пужаецца Джон. – ФОК!
(у перакладзе з ангельскай – “фак”)

ЧАМУ ТАК???”[9]

Звяртае на сябе ўвагу тое, што М. Мартысевіч дае два варыянты кірылічнага асваення ангельскага нецэнзурнага слова. Больш за тое, другі варыянт (разам з творамі некаторых іншых паэтаў) яскрава паказвае, як беларусы (не) разумеюць ангельскую фаналогію. Напрыклад, Анатоль Івашчанка (нар. у 1981 г.) напрыканцы “Верша несвабоды” ўжывае макаранічную рыфму, якую псуе тая ж неадпаведнасць гукаў:

хай так
*what the fuck* [10]

С. Прылуцкі ў вершы “Рандэву з краявідам I” гэтак жа сама рыфмуе “fuck” і “смак”[11]. Падобная фанетычная паўрыфма прысутнічае ў яшчэ адным вершы А. Івашчанкі – “Усё так добра...”:

пісаць навобмацак
good luck (Хай так, 93)

Няма чаго наракаць на разыходжанне ў вымаўленні ангельскіх і беларускіх галосных, але, калі б гэткія макаранічныя пары не ўжываліся ў рыфмах, меншай была б рызыка стварыць уражанне абсурду.

*

Кажучы несмяротнымі словамі ангельскага паэта Аляксандра Поўпа (1688–1744), “чалавеку ўласціва памыляцца, Богу – даравацьˮ[12]. Аднак пісьменнікам і іншым карыстальнікам замежных моў трэба асабліва пільна засцерагацца ад памылак[13]. Калі, напрыклад, Алег Лойка (1931–2008) бярэ да свайго верша “Дзень народзін” трохі недарэчны эпіграф з Генрыха Гейнэ, граматычная памылка: “bedeutet” [азначае] замест “bedeuten”- [азначаць] толькі падкрэслівае стылістычную і семантычную неадпаведнасць[14]. Не так даўно С. Прылуцкі ў эпіграфе з брытанскага гурта Morcheeba напісаў: “I think your fine” [Я думаю твой штраф] замест “I think you’re fine” [Думаю, у цябе ўсё добра]. Асаблівую небяспеку крыюць у сабе апострафы – і не толькі для замежнікаў. У верш “Утопія” С. Прылуцкі ўводзіць макаранічны радок з непатрэбным апострафам (тыповая загана ангельскіх крамнікаў): “і брашуркі для IDIOT’S”[15]. Часцей за ўсё ангельскія словы ўжываюцца ў беларускіх вершах неабразліва, дзеля форсу (бадай, занадта суб’ектыўнага для аналізу), памеру ці рыфмы. Праўда, незнаёмых з ангельскай мовай чытачоў гэткія ўкрапіны могуць сама мала раздражняць[16].

*

Таленавітая паэтка Таццяна Барысюк (нар. у 1971 г.), якой зазвычай уласцівы радасны настрой, сцвярджае ў сваім акравершы (больш падрабязна пра яго – далей): “Яна любіла / сваю родную беларускую і

англійскую мовы...”[17]. Вергілій у сваім слынным выслоўі сцвярджаў, што “любоў перамагае ўсё”[18], але адной любові, без ведаў і досведу, недастаткова, каб ствараць паэзію на замежнай мове. Доказам таго – верш “YOU”: беларускі пераклад у зносцы гучыць нашмат больш натуральна і вольна за неабачліва напісаны арыгінал:

YOU

I like to look into your eyes
And see your wonder-soul.
There is a contradiction of feeling and mind,
When I stay alone.

And I am sad, that my light spring
Is early going out.
But deep in heart I always bring
Pipe-dreams and hope – about
You...[19]

У акравершы “ENGLISH” Т. Барысюк яшчэ больш скажае мову, бо сам*а*я паэтычная форма змушае яе да адыходу ад лінгвістычных нормаў:

ENGLISH
*(acrostic)*

**E**nglish became a ray of light.
**N**ow sun and son are sense of life.
**G**od, keep me from vital finish!
**L**ead me to sky, let fly be high! –
**I**n order to be, but not to make image.
**S**omebody then will say: ‘She had liked
**H**er native Byelorussian and English...[20]

*

Складаць акравершы цяжка на любой мове, але захапленне макаранічнымі рыфмамі, бадай, не менш рызыкоўнае. У вершы “Калі разгуляецца...”[21] майстар арыгінальных, вясёлых рыфмаў Андрэй Хадановіч рыфмуе ‘аборт’ і ‘word’, не зважаючы на асаблівасці ангельскага вымаўлення. А ў іншым вершы – “Усхвалявана, шчыра й інтымна роднай краіне ў якасьці гімну” – А. Хадановіч транслітэруе пашыранае нямецкае слова на тыповы славянскі манер:

І не хаваў галавы ў капюшон.
Мудраму Дантэ
і мужнаму Данку
шчыра падзякуем мы:
“Данке шон!” (Лісты, 75)

У вершы “Раство на “Раствора-Бэтонным” у А. Хадановіча сустрака-

юцца нетыповыя для яго недакладныя рыфмы, як, напрыклад, у наступнай страфе:

Слота вечная наша,
звыклы голад і холад.
Вецер *made in Russia,*
вецер *made in Poland.* (Лісты, 85)

Да таго ж у названым вершы ён, насуперак ангельскай фаналогіі, рыфмуе “ўзоры” з “I’m sorry”[22]. А ў “размовах з Экерманам”, там, дзе А. Хадановіч прапаноўвае сваю версію аднаго з самых знакамітых радкоў Эдгара Алана По: “Quoth the Raven, “Nevermore””: “nevermore крумкач nevermore” (Лісты, 126), наогул няма рыфмы. Але поўны алюзій верш “апрануты ў рымскую тогу...” – і смелы, і ўдалы. У апошняй страфе ў перакладзе і транслітэрацыі пераплятаюцца ангельскія словы з назваў розных твораў (апошні радок – перайначаная версія “Don’t cry for me, Argentina”):

Тут будуць кант*о*ры і к*а*нтары
вэлкам ту страчаны рай
ня плач пра мяне май кантры
доўнт край фо мі родны край (Лісты, 98)

Шмат якія макаранічныя рыфмы А. Хадановіча – вельмі дасціпныя. Напрыклад, у “Бессані ў ноч Вальпургіі” ён рыфмуе “ўшчэнт” і асвоены “варварызм” “гэпі-энд” (Лісты, 51). У “Трамваі “Жаданьне” “бадай” рыфмуецца з “must die”, “самурай” і “банзай” (Лісты, 67). У вершы “Пасьлямова” немагчыма не захапляцца тым, як рыфма “палеаліт” – “delete” (Лісты, 68) злучае падзеленыя велізарнай безданню эпохі (праўда, я меў намер не кранаць у гэтым артыкуле кампутарную мову). І апошні прыклад бурліва-гуллівай паэзіі А. Хадановіча – першы радок “Вершаў пад эпіграфам”: “to belarus or not to belarus”[23]. Тут аўтар выразна (і, мусіць, наўмысна) не зважае на вымаўленне першага складу ў назве краіны.

*

Імя Анатоля Івашчанкі ўжо згадвалася ў сувязі з фанетычна недакладнымі макаранічнымі рыфмамі з ужываннем ангельскай лаянкі. Але некаторыя ягоныя найбольш вытанчаныя рыфмы – вельмі ўдалыя, як напрыклад, у наступных радках яркага верша “Адрынуты(я)”:

Вось сімвал сцюдзёнага выраю,
Заўважана слушна.
God, where are You? (Хай так, 37)

Прыцягваюць увагу сваёй смеласцю радкі з верша “крылатыя вершнікі...”:

у стосах траверы
кудлатыя зверы

very
ы-ы-ы-ы (Хай так, 31)

Сяргей Прылуцкі, таксама згаданы ў звязку з брыдкаслоўем, напісаў кнігу "Дзевяностыя forever", прасякнутую ангельскімі словамі ды з'явамі брытанскай і амерыканскай рэчаіснасці. Аднак паэт не заўсёды бярэ ў разлік ангельскую фаналогію – напрыклад, ён рыфмуе "сьпіч" і "bitch"-(Прылуцкі, 73), "Vogue" і "Бог" (Прылуцкі, 114) або, зусім наўздзіў, "terra'ў" і "цемры" (Прылуцкі, 82). Нашмат больш удалая рыфма – "эверэст" – "best" з "Пасланьня да маладога Вертэра" (Прылуцкі, 7). У вершы "Мроі, мроі..." "гул" нязмушана рыфмуецца з "cool" (Прылуцкі, 9), у іншым месцы – "скейтэр" – з "enter" (Прылуцкі, 53), а ў канцы верша "Хрыстос – чырвоны нос" – "і Маці Тваю" – з "happy birthday to you" (Прылуцкі, 87). С. Прылуцкі шчыра цешыцца, рыфмуючы ангельскія імёны, як, напрыклад, Кіплінг і Ігі Поп, і гэтыя рыфмы часта вызначаюцца арыгінальнасцю, але яны выходзяць за межы артыкула.

У вершы Таццяны Нілавай (нар. у 1984 г.) "Проста вар'яты – first level" паэтычныя ўдачы ідуць поруч з паразамі. У першых двух радках яна рыфмуе два ангельскія словы: "level" і "devil", бліжэй да канца "зорка Вега" глядзіцца трохі недарэчна, але не катастрафічна з "alter ego"[24]. Аднак у пятым – шостым радках паўтор слова "second" не нясе ніякага сэнсу і нават іроніі:

Шаты жыцця – гэта second.
Чыясьці рука – hand second (Нілава, 21).

*

Віка Трэнас (нар. у 1984 г.) і Джэці (псеўданім Веры Бурлак, нар. 1977 г.) – з тых беларускіх паэтаў, якія ўвогуле грунтоўна ведаюць ангельскую мову; яны прапаноўваюць шэраг арыгінальных рыфмаў. Напрыклад, Джэці ў "Санэце з прычэпам", трапна рыфмуе "зьмест" з "let's have a rest"[25], а Віка Трэнас напрыканцы верша "Быцьцё" не хібіць, рыфмуючы "галаву" і "love you". Тое ж можна сказаць і пра "HSYAOD":

Пазбаўленыя не толькі пацыфісцкіх ідэй,
Дый у брудных лужынах хіба не нашыя цені
Яшчэ ўчора казалі: "Hope to see you again one day"?[26]

Яшчэ далей ідзе ў вершы "Пан грае на горне, бо Сырынга ператварылася ў катушку меднага дроту (Мэрэт Кэйзі)" з нізкі пра Пана і Сірынгу Джэці. У ім яна часам рыфмуе два ангельскія словы, часам – два беларускія, але трапляюцца і макаранічныя рыфмы, напрыклад: "дрэва" – "forever"; "...ец" – "skinheads" і 'недастаткова' – "over and over" (Джэці, 2).

*

Па-за абсягам рыфмаў менш рызыкі; вышэй ужо адзначалася, што ангельскія словы, як у наступных прыкладах, могуць ужывацца дзеля

форсу або дзеля памеру: А. Хадановіч у двух вершах: “Good Porning” і “Бармэн-сюіта” – перарабляе адно слова ў іншае. Другі з іх, бясспрэчна, адсылае да оперы Бізэ, а магчыма, і да “Кармен-сюіты” (1968) савецкага кампазітара Радзівона Шчадрына (нар. у 1932 г.). Ангельскія словы і фразы часцей ужываюцца ў назвах кніг ці вершаў – шмат прыкладаў можна знайсці ў “Дзевяностых forever” С. Прылуцкага, але трэба адзначыць і “Marlboro” (Хвастоўскі, 43) Дз. Хвастоўскага, “Let it be” (Хай так, 1ОО) А. Івашчанкі, “first level” – “fourth level” (Лісты, 13О-37) А. Хадановіча, “Old School” (Амбасада, 16) і “Happy Easter” (Амбасада, 43-44) М. Мартысевіч і “Image” (Трэнас, 46) Вікі Трэнас. Джэці – для яе гэта нетыпова – робіць нязначную памылку ў адным са сваіх досыць рэдкіх ангельскіх загалоўкаў “Klipmaking”: піша “K” замест “C” – і яшчэ трошкі хібіць, ужываючы “over a head” замест “overhead”(Джэці, 2О).

Яшчэ адна адметная з’ява – змяшанне моў у назвах кніг і вершаў. Тут ужо вялася гаворка пра першыя зборнікі С. Прылуцкага і А. Івашчанкі, а таксама пра верш М. Мартысевіч пра п’янога ангельца. Варта згадаць і “Pub-scrolling у пошуку Гармоніі” (Прылуцкі, 67) С. Прылуцкага – мяркуючы паводле зместу, у назве мусіла б быць “Pub-crawling” [паўзем па пабах]. У вершы Т. Нілавай “Я выклікаю мабільных духаў...” таксама ёсць выразны прыклад змяшання моў у межах аднаго слова: “Паclickай мяне”. А Вальжына Морт (нар. у 1981 г.), вельмі таленавітая паэтка, якая цяпер жыве і працуе ў Амерыцы і, на жаль, піша не па-беларуску, а па-ангельску, спалучае дзве мовы ў межах аднаго верша “Мужчыны прыходзяць, як лічбы ў календары...” – яго апошняя трацiна цалкам напісаная бездакорнай ангельскай мовай[27].

*

Некаторыя маладыя паэты ўлучаюць у паэтычныя радкі ангельскія словы без дай прычыны – хіба што, магчыма, дзеля памеру. Часам іх пішуць на мове арыгіналу, часам – у беларускай транслітэрацыі. Добрую ілюстрацыю знаходзім ва ўжо цытаваным праз хібу ў перадачы нямецкай фанетыкі вершы А. Хадановіча “Усхвалявана, шчыра й інтымна роднай краіне ў якасьці гімну”: “Людцы, даруйце, I’m sorry, сузор’е” (Лісты, 76). Віка Трэнас у “Замове” таксама ўжывае ангельскае слова без усялякай відавочнай мэты: “мне зламаныя пальцы нечы boyfriend цалуе” (Трэнас, 21). А. Івашчанка ў вершы “Эфект матылька” піша: “таго працяглага before” (Хай так, 79), а ў “разарваць ноч” стварае “гэты вар’яцкі puzzle...” (Вершnick, 5). Гэтаксама ў вершы “The song – сон” (пра назву – далей) чытаем: “на Reception” (Хай так, 1О2).

Не выпадае здзіўляцца, што С. Прылуцкі любіць улучаць ангельскія словы і фразы не толькі ў назвы сваіх вершаў, але і ў сам тэкст. Напрыклад, у трэцяй частцы верша “Tabula rasa” ёсць наступны дзіўны радок: “ды які ўжо там нафіг *on duty today* якія граматыкі’ (Прылуцкі, 6). А калі ў вершы, які даў назву зборніку, ангельскае клішэ пішацца кірылічнымі літарамі,

ствараецца яшчэ больш гратэскавы эфект, чым у папярэднім прыкладзе: "усё нармальна мама нармальна шоў маст гоў он" (Прылуцкі, 17).

*

У ангельскай мове каламбуры, вядомыя з часу Чосера, папулярныя ў Елізавецінскую эпоху і ў Шэкспіра, цяпер лічацца адной з самых нізкіх формаў досціпу. В. П. Рагойша выказвае думку, што паэтычныя каламбуры будуюцца на амафонных ці аманімічных рыфмах, і прыводзіць як прыклад каламбура ранні верш Рыгора Барадуліна "Балада аб клянах" з яго вытанчанымі рыфмамі "бліскавіца" – "блізка віцца" і "гне вам" – "гневам"[28]. Самы просты прыклад каламбура ў маладой беларусай паэзіі – назва верша А. Івашчанкі "The song – сон", у якой аўтар, трэба меркаваць, бачыць амафонную пару. Ва ўжо згаданым акравершы "English" Т. Барысюк стварае чысты каламбур "sun and son", але эфект ад яго страчваецца сярод агульнай ламанай ангельскай. Магчыма, спроба макаранічнага каламбура А. Івашчанкі – не адзіная, бо некаторыя экскурсы маладых паэтаў у ангельскую вышэйшыя за ўсялякае разуменне.

*

Такім чынам, хоць на ангельскай мове і лёгка паразумецца з гандлярамі ды патлумачыць простыя думкі, але яна падступная ў вымаўленні, правапісе і шмат у чым яшчэ. Тым не менш, яна, здаецца, нейкім дзіўным чынам вабіць некаторых найбольш выбітных маладых беларускіх паэтаў. Яны ўлучаюць у свае творы ангельскія словы і фразы дзеля рыфмы, што найбольш рызыкоўна, дзеля памеру і, нарэшце, дзеля таго, каб надаць фальшывага бляску радкам, якія маглі б лёгка абысціся і без гэтых прыўкрас. З другога боку, ангельскія крамнікі, якія робяць памылкі ў апострафах, – таксама непісьменныя людзі; для іх, магчыма, уся паэзія – глупства. Аднак у выпадку з сучаснымі маладымі беларускімі паэтамі яны, бясспрэчна, памыляюцца.

СПАСЫЛКІ

1. Бармичев, В. В едином союзе. Историко-публицистический очерк. Менск, Наука и техника, 1972. Головнев, А. И., Мельников, А. П. Сближение национальных языков в процессе коммунистического строительства. Менск, БДУ, 1979. Баханькоў, А. Я. Узаемадзеянне лексікі беларускай мовы з лексікай іншых моў у савецкі час. Беларуская лінгвістыка, 15, 1979. сс. 17–24.
2. Рагойша, В. П. Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці. Менск, Народная асвета, 2009. с. 51.
3. З асаблівай скрухай піша пра расейшчыну Таццяна Сапач у вершы "Так, невыносна жыць на гэтай зямлі, калі без...": Восень. Менск, БАДППР, Беларускае таварыства "Кніга", 1991. с. 17. Гл. таксама верш Ганны Новік "Усходняя Украіна" з кнігі "Сумёты агню". Менск, Ковчег, 2010. с. 100. Аўтарка піша, што ёй там рэжа слых руская мова як ў Беларусі, і частковай лацінізацыяй: 'Rosyjska мова' –падкрэслівае, наколькі яна чужая.

4. Някляеў, Уладзімір. Прошча. Менск, Мастацкая літаратура, 1996. сс. 85–86.
5. У першым радку верша імя падзеленае злучкамі: Анка Упала. Дрэва Энталіпт. Менск, Логвінаў, 2012. с. 86.
6. Хвастоўскі, Дзяніс. Лугназад. Менск, Логвінаў, 2006 (далей – Хвастоўскі). с. 30.
7. Хадановіч, Андрэй. Лісты з-пад коўдры. Менск, Логвінаў, 2004 (далей – Лісты). с. 111.
8. Мартысевіч, Марыя. Пашлі мяне па-беларуску: Кароткі курс айчыннага брыдкаслоўя // Цмокі лятуць на нераст. Менск, Логвінаў, 2008. сс. 56–63.
9. Мартысевіч, Марыя. Амбасада. Менск, Кнігазбор, 2011 (далей – Амбасада). сс. 52–53 (52).
10. Івашчанка, Анатоль. Хай так. Менск, Галіяфы, 2013 (далей – Хай так). с. 17.
11. Прылуцкі, Сяргей. Дзевяностыя forever. Менск, Медисонт, 2008 (далей – Прылуцкі). сс. 31–32.
12. Alexander Pope, *An Essay on Criticism*, апублікаванае ананімна, London, 1711, l. 430.
13. І аўтар гэтага артыкула, які ў маладосці блытаў двух рускіх паэтаў Святловых, і найлепшая ангельская перакладчыца беларускай паэзіі, якая, кажуць, зблытала “баб*ы*” і “б*а*бы”, абышліся без Божага даравання.
14. Лойка, Алег. Балады вайны і міру. Менск, Юнацтва, 1988. с. 18.
15. Прылуцкі, с. 110. Вядома, слушная форма – IDIOTS.
16. У сярэдзіне мінулага стагоддзя і раней ангельскія выданні з прэтэнзіяй на інтэлектуалізм часцяком улучалі словы, фразы і цытаты па-грэцку, што стварала праблемы для чытачоў, якія вывучалі толькі лаціну альбо ўвогуле не былі знаёмыя з класічнымі мовамі.
17. Барысюк, Таццяна. Аўтапартрэт. Менск, УП “Тэхнапрынт”, 2002 (далей – Барысюк). с. 155.
18. Virgil. ‘Omnia vincit Amor’: *Eclogues*, 10, l. 69.
19. “Ты  // Я люблю глядзець у твае вочы / і бачыць тваю цудоўную душу. / Пачуцці супярэчаць думкам, / калі я застаюся адна // І я сумная, што мая светлая вясна / рана адыходзіць. / Але ў глыбіні сэрца я заўсёды нясу / нязбытныя мары і надзею – / на цябе...”: (Барысюк, 86).
20. ‘Ангельская мова // Ангельская мова стала промнем святла. / Цяпер сонца і сын – сэнс майго жыцця. / Божа, барані мяне ад смерці! / Вядзі мяне да нябёсаў, хай палёт будзе высокім! – / дзеля таго, каб быць, а не здавацца! / Нехта пасля скажа: “Яна любіла / сваю родную беларускую і анлійскую мовы...”: (Барысюк, 155).
21. Лісты. с. 39. Назва верша, напэўна, адсылае да апошняга цыклу вершаў Барыса Пастэрнака.
22. Лісты. с. 86. Аналагічную недакладную рыфму знаходзім у “Дэміюргу” А. Івашчанкі: “да зораў” – “I’m sorry”: Івашчанка, Анатоль. Вершnick. Менск, Беллітфонд, 2006 (далей – Вершnick). с. 61.
23. Хадановіч, Андрэй. Старыя вершы. Менск, Логвінаў, 2003. с. 62.
24. Нілава, Таццяна. Готыка тонкіх падманаў. Менск, Галіяфы, 2008 (далей – Нілава). с. 21.
25. Джэці. За здаровы лад жыцьця. Менск, Логвінаў, 2003 (далей – Джэці). с. 46.
26. Віка Трэнас. Цуд канфіскаванага дзяцінства. Менск, Логвінаў, 2005 (далей – Трэнас). с. 61.
27. Вальжына Морт. Я тоненькая як твае вейкі. Менск, Логвінаў, 2005. сс. 38–39.
28. Барадулін, Рыгор. Рунець, красавацць, налівацца: Лірыка. Менск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры, 1961. с. 12.

# ЗНАЙСЦІ СЛОВЫ ДЛЯ РАЗВІТАННЯ З САМЫМ ДАРАГІМ

**Серж Мінскевіч**

…Ён застрэліўся з пісталета на балі, калі аркестр выконваў найзнакаміцейшы твор яго аўтарства…

Альбо – невядомы забойца, наняты яго патаемнымі ворагамі, забіў яго кінжалам, калі ён ішоў тэрасаю ў сваёй сядзібе…

Ці ён разам з сям'ёй загінуў у чарговым падарожжы падчас караблекрушэння…

Такія легенды пра адыход з жыцця гэтага выбітнага чалавека дагэтуль можна пачуць ад лектараў і экскурсаводаў, прачытаць у кнігах і інтэрнэце [1]. Яго асоба насамрэч – легендарная. Пахаваны ён у пантэоне Санта-Крочэ ў італьянскай Фларэнцыі. Побач з яго надмагіллем знаходзяцца крыпты Мікеланджэла Буанароці, Галілео Галілея, Ніколы Макіявелі, маладзейшага калегі па галіне мастацтва Джаакіна Расіні і знакамітасці наступных пакаленняў – Гульельма Марконі, Энрыка Фермі; там жа ўсталяваны кенатаф Дантэ Аліг'еры – вялікі пісьменнік, як вядома, пахаваны ў Равэне, а калі яго труну ў 1519 годзе прывезлі ў Фларэнцыю, яна аказалася пустой – манахі-францысканцы выкралі прах пісьменніка, каб ён застаўся ў Равэне – ім здавалася справядлівым не вяртаць прах Дантэ ў горад, які сам некалі яго выгнаў за палітычныя погляды.

І чалавек, пра якога ідзе гаворка – Міхал Клеафас Агінскі – таксама быў выгнанцам са сваёй зямлі. Сёлета спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння гэтага знакамітага кампазітара і палітычнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

Паводле адной з папулярных версій у 1794 годзе, пасля паразы паўстання Касцюшкі, калі Міхал Клеафас Агінскі пакідаў родны край, ён напісаў цяпер вядомы ўсяму свету паланез № 13 «Развітанне з Радзімай».

І хоць на пэўны час Міхал Клеафас Агінскі змог вярнуцца ў родную Літву, апошнія гады ён, усё-такі, правёў на чужыне. Таму згодна з іншай версіяй, пашыранай у Беларусі, ён напісаў гэты паланез у сваім маёнтку Залессе, у 1822 годзе, перад самым ад'ездам у Італію. Паводле легенды, якую любяць апавядаць экскурсаводы: «Міхал Клеафас ведаў, што яму больш не суджана вярнуцца ў родны край – сеў за фартэп'яна, на нотны аркуш упала сляза, ён занатаваў «Развітанне з Радзімай», заскочыў у карэту і з'ехаў, забыўшы забраць ноты...» [2].

Імя Агінскага было (і ёсць) на слыху. Ён удзельнічаў у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі і за свае грошы ўзброіў атрад у 2 500 чалавек, сам

узначаліў яго, нават напісаў для паўстанцаў некалькі маршаў і песень. Ён адмовіўся ад княжацкага тытула, стаў называць сябе проста грамадзянінам. Дэвізам паўстанчага атрада Міхала Клеафаса Агінскага былі словы: «Свабода. Стойкасць. Незалежнасць» [3].

Нягледзячы на прыроджаны музычны талент і прагу займацца кампазіцыяй, яго з маленства, як спадчынніка знатнага роду, рыхтавалі да палітычнай кар'еры. У сваіх мемуарах Міхал Клеафас Агінскі сцвярджае, што яго род ліцвінскі, продкі некалі жылі на Магілёўшчыне і насілі прозвішча Глушонкі. Толькі пасля таго як кароль Рэчы Паспалітай падарыў ім маёнтак Агінты, яны сталі менавацца Агінскімі [2]. (Цікавая іронія лёсу – радавое імя славутага кампазітара – Глушонак.)

Часы на пераломе XVIII і XIX стагоддзяў былі вірлівыя, таму палітычная кар'ера Міхаіла Клеафаса Агінскага склалася пакручастая. Ён вёў перамовы з каралямі еўрапейскіх краін, сустракаўся з Кацярынай II, з Напалеонам, з Аляксандрам I. І ўсё ж такі ён заўсёды знаходзіў час на музыку. Вяльможы ў Польшчы і ў Расеі таньчылі на балях пад ягоныя паланезы. Асабліва модным стаў так званы «паланез Смерці» – паланез № 1 фа мажор (1792 г.). Аркестр святочна выконваў яго, і па масніцах бальнай залі ў Санкт-Пецярбургу крочылі прыдворныя імператрыцы Кацярыны II. Мажліва, кантраст пагрозлівай назвы і мажорнага гучання прываблівае да гэтага музычнага твора. Вядомымі былі паланез № 6 до мінор «Развітанне» і паланез № 8 «Жалобны». Была эпоха сентыменталізму, што рыхтавала прыход Вялікага рамантызму. І паланезы Агінскага, якія меладыйна адлюстроўвалі глыбіню перажыванняў і шырыню эмоцый чалавека, прысьпяшалі гэта.

Вялікі паэт рамантызму Адам Міцкевіч ў свой час гасцяваў у Агінскіх у Фларэнцыі. У «Пане Тадэвушы» ў сувязі з паўстаннем Касцюшкі ёсць згадкі і пра Міхала Клеафаса. Але ж і музыку Агінскага Міцкевіч, безумоўна, ведаў – Марыя Шыманоўская, цешча песняра Літвы (маці Цэліны Шыманоўскай), – піяніст-віртуоз, кампазітар (дарэчы яна пісала таксама слынныя паланезы), была прыдворным педагогам ігры на фартэп'яна ў Санкт-Пецярбурзе. Яшчэ ў расейскай высылцы ў 1828 годзе Міцкевіч быў блізка знаёмы з кампазітаркай і яе дочкамі.

Таксама можна казаць, што паланезы Агінскага падрыхтавалі глебу для росквіту рамантычнага таленту Фрэдэрыка Шапэна. Бацька вялікага кампазітара-рамантыка Нікаля Шапэн апублікаваў раннія творы свайго сына. Калі Фрэдэрыку было сем гадоў, ён напісаў два паланезы. У іх гучаць інтанацыі паланезаў Агінскага «Развітанне» і «Развітанне з Радзімай». Асабліва выразна, як імправізацыя на галоўную тэму трынаццатага паланеза Агінскага, вылучаецца фраза з другой часткі паланеза сі бемоль мажор Шапэна. Пра гэта пішуць і польскія музыказнаўцы [3].

Аднак, найбольш папулярным пры жыцці Агінскага лічыўся № 1 «Паланез Смерці», а не № 13 «Развітанне з Радзімай». Можна дапусціць, што трынаццаты паланез выходзіў далёка за рамкі свайго прызначэння – інструментальнага суправаджэння для танца. Шапэн у свой час наогул

адыдзе ад гэтай прыкладной функцыі паланезаў, мазурак, вальсаў. У яго яны пераўтворацца ў музычныя опусы, разгорнутыя карціны, напісаныя не фарбамі, а нотамі. У Агінскага паланезы яшчэ выконваюць свае генетычныя функцыі. Гэта танец. Але ж паланез «Развітанне з радзімай» прарываўся ў сэрца, у душу слухачоў, нёс у сябе жывыя вобразы нядаўніх падзей… Таму таньчыць пад яго, відавочна, было цяжка. Трэба было сачыць за рытмам, за крокам, не даць сабе задумацца, занурыцца ва ўспаміны, засмуткаваць, нават заплакаць і не збіць іншых танцораў. Апроч таго вядома, што польскай і літоўскай (беларускай) шляхце, у сем’ях якіх загінулі ў паўстаннях сваякі, забаранялася не прыходзіць на свецкія балі, забаранялася насіць жалобу і выказваць смутак.

Пасля паўстання 1830–31 гадоў гэты паланез стане гукам-сімвалам роднай зямлі для шматлікай новай хвалі выгнанцаў і ссыльных з Польшчы і Літвы. А калі паланез-танец выйдзе з ужытку, паланез-опус Агінскага з нумарам «чортавага тузіна» зробіцца агульнавядомым. Ён стане творам для слухання і запамінання.

У наш час ён набудзе адзнакі віруснага мема, найшырока распаўсюджанага ў інтэрнэце, такога ўсюдыіснага, што іншыя паланезы Агінскага адшукаць вельмі цяжка, бо адразу ў пошукавіку выскоквае безліч варыянтаў выканання трынаццатага паланеза.

Нават у СССР усталюецца «замацаваны выраз», які па-расейску будзе гучаць «Полонез Агинского», менавіта так праз «А», а не «О». Дагэтуль у журналістаў на постсавецкай прасторы ёсць жартаўлівае пытанне: «Можаце адказаць, хто напісаў <паланез Агінскага>?». І нядаўна ўвесь інтэрнэт узарваў адказ жонкі вядомага расейскага футбаліста, якая, нягледзячы на тое, што закончыла музычную школу, цалкам сур’езна адказала: «Не ведаю. Гэта пытанне далёкае ад мяне…»

Шчыра кажучы, я таксама ў дзяцінстве выраз «паланез Агінскага» успрымаў, як адно цэлае, як адно паняцце, як «рэвальвер наган», «рухавік дызель», «нагавіцы галіфэ», «аўтамат Калашнікава», «шалька Петры», «антылопа Томпсана». Тое, што выраз «паланез Агінскага» дагэтуль бытуе як устойлівае словазлучэнне пацьвярджае такі камічны факт, на некаторых сайтах, прысвечаных класічнай музыцы можна знайсці на поўным сур’ёзе напісаную фразу: «Паланез Агінскага, аўтар Моцарт» [4]. Пры праслухоўванні твора з такой дзіўнай назвай гучыць 40-я сімфонія соль мінор Моцарта. Хіба асноўная тэма сімфоніі падобна да пачатка паланеза Агінскага № 13 «Развітанне з Радзімай»? Мабыць у масавай свядомасці на постсавецкай прасторы ўсялякі прыгожы класічны твор з эмацыйнай афарбоўкай мае права быць названы «паланэзам Агінскага»?

Упершыню паланез № 13 «Развітанне з Радзімай» я пачуў у глыбокім маленстве. Мая маці купляла кружэлкі з класічнай музыкай. Я заслухваўся імі – сам навучыўся ставіць кружэлкі на прайгравальнік і падводзіць да іх галоўку з іголкай, зрэдчас пры гэтым драпаючы барозначкі на вініле. Дзякуй маме, што не вельмі за гэта карала, і дзякуй, што развівала любоў да музыкі. Праўда, гісторыю, чаму паланез называецца «Развітанне з

Радзімай» мне апавядалі сцісла, маўляў, цар не дазволіў кампазітару жыць на роднай зямлі. Я не любіў цара, за тое што ён выгнаў Агінскага, але ж з іншага боку, каб цар не выгнаў кампазітара, не было б такога цудоўнага твору. Падрабязнасці пра тое, што гэта была царыца, што тады адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай і паўстанне Касцюшкі, вядома, я даведаўся пазней.

Другі раз з паланезам Агінскага № 13 «Развітанне з Радзімай» я сустрэўся ў музычнай школе. Цяпер усё было сур'ёзна. Я сам мусіў выконваць яго на скрыпцы. Шчыра кажучы, е маленстве я здзіўляўся – як гэта можна прыдумаць такую музыку, і як можна яе іграць. Тады, у 5-м класе музычнай школы, мне падалося сыграць скрыпічную партыю не так складана, абумоўлюся, тэхнічна, а вось эмацыйна – трэба было, як кажуць «прачуць». Памятаю, «прачуваў» па-свойму, іграў піяна, дзе трэба было фортэ, і наадварот. Увогуле не звяртаў у нотах на гэтыя літаркі «Р» і «F» і значкі «крэсчэнда» і «дымідуэнда», падобныя на расцягнутыя матэматычныя «больш» і «менш», аніякай увагі, бо лічыў, што ноты – гэта толькі шкілет; інструмент (скрыпка) – цела; а гукі – душа. А душа мая ж! Хто яе можа запісаць. Ніякі, нават найгеніяльнейшы кампазітар не можа прадугадаць, што ў мяне будзе на душы. Заўсёды я іграў па-свойму. І спрачаўся з педагогамі, і даказваў, чаму я граю менавіта так, чым раздражняў акампаніятарку. Бывала граў кожны раз па-рознаму, бо ў тое імгненне адчуваў менавіта так. Нават на іспытах выходзіў на сцэну, каб разбіць шаблоны. З паланезам, лічу, справіўся, але мне паставілі «добра».

Потым у сёмым класе мне далі паспрабаваць сыграць паланез на «агульным фо-но». Кожны адукаваны музыкант мусіць умець неяк валодаць фартэпіяна, бо так лепей зразумець сальфеджыо і гармонію. Таму ў навучальную праграму скрыпача, флейтысткі ці цымбалістачкі ўключаюць прадмет з дзіўнай назвай – «агульнае фартэпіяна», скарочана «агульнае фо-но». І гэта фо-но – фонам праходзіць праз галоўную спецыяльнасць. Яшчэ ў малодшых класах мяне пацяшала, маўляў, даюць усім «агульнае піяніна», і давай развучвай на ім п'есы. Дарэчы так яно і было для навучэнцаў, у каго не было дома ўласнага піяніна. Таму вучыліся граць на «піяніне» некаторыя будучыя добрыя трубачы, баяністы ці балалаечнікі не вельмі рупліва.

Дзякуючы маме і бабулі, піяніна ў мяне дома было, што вельмі непакоіла суседзяў. Мы жылі ў чатырох: мама, тата, я і сястра ў адным пакоі, у двух іншых – суседзі – камунальная кватэра з агульнай кухняй, прыбіральняй, ваннай і калідорам-«кішкаю». Калі я мучыўся на піяніна, мая сястра ў гэты час пілавала скрыпку на кухні. І наадварот. Бывала, што скрыпічнай партыі падыгрываў суседскі імбрык ці рондаль з пахуткім баршчом.

Для мяне «агульнае фо-но» было пакутаю, бо скрыпач ставіць ноты левай рукой, а здабывае гук смыком у правай руцэ. У піяніста гук здабываецца сам сабою – малаточкі б'юць па струнах. Б'еш моцна – гук гучны, б'еш слаба – гук ціхі. А скрыпач рухамі правай рукі вар'юе

гуказдабыванне (стаката, легата, спіката, мартэле, піцыката), а левай ставіць ноты згодна са скрыпічнай партытурай. Таму на фартэпіяна я мог граць добра толькі адной рукой – правай, дзе перад нотным станам стаіць скрыпічны ключ. Спалучыць дзве рукі – удавалася з цяжкасцю, і тое пасля таго, як цвёрда вывучу правую руку на памяць. Душа на піяніна надвое не дзялілася. Таму я граў паланез Агінскага ў 14 гадоў на клавішным інструменце са "спатыкненнямі". (Як жа Шапэн у сем гадоў граў такія рэчы? Хаця вядомы факт, калі Шапэну было 12 гадоў, яго педагог па фартэпіяна Войцех Жыўны адмовіўся выкладаць юнаму генію, сказаўшы, што нічому больш навучыць яго ня можа, гэтак віртуозна той грае).

Прайшло шмат часу. Я адслужыў у Савецкім Войску і калі Беларусь стала незалежнай краінай, была наладжана апытанка – які твор будзе гімнам Беларусі. Прапанавалі: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа» на словы Наталлі Арсенневай, «Пагоню» Максіма Багдановіча на розныя мелодыі і, што было для мяне нечаканасцю, – Паланез Агінскага № 13 «Развітанне з Радзімай». «А словы?» – задумваўся я. Хаця на той перыяд у гімна Расеі, з музыкай Глінкі, таксама не было словаў. Мне ідэя спадабалася. Але ж як можа быць гімнам развітанне з Радзімай, а не яе праслаўленне, гонар за яе… Хаця з іншага боку першы ўпамін пра Менск – запіс пра знішчэнне горада… Аднак словы маглі ўсё вырашыць. Яшчэ з музычнай школы я ведаў, што ў гэтага твора запамінальная мелодыя і спеўная. Я сам напяваў яе, калі вывучаў скрыпічную партыю.

На пачатку 2000-х я быў важатым у летніку, арганізаваным «Зялёным крыжам Беларусі» для аздараўлення дзяцей з раёнаў, забруджаных праз аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Апроч медыцынскіх мерапрыемстваў, для дзяцей былі арганізаваныя экскурсіі па літаратурных і гістарычных мясцінах Беларусі, па архітэктурных шэдэўрах, турпаходы па рэчках і азёрах, а таксама выкладанне гуманітарных прадметаў і танцаў. Памятаю з якой энергіяй Алена Генадзьеўна Прохарава вучыла нас рыцарскім і бальным беларускім танцам. І, безумоўна, яна паставіла ўсяму летніку паланез. Зводны атрад выходзіў прыгожым танцавальным крокам на пляцоўку перад галоўным корпусам, мы, нібыта высакасвецкая шляхта, стваралі фігуры, пераходы. І гучаў паланез Агінскага № 13 «Развітаньне з Радзімай». І гэта былў не класічны інструментальны варыянт, а песня, у выкананні гурту «Крыві» – Веранікі Кругловай і Тодара Вайцюшкевіча. Тады ўпершыню я пачуў словы, напісаныя Сержуком Сокалавым-Воюшам. Затым я «заслухаў» да бясконцасці гэты твор на CD з альбому «Я нарадзіўся тут» (2000 г.).

Вось словы Сержука Сокалава-Воюша:

**Развітанне з Радзімай**

1.
*Сонца праменьне стужкай вузкай*
*Ператкала помны вечар.*

*Край бацькоўскі, край мой беларускі,*
*Я табе кажу на разьвітаньне:*
*«Да спатканьня, да сустрэчы».*
*Я табе кажу на разьвітаньне:*
*«Да спатканьня, да сустрэчы».*
*…*
*2.*
*Водар закінутага саду,*
*Ў небе зорка Мілавіца,*
*Таямніцы паркавых прысадаў*
*Пэўна, неаднойчы на чужыне*
*Будуць мроіцца і сьніцца.*
*Пэўна, неаднойчы на чужыне*
*Будуць мроіцца і сьніцца.*

*Прыпеў:*

*Зноў залунае наш штандар,*
*Палыхне ўначы пажар,*
*І паходнаю трубой*
*Зноў пакліча нас з табой на мужны бой*
*Мая Радзіма – край адзіны.*
*Да яго з выгнаньня*
*Шлях вяртаньня – шлях змаганьня.*
*...*
*3.*
*Ростань на ростанях краіны.*
*Раніць думкі шлях абраны.*
*Прагне сэрца ў родныя мясьціны*
*І адзіны вобраз ажывае*
*Растрывожанаю ранай.*
*І адзіны вобраз ажывае*
*Растрывожанаю ранай.*
*...*
*4.*
*Дахі мястэчак, стрэхі вёсак,*
*Вежы замкаў і палацаў,*
*Гонкіх храмаў звонкі адгалосак*
*Клічуць да сябе, бо немагчыма*
*З гэтым краем разьвітацца.*
*Клічуць да сябе, бо немагчыма*
*З гэтым краем разьвітацца.*

*Прыпеў.*

*5.*
*Вoі прагнуць волі,*
*Воля – сьвет і доля.*
*Броні звон ды коні,*
*Коні – кліч «Пагоні».*

*Крочым з багны ночы,*
*З ночы шлях прарочы.*

*Прыпеў.*

*6.*
*Золак, ахутаны туманам,*
*Далягляды ў барвах бэзу.*
*І гучаць нябёсныя арганы,*
*І жывуць у сэрцы,*
*І зьліваюцца ў гуках палянэзу.*
*І жывуць у сэрцы,*
*І зьліваюцца ў гуках палянэзу.* [4]

Праз год шэсць я пачуў аж тры спеўныя варыянты «Песняроў» на рускай, польскай і беларускай мове, на словы Вячаслава Шарапава. А гэтым летам (2015 года) мой сябар і калега па літаратурным цэху Васіль Дранько-Майсюк запрасіў на спектакль паводле ягонай п’есы – «Пясняр», прысвечаны легендарнаму кіраўніку ансамбля Уладзіміру Мулявіну. Са сцэны гучаў паланез Агінскага, акапэла, са словамі Вячаслава Шарапава (праўда, што недарэчна – гэтым разам на рускай мове).

Беларускі варыянт:

**Развітанне з Радзімай**

*Песня ляці ў далёкі шлях,*
*Віруе ў небе белы птах,*
*Што ведае, дзе мой бацькоўскі дом,*
*Ён бачыў тую ветлую каханую,*
*Што мне наканавана.*
*Ў садзе пад галінай бэзу*
*Чуліся нам гукі паланезу.*
*…*
*Мне малюе сон,*
*Далёкі бераг,*
*Дзе душа адпачывае зноў,*
*Дзе толькі музыка ў сэрцы,*
*Нібы крылы матылька,*
*І мы з табой ў руцэ рука…*

*Там на пагорку белы храм*
*К яму ў дзяцінстве бегаў сам*
*Любіў глядзець святых на даўніх абразах*
*І белыя анёлы ўсміхаліся ў блакітных купалах,*
*І чуліся пад зводамі чаруючыя гукі благавесту.*
*…*
*Бог, барані мой край*
*Ад бед і нягод схавай.*
*Забыцца нам ўсім ня дай*

*Куды мы йдзем, адкуль мы йшлі*
*І ад сахі і ад зямлі, і ад лугоў і ад ракі,*
*І да лясоў і ад дуброў,*
*Ад сакавітых спелых траў*
*Павінны да вытокаў душы,*
*Да роднай мяжы*
*Нарэшце прыхінуцца.*
…
*Песня, ляці ў далёкі шлях, віруе ў небе белы птах,*
*Што ведае, дзе мой бацькоўскі дом,*
*Ён бачыў тую ветлую каханую,*
*Што мне наканавана.*
*Ў садзе пад галінай бэзу*
*Чуліся нам гукі паланезу.* [5]

У 2010 годзе ў часопісе «Роднае слова» Анатоль Верабей апублікаваў знойдзеныя ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі чарнавік рукапісу Уладзіміра Караткевіча, дзе былі занатаваныя словы на паланез Агінскага «Развітанне з Радзімай». Вось гэты варыянт (заўвагі ў дужках і пад радкамі – Караткевічавы):

*Родны кут, Смаргонскі кут,*
*Калыска светлая мая,*
*"Бывай!" – гавораць мне лясы,*
*Але мяне ад іх не адарваць,*
*Як іх з гаротнага майго не вырваць сэрца.*

*Родны край, навек бывай.*
*Шлагбаўма меч над галавой…*
*Ўсё далей ад Залесся колаў стук…*
*І слёзы у вачах маіх стаяць,*
*Сінеючы, як плынь святой маёй Віллі.*

*Буду ўспамінаць [цябе]: алеяў ціхі спеў,*
*І вадаспад ніжэй млына, што бачыў нас*
*У той апошні час з каханаю маёю,*
*І магілы даўнія дзядоў,*
*Рады сівых капцоў,*
*Цяжкіх не ад граніту, а ад бэзу,*
*І цёплы дом са свечкамі калон,*
*І спрэчку з танцам беларускім паланеза.*

*Ўсё далей вядзе выгнання шлях,*
*Ад ніў, дзе ты, любоў, жыла,*
*Дзе ты навекі адышла…*
*Ды прыйдзе час – насустрач дню*
*Ўваскрэснеш ты жывой з агню.*
*І я прыйду і абдыму цябе,*

*Мая любоў, мая айчына.*

(варыянт: калі патрэбныя яшчэ два склады, то варыянт: *Мая любоў і ты, вялікая айчына).*

[Музыка без слоў] (марш)

*Чуеш крок загонаў? Крочаць легіёны [мільёны]*.*
*Прыйдзем мы яшчэ змагацца за цябе, радзіма [свабода]**…*
*Проці ўсіх імперый і карон*
*Людзей пакліча волі звон,*
*І ў бітве пераможа ён.*
*Мір тым, хто гіне за народ,*
*А пераможцам – славы ўзлёт…*
*Няхай дзяўчаты увянчаюць іх*
*Галінамі дубоў Залескіх.*

*Але як забыць цябе,*
*Радзіма, край маіх бацькоў?*
*Павінен разлучыцца я з табой,*
*А я б памёр у бітве за цябе.*
*І загайдала бы мяне Вілля,*
*Закалыхалі беларускія дубы.*
*Буду ўспамінаць [цябе].*
*Край, навек [навек] бывай.*
*Адзіная мая любоў. Адзіная любоў.*
*Навек бывай. Нічога, добры мой, нічога.*
*Я жывы. А жывы, пакуль здалёк*
*Даносіць спевы рэк і дрэў.*
*Няхай я адарваны ад цябе –*
*Я нават у чужым, чужым краю*
*Змагацца буду за цябе,*
*Мая радзіма* [6].

А. Верабей прыводзіць словы А. Мальдзіса, які ў прыватнай размове паведаміў, «што чуў у выкананні смаргонскага ансамбля паланез «Развітанне з Радзімай» Агінскага на словы У. Караткевіча». Верагоднае датаванне гэтай падзеі – верасень 1965 года падчас святкавання 200-годдзя кампазітара [7].

***

Варыянты Караткевіча і Сокалава-Воюша – шматчастковыя разгорнутыя песенныя палотны. Шэсць куплетаў і прыпеў. Сокалаў-Воюш падае словы і для трыа – там дзе ў Караткевіча ў дужках чытаем *музыка без слоў, марш.* У паэтычных радках канцэнтруюцца перажыванні лірычнага героя, якія выкліканыя вонкавымі абставінамі. Ён, відавочна, не па сваёй волі мусіць развітацца з родным краем. Падаецца геаграфічная прывязка Радзімы – у Караткевіча – *Смаргонскі кут,* у Сокалава-Воюша – *Беларускі край.*

Перад вачыма лірычнага героя праходзяць пейзажы прыроды. У Карат-

кевіча – *лясы, сіняя Вілля, алеяў спеў, вадаспад ніжэй млына*; у Сокалава-Воюша – *золак, ахутаны туманам, стужка сонечных промняў, бэзавы далягляд, зорка Мілавіца.* Паўстаюць малюнкі ландшафту, у Караткевіча: *свечкі калон дома, капцы магіл дзядоў,* над якімі буяе *бэз*; у Сокалава-Воюша карціна больш разгорнутая: *мястэчкі, вёскі, прысады, храмы, вежы замкаў і палацаў.* Нават успамінаецца *пах закінутага сада.* Вобразы Радзімы назаўсёды застануцца ў памяці і:

*Пэўна, неаднойчы на чужыне*
*Будуць мроіцца і сьніцца...*
*(С. Сокалаў-Воюш)*

Усё ж, не знікаюць вера і надзея, што развітанне з Радзімай не вечнае:

*…прыйдзе час – насустрач дню*
*Ўваскрэснеш ты жывой з агню.*
*І я прыйду і абдыму цябе,*
*Мая любоў, мая айчына.*
*(У. Караткевіч)*

*Край бацькоўскі, край мой беларускі,*
*Я табе кажу на разьвітаньне:*
*«Да спатканьня, да сустрэчы».*
*(С. Сокалаў-Воюш)*

У адрозненні ад Караткевіча, Сокалаў-Воюш не ўжывае слова *бывай* – у яго, як мы бачым гаворыцца «Да спаткання, да сустрэчы», бо няма беспаваротнага развітання. У абодвух тэкстах Радзіма яшчэ пакліча сваіх сыноў.

*Прыйдзем мы яшчэ змагацца за цябе, радзіма [свабода]…*
*Проці ўсіх імперый і карон*
*Людзей пакліча волі звон,*
*І ў бітве пераможа ён…*
*(У. Караткевіч)*

Падобная і асноўная тэма прыпеву і ў Сокалава-Воюша:

*Паходнаю трубой*
*Зноў пакліча нас з табой на мужны бой*
*Мая Радзіма – край адзіны.*

Праводзіцца думка, што вярнуцца на Радзіму, вызваліць яе можна толькі з боем:

*Павінен разлучыцца я з табой,*
*А я б памёр у бітве за цябе…*

*Няхай я адарваны ад цябе –*
*Я нават у чужым, чужым краю*

*Змагацца буду за цябе,*
*Мая радзіма.*
*(У. Караткевіч)*

У Сокалава-Воюша гэтая думка выкладзена афарыстычна:

*З выгнаньня*
*Шлях вяртаньня – шлях змаганьня.*

Абодва тэксты па-свойму перадаюць гістарычныя рэаліі: пасля паразы паўстання Касцюшкі, і ад’езду за мяжу Міхал Клеафас Агінскі не кінуў змагання. Аўтар паланезу, былы камандзір атрада, становіцца дыпламатам ужо раздзеленай Рэчы Паспалітай, адпраўляецца па дапамогу ў еўрапейскія сталіцы, потым да турэцкага султана. І ён гатовы зноў узяцца за зброю, бо шлях змагання за Айчыну свядома абраны. Сокалаў-Воюш знаходзіць ёмістую метафару падзелу Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства літоўскага: *ростань на ростанях краіны*.

З пункту гледжання дакладнасці гістарычных падзей, у тэксце Уладзіміра Караткевіча мы бачым фakталагічную памылку – лірычны герой – прататып Міхала Клеафаса Агінскага – ад’язджае ў чужыну, каб вярнуцца з легіёнамі, з самога Залесся. У яго тэксце чытаем: *Смаргонскі кут*; *Ўсё далей ад Залесся колаў стук; сіняя Вілля, Залескія дубы.* Аднак вядома, што ў Залессе Міхал Клеафас Агінскі прыехаў толькі ў 1802 г., калі яму дазволілі вярнуцца ў Літву. Магчыма, Уладзімір Караткевіч чуў тую легенду, пра ад’езд Міхала Клеафаса Агінскага, як ён у «Паўночных Афінах» напісаў свой паланез і кінуўся ў карэту… а фантазія Уладзіміра Караткевіча перанесла дзеянні легенды з 1822 года ў 1794 г.

У тэксце Сокалава-Воюша гістарычны кантэкст больш дакладны. Паэт піша словы для трыа, якое гучыць водгуллем нядаўніх бітваў за Радзіму, некаторыя слоўныя формулы, напрыклад «Воля – свет і доля» – фактычна, супадаюць з дэвізам паўстанчага атрада Міхала Клеафаса Агінскага: «Свабода. Стойкасць. Незалежнасць».

Апроч таго ў трыа падаецца пасыл да будучых пакаленняў:

*Крочым з багны ночы,*
*З ночы шлях прарочы.*

Відавочна, гэта словы пераканання, што ў будучым, несумненна наступіць адраджэнне Айчыны.

***

Варыянт Вячаслава Шарапава (мастацкага кіраўніка, аранжыроўшчыка, кампазітара ансамбля «Песняры») складаецца з двух куплетаў, прыпеву і трыа, пры тым прыпеў не паўтараецца, а напрыканцы другі раз выконваецца першы куплет.

Мы бачым ідылічную карціну роднай старонкі: *на пагорках белы храм*,

*сад з бэзам*, дзе лірычны герой сустракаўся з каханай. Чаму ён апынуўся за межамі сваёй Радзімы – невядома, ці то ён выгнанец, ці то эмігрант, ці то толькі на час пакінуў яе. Але сама песня пераносіць яго ў родны край. У гэтым яна, падобная да думкі рабоў-габрэяў у арыі з оперы Вердзі «Набука». Думка падняволеных ляціць з весткаю і ўспамінам да роднага краю:

*Va, pensiero, sull'ali dorate;*
*va, ti posa sui clivi, sui colli,*
*ove olezzano tepide e molli*
*l'aure dolci del suolo natal!* [8]

*Ляці, думка, на залатых крылах;*
*Ляці, адпачываючы на гарах і пагорках,*
*Туды, дзе паветра напоенае, яснае цяплом і пяшчотай,*
*Салодкім водарам роднай зямлі!*
*(падрадкоўнік – наш – С. М.)*

Цікавая паэтычная характарыстыка *песні, звязанай з родным краем* падаецца ў польскамоўнай версіі паланеза Агінскага № 13 «Развітанне з Радзімай» (аўтар А. Кавалеўскі [9]), якую таксама выконваюць «Песняры»:

*Pieśń do Ojczyzny zna swój szlak*
*Wirując w niebie niby ptak...*

*Песня да Айчыны ведае свой шлях,*
*Віруючы ў небе, нібы птах.*

У беларускамоўным варыянце песня і птах – розныя вобразы. І менавіта птах нясе напамін пра бацькоўскі дом і ведае дарогу да яго.

Далей у тэксце В. Шарапава ўзнікае вобраз адзіна наканаванай і ветлай каханай. Мы бачым карціну сустрэчы лірычнага героя і яго любімай, там, дзе часта адбываліся іх спатканні. У тэксце Караткевіча каханая згадваецца адзін раз – гэта апошняе перад выгнаннем спатканне каля вадаспаду. Напамін пра каханую ёсць і ў варыянце Сокалава-Воюша:

*Прагне сэрца ў родныя мясьціны*
*І адзіны вобраз ажывае*
*Растрывожанаю ранай.*

Аднак, канкрэтна, што гэта любая, не гаворыцца, напрыклад, гэта можа быць і маці. Калі абапірацца на біяграфічныя дадзеныя кампазітара, то вядома, што яго першая жонка спрабавала мужна раздзяліць цяжар выгнання з Агінскім пасля паразы паўстання Касцюшкі, а развяліся яны пазней. Другі шлюб Міхала Клеафаса наогул быў не вельмі удалым. Таму вышэй прыведзеныя радкі Сержука Сокалава-Воюша больш стасуюцца з гісторыяй – аднымі штрыхамі перадаецца адчуванне расстання з тым

месцам, дзе лірычны герой, хутчэй за ўсё, упершыню ўбачыў каханую. Аднак твор мастацтва не абавязаны цалкам абапірацца на гістарычныя факты, чым і скарысталіся Уладзімір Караткевіча і Вячаслаў Шарапаў. У апошняга радкі напаўняюцца ідыліяй і рамантыкай:

*…толькі музыка ў сэрцы,*
*Нібы крылы матылька,*
*І мы з табой ў руцэ рука*

І таму, што птах бачыць каханаю разам з бацькоўскім домам – мы можам дапусціць, што яна, як і ў выпадку з Караткевічавым варыянтам, засталася на Радзіме і не падзяліла з лірычным героем лёс выгнанца.

Затым, паводле тэксту В. Шарапава, вобраз кахання і каханай саступае месца высокаму рэлігійнаму пачуццю, якое зарадзілася ў душы героя яшчэ ў маленстве:

*Там на пагорку белы храм*
*К яму ў дзяцінстве бегаў сам*
*Любіў глядзець святых на даўніх абразах…*

Мінула столькі гадоў, але *старыя абразы*, *усмешкі анёлаў у белых купалах* і чароўныя гукі звона, для якога аўтар тэксту нават падбірае царкоўнаславянскае слова – *благовест* – назаўсёды засталіся ў памяці і сэрцы лірычнага героя. Наогул узнікае, мажліва, пабочнае адчуванне, але цалкам лагічнае, што лірычны герой Вячаслава Шарапава – зусім не выгнанец, а, дапусцім, манах, святар, які адмовіўся ад каханай, ад сваёй Айчыны, каб аддаць сабе служэнню Богу. І цяпер ён знаходзіцца недзе ў далёкім манастыры ці ён – пастыр храма на чужыне, але ўсё роўна моліцца за сваю былую краіну і яе жыхароў. Бо далей, у трыа, замест змагарскай фабулы, якая прысутнічае ў біяграфіі кампазітара і што адлюстроўваюць словы Сержука Сокалава-Воюша, у тэксце «Песьняроў» узнікае святочная малітва за Радзіму:

*Бог, барані мой край*
*Ад бед і нягод схавай.*

Чуюцца настаўленні, як пропаведзь:

*Забыцца нам ўсім ня дай*
*Куды мы йдзем, адкуль мы йшлі*
*І ад сахі і ад зямлі, і ад лугоў і ад ракі,*
*І да лясоў і ад дуброў,*
*Ад сакавітых спелых траў*
*Павінны да вытокаў душы,*
*Да роднай мяжы*
*Нарэшце прыхінуцца.*

Фактычна, як пераконвае аўтар гэтага тэксту, *ад сахі* і *ад лугоў* (тут

бачацца паралелі з творчасцю беларускіх класікаў Я. Купалы і Я. Коласа, на словы якіх «Песняры» выконваюць шмат песень) мы павінны адыйсці і *нарэшце* прыйсці да *вытокаў душы*, і гэта ёсць тая *родная мяжа*, да якой трэба *прыхінуцца*. Бо проста працаваць сахой на зямлі, проста захапляцца лугамі, ракамі, лясамі і дубровамі без адчування *вытокаў душы* – гэта не так важна, гэта пэўнае забыццё і неўсведамленне далучэння (прыхінення) да *роднай мяжы*, дадзенай нам звыш. Лірыка – пераходзіць у пафас, мажліва трыа, якое выразнасцю рытму адрозніваецца ад іншых частак паланеза – паслужыла прычынаю такога пераходу.

Адносна гэтага фрагмента тэксту В. Шарапава можна заўважыць, што слова *мяжа* – у пэўным сэнсе сінанімічнае слову *канец*, таму паўстае паралельны сэнс: *прыхінуцца нарэшце да мяжы* – можна прачытаць, як *знайсці свой апошні прытулак*. А выснова – лепшы апошні прытулак – у сваім родным краі…

Звон храму чуецца і ў тэксце Сержука Сокалава-Воюша. Ён замыкае ланцуг вобразаў, што ўстаюць у памяці выгнанца-змагара:

*Дахі мястэчак, стрэхі вёсак,*
*Вежы замкаў і палацаў,*
*Гонкіх храмаў звонкі адгалосак*
*Клічуць да сябе, бо немагчыма*
*З гэтым краем разьвітацца.*

Менавіта тое што *звонкі адгалосак* храмаў пастаўлены ў канцы ланцугу пейзажных вобразаў, наводзіць на думку, што ён выконвае функцыю не *благавесту – добрай весткі*, а, наадварот, – набату. Ён нясе трывогу за край, які захапіў вораг. У тэксце Уладзіміра Караткевіча таксама гучыць звон – але гэта *звон волі*. Гэта не благавест, не набат, а кліч абуджэння.

Пры параўнанні тэкстаў Уладзіміра Караткевіча, Сержука Сокалава-Воюша і Вячаслава Шарапава міжволі ловіш сябе на думцы, што першы аўтар меў на ўвазе час напісання паланеза № 13 Агінскага – 1794 год, але легенду пра 1822 год накладае на паразу паўстання Касцюшкі; другі аўтар (Сокалаў-Воюш) прытрымліваецца храналогіі гістарычных падзей, а трэці аўтар (Шарапаў) выкарыстоўвае рамантычную легенду, датаваную 1822 годам, калі кампазітар пакідаў мілы сэрцу куток з прычыны папраўкі здароўя, а не змагання за Радзіму.

Натуральна, што першая дата (1794 г.) вымагала, каб паэтычныя радкі былі адлюстраваннем тых словаў, думак і перакананняў, з якімі жылі і гінулі паўстанцы, змагары за волю і адраджэнне сваёй радзімы. Другая дата – павязаная з ідылічным жыццём «Залесся» – «Паўночнымі Афінамі», што акурат знаходзяцца па дарозе з Санкт-Пецярбургу ў Варшаву і некалі прымалі шмат знатных гасцей. Тут ладзіліся балі, музычныя імпрэзы, у садзе адбываліся рамантычныя спатканні, а ў наваколлі можна было паназіраць мілыя сельскія пейзажы.

Малгажата Касіньска, супрацоўніца Польскага цэнтра музычнай інфармацыі, сцвярджае, што паланез № 13 «Развітанне з Радзімай» быў не толькі

напісаны ў 1794 г., але і ў тым жа годзе выдадзены [10] (праўда, рукапіс і тая публікацыя не захаваліся, а за першадрук прынята лічыць выданне Парыж, 1831). Аднак быць твору выдадзеным і быць вядомым – розныя рэчы. Тым больш у той час ноты распаўсюджваліся няхутка, коннай поштаю. Тое, што паланез № 13 «Развітанне з Радзімай» быў вядомым і даволі папулярным, сведчыць алюзія да яго, выкарыстаная сямігадовым Шапэнам. Менавіта гэта «абыграная цытата» ў другой частцы яго паланеза сі бемоль мажор, занатаваная за малалетнім Шапэнам педагогам у 1817 годзе (пра гэта пішуць і польскія музыказнаўцы [3]), на жаль і расчараванне экскурсаво-дам па сядзібе Агінскіх, бо супярэчыць прыгожай легендзе са слязой, якая ўпала на нотны аркуш у Залессі ў 1822 годзе. Таму праўдападобней – паланез паўстаў у 1794 г.

Тры беларускамоўныя тэксты дэманструюць своеадметныя крэатыўныя падыходы. Першы (Уладзімір Караткевіч) – апяванне прыгажосці куткоў роднага краю, мужнасці герояў сваёй Айчыны, стварэнне прыкладу для будучых пакаленняў. Другі (Сяржук Сокалаў-Воюш) – руплівая рэканструкцыя падзей, з захаваннем інтанацыі, рытмікі, напружання і вастрыні мелодыкі са зваротам у будучыню да новых пакаленняў, якім яшчэ не раз давядзецца адстойваць ідэалы Айчыны. Першы і другі падыходы паводле стратэгіі напісання – падобныя – па-свойму адлюстроўваюць ідэалы свабоднай Айчыны, мажліва, у Сокалава Воюша было больш гістарычных матэрыялаў пры стварэнні тэксту да паланеза Агінскага, і гэтым ён удала скарыстаўся.

Трэці падыход (Вячаслаў Шарапаў) – рэфлексія на тэму ад’езду (верагодна часовага) у іншыя (чужыя) мясціны, светлы сум па маленству, каханню і мілосным спатканням, прыродзе, пейзажам плюс наказ і павучанне з элементамі рэлігійнай дыдактыкі, пры гэтым адсутнічае матыў абароны Айчыны, замест гэтага – малітва і апеляцыя да Бога, які, як вядома, усяму суддзя.

Безумоўна, слухач/чытач абярэ сабе той варыянт, які яму будзе бліжэйшы. Аднак з пункту гледжання паэтыкі – другі варыянт, на нашу думку, мае больш перавагаў. У ім строга захоўваецца рыфменны малюнак у адрозненне ад слоў Караткевіча і Шарапава, дзе рыфма спарадычная, ёсць развіццё, кульмінацыя і завяршэнне. І, можа быць, менавіта тэксту Сержука Сокалава-Воюша напрарочана аднойчы стаць гімнам Беларусі.

СПАСЫЛКІ

1. http://www.valentin-kovaliv.com/belkom?start=1 Белорусские композиторы. Михал Клеофас Огинский. Дата доступу 19.05.2015.

2. http://www.poznaibelarus.by/mikhal-kleofas-oginski Дата доступу 19.05.2015.

3 http://en.chopin.nifc.pl/chopin/persons/detail/id/6776 Дата доступу 17.06.2015.

4. http://www.zaxodi-v-internet.ru/polonez-oginskogo.html Дата доступу 18.05.2015.

5. http://last.by/musicmusic/полонез+огинского Дата доступу 26.05.2015.

6. Верабей, А. Уладзімір Караткевіч і Міхал Клеафас Агінскі / А. Верабей // Роднае слова. – 2010. – № 8. – С.42 – 43.

7. https://www.youtube.com/watch?v=l95w9yU2oO4 Дата доступу 25.05.2015.
8. http://www.yusypovych.com/eng/Va-pensiero-English-translation Дата доступу 25.05.2015.
9. [http://www.pesnyary.com/songs/pesnyary__bga_]) Дата доступу 25.05.2015.
10. http://culture.pl/pl/tworca/michal-kleofas-oginski Дата доступу 17.06.2015.

# Сяржук Вітушка: літаратурны партрэт

**Анатоль Трафімчык**

Асобу Сержука Вітушкі (1965 – 2012) цяжка пераацаніць для Беларусі. Аб’ектыўна кажучы, ім арганізаваная культурніцкая суполка, а можна сказаць супольнасць “Талака”, у другой палове 1980-х гадоў з’яўлялася самай значнай з непалітычных арганізацый у аспекце ўплыву на сацыяльнае развіццё тады яшчэ савецкай рэспублікі.

Дзейнасць на гэтай ніве паглынала цалкам С. Вітушку, таму яго некаторыя таленты чакалі свайго лепшага часу, які, аднак, не стаў такім для самога чалавека. На пытанне, што ён у сваім жыцці змяніў бы, пазней скажа, што “больш уважліва ставіўся б да свайго здароўя. Як я сёння перакладаю Міцкевіча: “Здароўе маё!.. Як Радзіма, ты мне дарагое. Што трэба здароўе цаніць, зразумееш пра тое, як страціш яго”. На жаль, з маладога ўзросту С. Вітушка вымушаны быў супрацьстаяць цукроўцы (цукроваму дыябету). Гэта прывяло да страты зроку. Але – не моцы духу і сілы волі. Хвароба не загнала колішняга “талакоўца” ў кут *беспрасветнага* існавання. Колькасць і якасць ім зробленага зусім не стасуецца з яго фізічным станам. Відавочна, С. Вітушка жыў так, што не кожнаму дадзена. Якіх высілкаў гэта яму каштавала, можна толькі здагадвацца. Чалавек не склаў рукі, не абмежаваў свой свет клопатам пра лекаванне. Працягваў шмат працаваць, перадусім у журналістыцы, знаходзячы для гэтага свае спосабы творчай рэалізацыі. А чаго варты толькі яго “сляпыя экскурсіі” па «крывіцкай Мецы»!

Адным з праменьчыкаў, які асвятляў жыццёвы шлях С. Вітушкі, стала творчасць для дзяцей. Яшчэ пры жыцці дзеяча выйшла кніга “Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі!” (2011) – зборнік featuring рознатэматычных і рознафарматных казак (затым запісалі па ёй аўдыёдыск, казкі агучваліся вядомымі у беларускай культуры людзьмі). Пазней з’явілася другая – “Тэатр Сержука Вітушкі” (2014), цалкам драматургічнае выданне. Такім чынам вядомае ўсім выслоўе У. Шэкспіра пра жыццё як тэатр у выпадку з С. Вітушкам набыло незвычайны сэнс.

Трэба сказаць, што схільнасць да літаратурнай творчасці “талаковец” выявіў рана – праз напісанне сцэнарыяў да свят. Некаторыя з іх, як, напрыклад, падрыхтоўка да калядавання напрыканцы 1988 года, захаваліся ў архівах [гл.: 2]. Каб арганізаваць і правесці шэраг запамінальных (па сённяшні дзень!) вечарын,

неабходна мець і задаткі драматурга. Іх меў С. Вітушка. У суме з адсутнасцю адпаведнай адукацыі (дзяяч быў гісторыкам), а значыць і заняволення пэўнымі ўзорамі, рамкамі, стэрэатыпамі, клішэ і да т п., гэта спарадзіла неардынарнага літаратара, які не толькі і не столькі апавядае сам, колькі *вядзе гутарку з цэлым народам*, падштурхоўваючы да крэатыву чытачоў-суразмоўцаў. Дый кніга «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі!» мае не проста назву, – гэта заклік – да творчасці, імправізацыі і… радасці.

Відаць, таму першы і найбольшы ў тым выданні раздзел казак – «на розныя святы». С. Вітушка нязмушана «прывязвае» вядомыя сюжэты да некаторых “чырвоных” датаў”. Аўтарская фантазія разняволеная, не карыстаецца нацяжкамі ці апраўданнямі, таму перастварэнне атрымліваецца досыць натуральна. Так, у «велікоднай казцы для самых маленькіх і разумных» «Залатое яечка» дзеі, запазычаныя з вядомай гісторыі пра курачку рабу, былі аргыгінальна разгорнуты С. Вітушкам для вытлумачэння традыцыі выкарыстання яек у беларускай культуры самага значнага рэлігійнага свята – Вялікадня. Шэсць Вітушкавых «казак на розныя святы», канечне, не маглі ахапіць нават самыя чырвоныя дні нашага календара. Аднак аўтар, відавочна, і не збіраўся ствараць «фундаментальны» цыкл, расказваючы свае гісторыйкі ў якасці прыкладу, паказваючы іншым, як можна прыдумляць падобныя казачкі для сваіх дзяцей (нават экспромтам, калі хопіць фантазіі). Таму ў С. Вітушкі мы сустракаем аповеды пра <u>розныя</u> святы – як рэлігійныя, так і тыя, што, бадай, сталі свецкімі (Новы год, дзень Святога Валянціна, не кажучы пра Дзень горада – Менска). Казачнік падказвае, што можна лёгка выдумляць і цалкам новыя святы (sic!) – Свята Першага Непатаптанага Снегу, Свята Хрумсцення Першым Лёдам На Лужынах, Конкурс Прыгажосці Снегавых Бабаў, Пабудова Крэўскага Замка Са Снегу (карацей, паводле С. Вітушкі, і без Парыжа жыццё можна ператварыць у свята, якое заўсёды з табою).

Па форме творы забаўляльныя (як і мае быць у дзіцячай літаратуры). А вось па змесце яны сягаюць розных мэтаў. Тут і пазнавальнае інфармаванне – адказы на пытанні «чаму?» і «як?»; і духоўнае выхаванне – зразумела, найперш дабрыні; і гістарычная ды экалагічная асвета… Ну скажыце, хто дагэтуль у такой форме расказваў пра штучныя навагоднія елкі? А С. Вітушка даводзіць, што іх рэкамендуе сам Дзед Мароз, які ўбачыў «такую прыкрую рэч»: «Валяюцца на вуліцы святочныя елачкі, нікому ўжо не патрэбныя. Іголачкі абсыпаліся, дзе-нідзе прычапіліся абрыўкі папяровых гірляндаў і залацістага дожджыку. Яшчэ зусім нядаўна каля іх так радасна спявалі, скакалі, карагоды вадзілі, а вось цяпер – куча смецця. Крыўдна стала Дзеду Марозу, і ён вырашыў нешта прыдумаць». І напісаў Дзед людзям ліст, каб яны ставілі «ў кватэрах не жывыя, а цацачныя елкі», расказаўшы пры гэтым, як іх можна па-святочнаму абыграць (казка «Як Дзед Мароз новае свята прыдумаў») [1, с.22].

Творы С. Вітушкі не проста нейкія казкі-выдумкі, – часам яны «падмацаваны», дэтэрмінаваны некаторымі рэаліямі – і гістарычнымі, і сучаснымі. Так, аўтар майстравіта далучыў да мастацкага тэксту «Казачкі пра Вербную Нядзельку» Статут ВКЛ, расказаўшы тым самым не толькі пра «моду рабіць на Вербную Нядзельку такія ўпрыгожаныя галінкі і называць іх “віленскія вербы”

або “віленскія пальмы”» [1, с.18], але і пра ўзнікненне артыкула № 15 «Аб парубцы гаю» – зводу законаў нашых продкаў, якім па сённяшні дзень ганарацца беларусы. Такая дакументальнасць павышае ступень праўдападобнасці мастацкага твора, не разбураючы яго спецыфіку казачнага жанру.

Цыкл «Казачкі на Дзень Волі» паглыбляе згаданую карэляцыю з гістарычным мінулым краіны, расказваючы пра сімвалы беларускай дзяржаўнасці – герб («Пагоню»), сцяг і гімн. Праўда, па словах С. Вітушкі, ён не знайшоў і не склаў лепшай казкі пра беларускі сцяг, чым напісаў яго сябра С. Сокалаў-Воюш [1, с.75], таму вырашыў тут змясціць ягоную «Баладу пра князя». Затое «Казка пра гімн» – гэта цэлая драматычная гісторыя пра тое, як паўставала галоўная дзяржаўная песня Рэспублікі Беларусь. Народнымі песнярамі на Парнасе быў перабраны шэраг выбітных твораў. Па падказцы ваяроў-адраджэнцаў Касцюшкі, Каліноўскага і Булак-Балаховіча ўспомнілі пра вядомую песню М. Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…», якая была зацверджана ў якасці гімна падчас стварэння БНР у 1918 г. Аднак пакуль парнаскае веча раілася, людзі прыдумалі гімн «як умелі». У ім не знайшлося месца для высокіх нацыянальных каштоўнасцей і духоўнасці. Давялося адраджэнцам ізноў абуджаць народ. Калі звярнуліся з песнямі да моладзі, то тая моцна здзівілася: «Во якія песні прыгожыя! А чаму ж мы такіх не ведаем? Толькі пра чарку ды скварку спяваем». А калі «грымнулі» «змагарны гімн», то «радкі падхапіла і моладзь». «І тады паўсталі дзяды і бабы і далучыліся да агульнага хору. <…> І распраміліся грудзі, і праяснела ў галаве, і засвярбелі рукі – да працы, да змагання за адраджэнне нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны» [1, с.84], – гэты заключны акорд казкі гучыць аптымістычным прывітаннем С. Вітушкі ў заўтрашні дзень беларускай краіны.

Назва цыклу «Казкі-пагулянкі» наводзіць, зразумела, на думку пра Вільню, дзе ёсць раён Пагулянка. Адпаведна тры з чатырох твораў ёй і прысвечаны. Тут падаецца аўтарская інтэрпрэтацыя, адкуль у Вільні з’явіўся Вільнюс. Больш таго, паводле С. Вітушкі, назву трэба пісаць з мяккім знакам напрыканцы, бо гэта імя хлопчыка (як Генюсь, Ясь, Алесь) – пазашлюбнага сына самога князя Гедыміна. Дарэчы, мяккі знак, названы некалі А. Гл*ё*бусам «сымбалем беларускае незалежнасьці», у С. Вітушкі сваім значэннем таксама выходзіць за межы арфаграфіі, становячыся выканаўцам жаданняў пры ўяўным дапісванні пальцам таго знака на помніку з надпісам «Вільнюс». Такі яшчэ адзін, вельмі своеасаблівы, але які канцэптуальны ўнёсак у беларускі культурны слой поліэтнічнай Вільні.

У сваіх творах аўтар-казачнік быццам даводзіць, што яму падуладны інтэрпрэтацыі любых сюжэтаў, абгрунтаванні якіх заўгодна з’яў. Нават векавыя легенды ён бачыць па-свойму, ды так, што яны становяцца цікавейшымі за традыцыйны варыянт. Такой атрымалася «Казачка пра цмока Базылішка». С. Вітушка нібы прапануе глянуць на калізіі людзей і цмока вачыма апошняга, што ўвачавідкі трансфармуе і характары персанажаў, і сітуацыю ў цэлым. У выніку цмок не толькі не выглядае ўвасабленнем адмоўнага, але і сам паўстае ахвярай: людзі выцеснілі (у тым ліку сілай зброі) цмокаў, і толькі адзін Базылішак «вырашыў змагацца да апошняга». Ну, як такога не пашкадаваць! Да

таго ж пасля таго, як ён апынуўся падманутым ваўком-пярэваратнем. Ваўкалак навучыў і цмока, як змагацца супраць людзей, але і Князю падказаў, што трэба рабіць у супрацьстаянні з Базылішкам. І хоць падказка ваўкалака Князю цалкам адпавядае версіі паводле легенды: цмок павінен быў зірнуць на люстраны шчыт – і здранцвець ад сябе самога, – Вітушкава кульмінацыя сталася ўсё адно нечаканай: «Заспаны Цмок, пачуўшы нейкі грукат і лязгат на двары, высунуўся з пячоры. А Князь яму тыц – і падсунуў пад самы нос шчыт-люстэрка. І ўбачыў наш Цмок сваё адлюстраванне. Паколькі шчыт быў пукаты, то адлюстраванне выйшла скажонае, *страшэнна смешнае* (курсіў наш. – *А. Т.*). Ад нечаканасці Цмок зарагатаў, ды так моцна зайшоўся смехам, што сэрца яго не вытрывала» [1, с.98]. Але і трагедыю аўтар не схільны перабольшваць (хоць жа сам і зарадзіў зерне эмпатыі да Базылішка), «выкручваецца» ўмела і па-мастацку прыгожа: «Яркай вясёлкаю ўзляцела на неба цмокава душа і пасялілася на вялікай аблачыне. З таго часу толькі аблокі на небе паказваюць нам, якія цмокі даўней вадзіліся на зямлі» [1, с.98].

Асаблівым чынам С. Вітушку хацелася б выдзеліць і як драматурга, прычым асобна з шэрагу аўтараў п’ес дня сённяшняга. Вынікі яго драматургічнай дзейнасці спароджаныя як багатым пластом народнай культуры, так і тэндэнцыямі, зададзенымі сучаснымі аўтарамі.

Адроджаная праз творчасць Э. Акуліна (містэрыя ў 4-х актах «На Каляды», 1996), І. Сідарука (калядная гісторыя «Збавіцель», 1998; калядныя настроі «Меч анёла», 2004), С. Сокала-Воюша (калядная казка «Свецяць, свецяць зорачкі», 1993) і С. Кавалёва (п’еса-апокрыф «Братка Асёл», 1997) калядная драматургія засведчыла, што перарыванне працэсу яе развіцця за савецкім часам не стала пагібельным. Больш таго, сучасныя аўтары надалі новага дыхання п’есам па біблейскіх матывах, у тым ліку батлейцы, выйшлі на новыя мастацкія вышыні, і даўно наспела неабходнасць выпусціць асобным выданнем батлеечную драматургію (ці – шырэй – навагоднія п’есы), балазе, гэта літаратурная прадукцыя мела б несумненны попыт у самай шырокай чытацкай і глядацкай аўдыторыі [3].

Ужо ў сваёй першай кнізе С. Вітушка прапанаваў цыкл «Казкі – жывыя батлейкі» з трох батлеечных п’ес. Як і іншыя творы, драматургія гэтага аўтара («Анёл і Чорт», «Калядны канцэрт», «Скарб на Святога Яна») характарызуецца асаблівай разняволенасцю ў разгортванні калізій пры наяўнасці некаторых намінальна знаёмых па фальклорнай батлейцы персанажаў.

Першая з названых прадстаўляе спрэчку Анёла і Чорта наконт праўдзівасці Божага нараджэння. У якасці аргументаў яны клянуцца тымі часткамі сваёй істоты, якія іх найперш характарызуюць: Анёл – крыламі і німбам, Чорт – рагамі і хвастом. Персанажы п’есы маюць класічныя характары: Анёл паступае сумленна, а Чорт спрабуе хітрыць і «дастае яшчэ адзін прыхаваны хвост».

**Анёл**.Які хвост?! Ты ўжо кляўся хвастом. Гэта падман. Гэта супраць правілаў!

**Чорт**.А мы, чарты плюём на вашы правільныя правілы! У гэтым наша сіла, у гэтым наша перамога! [1, с.37]

Рассудзіць спрэчку прапануецца аўдыторыі, якая па аўтарскай ідэі павінна стаць на бок Анёла і выгнаць Чорта. Тым самым даказваецца, што перамога дасягаецца не за кошт метадаў, прымяняемых Чортам, а на аснове добрасумленнасці.

Наступная п’еса – «Калядны канцэрт» – створана па вядомых матывах нараджэння Ісуса Хрыста (аўтар прапаноўвае і варыянт імя Езус). Канфлікт заключаецца ў нежаданні Чорта прыняць з’яўленне Збавіцеля. Цар Ірад таксама баіцца пасягальніцтва на сваю ўладу. Чорт ідзе да Ірада на службу, каб рукамі апошняга зрабіць сваю справу. Ірад кліча Смерць. А яна вазьмі ды прыйдзі па яго ж самога. Усё дзеянне перасыпана як устаўкамі урыўкаў з рэлігійных кніг, так і беларускімі каляднымі (і не толькі) песнямі.

Як і ў дзействе, у вобразах назіраем вялікую долю аўтарскай фантазіі. Цар Ірад у прыватнасці выпісаны з намёкам, аб чым сведчыць характэрная трасянка («Кругом адны ўрагі!»). Прадказваецца і яго канец:

**Ірад**. …Слухай, смертухна-матухна, а давай па-харошаму. Ты мяне цяпер не чапай, пашкадуй.

**Чэрап**. А ты сам каго шкадаваў? Ці ў цябе не прасілі літасці? Дык вось – і табе не будзе. [1, с.46]

Прычым Ірада з’ядаюць яго ж паплечнікі – Ваяка і Чорт.

У разгледжанай п’есе С. Вітушка ствapae такую сітуацыю, што сутыкнення антаганістычных сілаў, драматычнага сутыкнення характараў па вялікім рахунку не адбываецца. Аднак з іншага боку, калі браць пад увагу тэзу А. Лойкі, што «характар праяўляе сябе ў зносінах са знешнім светам, у адносінах да іншых людзей, іншых характараў» [4, с.122], у п’есе С. Вітушкі назіраем рэалізацыю гэтага палажэння: героі паводзяць сябе дынамічна, што надае яшчэ большай святочнасці, жвавасці і яркасці каляднай урачыстасці.

Па фармаце гэтых дзвюх казак відаць, што яны, нягледзячы на арыгінальнасць (магчыма, нават трохі нечаканую), з’яўляюцца хутчэй батлеечным дыптыхам. Прычым да яго можна арганічна дапасаваць іншыя п’есы на калядную тэму. Тым больш што для батлейкі такі падыход сапраўды традыцыйны.

Трэцяя п’еса С. Вітушкі з’яўляецца «купальскай батлейкай» (такіх у айчыннай літаратуры хіба дасюль не было), створанай шляхам кампіляцыі вершаў класікаў. У ёй мы сустракаем знаёмага па пярэдніх п’есах Чорта. Умела карыстаючыся са спадчыны беларускай паэзіі, аўтар рэалізуе вядомую фабулу з продажам душы. У С. Вітушкі гандаль вядуць Хцівец і Чорт:

**Хцівец**. А я – ці не мог бы прадацца вашэці,
Каб быў я багатшы ад усіх на свеце?
**Чорт**. Можна. Вельмі проста. А чаму ж няможна?

Кажа Чорт у адказ і расказвае, як Хціўцу дасягнуць мэты, ад чаго апошні рады:

**Хцівец**. Вы-ра-ка-ю-ся ду-шы за гро-шы,
А нашто тая душа, калі маеш барыша? [1, с.54]

Ён выконвае інструкцыю Ведзьмы, становіцца па-чароўнаму відушчым і знаходзіць папараць-кветку, якая адкрывае яму незлічоныя багацці. Аднак нават іх аказваецца мала, калі Хцівец з гэтай нагоды балюе, усё прапіваючы. Багацце, такім чынам, было мройным. «Канец мне на гэтым», – заключае Хцівец.

Такім чынам, «Казкі – жывыя батлейкі» С. Вітушкі, з аднаго боку, выглядаюць як зварот да фальклорнага багацця і як пэўны яго вынік у XXI стагоддзі, а з іншага боку – п’есы гэтага аўтара становяцца і своеасаблівым прыкладам (ці нават арыенцірам), які можна браць у разлік пры стварэнні батлеечнага рэпертуару ці пры яго пастаноўцы. Стварэнне казак С. Вітушкам выглядае як гульня, чаго аўтар не хавае ў падзагалоўку. Тым самым пісьменнік падае яскравы ўзор, як можна творча падыходзіць да вядомых матэрыялаў, каб гэта было і цікава, і сучасна.

Працяг творчых тэндэнцый атрымаўся ўдалым і ў наступнай кнізе С. Вітушкі, падрыхтаванай ужо без яго (роднай сястрой Ларысай Сагановіч). Выданне складаецца з дзвюх частак. Першая з іх мае гаваркую назву – “Тэатр на далонях”. Адрасуецца вельмі маленькім гледачам (пачынаючы з гадоў 2-х) і прызначана не для чытання – яна цалкам пастановачная. Каментуючы яе, аўтар адзначаў, што артыстамі ў гэтым тэатры будуць пальцы. “Яны збіраюцца ў шчопці, жменькі, кулачкі і паказваюць розныя фігуры. Што вельмі важна – гэткі тэатр заўсёды пад рукой: у дарозе, калі няма цацак, ці дома, калі цацкі надакучылі”. Не забыў казачнік і пра музычнае ды вершаванае суправаджэнне, у ходзе якога адбываецца дзейства – бясхітраснае, але адэкватнае для “пачаткоўцаў” тэатра.

Большая частка “Тэатра на далонях” разлічана на дзетак узросту дзіцячага садка, называецца “Піраміды” (бо іх нагадвае развіццё дзеяння) і ўключае п’есы па матывах беларускіх, рускіх і англійскіх казак – нашаму чытачу вядомых добра і не надта. Але Вітушкавы інтэрпрэтацыі нават знаёмых сюжэтаў характарызуюцца, па-першае, усё той жа творчай разняволенасцю, а па-другое, гарманічнасцю ў развіцці дзейства. Да таго ж драматург дэманструе добры прыклад для іншых – як можна гуляць у мастацтва з дзецьмі, разам з тым абуджаючы ў іх творчую жылку. Казачнік па-майстэрску, вытрымліваючы патрэбныя для эстэтыкі і выхаваўчых імкненняў прапорцыі, разбаўляе ўзяты з фальклору матэрыял аўтарскім, разбаўляе, як здавалася б, у аднаму яму вядомых прапорцыях. Аднак у тым, што С. Вітушка не прэтэндуе на мастацкую аўтэнтычнасць сваіх твораў, хоць некаторыя з іх даволі арыгінальныя, бачыцца якраз падштурхоўванне іншых да падобнай драматургіі – не абавязкова ў пісьмовай форме, а, скажам, у вусным аповедзе на сон сваім дзецям. Тым не менш драматург не забывае і пра магчымасць паставіць п’есы, дапамагае адпаведнымі падказкамі і рэмаркамі.

Усе п’есы дынамічныя. Між тым дасягаецца такі эфект за кошт руху персанажаў, нярэдка “ланцужковай рэакцыі” ў разгортванні сюжэту (“Верабей і сцяблінка”, “Бай і Будзік”). Практычна адсутнічае паўнавартаснае для законаў драматургіі характарастварэнне. Аднак абраны падыход верны – з улікам слабай абазнанасці дашкольнікаў у псіхалогіі, няхай сабе і мастацкай: на першы план выступае так званы экшн і ён абумоўлівае магістральную рысу характару

таго ці іншага персанажа (а не наадварот, як мы да таго прывыклі).

Ёсць у творах і мараль. Недзе больш выразная, недзе слабей, калі п’еса хутчэй гуллівая. Часам Аўтару ўдаецца сентэнцыйнасць і забаўляльнасць “сплавіць” у адно цэлае – як у п’есе “Бабка і кракадзіл”, калі галоўная гераіня праглынула муху, павука, вераб’я, ката, сабаку, але аказалася сама ў чэраве кракадзіла. Гэта яе правучыла.

Аднак сюжэты самі па сабе не былі б такімі “смачнымі” без вершаў і песень (С. Вітушка ці не да кожнай і матыў падказвае!). Бывае, гэта знаёмыя радкі і часта замяняльныя іншымі – на густ расказчыка. А найчасцей – куплеты, прыдуманыя самім аўтарам на шырокавядомыя мелодыі. Так, напрыклад, завяршаецца апошняя п’еса словамі, пакладзенымі на музыку “Песні сяброў” з “Брэменскіх музыкаў”:

І сваю свабоду абаронім,
Мы збяром на ворага пагоню,
Нас ніпто на свеце не стрымае,
Разам мы вяліку сілу маем [5, с.96].

Гэтыя ды іншыя радкі яшчэ раз нам дэманструюць нязгасную веру С. Вітушкі ў доўгачаканы *залацісты, ясны дзень* сваёй Бацькаўшчыны. А яго выдадзеныя творы новай, гэтым разам пасмяротнай кнігай, такім чынам, ужо становяцца праменьчыкамі, якія будуць асвятляць грамадзянскі і жыццёвы шлях наш і нашых дзетак.

Падаваемы С. Вітушкам прыклад заключаецца не толькі ў разгортванні казачных падзей, але і ў стылі апавядальнасці, які сумяшчае як рысы фальклорнай паэтыкі, так і размоўныя элементы сучаснага чалавека, а таксама, можна сказаць, постмадэрнісцкія падыходы (цытаты, алюзіі, рэмінісцэнцыі і інш.). Да характэрных фальклорных прыёмаў аўтара, што кідаецца ў вочы адразу, адносіцца, напрыклад, зачын казак у выглядзе фразы «жыў-быў» або часавага аднясення дзейства да даўніх часоў, а таксама ідыёмныя выразы (“недасол – на стале, а перасол – на спіне” [5, с.40]). Размоўнасць у творах С. Вітушкі праяўляецца не толькі праз выкарыстанне адпаведнай лексікі (такой, як: «усе слугі як слугі, а адзін аказаўся сапраўдным Шасцёркам-стукачом…», «шусь – і даў драла»), але і праз прымяненне мноства выклічнікаў і гукаперайманняў (асабліва ў разлічаным на дашкольнікаў “Тэатры…”), а таксама шляхам зваротаў да чытачоў: «што, не верыце?», «вось пабачыце».

Што датычыцца постмадэрнісцкіх штрыхоў, то яны ў асноўным (калі не ўлічваць вышэй указанага творчага выкарыстання матэрыялаў іншых мастацкіх твораў) складаюцца з інтэртэкстуальных «фішак», даволі пазнавальных нават для дзіцячай аўдыторыі. Ці ж, напрыклад, маленькія чытачы, абазнаныя ў беларускім культурным пласце для іхняга ўзросту, не пазн*а*юць жартоўнай песні ў словах, якія завяршаюць першую казку: «І цяпер наша кура-шчабятура па садочку хо-о-одзіць ды ходзіць, куранятак за сабой водзіць»[ 1, с. 9]! Або адкуль ўзята жальба крумкача ў «Казцы пра герб»: «Гэта ж мая сарока-варона кашку варыла, дзетак карміла, гэтаму дала, гэтаму дала, гэтаму дала, гэтаму дала, а гэнаму не дала. Пажартавала. Кажа, ты маленькі, дурненькі, дроў не насіў, у печы не паліў, табе кашка на паліцы ў чарапіцы» [1, с.71]! Многія

моманты, праўда, трэ будзе дадаткова тлумачыць для дзетак: згаданы пасаж з цытаваннем артыкула са Статута ВКЛ хіба самому малому чытачу не асэнсаваць. А некаторыя інтэртэкстуальныя гульні С. Вітушкі разлічаны, відавочна, на дарослых: «І заглянула сонца і ў іхняе ваконца!», «І тут знайшоўся адзін дабрадзей, зваўся Тарас. Трэба ісці, кажа, да Парнаса, я там ужо адзін раз быў, дарогу ведаю» [1, с.79]. Ёсць казкі, якія, можна сказаць, заснаваны на іншых мастацкіх творах: «купальская батлейка паводле вершаў Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Францішка Аляхновіча, Уладзіміра Караткевіча» «Скарб на Святога Яна» ці разгледжаная вышэй «Казка пра гімн», а таксама цыкл "Піраміды". Аднак, падкрэслім, творчы метад С. Вітушкі пры ўсім пры тым не варта адносіць да якіхсьці нетрадыцыйных кірункаў, – ідэйна яго творы даволі акадэмічныя, да таго ж часта з фальклорных вытокаў. Аўтар толькі знайшоў як сказаць свежа, непаўторна, адметна. Магчыма, на практыцы ён піянерам не з'яўляецца, бо такі стыль, як думаецца, вусным чынам прымяняюць многія творчыя людзі стасоўна дзяцей і ўнукаў (але ж – verba volant). Ды С. Вітушка, не камплексуючы, вырашыў «задакументаваць» свае казкі ці гульню ў іх. І за гэта яму – вялікі дзякуй. Skripta manent.

СПАСЫЛКІ

1.Вітушка, С. Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі! С. Вітушка / ілюстрацыі 2.М. Анемпадыстава, Мінск: Зміцер Колас, 2011.

3.Вытокі [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://vytoki.net/content/kaliady.pdf. – Дата доступу: 13.03.2015.

4.Трафімчык, А. Шлях да Батлеему: сучасная беларуская калядная драматургія // Новы Час, 2012, 21 снеж., с. 24.

5.Лойка, А. Дзівосы прозы / А. Лойка // Полымя, 2008, № 1, с. 114-142.

6.Тэатр Сержука Вітушкі / Уклад. Л. Сагановіч, Мінск : Тэхналогія, 2014.

# У свеце зямных анёлаў
(Дакрананне да твораў Івана Сычыка)
**Юрый Паталкоў**

Грамадскасць устрывожана: моладзь мала чытае. Дый ці толькі моладзь? А чаму? Адказ – не сярод людзей, а сярод кніг: цяжка кнігам ісці да нас – нядбайных, своекарыслівых, хвараблівa рацыянальных, не жадаючых адраджацца праз сустрэчу з літаратурнымі вобразамі.

Так, цяжка рукатворнай прыгажосці сярод нас. Але ісці ёй да людзей трэба: наканаванне мастацкага твора – анельскае. А анёлы, як вядома, звестуны. ”Праз іх Усявышні выказвае сваю волю і робіць іх зброяй выканання яе. Яны валодаюць ведамі і чысцінёю, якія далёка перавышаюць нашае мысленне”. Так пра анёлаў гаворыцца ў “Біблейскай энцыклапедыі”. Што ж, насамрэч: адвечны змест мастацкага вобраза перавышае мысленне не толькі чытача, але і пісьменніка. Па-іншаму быць не можа: аповесць, малюнак, сімфонія пачынаюцца не з чалавека, а з Першатворцы. Мастак жа прызначаны быць патаемным для самога сябе звестуном Бога, зямным анёлам. Зямным, бо грэшным, як і кожны з людзей, але – анёлам.

Напрыканцы 2012 года да нас прыйшла кніга Івана Сычыка “Крыж пакут і падзей”. Прыйшла сама: пісьменніка сярод жывых ўжо няма. Да гэтага прыходу шляхетна спрычыніліся тыя, для каго любоў да бліжняга – не пустое красамоўе, а праца ў імя яго: укладальнік– Лявон Валасюк, рэдактар – Мікола Сянкевіч.

Пра аўтара ў кнізе чытаем:”Сычык Іван (25.04.1954. Вёска Здзітава Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці). Празаік. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Служыў у Савецкай арміі. Працававаў мастаком у Брэсцкіх вытворча-мастацкіх майстэрнях. Аўтар адзінай кнігі “За брамай маўчання” (1994). Раптоўна памёр 28.09.2001 г. Жыў у Берасці”.

Выданне пачынаецца раманам , які, як і ўся кніга, называецца “Крыж пакут і надзей”. Ён паўставаў у 1983–1984 гадах, а завершаны ў 1994 годзе. Апісваецца жыццё мастакоў Брэста у 80-я –90-я гады прайшоўшага стагоддзя. Тут звястун Іван Сычык разам са сваімі персанажамі сцвярджае еднасць мастацтва з духоўнай сутнасцю быцця. Вось як апісаны пачуцці галоўнага героя рамана – мастака Вадзіма Андраюка:

”Вадзім вяртаўся дадому ўжо ноччу. Падышоў да дома, прыпыніўся і пaглядзеў на начное неба. Чамусьці здалося, што глядзіць ён на зорны сусвет не з зямлі, а з другой планеты, дзе жывуць мірна, з міласэрнасцю ў душах, у гармоніі з прыродай. Гэтае адчуванне было нібыта далучэннем ягонай душы да таямніц Сусвету…”

Што ў гэтых радках прамаўляецца пра мяне, чытача? Ці не дзеля гэтах словаў прыйшла да мяне кніга? Можа, і жыву я на зямлі ў імя далучэння да Боскіх таямніц Сусвету? Пачуццё Вадзіма, перажытае і ўвасобленае Іванам Сычыкам, – гэта і маё, і тваё, і нашае пачуццё: мы – зямляне. Нам усім

патрэбныя тыя самыя таямніцы Сусвету, назва якім –міласэрнасць ды гармонія. Патрэбныя… Але няўжо гэтым таямніцам месца няма на нашай планеце? Чаму яны далёка перавышаюць мысленне людзей?

У рамане ёсць такі эпізод: адзін з персанажаў – таленавіты скульптар Іван Томіч з дапамогаю сяброў стварыў скульптурную кампазіцыю “Памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія загінулі ў Афганістане”. Кожны жыхар Брэста добра знаёмы з гэтым помнікам: юны салдат, як бы вызваляецца са страшэнных абдымкаў смяротнага выбуха. Астатняе імгненне яго зямнога жыцця ператвараецца ў адвечнасць. Гэтага салдата ў народзе назвалі ”Узарваным анёлам”. У кнізе – такое апісанне помніка: (*…) юнак нібыта вырываеццпа з вогненай скалы на волю.*

Згаданая воля – гэта тая святасць, якая дапамагае адухаўлёнаму чалавеку несці па дарозе жыцця свой крыж пакут і надзей. Крыж роднасны таму, які давялося калісьці несці Сыну Божаму. Творчая веліч даецца Івану Томічу, Вадзіму Андраюку, іншым прадстаўленым у рамане сапраўдным мастакам –зямным анёлам. Падкрэслім: сапраўдным. Бо ў сюжэце да таго ж дзейнічаюць і прайдзісветы ад мастацтва…

Далучэнне да таямніц Сусвету і Узарваны анёл… Ах, як хочацца назваць сябе пабрацімам юнага героя! Хочацца… Але, можа быць, я – брат не гэтаму анёлу, а д’ябальскаму набрыдзі-полымю, якое ахутвае салдата-пакутніка ? Іван Сычык… Яму ж, калі ён над раманам працаваў, было няшмат за трыццаць… Скуль у маладым сэрцы – такія глыбіні ўсясветнага болю за людскасць? Відаць, Бог адорвае сваіх зямных анёлаў глыбінямі душэўных прароцтваў…

А глыбіні гэтыя ў Сычыка – насамрэч велічныя да трагічнасці. У наступным рамане – “Покліч бездані“ (1995) Боскі боль вядзе пісьменніка ў свет зусім да іншых анёлаў, пра якіх “Біблейская энцыклапедыя” распавядае: ”Але апроч света анельскага ёсць таксама свет злых духаў. Гэта анёлы, якія не захавалі сваёй годнасці. Пра іх скажам: дыявал, сатана, бес”. Галоўны персанаж рамана “Покліч бездані” – таксама мастак: малады чалавек (яму дваццаць пяць гадоў) Алесь Касюк. На нашых вачах ад высакародных творчых задумак, ад чыстай любові Алесь саслізгвае ў апраметную карыслівасці і нахабства. Яму ўсё больш патрэбныя толькі грошы, грошы, грошы і ўсё тое ганебнае, што можна за іх набыць. Такая пастава руйнуе пагодлівую душу мастака дашчэнту. Праўда, урэшце рэшт адбываецца катарсіс:

*О. Божа! Уратуй мяне! – маліў Алесь.– Не хачу ні золата, ні даляраў, ні легкавікоў – вярні маю любую Верку і вярні мяне ў вёску.*

Але гэтыя малітвы Алеся гучаць ужо за кратамі: Бог пакараў анёла, які не захаваў сваёй годнасці, пеклам на зямлі – турмою. Не дзяржава, а менавіта Бог: таму і ўзносіць свое просьбы былы анёл зямны да Усявышняга. Не здолеў Алесь несці крыж пакут і надзей… А я? А ты? А мы? Пытанні нараджаюцца ў душы, І нікуды ад іх нам не схавацца.”Узарваны Анёл” Івана Тоніча і яго аднадумцаў не маўчыць, пытаецца, чакае… Ён свята верыць у тое, што кожны з нас – такі ж самы зямны анёл, як і ён сам.

Алесь аказваецца сярод прапойцаў і злачынцаў. І заўважае: кожная з сённяшніх пачвараў духа была калісьці носьбітам анельскай чысціні. Астатняе – было потым… Што ні чалавек – то свая гісторыя (не заўсёды пераможная!) змагання з грахом. Жыццё… Адчуваю з трывогаю, нават са страхам: не я чытаю раман Івана Сычыка**,** а раман чытае мяне! Вядзе да маіх рэальных знаёмых. а галоўнае – змушае мяне пытацца ў сябе пра мяне самога: ”А ці чуеш ты звернуты да цябе свой покліч бездані?”. І я адказваю: ”Так, чую. Цемрашальская бездань граха кліча і мяне. Надрываюся, ледзь утрымліваю на плячах сваіх крыж, прызначаны мне, менавіта мне.

Дык якая ж моц дапамагае чалавеку берагчы годнасць? У творах пісьменніка, пра якога зараз размова, такая сіла выразна сябе праяўляе: гэта – каханне. Пра гэтую моц – аповесць Івана Сычыка з пранізліваю назваю “Бацькаўшчына” (1991 г.) Як часта гучыць каханне – слова, ды як зрэдку дастаецца чалавеку ажыццявіць любоў – справу! Велічная драматургія кахання ў адных душах нараджае святло, у другіх – цемру. Шмат малітваў узносім мы з любоўю да Бога, але колькі з іх прасякнута міласэрнасцю?

Вось моліцца сялянская жанчына Пелагея з “Бацькаўшчыны”:

*– Пакарай іх, Божэ! Пакарай!!! – яна нешта шаптала. І момантамі спынялася, зноў хрысцілася. Алеся глядзела на колкія мокрыя матчыны вочы і думала:”Што ў душы яе?. Ад якой нелюбові пакутуе яна? За што злавацца так на суседзяў?” Пелагея працягвала друготкім голасам:*

*– Як ёсць ты, Всевышній, то побач, як мучыцца маё дытя от поганцыў гэтых. Пакарай іх!*

”Ключы” ад Пелагеінай нядобрай малітвы ў аповесці выказаныя. Старыя яны, як гэты свет стаіць: Ігнат калісьці стаў мужам Хрысціны, а не Пелагеі. “Трохкутнік.” З таго і пайшла варажнеча суседак. А тут з часам узаемнае каханне аб’яднала дзяцей іх. Ды не бываць таму! Пелагеіна гора разбіла шчаслівыя надзеі маладых: разышліся Алеся і Андрэй назаўсёды.

У аповесці Івана Сычыка агульная аснова канфліктаў, у якіх сутыкаюцца паміж сабою вяскоўцы, узнімаецца над паўсядзённасцю. Аснова гэтая прынцыпова духоўная: узыходзіць да Боскага “палюбі блізкага свайго”. Яна – здольнасць адных і нездольнасць другіх годна несці крыж пакуты і надзеі. Бацькаўшчына ў аповесці – не толькі родныя мясціны, але перш за ўсё – усясветная гармонія быцця, якой нам так не стае: Бацькаўшчына духа.

Творы Івана Сычыка – гэта ўвасобленая ў таленавітым мастацкім слове барацьба зямных анёлаў – годных і нягодных Хто ж у гэтай барацьбе атрымае (ці ўжо атрымлівае) перамагу? Завяршае кнігу апавяданне “Спрадвечнае” (1990). У ім пажылы селянін Антось вырашыў узяць зямлю ў арэнду, стаць фермерам. Не ўсім такі чын даспадобы. Верціцца каля Антося хітраваты сусед Ніканор – як бес перад сапраўдным анёлам. Хоча

перашкодзіць святой справе. Ды верна і спакойна бярэцца Антось працягваць спрадвечную працу сваіх дзядоў-прадзедаў на зямлі.

Такая вось кніга прыйшла да нас. Прыйшла. не пытаючыся , ці будзем мы яе чытаць. Можа, хтось і не будзе. Толькі тады закрытым для яго застанецца сумеснае з пісьменнікам перажыванне міласэрных таямніц Сусвету; не пагаворыць з ім узарваны анёл; не адкрые цудаў сваіх апетая звестуном Іванам Сычыкам святая беларуская бацькаўшчына; не абароніцца чалавек перад поклічам грахоўнай бездані, не далучыцца да спрадвечнага.

Не, нездарма прыйшла да нас кніга Івана Сычыка з крыжом пакут і падзей. Каму ж апроч нас гэты крыж несці? Дык паклонімся жа выдатнаму земляку-берасцейцу, які ў сваім мастацкім слове данёс да нас трывожныя перажыванні Усявышняга…

# Паміж Камчаткай і Корсікай: проза Віктара Стахвюка

**Галіна Тварановіч**

Шчыры сейбіт на роднай ніве, вялікі беларускі інтэлігент Георгій Валкавыцкі на самым пачатку новага мілeніуму, прадстаўляючы ў кнізе “Панароўе” фрагмент творчага плёну, напрацаванага беларусамі Беласточчыны, – трэба падкрэсліць, у значнай ступені дзякуючы менавіта яго самаадданай працы ў ролі заснавальніка і шматгадовага рэдактара штотыднёвіка “Ніва” ды арганізатара і душы літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, а яшчэ быў Г. Валкавыцкі доўгія гады і актыўным дзеячам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы – у кароткім слове “Ад складальніка” выказаўся лапідарна-дакладна: “У тваіх руках, шаноўны чытач, кніга выбраных апавяданняў беларускіх пісьменнікаў за другую палову XX стагоддзя. Гэта першая такога тыпу анталогія ў Польшчы. У сваім памкненні наперад з самага зараджэння на Беласточчыне беларускага арганізаванага жыцця (1956), літаратурная плынь, неад’емная частка гэтага жыцця, стварала вобраз сучаснага героя, імкнулася ўзнавіць гістарычную памяць. Выразна прасочваецца гэта ў апавядальным жанры” (1, с. 4).

У анталогіі прадстаўляліся творы дваццаці чатырох аўтараў, а чарговасць абумоўлівалася годам першадруку твора. Старэйшыя з “ніўскіх” чытачоў мелі магчымасць перачытаць апавяданні як больш сталых аўтараў, так і прадстаўнікоў наступных пакаленняў, маладзейшая ж чытацкая генерацыя магла перагарнуць ужо не надта вядомыя ёй старонкі

празаічнай спадчыны: апавяданні Антося з Лепля (Антона Васілеўскага), Васіля Баршчэўскага, Сымона Раманчука, Міхася Красоўскага, Сцяпана Карбоўскага, Вінцука Склубоўскага, Уладзіслава Дваракоўскага, Уладзіміра Паўлючука, Віктара Рудчыка, С. Заставіна (Лявона Майсяюка), Веранікі Ляонюк, Валянціна Сельвясюка. Хто-ніхто з гэтых аўтараў адышоў у іншы свет, чыёйсьці музе дарогу перайшлі неспрыяльныя для творчасці абставіны, а хтосьці і свядома адвярнуўся ад роднага слова. Некаторыя ж аўтары, як напрыклад Ян Чыквін, былі вядомыя сучасніку хутчэй сваёй паэтычнай творчасцю. Зразумела, належнае месца занялі ў анталогіі апавяданні Юркі Геніюша, Міколы Гайдука, Міхася Шаховіча – актыўных да канца свайго жыцця "белавежцаў". Аб разнастайнасці "белавежскай" прозы сведчылі апавяданні дзейсных на той час сяброў аб'яднання – Алены Анішэўскай, Георгія Валкавыцкага, Васіля Петручука, Сакрата Яновіча, Міры Лукшы, Міхася Андрасюка.

І літаральна праз некалькі гадоў пасля выхаду анталогіі апавядання "Панароўе" ва Універсітэце ў Беластоку была абаронена кандыдацкая праца аб прозе "белавежцаў", якая крыху пазней пабачыла свет асобнай кнігай пад назвай "Беларуская літаратура Польшчы. Стылістычна-жанравыя асаблівасці прозы <белавежцаў>". Такім чынам, услед за некалькімі сур'ёзнымі ўніверсітэцкімі даследаваннямі "белавежскай" паэзіі (2) дачакаліся нарэшце сістэматызаванага разгляду і творчыя пошукі празаікаў. Доктар Анна Саковіч акцэнтавалася ў трох раздзелах сваёй працы на аналізе прозы аўтабіяграфічнай, гістарычнай і прозы новага пакалення (3). Зусім невыпадкова, што напачатку разглядаўся аўтабіяграфічны жанр, у якім сцвердзілі сябе амаль усе "белавежцы". Пры тым цалкам апраўдана, што найперш у цэнтры ўвагі даследчыцы аказалася творчасць Г. Валкавыцкага з яго кнігаміі "Віры. Нататкі рэдактара", "Белая вязь", "У каменным крузе". Грамадская значнасць зробленага Г. Валкавыцкім у вялікай ступені вызначыла і вартасны ўзровень яго творчасці, асабліва прозы. Зразумела, немагчыма было абмінуць аповесць "З перажытага" Янкі Жамойціна – асобы з грамадска-значным на пакручастых сцяжынах беларускай гісторыі пакутніцкім жыццёвым шляхам, а таксама твор аб драматычным сіроцкім маленстве – аповесць"Пожня" Васіля Петручука.

Сваё асаблівае месца займае ў аўтабіяграфічнай творчасці малая лірычная прозе з яе неабмежаванымі магчымасцямі выяўлення ўнутранага свету ды непасрэднасці выказвання адносін да рэчаіснасці. І празаічная мініяцюра – здаўна хіба адзін з любімых жанраў "белавежцаў". А. Саковіч, у прыватнасці, звярнула ўвагу на цыкл празаічных мініяцюр Яна Чыквіна "Трохкрылыя птушкі". Безумоўна, значную цікавасць уяўляюць мініяцюры Юркі Геніюша, Сакрата Яновіча, якога Арнольд Макмілін назваў, між іншым, "паэтам у прозе", падкрэсліўшы, што, на яго думку, найбольшым творчым дасягненнем Яновіча з'яўляюцца ягоныя мініяцюры 1960-х гадоў (4, с. 374, 391).

"Белавежскую" гістарычную прозу годна рэпрэзентуе найперш творчасць Мікалая Гайдука: шэраг вельмі цікавых апавяданняў, гістарычнае эсэ

“Паратунак”. Сакрат Яновіч сваёй аповесцю “Сярэбраны яздок”, прысвечанай трагічным падзеям Студзеньскага паўстання 1863—1864 гадоў, таксама засведчыў аб сваім творчым патэнцыяле на гэтай тэматычнай дзялянцы. Відавочна, творчасць старэйшых калег па пяру не магла не аказаць уплыву на стаўналенне творчай індывідуальнасці Міхася Андрасюка і Міры Лукшы. Аднак спосаб стварэння мастацкай мадэлі рэчаіснасці імі пэўным чынам адрозніваецца ад стылёва-эстэтычных пошукаў, напрыклад,  Г. Валкавыцкага, Я. Жамойціна, М. Гайдука. М. Лукша і М. Андрасюк уваходзілі ў літаратуру на пераломе 90-х гадоў XX стагоддзя, падчас вялікіх грамадскіх змен, некаторай пераацэнкі маральна-этычных каштоўнасцей. Між тым ва ўсіх сваіх аспектах паэтыка мастацкага твора заўсёды так або інакш карэніцца ў рэчаіснасці, што ўласна знаходзіць пацверджанне і ў творчасці новага пакалення “белавежцаў”. Асноўнаю тэмаю М. Андрасюка, пісьменніка з Гайнаўкі, з’яўляецца жыццё  менавіта яго сучаснікаў, простых людзей-местачкоўцаў на польска-беларускім памежжы ў няпросты час змены сацыяльна-палітычных фармацый. На новым мастацка-эстэтычным узроўні пісьменнік па-свойму, арыгінальна развівае глыбокую гуманістычную традыцыю, якая трываліцца найперш вераю ў прыродную дабрыню чалавека. Невыпадкова ў рэцэнзіях на кнігі М. Андрасюка “Фірма”, “Мясцовая гравітацыя”, “Белы конь” згадваліся імёны Андрэя Мрыя, Андрэя Платонава, Джэрома Сэлінджэра, Антуана дэ Сэнт Экзюперы. Галоўным пафасам творчасці, вызначальнай унутранай пазіцыяй “белавежца” М. Андрасюка бачацца любоў, павага да чалавека. Пісьменніцу, паэтэсу, журналістку Міру Лукшу цікавіць найперш лёс чалавека на зямлі. Яна працягвае досвед шэрагу беларускіх пісьменнікаў, па-мастацку даследуючы феномен чалавека, які вырас ў прыпушчанскіх вёсках. Менавіта шчырыя любоў, павага, спачуванне да чалавека, як і ў выпадку папярэднім, арганізуюць эмацыянальна-этычную прастору яе прозы.

Варта згадаць, што першая празаічная кніга “белавежскай” сябрыны “Загоны” Сакрата Яновіча пабачыла свет у 1969 годзе. Былі гэта пераважна празаічныя мініяцюры і апавяданні, народжаныя вопытам, уражаннямі пісьменніка, непарыўна звязанага з роднымі Крынкамі, заклапочанага, на яго думку, негатыўнымі наступствамі “асяляньвання” Беластоку. Крыху пазней пісьменнік  нават дазволіць сабе вызначыць вясковага жыхара, неафіта ў гарадскім асяроддзі як “хама на паркеце”. Не даводзіцца здзіўляцца, між іншым, што такая інтэрпрэтацыя не знайшла працягу ў творчых пошуках паплечнікаў і наступнікаў С. Яновіча, якія ж  ці не ўсе без выключэння якраз паходзяць з падляшскіх беларускіх вёсак...

Відавочна, меў рацыю складальнік і рэдактар “Панароўя” Г. Валкавыцкі,  адзначаючы ў 2003 годзе: “У анталогію ўвайшлі творы, моцна асаджаныя ў рэаліях краю, творы, заглыбленыя ў гістарычныя далі, аж да пачатку мінулага тысячагоддзя. Маем у іх своеасаблівую вобразную дакументацыю нашага тутэйшага ўкаранення” (1, с. 4).

Ды вось зусім нядаўна, на схіле лета 2014 года,  у серыі “Бібліятэка БЛА

<Белавежа>” выходзіць кніга Віктара Стахвюка “Пакуль змеркне дзень”, якая ўносіць пэўныя карэктывы ў агульныя тэндэнцыі развіцця як “белавежскай” прозы, так і, без перабольшання можна зазначыць, уяўляе значную цікавасць для ўсёй сучаснай беларускай літаратуры. Самі назвы аповесцей “Мая Камчатка” і “Корсіка”, што склалі кнігу, сведчаць, на першы погляд, проста аб незвычайнай змене прасторавых каардынат, асаджанасці іх у рэаліі, вельмі ж далёкія ад плыні Нарвы і Белавежскіх пушчанскіх краявідаў.

Урэшце прыйшоў час, калі аўтар паэтычнага зборніка “Багровы цень” (2002) і фальклорна-этнаграфічнай кнігі “Siva zozula“ (2006) Віктар Стахвюк вырашыў выкласці на паперу што-нішто з свайго вельмі ж небанальнага жыццёвага вопыту. Выпускнік беларускага ліцэя ў Бельску, затым беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце амаль на дваццаць гадоў апынуўся ў Чэнстахове, дзе працаваў выкладчыкам, належыў да мастацкай групы “Кантраст”, прымаў удзел у выставах у Чэнстахове і Трнаве. Меў самастойную выставу партрэтаў. ”Закончыў курс інструктара вадалазаў, арганізаваў падводны клуб LOK „Aquarius”, а таксама падводны студэнцкі клуб „Manta”, праводзіў для вадалазаў экспедыцыі на Міжземнае мора (1984-Грэцыя, 1986-Іспанія, 1987-Італія-Грэцыя). Ныраў у Атлантычны акіян, Чорнае і Чырвонае моры. Навучаў вадалазаў для арміі” (5, с. 108). У 1986 годзе, вярнуўшыся на Падляшша, В. Стахвюк два гады займаўся жывапісам і прадаваў пейзажы, “нечакана стаў сакратаром БГКТ і на тры гады паглыбіўся ў беларускі грамадска-палітычны рух”. Пасля, з 1992 года, ён заняўся бізнесам, а менавіта імпартам будаўнічых матэрыялаў з Беларусі, экспартам мяса ў Маскву (да 1999 г.).

“Яшчэ ў 1993 годзе, – працягвае пісьменнік у “Маім жыццяпісе”, – я атрымаў згоду міністра транспарту і марской гаспадаркі Польшчы на арганізацыю суполкі Joint Venture з Беларускім бокам і такім чынам стаў саўласнікам “Белмора-1” у Мінску, якому польская марская кампанія „Gryf” перадала рыбалоўны карабель “Гайдук” з 102-ма маракамі. Ён быў зарэгістраваны ў міжнародным марскім рэестры і амаль тры гады плаваў пад бел-чырвона-белым сцягам па Індыйскім і Ціхім акіянах і лавіў рыбу ў Берынгавым і Ахоцкім морах. Гэта быў першы карабель незалежнай Беларусі, а Беларусь стала марской дзяржавай” (5, с. 109).

Менавіта гэта займальная і амаль неверагодная гісторыя далучэння Беларусі да ліку марскіх дзяржаў і склала фабулу аповесці “Мая Камчатка”, з якой чытач, заўважым, найперш меў магчымасць пазнаёміцца ў чарговым нумары часопіса “Тэрмапілы” за 2013 год. Перш чым дзеянне твора перанясецца непасрэдна на Камчатку, сюжэт распачнецца ліпеньскім днём 1993 года ў Мінску. Павядзе ў Беласток, Варшаву, Шчэцін, Гародню і ўрэшце – на Камчатку. Гэта падчас слыннага Першага з’езду беларусаў свету камчацкія беларусы запрапануюць В. Стахвюку прыняць самы актыўны, можна сказаць, вызначальны ўдзел у арганізацыі супольнай лоўлі ахоцкай рыбы ды крабаў. Кароткая інфармацыя з жыццяпісу пісьменніка ў аповесці набудзе кшталты займальнай мастацка-эстэтычнай рэчаіснасці,

створанай асобай з выразнымі патрыятычнымі, духоўнымі перакананнямі, горача заангажаванай у лёсе свайго народа.

Гэтая заангажаванасць бескампрамісна выяўляецца ўжо з першых старонак твора:

Дзякуй Богу! Інакш беларусы зніклі б назаўжды як нацыя, што наглядна даказала першая Рэчпаспалітая, у якой палякі і лацціннікі спярша ганебна, не цураючыся шантажу, пагроз і гвалту, даканалі праваслаўе, а нарэшце нашу спрадвечную рускасць з яе кірылічным пісьмом і моваю, бесцырымонна мяняючы яе на пальшчызну, як быццам іхняя пісьмовасць была ў чым-колечы лепшай ад нашай. У выніку зніклі беспаваротна нацыянальныя эліты, папаўняючы польскі арэол славы – Хадкевічы, Радзівілы, Пацы, Сапегі, Чартарыйскія, Тышкевічы і мора іншых. Знікла ў бяздонным куфры зайздрасці чужынцаў наша ратная слава і культура, каб перафарбаванай у іхнія колеры, выплыць на старонкі падручнікаў па гісторыі (6 , с. 6).

Так, і ў XXI стагоддзі застаюцца актуальнымі слынны, чатырохсот-гадовай даўнасці, часоў барацьбы за веру продкаў і бацькоў “Трэнас” Мілецію Сматрыцкага ды мудрыя даследзіны беларускага светапогляду зусім маладога віленчука Ігната Абдзіраловіча з 1921 года. Вернасць роднаму, спаконнаму ў яго душэўна-духоўнай сутнасці з’яўляецца для В. Стахвюка найгалоўнай пазачасовай і дзейснай каштоўнасцю. Між тым цяпер, калі зноў уніфікаванае грамадства, выракаючыся жыццядайнай прыроднай размаітасці народаў, у чарговы раз узводзіць Вавілонскую вежу, а прыгожаму пісьменству навязваецца роля забавы, гульні, асабліва важна, каб пісьменнік меў і паслядоўна выказваў выразную света-поглядную, нацыянальную пазіцыю. “Я – з Усходу. Усходні славянін, беларус. І ганаруся гэтым! І не знаходжу ў сабе нават следу дыскамфорту, што не належу да заходняй лацінскай цывілізацыі...” (6 , с. 16), – гэтыя сло -вы аўтара “Маёй Камчаткі” ў некага могуць нават выклікаць супраціў сваёй нібыта дэкларатыўнасцю, здольнай разбурыць мастацкі тэкст, але ж, відавочна, не ў дадзеным выпадку.

О, гэтая перманентная беларуская сітуацыя, калі даводзіцца тлумачыць і апраўдвацца, што чужога табе не трэба, але варта было б атрымаць тое, што было некалі аднята ці хоць бы дачакацца, каб прызналіся ў тым, што аднялі, ветлівыя суседзі. Суседзі ж не спяшаюцца, а хутчэй чакаюць, калі ж заціхне нарэшце голас Мацея Бурачка... Кантэкст неадназначнай айчын-най гісторыі патрабуе ад беларускага пісьменніка самых сур’ёзных адносін да мастацкага слова, твора, які можа застацца адно фактам асабістай бія-графіі, а можа падтрымаць шляхотныя намаганні аўтара “Дудкі бела-рускай”.

Такім чынам, у 1994 годзе Віктар Стахвюк стаў адным з трох засна-вальнікаў беларускага марскога флоту.

Наш траўлер пад бел-чырвона-белым сцягам пачаў лоўлю мінтая на Ахоцкім і Берынгавым марах. Петрапаўлаўск-Камчацкі стаў нашым другім портам, за

Сеулам, што ў Паўночнай Карэі (6, с. 24).

І вось у жніўні 1995 года пасля доўгага пералёту пісьменнік ступае на камчацкую зямлю.

Якім чынам забяспечваецца ў “Маёй Камчатцы” цэласная рухомасць розных падзей, роздумаў на сацыяльна-палітычныя тэмы, экскурсаў у гісторыю, шматлікіх рэфлексій, краявідаў і іншых праяў жыцця? Як вядома, творам аўтабіяграфічнага жанру ўласцівы асаблівы тып часу, які вызначаецца найперш характарам творчай індывідуальнасці, чалавечай асабовасці, тэмпераменту нарэшце. Чалавек, які бярэцца за напісанне аўта-біяграфічнага твора, мусіць, прынамсі, мець патрэбу падзяліцца нейкімі сваімі ўражаннямі і быць дастаткова шчодрым, каб тое, што выходзіць з -пад яго пяра, хоць бы не адымала ў чытача час, калі не дадавала станоўчых эмоцый, думак. Аўтар “Маёй Камчаткі” досыць часта шкадуе, што ў нейкія цудоўныя моманты, як у тэрмальным купалішчы Паратунка, побач з ім няма самых блізкіх: “Бачанае можаш пераказаць, але адчутага ўсімі клеткамі цела і душы не перадасі” (6, с. 37). Менавіта Кам-чатка падаруе заўзятаму вадалазу хвалюючую сустрэчу з Ціхім акіянам:

Босымі нагамі я ўвайшоў на мокры аксіданавы жвір, на якім шыпела пена адбойнай хвалі. Глыбіннай вібрацыяй разгараўся і шчымеў у грудзях кліч акіяну. І калі чарговая хваля ўварвалася і разлілася па пляжы студзёнай вадой, марозячы ногі, я прысеў і, змачыўшы далоні, прывітаўся з Акіянам. Імпульс радасці, які пранікнуў у маё цела і разліўся цеплынёю ў глыбіні душы, у адну хвіліну вышугнуў навонкі, апускаючыся ў яго недры (6 , с. 41).

У чытача ў прамым сэнсе займае дух, калі герой аповесці аказваецца ў нейкі момант ледзь не “ўласнасцю” акіяна: “Здалося мне, што Акіян гуляе са мной, адпускаючы на метраў пяць – дзесяць да берагу і тут жа адкідае назад. А холад сціскае абручом, плыціць удыхі”(6, с. 42). Ды вопытны плывец адольвае стыхію. Нават задаецца на беразе акіяна рытарычным пытаннем самадастатковага чалавека:

Ці можна чакаць большага ад жыцця?

Вось я, просты хлопец з падляшскай Трысцянкі, што на заходніх Беларускіх Крэсах, прыбыў на бераг вялікага акіяна пакланіцца яго магутнай Велічы. Я стаяў моўчкі, углядаючыся ў незмераную прастору, якая недзе там непадзельна злівалася з гарызонтам неба, за якім з мора вырасталі Камандорскія астравы, а за Алеуцкаю губою – неймаверна прыгожая і гарыстая Аляска. Бязгучным шэптам я перадаваў Акіяну прывітанні ад блізкіх і сардэчных маіх сяброў”(6 , с. 42 – 43).

Захапленне воднай стыхіяй прыводзіць аўтара кнігі “Пакуль змеркне дзень” і ў амаль у супрацьлеглы бок свету. Дзве дружныя сям’і дамаў-ляюцца аб шчаслівым летнім падарожжы на міжземнаморскую Корсіку. Па дарозе выкарыстоўваюць магчымасць знаёмства з цікавымі мясцінамі, якія, між іншым, упершыню фігуруюць на старонках “белавежскай” прозы. Праз некалькі дзён падарожнікі аказваюцца на цудоўнай Корсіцы:

А на самай справе пейзаж захапляў сваёй непаўторнай прыгажосцю. Па-за абрывамі дарогі, з яе правага боку, чырванню з дамешкай фіялетаў свяціліся скальныя сцены гор, сыходзячыя з вышыні двух тысяч сямісот метраў да самага мора. А недзе ўнізе, дзе бурлівымі вадаспадамі гудзела рака, рысаваліся аліўкавай зеленню, з асветленымі сонцам мазкамі блікаў Веранеза, чубы акацыяў і ўсялякіх калючак. Усё гэта, бачанае вуглом вока, у спешцы, каб ні на міг не страціць кантакту са звілістай дарогай, магло заперці дух у грудзях небывалай прыгажосцю. Нездарма грэкі, якія пару сот гадоў да нашай эры адкрылі гэты востраў, назвалі яго Корсіка. Прыгожая (6, с. 75).

Праз аповесць "Корсіка" лейтматывам праходзіць захапленне прыгажосцю – прыроды і чалавека. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што не бракуе такіх пачуццяў і ў "Маёй Камчатцы", як, напрыклад: "Світанак быў неверагодна прыгожы сярод вырастаўшых воблачных гор, якія незаўважна святлелі, набіраючы насычанага ружова-бела-шэрага колеру на фоне незямной прыгажосці цёмна-сіняга неба" (6, с.25). Аднак у "Корсіцы" амаль увесь часава-прасторавы кантынуум твора з яго багатай паўднёваю прыродай, а асабліва падводнае жыццё – сама святочнасць, радасць, якою хочацца дзяліцца, "раздаваць яе ўсім, хто патрабуе" (6, с. 85). Незвычайны свет падводных глыбінь, у які вядзе чытача аўтар "Корсікі", здзіўляе, захапляе. Трэба сапраўды быць прафесіяналам-вадалазам і адначасова майстрам слова, каб з-пад рукі пісьменніка выйшаў твор такога зместу.

На глыбіні сарака метраў галоўны герой "Корсікі" разважае:

Здаецца, я раней нічога падобнага не адчуваў. Неверагодна вялікая прастора, з living рознакшталтным жыццём, з вірлівым недзе пры грані празрыстасці касяком белых рыб, завалодала нашымі пачуццямі, якія вызвалялі светлыя эмоцыі перад чарамі невымернай магутнасці і моцы гэтага свету, так што ты раптам адчуваеш сябе яе крышынкай, спалучанай нябачнай сувяззю, узмоцненай узаемнымі вібрацыямі вады і цела. Вось тут напаўняе цябе глыбінная радасць! Можа, эўфарыя!? Вось я, на чый лёс намагаецца накласці сваю пячаць хворая заўзятасцю, насычаная несправядлівасцю прававая сістэма краіны, стаю на дне, на сярэдзіне Міжземнага мора са сваім сынам і сябрамі і ніхто ў мяне гэтага ніколі не зможа адняць, вымазаць, спракудзіць і сцерці (6, с. 123).

Справа ў тым, што галоўны герой "Корсікі" выбіраецца ў падарожжа абцяжараным судовымі разборкамі, якія раптам навіслі над ім, над яго фірмай. На працягу твора адбываецца працэс умацавання героя ў існым, вяртанне душэўнай раўнавагі. Неаднойчы ён напаўняецца "радасным пачуццём, удзячнасцю, незразумелай, як сама свядомасць існавання"(6, с. 58), "жаданнем тварыць дабро і радасць" (6, с. 84). Цудоўна ўсведамляюць героі кнігі, што яны, заглыбленыя ў марскую глыбіню, з'яўляюцца на самай справе чужаніцамі, што дзесьці зусім побач няпрошаных гасцей можа падсцерагаць смяротная небяспека:

А ты, тым не менш, захоплены гэтым светам, заварожаны яго незямной прыгажосцю, перамяшчаешся тут з верай у сваю шчаслівую зорку, якая вядзе цябе

бяспечна ўсюды і пільнуе. Магчыма, так будуць адчуваць сябе першадаследчыкі новых планет (6, с. 133).

Аповесць мае своеасаблівую кальцавую кампазіцыю. На самым яе пачатку герой углядаецца познім летнім вечарам з балкона сваёй кватэры ў Беластоку “ў нечуванай прыгажосці зменлівыя формы воблакаў, падсветленыя мяккімі колерамі” (6, с. 53) і якраз тады чуе ціхі гудок тэлефона. Сябар запрашае яго  на Корсіку.Заканчваецца твор таксама ў Беластоку. “Позні́м вечарам з вакна дзевятага паверха я паглядзеў на будынак беластоцкага суда, дзе для мяне прызначана роля крымінальніка. Я быў гатовы. Яна, Корсіка, ачысціла мяне ад пачуцця безнадзейнасці, характэрнай любому чалавеку, якога звыш года заганялі ў куток” (6, с. 135). Працяглы судовы працэс закончыўся ўрэшце тым, што героя прызналі вінаватым у невялікіх памылках бухгалтэрыі, а суддзя параіў памяняць бухгалтара на іншага і прысудзіў заплаціць 500 злотых на Камітэт дзяцей пры Чырвоным крыжы. “Успомнілася раптам тая фраза, што прыйшла мне ў галаву перад самым нашым выездам на Корсіку: <Паспець, пакуль змеркне дзень>” (6 , с. 137). Так, паспець, насуперак самым розным перашкодам, якімі  перанасычаны і свет знешні, соцыум, але ж і ўнутраны свет кожнага з нас, паспець адбыцца ва ўдзячнасці Усявышняму, Жыццю за прыгажосць, радасць быцця. Несумненна, “белавежская” проза ўзбагацілася на творы, якія сваёй тэматыкай адкрываюць новыя далягляды, а этычнай, духоўнай сутнасцю аповесці В. Стахвюка працягваюць і развіваюць глыбінныя беларускія нацыянальныя традыцыі.

СПАСЫЛКІ


1. *Панароўе. Анталогія апавядання*, Беласток 2003.
2. Zaniewska, T. *Strażnicy pamięci. Poezja białoruska w Polsce po roku 1956*, Białystok 1997; Siwek, B. *Ojczyzna duża i mała. Poeci Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża” wobec problematyki ojczyźnianej*, Lublin 2004.
3. Саковіч, А. *Беларуская літаратура Польшчы. Стылістычна-жанравыя асаблівасці прозы “белавежцаў”*, Беласток 2012.
4. Макмілін, А. *Беларуская літаратура дыяспары*, Мінск 2004.
5. Стахвюк, В. *Мой жыццяпіс* // Белавежа. Літаратурны альманах, Беласток 2011.
6. Стахвюк, В. *Пакуль змеркне дзень*, Беласток, 2014.

## Сярод кніг

***Сузор'е беларускага памежжа. Энцыклапедычны даведнік,* Пад рэдакцыяй Адама Мальдзіса, Мінск 2014, 588 с.**

Ва ўступным слове ад "рэдакцыйнай калегіі" гаворыцца: "Мы далёкія ад думкі, што наш даведнік атрымаўся дастаткова поўным, што ў ім няма істотных прагалаў і памылак [...]". О, святая наіўнасць! Калі вы ведаеце, што ў вашым даведніку ёсць і прагалы, і памылкі, то чаму б не запоўніць тыя "прагалы" і чаму б не выправіць тыя "памылкі"... Што гэта за "даведнік" з памылкамі?! А памылкі пачынаюцца з тытульнай старонкі ("Беларусы і народжаныя ў Беларусі ў суседніх краінах" – што гэта значыць?). І чым далей, тым больш такіх перлін. Ці ж можна назваць даведнікам такое выданне, дзе пададзены не тыя даты, гады, месяцы, а біяграфічныя факты істотна абрэзаны або ў малаістотных справах непамерна раздутыя, дзе замест фатаграфіі сына змешчана фота бацькі, дзе артыкулы не маюць даведачна-энцыклапедычнага характару, а напісаны хаатычна: то як лірычная проза ці амаль апавяданне ("пачаў наведваць у роднай вёсцы пачатковую школу") або газетная нататка – з паўторамі, граматычнымі і пунктуацыйнымі памылкамі, стылістычнымі выкрунтасамі, урэшце, з недапушчальнай "карэкціроўкай" гісторыі беларусаў Беласточчыны, называемых "дзеячамі дыяспары". Якая гістарычная блізарукасць і, на жаль, нацыянальнае невуцтва! Сакрат Яновіч напэўна паўтарыў бы (не раз ім сказанае): "А чаго чакаць ад саветаў?!". Ужо толькі з-за гэтай "дыяспары" трэба сказаць, што не і не, "Сузор'е..." – не энцыклапедычны даведнік, а неахайна зроблены алфавітны зманнік, хаценнік – што хачу, тое і напішу, без разбору, без жанравых адметнасцей і прынцыпаў пабудовы энцыклапедычнага артыкула. А дзе рука рэдактара? Няма ні рукі, ні вока, ні галавы, ні рэдактара, ні даведніка!

Падумалася, якія, мабыць, шчаслівыя тыя Асобы, каго абмінуў "даведнік" – праф. Базылі Белаказовіч, праф. Міхал Кандрацюк, мастак Мікалай Валкавыцкі і дзесяткі іншых таленавітых людзей. Адсутнасць тых, "якія сталі за рубяжом Асобамі" – напрыклад, архіяпіскапа Сымона Раманчука ці а. Рыгора Сасны гаворыць таксама, на жаль, аб узроўні гэтага выдання.

**Кася Сянкевіч, *Гарбата з незабудак,* Мінск, "Кнігазбор", 2014, 100 с.**

"Гарбата..." – другі паэтычны зборнік наймаладой "белавежанкі", якая здаўна "спецыялізуецца" найперш у жывапісе: закончыўшы мастацкі ліцэй у Супраслі, зараз вучыцца ў Любліне. Спалучэнне двух талентаў можа падштурхнуць да стварэння нечаканага сінтэзу, адкрыць новае бачанне ў паэзіі і пракласці арыгінальныя шляхі выяўлення ў жывапісе. Такія прэцэдэнты былі, хоць бы ў рускім мастацтве пачатку XX стагоддзя. Праўда, такіх двуталенавітых яны вялі ў бок плакату і ілюстрацыі. Дай Божа, каб з адным падараваным справіцца. Пакуль што дзве стыхіі творчасці Кацярыны Сянкевіч праяўляюцца, як бачыцца, аўтаномна і самаедна, крыва спазіраючы адна на адну. Што ж – тры жанчыны!

**Віктар Стахвюк, *Пакуль змеркне дзень*. Аповесці, БЛА "Белавежа", Беласток 2014, 140 с.**

Пад адной вокладкай у гэтай кнізе змешчаны два роўнавартасныя творы: "Мая Камчатка" – востра палітычная аповесць пра спробу ажыццяўлення геніяльнай задумы – упершыню пад беларускім сцягам пусціць на ваду рыбалавецкі карабель. Падзея развіваецца ў кантэксце польска-рускіх "гарачых" дзевяностых гадоў, калі тут і там ішоў дзялёж "нічыйнай" маёмасці. "Корсіка" – лірычная аповесць, як і першая вострасюжэтная, пра экзотыку паўднёвай краіны, бачаную і таленавіта апісаную з перспектывы шматгадовага, вопытнага вадалаза, улюбёнага ў падводны свет, у якім законы жыцця, як вынікае з аповеду, не менш жорсткія, чым у чалавечым свеце. І разумнаму, одумнаму чалавеку ў цеснаце жывых істот на планеце застаецца адвaяваць сабе нішу ды маліцца, каб яго не забрала ні хваля акіяну, ні глыбінная эйфарыя, ні тым болей не ўвялі ў зман спакойныя зграі чыноўнікаў-мурэнаў, якія безупынна плаваюць вакол яго, ненажэрныя.

Адна і другая аповесці чытаюцца на адным дыханні. Выдатная, цэласная кніга па яркім паказе чалавечага свету па кантрасту з падводным царствам. Першая аповесць – з адкрытым, прамым тэкстам пра набалеўшае ў палітычна-грамадскай рэальнасці, другая – з падтэкстам, шмат-планавая, лірычная.

**Міра Лукша, *Падарункі,* Праект вокладкі, мастацкае афармленне Кацярына Сянкевіч, БЛА "Белавежа", Беласток 2014, 86 с.**

Міра Лукша, адораная шматлікімі талентамі, светлай душы чалавек, аўтарка шэрагу літаратурных кніг прозы і паэзіі, выдала для дзяцей чарговы зборнік добрых вершаў – пра найбліжэйшы дзіцяці прыродны свет жывёлінак, дзеля прасцейшай, але эстэтычна апрацаванай і не назойлівай адукацыйнай мэты. Паэтэса Міра і мастачка Кацярына Сянкевіч стварылі з

агульнавядомых у нашым жыцці фактаў і з’яў незвычайна прыгожы, рэдкай чысціні для вуха і вока, свет першасна-дзіцячай, непаўторнай радасці.

## Дзмітрый Шатыловіч, *Сляды на зямлі*, БЛА “Белавежа”, Беласток 2014, 140 с.

“Сляды на зямлі” – чарговы зборнік вершаў аднаго са старэйшых “белавежцаў”, які выразна актывізаваў сваю творчасць у апошнія дзесяць гадоў, публікуючы амаль штогод новую сваю кнігу. Ягоныя вершы наогул маюць сваю выразную паэтыку – у выбары і пастаноўцы тэматыкі, вобразнасці, нечаканых параўнаннях, рытміцы, індывідуальнага суперажывання розных па значнасці і гістарычнай вагомасці палітычных і грамадскіх калізій, урэшце ў няхітрай прастаце погляду на свет і лёс чалавечы – тую паэтыку, якая, на фоне іншых паэтык сяброў літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, мае сваю абаяльнасць непрыдуманасці, гарачай любові да свайго, роднага, якое і стаецца для паэта асноўным крытэрыем ацэнкі. Паэту характэрна пазіцыя летапісца, які вядзе як бы свой лірычны дыярыуш, і гэтымі запісамі хоча пакінуць не толькі след сваіх “слядоў на зямлі”. А форма выказвання, сама “паэтычнасць” слова – для Дз. Шатыловіча стаецца справай як бы і не так істотнай, не роўнавялікай з тымі “слядамі” чалавечай гісторыі, якія ён імкнецца запісаць у сваіх зборніках-аналах.

## Галіна Твардовіч, *Пайсці, каб вярнуцца*, БЛА “Белавежа”, Беласток 2014, 216 с.

Гэта кніга бярэ свой пачатак з запісаў чатырнаццацігадовай вучаніцы, якая – рана адчуўшы сваё ў соцыуме адчужэнне, сваю ў свеце самоту існавання – яшчэ ў юначых гадах пачала шукаць, аднак, сэнс свайго маладога жыцця, каб зразумець сваё прызначэнне ў быційна-няўлоўным, безыменным працэсе, які імкліва нёс яе ў вірлівую, ад яе незалежную, будучыню. Запіскі вучаніцы, а затым і студэнткі філалагічнага факультэта БДУ ў Мінску, і аспіранткі Інстытута літаратуры Беларускай акадэміі навук бачацца цяпер, як тры цэласныя ступені самапазнання, тры этапы выспявання, фармавання адметнай асабовасці, характару, індывідуальнасці чалавека і, можна сказаць, мэтанакіраванага псіхалагічнага эксперыменту над сабою. Запісванне назіранняў за сабою, рухам сваіх думак, адчуваннямі, эмоцыямі, цячэннем рэфлексій з убачанага, пачутага, прачытанага вялося амаль з дня ў дзень – як вельмі інтымны, для сябе найперш, дыярыуш-нататнік, не прызначаны, вядома, для староннягa чытання.

Трэба меркаваць, што з гэтага вялікага “несюжэтнага” матэрыялу, які збіраўся гадамі і які і дагэтуль, відавочна, не мае заканчэння, Галіна Твардовіч збелетрызавала, алітаратурніла толькі нязначную частку

запісаў, прыдаючы ім структурную і кампазіцыйную завершанасць, не асучасніваючы ні лексікі, ні вобразнасці, ні тым болей, не аспрэчваючы сваіх жывых і свежых  ранейшых перажыванняў, не здраджваючы сваім ранейшым ідэалам і жыццёвым памкненням.

У кнізе “Пайсці, каб вярнуцца”, рэдкай па сваёй шчырасці думак і расхрыстана-адкрытай перад сабою жаночай душы, спавядаецца перад вышэйшымі духоўнымі каштоўнасцямі прыгожая Асоба, якая – балюча ўспрымаючы паўсюдную ілжывасць грамадска-сацыяльных адносін – імкнецца намацаць у жыцці цвердзь.

У гэтай, таленавіта напісанай і непаўторнай па псіхалагічнай глыбіні і выразным этычным рысунку, кнізе Галіны Тварановіч эскізна пазначана канцэпцыя хрысціянскага разумення чалавечага лёсу: пайсці ад людзей “у свой манастыр” – каб да іх жа, узбагачанай і ўзмоцненай, у тым ліку і малітвай за іх, вярнуцца, ведаючы пра сваё шматпакутніцтва . Як у рамане Ф. Дастаеўскага “Браты Карамазавы” Алёша гаворыць: “Мой старец меня в мир посылает”.

## Галіна Тычко, *Нацыянальнае. Індывідуальнае. Агульначалавечае*, БЛА “Белавежа”, Беласток 2015, 166 с.

Прафесар БДУ ў Мінску Галіна Тычко здаўна займаецца даследаваннем творчасці “белавежцаў”, аддаючы перавагу інтэрпрэтацыйна-праблемнаму артыкулу. І гэта кніга складаецца ў сваёй першай частцы з шэрагу невялікіх манаграфічных прац, прысвечаных найбольш цікавым для яе творцам (С. Яновіч, Я. Чыквін, М. Лукша, М. Андрасюк, Г. Тварановіч, В. Стахвюк). Заслугоўваюць самай пільнай увагі два пачатковыя, абагульняльнага характару, крытычныя артыкулы: першы – пра беларускую літаратуру Беласточчыны ў агульнанацыянальным кантэксце, а другі – пра гісторыю і сучасныя праблемы аб’яднання “Белавежа”.

У другой частцы гаворыцца пра такіх выдатных асоб з беларускага нацыянальнага кіліма, як Ежы Гедройц, Янка Купала, Пімен Панчанка і Уладзімір Калеснік – найперш у плане іх творчых сувязей з заходнебеларускім літаратурна-гістарычным кантэкстам.

Як першая, так і другая частка ў сваіх глыбінных жыццёвых і літаратурных  сэнсах і канкрэтыцы раскрываюцца праз шырокія катэгорыі Нацыянальнага, Індывідуальнага і Агульначалавечага.

## *Sokrat Janowicz. Pisarz transgraniczny. Studia. Wspomnienia. Materiały*. Pod redakcją naukową Grażyny Charytoniuk-Michiej,  Katarzyny Sawickiej-Mierzyńskiej, Danuty Zawadzkiej, Trans Humana, Białystok 2014, 520 s.

Сакрат Яновіч з’яўляецца аўтарам шматлікіх тэкстаў, якія па жанру не месцяцца ў літаратуразнаўчым каноне – ні то навелы-апавяданні, ні то

абразкі з натуры, ні то гавэнды, ні то нарысы-рэпартажы, ні то лірычная проза, ні то сацыялагічныя і культуровыя трактаты, ні то навуковыя экскурсы ў моўныя і царкоўныя праблемы, ні то ўрэшце гістарычная эсэістыка. Яновіч ад пачатку займаў шырокае поле, прабаваў выказвацца і ў паэзіі, і прозе, і драматургіі, і журналістыцы, і публіцыстыцы, і навуковых даследаваннях. Сакрат Яновіч выношваў у сабе вельмі амбітныя творчыя намеры. Здаўна выношваў ідэю напісаць гістарычны раман пра Аляксандра Хадкевіча. Аднак у ім самабытна жыў, на жаль, са сваімі праблемамі нейкі іншы індывід і многія задумкі свайго гаспадара ён зводзіў да "хатняга" ўзроўню. Ускладняючы цягам гадоў сваю біяграфію, Сакрат не меў сілы рэалізаваць усе творчыя, у прамым сэнсе, планы. Яму відавочна не ставала часу. Выбраўшы пазіцыю "ваяўнічага", бескампраміснага беларуса, пісаў Сакрат Яновіч па-беларуску і па-польску, ломячы стэрэатып двумоўнага пісьменніка, што моў выдатным можна быць не толькі ў адной мове, рызыкуючы такім чынам застацца ў перспектыве ні беларускім, ні польскім празаікам. З вышыні нацыянальна-культуровага монацэнтра нашчадкі пра памежных творцаў звычайна забываюць.

У гэтай сваёй творчай звышактыўнасці, не рэалізуючы сябе ў сваёй асноўнай плыні, сваім прызначэнні, Яновіч крыўдзіў у сабе самім пісьменніка. Ён узваліў на свае плечы місію гаварыць за ўсіх беларусаў – Польшчы, Беларусі, дзе б яны ні жылі, ставячы старчма праблемы злабадзённыя, бягучыя і даўно мінулыя, палітычныя і рэлігійныя, пытанні польска-беларускай гістарыяграфіі, беларускага нацыянальнага нігілізму, тэмы і псіхалагічна вагомыя, і непрадуманыя, і проста пачутыя. Выкарыстоўваў часта прыём гіпербалы, эліпса, прамоўчвання, нярэдка свядомай правакацыі, каб паказытаць нервы сваім чытачам і субяседнікам. Над тэкстамі працаваў не з поўнай аддачай майстра, а толькі зарысоўваючы літаратурна-мастацкі іх кшталт, разлічваючы на тое, што ў наш час, па-першае, "кароткія" творы могуць быць яшчэ сяк-так прачытаны (бо хто цяпер возьме ў рукі тоўстую кнігу), па-другое, пакідаў за сабою права і пасля выхаду кнігі ў свет быць яе адвакатам, "дапамагаць" ёй. Большасць тэкстаў Яновіча жыла «поўняй» свайго літаратурнага жыцця дзякуючы іх далучанасці, праз неадрэзаную пупавіну, да свайго аўтара-суразмоўцы ды адначасова падказчыка, інтэрпрэтатара і даследчыка. Відавочна, Яновіч быў чалавекам пераважна вуснай культуры – што выяўлялася найперш ў звароце да соцыуму, а не да ўнутраных працэсаў жыцця і чалавека. Любіў мець слухача і натхняўся ім.

Менавіта гэтакім пісьменнік Сакрат Яновіч і быў і ёсць цікавым і займальным для многіх як у беларускім, так і польскім літаратурна-навуковым асяроддзі. Менавіта такім яго любілі, цанілі, чакалі сустрэчы з ім, любілі паслухаць, што ён кажа. Чакалі сустрэчы найперш з Асобаю, Чалавекам!

Сёння бібліяграфія выказванняў аб Яновічу (допісаў, зацемак, звестак, рэцэнзій, юбілейных выказванняў, артыкулаў, даследаванняў) налічвае ка-

ля двухсот адзінак – польскіх, беларускіх, англа-нямецка-італьянамоўных.

Тоўсты том пра Сакрата Яновіча, выдадзены ў Беластоку дзякуючы старанням тутэйшых універсітэцкіх паланістаў, хоць першы такі па сваім аб'ёме і жанравай усёабдымнасці, сам па сабе кладзецца ў даўно падрыхтаваную і разрыхленую даследчыкамі, крытыкамі і рэцэнзентамі інтэрпрэтацыйную прастору "яновічазнаўства". На жаль, у большасці матэрыялаў, якія прадстаўлены ў гэтай своеасаблівай манаграфіі, напісаных з пашанай і любоўю да пісьменніка як Асобы, Індывідуальнасці, не сказана нічога такога, пра што раней не гаварыў сам Яновіч. З усяго гэтага шэрагу выразна выдзяляецца аналітычны артыкул прафесара Дарыуша Кулешы – вылучаецца сваёй сістэматычнасцю выкладу, грунтоўнай доказнасцю канцэпцыі *Аднаго Тэксту*. Яновіч напэўна быў бы здзіўлены трапнасцю назіранняў гэтага праніклівага даследчыка і – цалкам яго адобрыў бы, магчыма, нарэшце ўбачыўшы – з гэтакай перспектывы – свае несумненныя творчыя здабыткі, але ж і шматлікія непатрэбныя страты. Дык на тое ж ён быў беларусам!

Выдадзеная кніга – прыгожы вянок на магілу нашага беларуска-польскага пісьменніка, хоць талент ягоны выспяваў выключна ў беларускай, "ніўска"-"белавежскай" айкумене.





# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok, Plac Uniwersytecki 1

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji**


## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.